і такім чынам замацаваць вынікі леташняй аграрнай рэформы. Пачалося ажыццяўленне гэтага праекта (197). Адначасова Кубэ распрацаваў і прапанаваў Розэнбергу праект прыватызацыі зямлі ва ўсходніх акругах Генеральнага камісарыята, мяркуючы ў будучыні стварыць на гэтых землях абаронныя вёскі. І пакуль Розэнберг вагаўся, Кубэ дамагаўся адпаведнага распараджэння, прасіў асабістай сустрэчы ў Берліне, націскаючы на тое, што без хуткага станоўчага вырашэння гэтай праблемы не можа быць і мовы аб далейшай палітычнай і гаспадарчай дзейнасці (198). Можна пагэтаму лічыць, што ініцыятарам выдадзенага Розэнбергам 3.6.1943 г. дэкрэта аб прыватызацыі зямлі на Усходзе ў вялікай ступені быў Кубэ, бо ні Кох на Украіне, ні адміністрацыя ў Прыбалтыцы не выявілі зацікаўленасці ў гэтай справе.

Паспяхова закончыліся і старанні Кубэ па адкрыцці ў Мінску Медыцынскага інстытута — першай вышэйшай навучальнай установы падчас нямецкай акупацыі на Беларусі. Пасля доўгіх разваг Розэнберг пагадзіўся 23 сакавіка на адкрыццё мінскага інстытута і растлумачыў, што робіць гэта дзеля падтрымання належнага ўзроўню аховы здароўя на Беларусі. Розэнберг зазначыў, што колькасць студэнтаў павінна будзе адпавядаць патрэбам цэлай Генеральнай акругі, г. зн. таксама і ўсходняй часткі Беларусі, якая знаходзілася пад вайсковым праўленнем (199). Такім чынам, інстытут павінен быў стаць даволі вялікай установай. Яго рэктарам спачатку быў прызначаны дэкан медыцынскага факультэта універсітэта ў Фрайбургу прафесар Э. Т. Наук, але неўзабаве яго замяніў беларус прафесар Мікалай Сцяпанаў. Інстытут распачаў сваю працу 13.5.1943 г., але не ў Мінску, а ў Магілёве, пасля адпаведнай дамоўленасці Кубэ з вайсковымі ўладамі (200). Адкрыццё інстытута мела вялікае значэнне. Па-першае, гэта сведчыла пра новае стаўленне ОМі да справы вышэйшай адукацыі на Беларусі, а па-другое, гэта быў добры прэцэдэнт для стварэння чарговых навучальных установ (201).

Варта спыніць увагу на ўзнікненні Саюза беларускай моладзі (СБМ). У першай фазе акупацыі Розэнберг не прадугледжваў стварэння маладзёжных арганізацый на акупаваных усходніх тэрыторыях. Толькі 3.6.1942 г. ён выдаў дэкрэт аб стварэнні спецыяльнага маладзёжнага аддзела ў ОМі. Дэкрэт дазваляў ствараць такія аддзелы і ў генеральных камісарыятах Прыбалтыйскіх краін. Аднак гэты дазвол не датычыўся Беларусі і Украіны (202).

Мясцовыя нямецкія акупацыйныя ўлады па-рознаму ўспрынялі ідэю стварэння краёвых маладзёжных арганізацый: яе падтрымалі генеральныя камісары ў Эстоніі і Латвіі, пасля чаго летам 1942 г. там былі арганізаваны адпаведныя маладзёжныя саюзы. Затое не пагадзіўся на гэта генеральны камісар у Коўне фон Рэнтэльн, так што стварыць літоўскую арганізацыю не ўдалося. Не



цікавіўся гэтым і Кох на Украіне. Затое Кубэ быў вялікім прыхільнікам стварэння беларускай маладзёжнай арганізацыі — ён бачыў у гэтым важны сродак ажыццяўлення ўласнай палітычнай канцэпцыі. Пагэтаму ён паблажліва ставіўся да глыбоцкай маладзёжнай арганізацыі, якая неафіцыйна створана восенню 1941 г., і не перашкаджаў працы, якую праводзіла ў гэтай галіне БНС. Аднак для стварэння агульнакраёвай афіцыйнай арганізацыі патрэбна была згода Розэнберга, і Кубэ дабіваўся яе некалькі месяцаў.

Пагэтаму толькі з прыходам 1943 г. пачалася падрыхтоўка па стварэнні СБМ. У Берліне гэтым заняўся маладзёжны аддзел ОМі. Пры ўдзеле Акінчыца была наладжана падрыхтоўка акруговых кіраўнікоў СБМ (часткова іх набралі сярод ваеннапалонных беларусаў — афіцэраў Чырвонай Арміі), напісаны праект статута і праграмныя тэзісы, а таксама прапагандысцкія матэрыялы. Адначасова быў створаны маладзёжны аддзел пры Генеральным камісарыяце ў Мінску. У ім працавалі маладзёжны кіраўнік Герман Шульц і кіраўнічка Гроземан. Пад непасрэдным наглядам Кубэ яны заняліся арганізацыйнай падрыхтоўкай. Вясною 1943 г. былі адчынены два першыя навучальныя цэнтры СБМ у Альберціне (для хлопцаў) і ў Драздах, што пад Мінскам (для дзяўчат). Тут праходзілі падрыхтоўку мясцовыя дзеячы гэтай арганізацыі.

22.6.1943 г., падчас урачыстасці ў Мінскім гарадскім тэатры, Кубэ аб'явіў аб стварэнні СБМ. Яго структура была зроблена на ўзор Гітлерюгенда (HJ) і грунтавалася на прынцыпе фюрэрства. Так, галоўным органам СБМ быў кіраўнічы штаб, яго шэфам прызначаны Міхал Ганько, непасрэдна падначалены Кубэ (203). Працаю сярод дзяўчат на цэнтральным узроўні кіравала доктар Надзея Абрамава. Кіраўнічаму штабу СБМ падпарадкоўваліся акруговыя кіраўнікі, а ім, у сваю чаргу,— павятовыя, яны кіравалі атрадамі (для хлопцаў) і гурткамі (для дзяўчат) у валасцях, вёсках, школах і г. д. Да СБМ магла належаць беларуская моладзь ад 10 да 20 гадоў (204).

У ліпені 1943 г. СБМ атрымаў свой друкаваны орган — штомесячнік «Жыве Беларусь». Выходзіла і вучэбна-інструкцыйная літаратура — «Вучэбны лісток» і «Дзённікі загадаў». Улетку 1943 г. праца цягвалася падрыхтоўка інструктарскіх кадраў, у прыватнасці маладых настаўнікаў, якія павінны былі займацца арганізацыяй школьных гурткоў СБМ ад пачатку 1943/44 навучальнага года. Важную навучальна-прапагандысцкую ролю адыгрывалі экскурсіі актывістаў СБМ у Германію — тут беларуская моладзь знаёмілася з метадамі арганізацыйнай працы Гітлерюгенда, выступала з канцэртамі беларускіх песень. Яе прымалі ў ОМі і г. д. У рамках кантактаў з нямецкай моладдзю варта адзначыць зваротны візіт шчэцінскага «Карл-Лёвэ-Хора» на Беларусь. З дапамогай кіраўніцтва Гітлерюгенда «на многа мільёнаў рэйхсмарак» у Германіі

ББК 63.3(2Б)722
Т 88

УДК 947.6 «1941/1945»

Пераклад з польскай В. Ждановіч па выданню:
Jerzy Turonek, Białoruś pod okupacją niemiecką.
«WERS», Warszawa — Wrocław 1989

Каментарыі *А. М. Літвіна*

Книга написана на основе докторской монографии автора. Несмотря на сенсационность материала (события немецкой оккупации), она имеет веские научные аргументы. Юрий Туронак отыскал в архивах богатый фактический материал, который ярче дополняет картину мучительного пути Беларуси к своей независимости, пути поиска ее народом национального самосознания.

Впервые книга под таким названием выпущена в 1989 году варшавско-вроцлавским издательством «Верс».

0503020903—024
Т ————————13—92
М 301(03) — 93

ISBN 5-338-00960-9



## АД ВЫДАВЕЦТВА

Кніга Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» у нашай краіне выходзіць упершыню. З'яўленне яе ў другі час было б проста немагчымым. Кнігу не толькі б «прабуксавала» наша «цэнзура», але і наўрад ці якое з выдавецтваў адважылася б прыняць такі матэрыял для выдання.

Аднак бяжыць час. Шмат чаго змянілася ў нашым жыцці, у палітычных поглядах кожнага чалавека. Прыйшоў час галоснасці. Бадай, яму мы абавязаны тым, што гэтая праца польскага гісторыка перакладзена на беларускую мову і ўбачыць свет, нягледзячы на сённяшнія эканамічныя праблемы дзяржаўных выдавецтваў.

Розныя погляды ў аўтара гэтай кнігі і ранейшых савецкіх гісторыкаў на падзеі, якія адбываліся на Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Тэмы, якія закранае аўтар, упершыню разглядаюцца з нечаканага для нас боку. Шматлікія выданні на ваенна-гістарычную тэму, якія выходзілі ў рэспубліцы да гэтага часу, інакш асвятлялі падзеі нямецкай акупацыі, станаўлення незалежнасці Беларусі, нацыянальнай свядомасці яе народа. Другі падыход у аўтара і да гістарычных асоб таго часу. Так, гаўляйтэр Беларусі Вільгельм Кубэ прайшоў ва ўсёй нашай літаратуры толькі з адным эпітэтам — палач беларускага народа, а беларускія нацыяналісты Р. Астроўскі, В. Іваноўскі, Ф. Акінчыц, Я. Станкевіч і інш.— толькі як ворагі беларускага народа, фашысцкія служакі. Аўтар прыводзіць шмат новага як аб дзейнасці беларускіх нацыяналістаў, так і гаўляйтэра Кубэ і яго канфлікту з вышэйшым нямецкім камандаваннем — і ўсё гэта на падставе дакументальных матэрыялаў.

Не з усімі вывадамі аўтара і яго падыходам да фактаў можна пагадзіцца. У прыведзеных ім матэрыялах шмат недакладнасцей і яшчэ больш разыходжанняў з ацэнкамі, якія ўсталяваліся ў айчыннай гісторыяграфіі. Напрыклад, аўтар падкрэслівае, што «ўсенародны характар» барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі звязаны з імкненнем улад надаць ёй такі характар. Гэта перакрэслівае самае галоўнае — меркаванне ў нашай краіне аб усенародным партызанскім руху. Кладзецца цень і на патрыятызм народа ў барацьбе з ворагам. З гэтым таксама пагадзіцца не кожны.

Нельга адмесці патрыятызм народа як адну з галоўных рыс партызанскага руху на Беларусі. Сёння гэта аксіёма. Аб гэтым сцвярджалі і сцвярджаюць сотні аўтараў мемуарных і іншых дакументальных выданняў.

Але ёсць і іншы дакументальны матэрыял, іншы погляд. Такі, як у аўтара. Яго нельга ўтойваць. Гэта матэрыял для роздуму. Аб яго абгрунтаванасці і каштоўнасці меркаваць гісторыкам і табе, чытач!

Ч. 2.pdf

была закуплена форма для сяброў СБМ, якую яны маглі набыць за даволі невялікую плату (205).

Паводле статута СБМ, мэта гэтай арганізацыі — узгадаваць «паслядоўных будаўнікоў Новае Беларусі і падрыхтаваць іх да іхніх будучых заданняў у народзе». Магістральным накірункам у выхаваўчай працы павінна было стаць «вызваленне беларускай моладзі ад варожых і шкодных уплываў, яе маральнае адраджэнне і выхаванне ў духу Новай Беларусі пад правадырствам нацыянал-сацыялістычнай Германіі». Пагэтаму акцэнт пераносіўся на патрыятычнае выхаванне моладзі, на выкараненне гістарычна абумоўленай рабскай псіхалогіі, развіццё пачуцця грамадскага абавязку, адказнасці, працавітасці і да т. п. Такі выхаваўчы кірунак быў разлічаны на тое, каб моладзь «адчула сваю адказнасць за долю і дабрабыт бацькаўшчыны і заўсёды была гатовай працаваць для свайго народа і краю і служыць ім». Статут трымаў на далёкім прыцэле паступовае перавыхаванне ўсяго грамадства ў духу сваіх праграмных ідэй.

Новая арганізацыя была для Кубэ важным дасягненнем. Ганько сцвярджаў нават, што гэта ўвогуле было самае вялікае дасягненне за два гады існавання акупацыйнай цывільнай адміністрацыі на Беларусі (206). У верасні 1943 г. дзейнасць СБМ распаўсюдзілася і на тэрыторыю Усходняй Беларусі, што знаходзілася ў зоне вайсковага праўлення. Па сутнасці, СБМ стаў першым і пакуль што адзіным прызнаным у Берліне грамадскім форумам, які мог праводзіць шырокую выхаваўчую працу ў беларускім нацыянальным духу — лозунгі Новай Еўропы гэтаму практычна не перашкаджалі. З такога пункту гледжання нічога падобнага на Беларусі ніколі не існавала. Буйны рост гэтай арганізацыі з восені 1943 г. сведчыў пра тое, што ідэя Кубэ трапіла ва ўрадлівую глебу. Савецкае падполле вельмі варожа ставілася да СБМ, аднак змагацца з ім было не так проста: па-першае, гэтаму перашкаджала малалецтва яго ўдзельнікаў, а па-другое, дзейнасць яго праходзіла ў большасці сваёй па вялікіх гарадах і мястэчках — партызаны не мелі туды шырокага доступу. Знамянальна, што насуперак настойлівай падпольнай прапагандзе толькі трое кіраўнікоў СБМ пакінулі яго шэрагі і перайшлі да партызан (207).

Стварэнне СБМ дало пачатак новай прапагандысцкай кампаніі, маўляў, афіцыйны дазвол на яго арганізацыю сведчыць пра тое, што Гітлер расцэньвае беларускі народ як станоўчы элемент Новай Еўропы (208), што Германія прызнае за гэтым народам права на будучыню і пачэснае месца ў Еўропе і выказвае шчыры давер і сімпатыю да беларускай моладзі. Адначасова высмейвалася «бальшавісцкая істэрыя» вакол уяўнай каланізацыі і нямецкага ўціску на Беларусі (209). У гэтай атмасферы Кубэ выступіў з новым заклікам, які ўпершыню прагучаў з яго вуснаў у час урачыстага абвяшчэння СБМ: «З Адольфам Гітлерам да самастойнасці беларускага



народа!» (210). Нельга, аднак, гэтую фразу і ўсю праведзеную Кубэ кампанію расцэньваць выключна як прапаганду. У той гульні, якую Кубэ разыгрываў перад вышэйшым берлінскім кіраўніцтвам з эсэсаўска-паліцэйскай апазіцыяй, стварэнне СБМ стала важкім аргументам на карысць яго палітычнай лініі. Пазней гэта дало права гаўляйтэру сцвярджаць, што яго палітыка адпавядае пазіцыі вярхоўнага кіраўніцтва Германіі.

Высылка Ермачэнкі і ліквідацыя дадатковых паўнамоцтваў БНС перакрэслілі надзеі Кубэ стварыць на базе гэтай арганізацыі орган беларускага самакіравання. Кубэ не адмовіўся ад гэтай ідэі, аднак яе ажыццяўленне выглядала цалкам безнадзейна. Праўда, распараджэнне Розэнберга ад 24.4.1942 г. дазваляла генеральным камісарам Остлянда самастойна выдаваць прававыя акты, але толькі ў тых галінах, якія не падлягалі кампетэнцыі вышэйшых улад (RKO, OMi) альбо не агаворваліся імі выразна (211). У любым выпадку Кубэ не мог стварыць такі орган без згоды Розэнберга, а той, у сваю чаргу,— без дазволу Гітлера (212). І гэтае становішча не мянялася, нягледзячы на ўсе захады Розэнберга і вайсковага камандавання. У гэтай сітуацыі Розэнберг не мог дазволіць стварэння нацыянальнага камітэта ці кансультатыўнай рады нават на Украіне, хоць гэтаму рэйхскамісарыяту заўсёды аддавалася перавага (213).

Пагэтаму пакліканне беларускага Камітэта Даверу, званага часцей Радай Даверу, якое Кубэ правёў 27.6.1943 г., заслугоўвае не меншай увагі, чым стварэнне пачаткова не прадугледжанай для Беларусі маладзёжнай арганізацыі. Аднак цяпер, пасля сумнага эксперыменту з БНС і Ермачэнкам, Кубэ не жадаў рызыкаваць і ставіць кіраўніцтва перад здзейсненым фактам — такое дасягненне апазіцыя лёгка магла перакрэсліць. Пагэтаму на стварэнне Камітэта Даверу ён дабіўся згоды не толькі ў Лёзэ, але і ў самога Розэнберга, аб чым двойчы падкрэсліваў у сваіх выступленнях (214). Паўстае пытанне, што магла азначаць гэтая згода? Асабліва дзіўна яна выглядала на фоне агульнай негатыўнай берлінскай палітыкі і забароны Розэнбергам украінскага камітэта. Такое пытанне павінна быць істотным яшчэ з дзвюх прычын: па-першае, ніякія распараджэнні ў гэтай справе не публікаваліся ва ўрадавых дзённіках Кубэ, Лёзэ ці Розэнберга, і, па-другое, адразу пасля стварэння Камітэта Даверу і прынагоднай урачыстасці ў мясцовым друку пастараліся не надаваць яго дзейнасці вялікага розгаласу.

Адказ на гэтыя пытанні крыецца ў самім характары Камітэта Даверу. Фармальна ён не з'яўляўся асобнай беларускай установай, а быў толькі састаўной часткаю ведамства Генеральнага камісарыята, пагэтаму для яго не трэба было праграмы, статуту і г. д. Камітэт Даверу быў органам накшталт адміністрацыйнай камісіі, адзінаю яго задачай сталася апрацоўка і прадстаўленне акупацыйным уладам пажаданняў і прапаноў, ён меў права дарадчага голасу ў па-

# УСТУП

Прадметам нашага даследавання з'яўляецца сітуацыя на Беларусі падчас гітлераўскай акупацыі (1941—1944). Паводле некаторых аспектаў, яна мала адрознівалася ад сітуацыі ў іншых краінах Еўропы. Гэта адносіцца галоўным чынам да нацысцкіх забойстваў па ідэалагічных матывах, г. зн. знішчэнне яўрэяў, камуністаў і іншых палітычных праціўнікаў гітлерызму. І гаспадарчыя мэты, у прынцыпе, не мяняліся: акупанты імкнуліся паставіць людскі і эканамічны патэнцыял краіны на службу Трэцяму Рэйху, хаця трэба адзначыць, што на Беларусі такая эксплуатацыя часта пераходзіла ў адкрыты грабеж.

Тым не менш шмат у якіх адносінах існавалі адрозненні, прычым вельмі істотныя. Беларусь, гэтак жа як і іншыя землі Савецкага Саюза, была часткаю дзяржавы, якую Германія і яе саюзнікі здолелі заняць толькі часткова, таму на яе тэрыторыі не магло ажыццявіцца ius debellatio (права пераможцы) з усімі наступнымі вынікамі. Можна ўзяць за прыклад сітуацыю ў двух рэгіёнах — Сувалкіі і Беластоцкай акрузе. Першая, як тэрыторыя цалкам занятай Польшчы, увайшла ў склад Рэйха, другая, як частка абшару СССР, фармальна не была ўключана ў яго, хаця такія намеры існавалі. Па-другое, Беларусь трапіла пад нямецкую акупацыю не як самастойная дзяржава, а як састаўная частка шматнацыянальнай дзяржавы — СССР. Трывалых традыцый дзяржаўнай незалежнасці яна не мела. З гэтага пункту гледжання, яе лёс можна параўнаць з лёсам Украіны, аднак правесці такую самую паралель з рэспублікамі Прыбалтыкі было б ужо нельга: у час паміж першай і другой сусветнымі войнамі яны заставаліся суверэннымі дзяржавамі. І, нарэшце, па-трэцяе: восенню 1939 г., г. зн. за 20 месяцаў перад нападам Германіі на Савецкі Саюз, насельніцтва і тэрыторыя Беларускай ССР павялічыліся ледзьве не ўдвая: у яе склад увайшла частка абшараў Рэчы Паспалітай. За гэты кароткі перыяд тут была праведзена адміністрацыйная уніфікацыя, але на гаспадарчым узроўні і ў людской свядомасці засталіся вельмі глыбокія, прынцыповыя адрозненні паміж Беларуссю Заходняй* і Усходняй. Гэта яскрава выявілася ў час акупацыі: паабапал былой мяжы панавалі розныя грамадскія адносіны, розныя настроі і паводзіны насельніцтва, розная ўдзельная вага і ўзаемадачыненні палітычных фактараў і груповак, і ўсе яны так ці іначай знаходзіліся пад уплывам трох вызначальных сіл, у рэчышчы трох гістарычных працэсаў:

а) першы з іх — гэта барацьба, якую прыхільнікі савецкай улады вялі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі супраць гітлераўскіх захопнікаў. Яе мэтаю было ўзнаўленне ранейшага палітычнага ладу і дзяржаўных межаў, якія ўсталяваліся да 22 чэрвеня 1941 г. Галоўнай дзеючай сілай у гэтым працэсе стаў савецкі партызанскі рух — неўзабаве ён ператварыўся ў важны фактар акупацыйнай гісторыі Беларусі і вельмі істотна ўплываў на функцыяніраванне акупацыйнага рэжыму. Так склалася паводле дзвюх прычын. Па-першае, партызанскі рух быў інтэгральнай, планавай часткай абарончай стратэгіі СССР, баявым выканаўчым органам савецкай улады, і менавіта таму дасягнуў такога высокага ўзроўню арганізацыйнага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. А па-другое, на Беларусі партызаншчына перарасла ў масавы рух супраціўлення, у якім удзельнічала ў чэрвені 1944 г. 143 тыс. чалавек*;

б) рухавіком другога працэсу было імкненне разнастайных беларускіх нацыянальных** груп да стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. Яны ішлі да гэтай мэты рознымі шляхамі, вагаючыся ў сваёй дзейнасці ад непасрэднага супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі да арыентацыі на заходніх альянтаў. Аднак, нягледзячы на розныя падыходы, ні адна з гэтых груп не арганізавала ўзброенага антынямецкага супраціўлення. Акупацыйныя ўмовы яны імкнуліся выкарыстаць дзеля нацыянальнага абуджэння грамадства, арганізацыі беларускіх узброеных сіл і прадстаўнічых органаў (пікам дасягненняў у гэтым кірунку стала Беларуская цэнтральная рада (далей БЦР.— *Рэд.*), створаная пад самы канец акупацыі). З гэтым з'явішчам рознымі метадамі вяло барацьбу савецкае падполле, а да канца 1943 г.— яшчэ і эсэсаўска-паліцэйскі апарат. Затое цывільная нямецкая адміністрацыя падтрымлівала гэты рух — яна бачыла ў ім перспектыўны сродак барацьбы супраць савецкіх партызан;

в) нарэшце, трэці працэс — барацьба польскага падполля пад кіраўніцтвам урада генерала Сікорскага за адваеўу польскай дзяржавы ў тэрытарыяльных межах, якія існавалі да верасня 1939 г. Але гэтая барацьба вялася на спрэчных абшарах, на якія аднолькава прэтэндавалі як польскі, так і савецкі ўрад. Сітуацыя атрымлівалася вельмі драматычная. Па гэтых жа пытаннях выявілася супярэчнасць

---

* Тут і далей у тэксце аўтар мае на ўвазе тэрыторыю былой Заходняй Беларусі.— *Рэд.*

* Паводле даных Беларускага штаба партызанскага руху, усяго на працягу 1941—1944 гг. у партызанскіх атрадах і брыгадах дзейнічала 374 тыс. партызан. Акрамя таго, больш 400 тыс. мясцовых жыхароў знаходзілася ў партызанскім рэзерве і звыш 70 тыс. чалавек уваходзіла ў склад падпольных арганізацый і груп (Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских оккупантов. Мн., 1983. Т. 1. С. 30).— *Рэд.*

** У нашым разуменні — нацыяналістычных.— *Рэд.*

сяджэннях Генеральнага камісарыята пад кіраўніцтвам Кубэ або яго намесніка, а таксама мог збірацца на свае ўнутраныя нарады (215). Такім чынам, Кубэ ўдалося спрытна абмінуць самую далікатную прынцыповую перашкоду: Камітэт не з'яўляўся фармальна беларускай установай і яго нельга было трактаваць як нацыянальнае прадстаўніцтва, таму і Розенберг не мог выставіць супраць яго ніякіх закідаў. А па-другое, зрабіўшы Камітэт часткаю свайго апарату, Кубэ засцярог яго ад паўтарэння лёсу ранейшага кіраўніцтва БНС.

У тагачасных абставінах гэта была адзіная магчымасць абмінуць генеральную лінію берлінскай палітыкі, што адлюстроўваў і асабовы склад Камітэта Даверу. Усяго ў ім налічвалася 16 чалавек*. Дзевяць з іх былі прадстаўнікамі мясцовай беларускай адміністрацыі, якіх акруговыя камісары спецыяльна вылучылі для працы ў Камітэце — дагэтуль яны не адыгрывалі важнай ролі ў палітычным жыцці (216). Апрача таго, Кубэ запрасіў туды яшчэ шэсць дзеячаў цэнтральнага ўзроўню: менскага бургамістра Вацлава Іваноўскага (старшыня Камітэта Даверу), новапрызначанага кіраўніка БНС і адначасова прадстаўніка Баранавіцкай акругі Юрыя Сабалеўскага (намеснік старшыні), кіраўніка Цэнтральнага бюро прафсаюзаў Канстанціна Рабушку, кіраўнікоў СБМ Міхала Ганько і Надзею Абрамаву, а таксама Аўгена Калубовіча (217). 16-ы член Камітэта ніколі публічна не называўся. Паводле Івана Новікава, гэта быў сам Кубэ — фактычны кіраўнік Камітэта (218). Такая версія вельмі верагодная, асабліва калі ўлічыць характар Рады Даверу і тыя намаганні, што прыкладаў Кубэ, каб застрахаваць дзейнасць Камітэта.

Камітэт складаўся з новых людзей, якія не ўваходзілі раней у каманду Ермачэнкі. Напэўна, гэта была яшчэ адна перасцярога перад нападкамі СС. Затое цяжка зразумець, з якіх меркаванняў зыходзіў Кубэ, запрасіўшы Вацлава Іваноўскага на пасаду фармальнага старшыні Камітэта. Ён быў арганізатарам і кіраўніком беларускага незалежніцкага канспіратыўнага руху і спрабаваў наладзіць супрацоўніцтва з польскім падполлем. Беларускія дзеячы з ліку прыхільнікаў Астроўскага [сярод іншых — Іван Касяк (219)] рабілі на яго даносы, так што Іваноўскага трымала на прыцэле СД. Аднак Кубэ не пераацэньваў папярэджанняў службы бяспекі, хоць поўнага даверу да Іваноўскага ён таксама не меў. Напэўна, дзеля страхоўкі, гаўляйтэр даручыў яму гэтую пасаду часова — усяго на адзін год (220). У сваім выступленні з нагоды стварэння Камітэта Даверу Кубэ паўтарыў свой тэзіс, што «мы прыбылі сюды як пераможцы, але пераможцы бальшавізму, а не беларусаў — для іх мы — вызваліцелі». Ён заклікаў сяброў Камітэта так наладзіць працу з беларускім народам, каб ён «апынуўся на ўзроўні еўрапейскіх народаў». Камітэт павінен быў прысвяціць асаблівую ўвагу тром

* 27.6.1943 г. В. Кубэ назваў склад Камітэта з 15 чалавек.— «Беларуская газэта», 30.6.1943.— *А. Л.*



праблемам: развіццю школьніцтва і выхаванню моладзі, аднаўленню гаспадаркі і забеспячэнню насельніцтва прадуктамі харчавання і, нарэшце, нямецка-беларускаму супрацоўніцтву ў барацьбе з партызанамі. «Землеўласніцтва,— гаварыў ён пра дэкрэт Розэнберга,— гэта толькі кавалачак паперы да той пары, пакуль гэтую зямлю нельга будзе абараніць перад бандытамі» (221).

Камітэт Даверу павінен быў распрацаваць свае прапановы па трох прадстаўленых праблемах, каб абмеркаваць іх на сумесным пасяджэнні з нямецкімі ўладамі. Паўстае пытанне: якіх прапаноў мог чакаць Кубэ ад Камітэта? Усе гэтыя справы ён не толькі выдатна ведаў, але быў нават ініцыятарам некаторых з іх. Цывільная адміністрацыя выявіла аж залішнюю стараннасць пры арганізацыі беларуска-нямецкага супрацоўніцтва ў барацьбе з партызанамі — пра гэта сведчыла кампанія па стварэнні Самааховы. Камітэт не мог тут нічога новага ані прапанаваць, ані зрабіць, бо, у адрозненне ад БНС, ён не меў нават свайго выканаўчага апарату. Кубэ выдатна аб гэтым ведаў і на самай справе не разлічваў на нейкую станоўчую працу новастворанага органа.

Роля Камітэта Даверу, відаць, была не такая, якую Кубэ апісваў Розэнбергу, каб дабіцца згоды на яго стварэнне. Гаўляйтэр трактаваў яго як сімвалічнае, пакуль што, беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва, якое ў спрыяльных умовах Берлін мог бы зацвердзіць афіцыйна, ператварыўшы яго ў орган цэнтральнага самакіравання.

Такім чынам, нягледзячы на правал з Ермачэнкам, Кубэ не адмовіўся ад сваіх ранейшых намераў, хоць у цяперашняй сітуацыі не мог іх ажыццявіць «з прычын палітычных і асабістых», аб чым і прызнаваўся Лёзэ (222). Усе сапраўдныя задачы новага органа былі наперадзе — трэба было пакуль што гуртаваць вакол яго нацыянальныя сілы і чакаць моманту змены ў палітычнай кан'юнктуры.

Падобную ролю, толькі ў галіне вышэйшай адукацыі і арганізацыі будучых навуковых даследаванняў, павінна было адыграць створанае 27.6.1943 г. у Мінску Беларускае навуковае таварыства (БНТ.— *Рэд.)*. У параўнанні з мінулагодняй няўдачай яго арганізатары цяпер мелі на руках больш важкія фармальныя падставы: Розэнберг выдаў дазвол на адкрыццё Медыцынскага інстытута. Пагэтаму, апрача мясцовых улад, у стварэнні БНТ прынялі ўдзел доктар Штэгман (дарадца Лёзэ па навукова-даследчых праблемах) і Нёйгэбаўэр (кіраўнік аддзела культуры RKO). Як сказана было ва ўстаноўчым акце, мэтаю БНТ з'яўляецца дапамога ў арганізацыі навуковай працы, усе яго намаганні павінны скіроўвацца на развіццё і падтрымку беларускай навукі і культуры. Меркавалася стварыць асобныя секцыі Таварыства ў галінах беларусазнаўства, прыроды, матэматыкі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва. БНТ павінна было праводзіць тэарэтычныя, чыста навуковыя даследаванні, вырашаць

інтарэсаў польскага падполля і беларускіх нацыянальных* колаў. Пры такім стане рэчаў польскае падполле, імкнучыся да здзяйснення сваіх мэт, вымушана было манеўраваць: ад карэктных адносін з немцамі на пачатку акупацыі да супрацоўніцтва з савецкім падполлем, затым, пасля разрыву паміж савецкім і польскім урадам у красавіку 1943 г., настала паласа ўзаемнай варожасці, якую немцы пастараліся выкарыстаць дзеля ўмацавання ўласнай бяспекі.

Усе гэтыя палітычныя фактары і канцэпцыі знаходзіліся ў глыбокай узаемнай супярэчнасці, і тактычныя пагадненні паміж імі на тэрыторыі акупаванай Беларусі былі з'яваю даволі рэдкай. Аднак трэба заўважыць, што гэты шматбаковы ўзаемны фронт не абмяжоўваўся толькі адзначанымі нацыянальнымі крытэрыямі: з цягам часу да савецкага партызанскага руху ўсё часцей пачалі далучацца не толькі беларусы, але і палякі. Многа палякаў служыла ў беларускай дапаможнай паліцыі, а беларусы, у сваю чаргу, складалі немалы працэнт сярод жаўнераў Арміі Краёвай, асабліва на Віленшчыне і Навагрудчыне. Такія паводзіны тлумачыліся не толькі ідэалагічнымі матывамі, але і іншымі акалічнасцямі, у тым ліку і прымусовым уздзеяннем. Нягледзячы на гэта, тагачасная сітуацыя вельмі нагадвала грамадзянскую вайну і не ўкладвалася ў рамкі класічнага ўзору «акупанты — акупаваныя».

Непаслядоўныя дзеянні нямецкіх акупацыйных улад, асабліва ў тым, што датычылася карных метадаў, яшчэ больш ускладнялі заблытанае становішча. Вынішчэнне мірнага насельніцтва, паленне вёсак і т. п. у ходзе карных аперацый, якія ажыццяўлялі СС і паліцыя, выклікалі процідзеянне генеральнага камісара Вільгельма Кубэ — ён зрабіў стаўку на палітычнае вырашэнне канфліктаў і здабыццё грамадскіх сімпатый. У лоне акупацыйных улад таксама намеціўся сур'ёзны раскол. У дадатак ва Усходняй і Заходняй Беларусі існавалі адрозненні ў сістэмах акупацыйнага рэжыму: у першай панавала вайсковае праўленне, а ў другой — цывільнае.

Пры такіх складаных умовах было няпроста ацаніць многія з'явы і падзеі ў акупаванай Беларусі. Пасля вайны, на Нюрнбергскім працэсе, шэф Галоўнага ведамства СС, а з лета 1943 г.— фактычны кіраўнік усходняй палітыкі Трэцяга Рэйха Готлаб Бэргер сказаў, што Беларусь — гэта зямля, «на якой, на жаль, нельга было высветліць, што было фікцыяй, а што — праўдай» (1). Джэральд Райтлінгер — даследчык нямецкай палітыкі на акупіраваных абшарах СССР — лічыў, што ў той час на Беларусі панавала «права джунгляў» (2).

Супярэчнасці акупацыйнага перыяду адбіліся на пазнейшай гістарычнай інтэрпрэтацыі гэтых падзей: апісваючы толькі паасобныя бакі тагачаснай сітуацыі, даследчыкі стварalі выбарачную, а ня-

* У нашым разуменні — нацыяналістычных.— *Рэд.*



рэдка — ідэалізаваную карціну. Так, асноўным дасягненнем беларускай савецкай гісторыяграфіі з'яўляецца распрацоўка тэматыкі, прысвечанай дзейнасці савецкага падполля і партызанскага руху, яе даследаванні ў гэтай галіне — каштоўная крыніца звестак. Варта прыгадаць хаця б такія выданні, як зборнікі дакументаў, апублікаваныя Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытутам гісторыі АН БССР, у прыватнасці, трохтомнік «Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (Мн., 1967—1982), «Подпольные партийные органы компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (Мн., 1975), «Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (Мн., 1976), а таксама выдадзеная ў апошнія гады новая трохтомная праца — «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны» (Мн., 1982—1985). Праблемы партызанскай вайны дэталёва асвятляюцца ў калектыўных працах: «Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (Мн., 1959), «Гісторыя Беларускай ССР», т. 4 (Мн., 1975), а таксама ў даследаваннях паасобных аўтараў: Л. Цанавы, П. Калініна, І. Краўчанкі, П. Ліпілы, П. Панамарэнкі, В. Раманоўскага і іншых, нарэшце, ва ўспамінах шматлікіх яе ўдзельнікаў.

Карныя дзеянні атрадаў СС і Вермахта разглядаюцца ў такіх дакументальных публікацыях, як «Преступление немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии (1941—1944)» (Мн., 1965), «Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии» (Мн., 1984), «Я з вогненнай вёскі» (Мн., 1975) пад рэдакцыяй Я. Брыля, У Калесніка і А. Адамовіча. Гэтую дзейнасць звычайна прадстаўляюць як вынік паслядоўнага генацыду ў адносінах да беларускага народа, аднак не ўказваецца, што яна была адказам на партызанскія выступленні. Не выйшла ў БССР і асобных даследаванняў, прысвечаных вынішчэнню яўрэйскага насельніцтва. Мала ўвагі ўдзялялася нямецкай палітыцы на Беларусі, функцыяніраванню акупацыйнага рэжыму на яе тэрыторыі, нарэшце дзейнасці нацыяналістычных груп. Гэтыя праблемы закранае В. Раманоўскі ў спецыфічным кантэксце выкрыцця беларускага нацыяналізму («Саўдзельнікі ў злачынствах». Мн., 1964), а таксама А. Фактаровіч у сваёй працы, прысвечанай барацьбе беларускіх партызан з аграрнай палітыкай акупацыйных улад. Павярхоўна трактуюць гэтыя пытанні і аўтары «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 4).

Гэтыя прабелы ў некаторай ступені запоўніла беларуская эміграцыйная гісторыяграфія. У прыватнасці, заслугоўваюць увагі два каштоўныя зборы дакументаў, якія датычацца дзейнасці Беларускай Цэнтральнай Рады: «Другі ўсебеларускі кангрэс» (Мюнхен, 1954), а таксама «За дзяржаўную незалежнасць Беларусі» (Лондан, 1960). Вельмі пазнавальныя ў гэтых адносінах успаміны К. Акулы, Л. Га-

праблемы перспектыўнай адбудовы Беларусі і, урэшце, выконваць непасрэдныя практычныя заданні (223).

Сябрамі прэзідыума Беларускага навуковага таварыства сталі прафесары: Шыперка, Шкуцька, Трысмакаў, Кавалёў і Бухвалаў, старшынёю быў абраны Іваноўскі, а яго намеснікамі — Лыноўскі і Масевіч. Ганаровым старшынёй стаў Кубэ. Штэгман з RKO абяцаў аказаць падтрымку дзейнасці Таварыства, у прыватнасці, дапамагчы яму са здабыццём належнай літаратуры і сувязей з нямецкімі навукоўцамі. Меркавалася наладзіць цеснае супрацоўніцтва БНТ з Цэнтрам вывучэння Усходу (Zentrale für Ostforschung) (224).

Кубэ добра разумеў, што на фоне зверстваў СС і паліцыі ў час карных аперацый блякнуць, не закранаючы грамадскай свядомасці, усе яго станоўчыя распачынанні. З гэтай прычыны, а таксама ў інтарэсах гуманнасці, ён распачаў барацьбу з СС ў абарону мірнага насельніцтва. Паколькі распараджацца паліцэйскім апаратам Кубэ не мог, ён выкрываў злачынствы карных атрадаў і намагаўся давесці гэтыя факты да ведама Розэнберга і Гітлера, досыць наіўна разлічваючы, што такое ўмяшальніцтва дасць нейкі плён. Акруговым камісарам ён разаслаў сакрэтны цыркуляр, у якім загадваў дасылаць яму падрабязныя і непрыхарошаныя звесткі пра дзейнасць паліцэйскіх атрадаў (225).

Праз пасрэдніцтва RKO 24.3.1943 г. Кубэ пераслаў Розэнбергу рапарт камісара Мінскай акругі доктара Людвіка Эрэнляйтнэра, які пэўны час замяшчаў свайго калегу ў Слонімскай акрузе і прадставіў дакладныя вынікі карнай акцыі, праведзенай там Готбэргам. Напэўна, гэта былі аперацыі «Гамбург» — «Альтона». У рапарце паведамлялася аб забойствах і масавай дэпартацыі ў Нямеччыну вясковых жыхароў двух раёнаў. Нягледзячы на жорсткасць, экспедыцыя не дала вынікаў: партызанскі рух у гэтай зоне не толькі ацалеў, але і ўзмацніўся, бо ў лясы паўцякала запалоханае насельніцтва. Эрэнляйтнэр, такім чынам, пацвердзіў думку Кубэ: самі па сабе паліцэйскія меры не маглі дапамагчы ў вырашэнні партызанскай праблемы (226). Напэўна, гэта быў першы рапарт такога зместу. Чыноўнікаў RKO ён увагнаў у немалы клопат — амаль два месяцы яго разглядалі аж у «чатырох розных інстанцыях» і збіраліся нават звярнуць Кубэ, пакуль пад канец мая Лёзэ не вырашыў усё ж пераслаць яго ў Берлін (227).

Рапарт Эрэнляйтнэра быў першым у цэлай серыі абвінавачанняў СС у злачынствах супраць мірнага насельніцтва. На падставе рапартаў, атрыманых, між іншым, ад супрацоўнікаў Мінскага генеральнага камісарыята, Кубэ даводзіў да ведама вышэйшых улад канкрэтныя факты зверскага абыходжання карнікаў з цывільнымі жыхарамі. Так, паводле інфармацыі, атрыманай ад кіраўніка Мінскай акругі БНС Юліяна Саковіча, ён апісваў, як паліцэйскія атрады палілі жыўцом загнаных у хаты сялян (228), паведамляў пра выпадкі, калі ў шпіталь звярталіся параненыя, недабітыя ў час расстрэлаў — яны выкараскваліся з магіл і шукалі лекарскай дапамогі (229). Не раз Кубэ звяртаўся да кіраўніцтва пры правядзенні аперацыі «Котбус». 5 чэрвеня ён падаваў, што сярод 5000 забітых, якія нібыта супрацоўнічалі з партызанамі, шмат жанчын і дзяцей. Гаўляйтэр папярэджваў, што палітычныя вынікі гэтых акцый катастрафічныя (230). Маючы перад сабой канчатковыя звесткі па гэтай аперацыі, 29 чэрвеня ён пісаў Розэнбергу, што ў выніку яе было знішчана 13 000 «ворагаў» і пры гэтым здабыта толькі 950 вінтовак,— такім чынам, 90 % гэтых ворагаў — проста бяззбройныя людзі (231).

«Я прапаную,— пісаў Кубэ да Лёзэ яшчэ 3 чэрвеня,— папрасіць, каб Рэйхсміністр па справах акупіраваных усходніх абшараў прадставіў гэтую справу ў Вярхоўнай стаўцы Фюрэра. Такія рэчы маюць вялікае палітычнае значэнне. Калі стаўленне да мясцовага насельніцтва акупіраваных усходніх тэрыторый не зменіцца і надалей, прычым не толькі ў паліцыі, але і ў Вермахце, і ў ОТ (Organisation Todt*), дык на наступную зіму можам прычакаць не партызан, а бунту па ўсім краі...» (232). У іншым пісьме ад 3 чэрвеня Кубэ паказаў на адказнасць Готбэрга як кіраўніка карных аперацый, якія, акрамя катастрафічных палітычных і эканамічных вынікаў, не толькі не ўплываюць на змяншэнне партызанскіх сіл, але, наадварот, выклікаюць іх рост (233).

Камітэт Даверу таксама выступіў у абарону насельніцтва. Ён сабраў звесткі аб рэпрэсіях, праведзеных карнымі атрадамі, па ўсіх акругах Генеральнага камісарыята Беларусі. Сярод іх — славуты рапарт Кушаля пра аперацыю «Герман» у Пяршайскай воласці Валожынскага павета: у другой палове ліпеня тут было спалена жыўцом насельніцтва 10 вёсак разам са сваімі будынкамі (234). З пратэстам супраць такой дзейнасці карных атрадаў Камітэт выступіў 23.8.1943 г. на сумеснай сесіі з нямецкімі цывільнымі і паліцэйскімі ўладамі, выкарыстаўшы ў якасці доказаў вышэй прыведзеныя факты. Ён звярнуўся да нямецкіх улад з просьбай: 1) спыніць паленне вёсак і рэпрэсіі супраць нявінных людзей; 2) стварыць умовы і рэальныя гарантыі бяспекі ад рэпрэсій для асоб, якія вярнуліся б з лесу дадому; 3) склікаць сумесную беларуска-нямецкую камісію для распрацоўкі належных інструкцый па гэтым пытанні і кантролю за іх выкананнем (235).

Паводле сведчання Калубовіча, былога члена Камітэта Даверу дзельніка той сесіі, пратэст і прапановы Камітэта ўсхвалявалі прысутных немцаў. «За сталамі кіраўнікоў службы бяспекі й СД, яшчэ болей — афіцэраў войск СС, ахоўнай паліцыі і жандармерыі,

---

* Ваенна-будаўнічая арганізацыя фашысцкай Германіі. Названа па імені першараўніка інжынера Фрыца Тодта.— *А. Л.*

ляка, С. Каўша, Ю. Малецкага, працы І. Касяка, В. Калюша (Р. Астроўскага), А. Мартоса, Л. Рыдлеўскага, нарэшце шматлікія артыкулы, апублікаваныя ў эміграцыйнай перыёдыцы. Недахоп гэтых распрацовак у тым, што яны не абапіраюцца на архіўныя крыніцы, затое вартасць — у багацці дробных дэталяў, канкрэтных здарэнняў, рэльефных гістарычных постацей і людскіх узаемадачыненняў, апісаных з уласнага вопыту і назіранняў.

Заходненямецкія, англійскія і амерыканскія даследчыкі разглядаюць гісторыю акупацыйнага перыяду на Беларусі альбо як частку агульнай нямецкай палітыкі на акупаваных землях СССР (О. Бройтыгам, А. Далін, Р. Гэрцаг, Э. Гэсэ, П. Кляйст, Дж. Райтлінгер) альбо ў агульным кантэксце гісторыі Беларусі (І. Любачка, Н. Вакар), альбо ў аспекце паходжання беларускай пасляваеннай эміграцыі (Д. Лёфтус). Некаторыя з гэтых аўтараў не надавалі вялікай увагі гісторыі нямецкай акупацыі менавіта на тэрыторыі Беларусі, але зрабілі сур'ёзны ўклад у асвятленне паасобных спецыфічных праблем, такіх, як партызанская вайна (Гэсэ), паходжанне і дзейнасць Саюза Беларускай Моладзі (Гэрцаг), альбо пазіцыя жыхароў Усходняй Беларусі на пачатку акупацыі (Вакар) ці стаўленне Кубэ да праблемы вынішчэння яўрэйскага насельніцтва на Беларусі (Гайбер, Райтлінгер).

Акупацыйная гісторыя Беларусі дагэтуль не была прадметам спецыяльных даследаванняў польскіх вучоных. Вельмі коратка ў больш шырокім кантэксце асвятлялі гэтую тэму У. Банусяк, М. Косман, Ч. Мадайчык. Е. Карлікоўскі разглядаў нямецкую палітыку ў Беластоцкай акрузе, аднак пры гэтым ён мала закрануў усходнія раёны Беласточчыны, якія пасля вайны засталіся ў складзе Беларускай ССР. І ўжо зусім слаба было даследавана польскае пытанне на тэрыторыі акупаванай Беларусі, наконт гэтага сустракаліся толькі паасобныя кароткія згадкі. Так, М. Юхневіч апісаў удзел палякаў у савецкім руху супраціўлення на Беларусі, а Ц. Хлябоўскі — дыверсійную дзейнасць «Wachlarza»* на гэтай тэрыторыі. Больш інфармацыі пра польска-беларускія ўзаемаадносіны таго перыяду можна атрымаць з прац эміграцыйных аўтараў Я. Эрдмана, Я. Праўдзіц-Шляскага, прысвечаных гісторыі Арміі Краёвай на Навагрудчыне.

Такім чынам, трэба сказаць, што, апрача дакументальных збораў і распрацовак паасобных пытанняў, дагэтуль не было напісана навуковай манаграфіі, якая прадставіла б у поўным аб'ёме ўсе праблемы акупацыйнай гісторыі Беларусі.

Аўтар гэтай кнігі таксама не прэтэндуе на стварэнне такога даследавання, яго задачаю было прадставіць асноўныя палітычныя працэсы, якія працякалі на Беларусі ў 1941—1944 гг., разгледзець

* Падпольная дыверсійная арганізацыя.— *А. Л.*



іх, па магчымасці, поўна і ўсебакова, дайсці да ўласных высноў, незалежных ад папярэдніх супярэчлівых ацэнак сведак і пасляваенных інтэрпрэтатараў падзей. І таму не варта, дый немагчыма было загадзя вызначыць нейкую акрэсленую генеральную тэзу альбо якія-небудзь агульныя гатовыя меркаванні. Наадварот, у працэсе даследавання аўтар пастараўся перш за ўсё знайсці дакументальныя пацвярджэнні падзейных дэталей і ўжо на іх падставе фармуляваць лагічныя высновы.

Пагэтаму асабліва вялікая ўвага была ўдзелена знаёмству з тагачаснай дакументацыяй, як апублікаванай (дакументы Нюрнбергскага працэсу), так і архіўнай. Многія з гэтых крыніц аказаліся даступныя ў Польшчы. Пасля вайны ў Злучаных Штатах былі перазнятыя на мікрафільмы калекцыі дакументаў нямецкага Міністэрства ўсходніх абшараў (Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete) — т. зв. александрыйскія мікрафільмы (Т-454), якія амаль поўнасцю захоўваюцца ў Архіве новых актаў у Варшаве (далей — AAN). Калекцыі дакументаў рэйхсфюрэра СС (Т-175) і НСРПГ (Т-81) часткова таксама знаходзяцца ў AAN, а часткова — у Архіве галоўнай камісіі па расследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы, дзе ляжыць яшчэ адзін багаты збор дакументаў Амерыканскага вайсковага трыбунала ў Нюрнбергу. Шмат матэрыялаў, асабліва якія датычацца польскага насельніцтва ў Беларусі і польска-беларускіх узаемаадносін, можна знайсці сярод папер Дэлегатуры польскага эміграцыйнага ўрада і Арміі Краёвай — калекцыі іх дакументаў зберагаліся ў Цэнтральным архіве ЦК ПАРП (цяпер — AAN). Выявілася, што ў польскіх бібліятэках ёсць нечаканыя багатыя зборы нямецкай і беларускай перыёдыкі, а таксама іншых выданняў, якія выходзілі ў час вайны. Аднак стан гэтых крыніц не паўсюль аднолькавы — ад паасобных выданняў засталіся толькі рэшткі, іншыя ляжалі амаль у камплекце. У гэтым сэнсе самыя лепшыя калекцыі аказаліся ва універсітэцкіх бібліятэках Варшавы, Торуня, Познані, а таксама ў бібліятэцы Ossolineum у Вроцлаве. Ксеракопіі шэрага артыкулаў удалося атрымаць з Масквы і ФРГ. Былі выкарыстаны перыядычныя беларускія выданні 1940—1945 гг. і неапублікаваныя ўспаміны тагачасных палітычных дзеячаў са збораў Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Дадатковую істотную інфармацыю ўдалося атрымаць з перапіскі, якую аўтар вёў з удзельнікамі падзей другой сусветнай вайны на Беларусі.

У выніку на руках у аўтара аказалася дастатковая колькасць крыніц, неабходных для даследавання. Напэўна, дадатковыя пошукі ў архівах ФРГ і СССР дазволілі б паглыбіць і пашырыць асвятленне некаторых спецыфічных пытанняў, асабліва ў гаспадарчай і культурна-асветнай галіне.

У даследаванні прыняты храналагічны парадак апісання падзей.

узнімаліся выкрыкі, гоман, пратэсты абурэння. Калі інж. А. Русак скончыў свой рэферат і передаў генеральнаму камісару Кубэ мемарыял, выступіў ген. Цэнэр і спрабаваў апраўдаць карныя акцыі супраць вёсак. Аднак мы былі здзіўленыя, калі Кубэ, наўсуперак ген. Цэнэру, пачаў перад Радаю Даверу апраўдвацца, заявіўшы, што ён у гэтым не вінаваты, што гэта робяць незалежныя ад яго органы й што сам ён бышцам бы скардзіўся на іх у Бэрлін.

Нашыя пабойванні арышту Рады Даверу ня спраўдзіліся. Праф. Іваноўскаму ня прыйшлося чытаць Дэклярацыі Незалежнасці, якая ляжала ў нутраной кішэні ягонага пінжака. Але даўжэйшы час нас не пакідала думка, што немцы яшчэ могуць з намі расправіцца. Мы не выключалі таксама мажлівасці, што органы СД і СС не даруюць таксама і В. Кубэ» (236).

У жніўні 1943 г., хутчэй за ўсё пад канец месяца, Кубэ выслаў да Лёзэ наступны, на гэты раз самы падрабязны свой рапарт, дзе прадставіў супрацьлеглыя метады акупацыі ў Беларусі і канфлікт цывільных і паліцэйскіх улад, які ўлетку 1943 г. перайшоў у найвастрэйшую сваю фазу. Адначасова гэта быў апошні погляд Кубэ на дадзеную справу, і таму варта прадставіць шырэйшыя яго фрагменты, якія вымоўна сведчаць самі за сябе (237):

«...Гэта — вынік псіхалагічных памылак, што дапускаюць з насельніцтвам у час паліцэйскіх акцый атрады, якія іх праводзяць. Фатальную ролю адыгрывае тут асабліва імя Дзірлевангера, бо гэты чалавек падчас сваёй няшчаднай карнай экспедыцыі (Vernichtungsfeldzug) супраць мірнага насельніцтва свядома не прымае пад увагу аніякіх палітычных неабходнасцей. Побач з тым метады Трыццацігадовай вайны стасуюцца часта так, што сцверджанні нямецкай цывільнай адміністрацыі пра жаданае супрацоўніцтва з беларускім народам гучаць як мана. Масавыя расстрэлы або паленне жанок і дзяцей не маюць нічога супольнага з гуманным правядзеннем вайны. Колькасць вёсак, знішчаных у час вялікіх паліцэйскіх аперацый, перавышае колькасць вёсак, спаленых партызанамі. Натуральна, для палення вёсак заўсёды знойдуцца чыста тэхнічныя апраўданні: паводле цяперашніх інструкцый, дастаткова, каб у нейкай вёсцы прагучала некалькі стрэлаў, каб выкарыстаць самыя жорсткія сродкі. Калі такімі метадамі дзейнічаць і надалей, няма чаго разлічваць на ўціхамiранне краю, нават калі сілы паліцыі павялічацца ў дзесяць разоў. Тэрыторыя паступова абязлюдзее і для належнага гаспадарання ў інтарэсах нямецкага Рэйха амаль цалкам будзе страчаная. Праект Рэйхсфюрэра СС: эвакуацыя з усіх абшараў, што знаходзяцца пад пагрозаю бандаў, вываз мужчын да Рэйха і наступнае развядзенне на гэтых тэрыторыях кок-сагызу — невыканальны. На думку сельскагаспадарчых экспертаў, менавіта гэтая расліна патрабуе асабліва пільнага догляду. Дзеці і старыя кабеты самі не ўправяцца з палямі кок-сагызу...



Карныя аперацыі часам ператвараюцца ў крывавыя оргіі, і гэта не толькі руйнуе давер насельніцтва да нямецкага кіраўніцтва, але перш за ўсё адбірае ўпэўненасць у прыхільных да нас беларусаў, якія з намі супрацоўнічаюць: у некаторых выпадках яны трапляюць у поўную залежнасць ад самаўладства якога-небудзь камандзіра паліцыі ці СС...

На працягу астатніх дзесяці дзён усё множыліся і множыліся скаргі і просьбы ад розных мясцовых і нямецкіх устаноў аб дапамозе супраць сляпой лютасці, з якой дзейнічаюць нямецкія паліцэйскія часткі, якія ў павеце Р., у апошні час — і ў павеце М. палілі вёскі, марна расстрэльвалі жывёлу, маўляў, жывая трапіць у рукі партызанаў. Эвакуацыю праводзяць прыблізна так: з сям'і забіраюць бацькоў, а 3-х, 4-х або 5-цігадовыя малыя дзеці пакідаюцца на волю ўласнага лёсу...

Пасля вялікай аперацыі «Котбус» у маі — чэрвені гэтага года следам за выхадам паліцыі партызаны зноў цалкам апанавалі абшар, здабыты надоечы паліцэйскімі сіламі. Зноў адбудоўваюцца колішнія лётнішчы, і сітуацыя робіцца цалкам тая ж самая, што і перад акцыяй «Котбус»... Такія самыя назіранні насоўваюцца і ў ваколіцах Леніна, і ў Ганцавіцкай, і ў Слуцкай акругах на поўдні Генеральнай акругі. Тут таксама ў лютым — сакавіку прайшла вялікая аперацыя, у выніку якой загінула 11 000 чалавек (у аперацыі «Котбус» — больш за 13 000). Тым часам савецкая рэспубліка Ленін цалкам адбудавана нанова. Саветы працягваюць вярбоўку на тэрыторыі цывільнага праўлення, на нашых палях жнуць чырвонаармейскія жніўныя атрады...

Ва ўсіх гэтых справах не будзе ніякіх змен, калі палітычнае кіраўніцтва ўсходніх абшараў на тэрыторыях, што передаў яму фюрэр, не атрымае безумоўнага права кіраваць паліцыяй і Вермахтам. Дагэтуль,— апроч абяцанняў, у якія не верыць ужо ніхто,— мы практычна не даём нічога народам Усходу; пакуль метады нашай барацьбы з партызаншчынай будуць біць у нявіннае насельніцтва горш за самую партызанскую навалу, пакуль будуць расстрэльваць дзяцей і жанок, датуль усе гэтыя ўчынкі будуць вісець на рахунку ОМі, рэйхскамісараў і генеральных камісараў. Роўным чынам, усе добразычлівыя распараджэнні міністра акупаваных усходніх абшараў у галіне прыватызацыі зямельных уладанняў, культуры і г. д. застануцца на паперы да той пары, пакуль нямецкія часці не будуць падпарадкоўвацца палітычным загадам, якія будзе выдаваць толькі міністр усходніх абшараў».

У каментарыях да прадстаўленых Кубэ жахлівых падзей на Беларусі Лёзэ пісаў: «Уявіце сабе, што пра такія падзеі даведаліся на варожым баку і гэтым пакарысталіся. Такая прапаганда, відаць, папросту была б безвынiковая, і толькі таму, што чытачы і слухачы не ў стане былі б у яе паверыць» (238). Аднак Лёзэ не меў ніякіх

У першым раздзеле разглядаецца стаўленне Германіі да беларуска-га пытання ў перыяд да нападу на СССР у чэрвені 1941 г. У наступным раздзеле апісваецца сітуацыя на Беларусі ў першыя месяцы вайны. Трэці, шырокі, раздзел ахоплівае перыяд, пачынаючы ад бітвы пад Масквой да паражэння нямецкай арміі пад Курскам, у ім разгледжаны актывізацыя савецкага партызанскага руху, развіццё тэндэнцый ва ўсходняй палітыцы кіраўнічых колаў Рэйха, а таксама акупацыйныя метады на Беларусі. На гэтым фоне апісваецца фарміраванне настрояў насельніцтва і дзейнасць беларускіх палітычных згуртаванняў. У чацвёртым раздзеле — зварот да гэтых самых праблем у апошняй фазе акупацыі, ва ўмовах набліжэння татальнага разгрому Германіі, які ўсведамлялі ўсе ўдзельнікі палітычнай гульні і ўсе слаі насельніцтва. Нарэшце, пад канец аўтар спрабуе даць ацэнку вынікаў вайны і акупацыі.

# ГЕРМАНІЯ І БЕЛАРУСЬ У 1915—1941 ГАДАХ

## НЯМЕЦКАЯ ПАЛІТЫКА НА БЕЛАРУСІ Ў ЧАС ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

У 1902 г. у Пецярбургу ўбачыла свет гектаграфічная адозва «Да інтэлігенцыі», якая ад імя Беларускай рэвалюцыйнай партыі, што была, па сутнасці, студэнцкім гуртком, створаным Вацлавам Іваноўскім, заклікала выхаваную ў традыцыях польскай культуры інтэлігенцыю беларускіх земляў распачаць асветную дзейнасць сярод беларускага люду на яго роднай мове (1). Аўтары адозвы разумелі, што такая дзейнасць пакуль яшчэ немагчыма, бо, па сутнасці, не існавала ні беларускай літаратуры, ні агульнанацыянальнай беларускай літаратурнай мовы. Таму яны прапанавалі канкрэтную праграму стварэння гэтай мовы і літаратуры, вывучэння роднай гісторыі і арганізацыі выдавецкай дзейнасці (2). Гэта была пачатковая, найпрасцейшая культурна-асветная праграма, якая адлюстроўвала ледзь не нулявы ўзровень беларускага нацыянальнага руху ля вытокаў XX ст., а таксама імкненне да стварэння такога руху.

Рэалізацыі гэтай праграмы спрыяла царская адмена абмежаванняў друку на беларускай мове (25.12.1904 г.), гэтак жа, як і рост грамадскай актыўнасці, звязаны з рэвалюцыйнымі падзеямі 1905 г. Праўда, царскія ўлады і надалей не прызнавалі нацыянальнай адметнасці беларусаў (што, між іншым, выявілася ў забароне беларускіх школ), тым не менш прынцыпова не перашкаджалі развіццю выдавецкай дзейнасці, літаратуры і культуры, у якіх былі дасягнуты даволі значныя вынікі (3). Паступова беларускі нацыянальны рух рабіўся прыкметным грамадскім фактам, знаходзіў сабе прыхільнікаў і ворагаў, аднак у момант выбуху першай сусветнай вайны заставаўся ўсё ж з'явішчам вельмі маладым: з моманту выдання прыгаданай адозвы прайшло дванаццаць год, а ад пачатку ў 1906 г. легальнай выдавецкай дзейнасці — толькі восем. Перыяд гэты быў замалы, каб рух стаў масавым, а беларуская нацыянальная традыцыя і грамадска-палітычная думка набылі належнае развіццё.

Узнікненне беларускага нацыянальнага руху выклікала шматлікія і разнастайныя водгукі польскіх, рускіх, украінскіх і літоўскіх публіцыстаў, непасрэдна зацікаўленых яго перспектывай і вынікамі. Але для Германіі гэтае пытанне было занадта далёкае і нязначнае, таму перад першай сусветнай вайной там не з'явілася аніводнай кнігі ці якой-небудзь саліднай публікацыі, прысвечанай Беларусі і яе праблемам (4). У нямецкіх навуковых і палітычных колах гэты край звычайна трактавалі як гаспадарча і культурна адсталую частку Расіі, якая вылучалася толькі сваёй этнічнай спецыфікай.

ілюзій наконт падпарадкавання паліцэйскіх уладаў кіраўніцтву цывільнай адміністрацыі і не прапаноўваў ніякага выйсця. Ён толькі паводле магчымасці спрыяў дзеянням Кубэ і перасылаў у вышэйшыя інстанцыі яго рапарты, дадаючы да іх хіба толькі эмацыянальныя выклічнікі, якія не раз цытаваліся ў пасляваеннай літаратуры, напрыклад: «Што такое Катынь ў параўнанні з гэтым?» або: «Гэтая метода не вартая нямецкай справы і прыносіць нам самы балючы ўрон» (239).

Затое кіраўніцтва СС паводле зразумелых прычын імкнулася перашкодзіць распаўсюджанню звестак пра злачынствы карных атрадаў і заткнуць Кубэ рот. Пасля знаёмства з першымі рапартамі Кубэ шэф Галоўнага ведамства СС,— ён жа сувязны афіцэр Гімлера ў ОМі,— Бэргер у лісце да Браўтыгама ад 13 ліпеня выказваў глыбокае шкадаванне з той прычыны, што Кубэ высылае няспраўджаныя паведамленні (240). Адначасова копіі гэтых рапартаў Бэргер перасылаў Баху і Бранту ў асабісты штаб Гімлера. Бэргер адзначаў, што дакументы гэтыя «надзвычай важныя, бо сведчаць пра нечуваную легкадумнасць, з якою прымаюцца за праўду паведамленні тубыльцаў з мэтаю выкарыстаць іх супраць рэйхсфюрэра СС...» (241). Адначасова ён прасіў Бранта праінфармаваць аб гэтым Гімлера.

Аднак спраўдзіць верагоднасць рапартаў было немагчыма: 10 чэрвеня загінуў Эрэнляйтнэр, а праз тры дні — Саковіч, ад якога Лянге атрымліваў інфармацыю (242). У абодвух выпадках паведамлялася, што яны загінулі ад рук партызанаў, аднак і гэта немагчыма было спраўдзіць. Не ўдалося пакушэнне на Кубэ ў памяшканні Мінскага гарадскога тэатра, арганізаванае 22 чэрвеня (243). Пад сцэнаю была ўстаноўлена міна, разлічвалася, што яна ўзарвецца ў той час, калі ў тэатры знаходзіўся Кубэ з нагоды ўрачыстага абвяшчэння СБМ. Але выбух прагучаў пазней, у час прадстаўлення камедыі Аляхновіча «Пан міністр», на якім гаўляйтэр ужо не прысутнічаў. Загінула 13 чалавек, некалькі дзесяткаў былі цяжка параненыя (244).

Пасля няўдалага пакушэння, якое прыпісалі «бальшавіцкім агентам», паліцэйскія колы распачалі новую атаку супраць Кубэ дзеля таго, каб прыбраць яго з Мінска. Галоўную ролю тут павінен быў адыграць шэф СД Штраўх, якога Гімлер меркаваў перавесці на пасаду начальніка разведкі ў штабе Баха ўжо 24 чэрвеня (245), а Готбэрг і Бах заахвочвалі абяцанкамі павышэння (246). У чэрвені — ліпені Штраўх і яго людзі пачалі актыўна прасочвацца ў Генеральны камісарыят і «распрацоўваць» Кубэ, аднак ён гэта своечасова заўважыў. Разгарэўся скандал. 20 ліпеня Кубэ выклікаў Штраўха і паведаміў яму, што парывае ўсялякае супрацоўніцтва з паліцыяй, і асабліва — з СД, і забараняе яе супрацоўнікам ўваходзіць у Генеральны камісарыят. А непасрэднай нагодай для гэтага



паслужыў расстрэл СД 70 яўрэяў, што працавалі ў камісарыяце (247).

Намаганні Штраўха падтрымліваў Готбэрг. Ён быў асабліва зацікаўлены ў тым, каб прыбраць Кубэ: у найбліжэйшы час ён спадзяваўся атрымаць павышэнне на групэнфюрэра, а ў далейшай перспектыве разлічваў заняць пасля Кубэ пасаду генеральнага камісара Беларусі (248). 21 ліпеня ён у лісце да Баха падрабязна апісаў абставіны, пры якіх Кубэ парваў супрацоўніцтва з СД, а таксама іншыя праявы яго варожасці да СС наступным чынам:

«20.7.1943, паводле загаду гаўляйтэра Кубэ, у тутэйшым Генеральным камісарыяце адбылася нарада з кіраўнікамі аддзелаў... Гаўляйтэр спытаўся тады, ці не належыць нехта з прысутных да СД, бо ён чуў, што ў Генеральным камісарыяце ёсць шпікі з СД. Паколькі ніхто не прызнаўся, гаўляйтэр забараніў супрацоўнікам Генеральнага камісарыята звязвацца з СД... На пратэст кіраўніка аддзела Фрэйдэнберга гаўляйтэр дадаў да свайго распараджэння, што дзеля неабходных патрэбаў у перагаворах з СД трэба загадзя атрымліваць яго дазвол. Сёння, папоўдні, гаўляйтэр гаварыў пра гэта з жанчынамі, што працуюць у Генеральным камісарыяце, і забараніў ім кантактаваць з СД... Обэргрупэнфюрэр! У дадатак да нататкі обэрштурмбанфюрэра СС Штраўха ад 20.7.1943, я лічу за свой абавязак перадаць Вам гэты рапарт, тым больш, што абра́зы, якія Кубэ кідае ў адрас СС або паасобных камандзіраў СС, падчас іх адсутнасці, перад кіраўнікамі аддзелаў, даўно не ў навіну... напрыклад: «Дух Гімлера і Гайдрыха падрывае германскі падмурак нямецкага народу і можна параўнаць яго з метадамі масонства», альбо пагардлівыя водгукі пра обэрштурмбанфюрэра СС Штраўха і г. д. ...» (249).

Нарэшце, з самай цяжкай артылерыі выпаліў Штраўх. 25 ліпеня, ужо ў якасці члена штаба Баха, ён прадставіў свайму начальніку падрабязны рапарт у справе з Кубэ. У ім гаварылася пра варожасць Кубэ да СС, гучалі абвінавачванні ў поўнай няздольнасці яго як кіраўніка і адміністратара, крытыкавалася беларуская палітыка гаўляйтэра. Штраўх звярнуў асаблівую ўвагу на паводзіны Кубэ ў яўрэйскім пытанні, ён расцаніў іх як «немажлівыя»: у афіцыйных выступленнях Кубэ адназначна падтрымліваў аперацыі па вынішчэнні яўрэяў, аднак рэальныя ўчынкі супярэчылі гэтым заявам. Штраўх прадставіў доказы, на грунце якіх сцвярджаў, што Кубэ «ў глыбіні свайго сэрца з'яўляецца праціўнікам нашых яўрэйскіх акцый». У сваіх абвінавачваннях ён прыходзіў да высновы, што «пры такіх умовах, на маю думку, пакідаць генеральнага камісара на ранейшай пасадзе немэтазгодна» (250).

У даступных архіўных крыніцах няма адказу на пытанне: якім чынам былі выкарыстаны гэтыя матэрыялы? Відаць, Бах, збіраючы іх, меркаваў прадставіць гэтыя дакументы Гімлеру, каб пазней абапірацца на іх у размове з Гітлерам наконт Кубэ. Пра гэта свед-

Выбух сусветнай вайны значна павялічыў цікавасць нямецкіх гісторыкаў і публіцыстаў да праблем нярускіх народаў Расіі. У 1915—1916 гг. у Германіі з'явіўся шэраг прац, дзе аўтары разглядалі разнастайныя канцэпцыі выкарыстання Рэйхам вызваленчых імкненняў палякаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў, фінаў і нават украінцаў. Аднак усцяж яны не выказвалі зацікаўлення беларусамі (5). У 1915 г. Экехард Остман акрэсліў іх як люд сялянскі і работніцкі, без годнай увагі інтэлігенцыі, наймацней сярод усіх астатніх народаў параднёны з расейцамі, у сувязі з чым не бачыў рэальных магчымасцей узнікнення сярод іх сепаратысцкіх тэндэнцый (6).

Шырэй за немцаў займаліся беларускай праблематыкай у Германіі і Аўстрыі польскія і ўкраінскія публіцысты, спрабуючы аказаць уплыў на грамадскую думку і ўрадавыя колы цэнтральных дзяржаў у напрамку сваіх палітычных інтарэсаў. І калі Лявон Васілеўскі прадстаўляў беларусаў як «бясформную этнаграфічную масу», а беларускі рух — як з'яву, што не мае ніякага палітычнага значэння, звязваючы пры гэтым вырашэнне лёсу Беларусі з апорай на польскае насельніцтва і прыхільнае да польскасці беларускае каталіцкае жыхарства (7), дык украінскі публіцыст Стэфан Руднянскі падкрэсліваў дадатныя рысы гэтага руху, вылучаючы на першы план развіццё літаратуры і абуджэнне беларускіх сялянскіх мас да самастойнага нацыянальнага жыцця (8). Крыніцай звестак пра Беларусь былі таксама берлінская «Polnische Blatter» і венскі тыднёвік «Polen».

Аднак найважнейшым фактарам, якім тлумачылася невялікае зацікаўленне нямецкіх аўтараў беларускім пытаннем, была пазіцыя ўрадавых колаў Рэйха, што грунтавалася на іх адносінах з Расіяй і вызначаных ваенных мэтах. Імкнучыся стварыць новыя суадносіны сіл і дасягнуць палітычнай і эканамічнай дамінацыі ва Усходняй Еўропе, нямецкі імперыялізм не выпускаў з поля зроку сваіх эканамічных інтарэсаў у Расіі і меў надзеі на пашырэнне гаспадарчых адносін з гэтай краінай пасля вайны. Гэтая акалічнасць мела вялікае значэнне, асабліва для нямецкай прамысловасці, для якой расійскі рынак збыту ўяўляў шматабяцальны шанс развіцця. У выніку эканамічны фактар супрацьдзейнічаў імкненням да празмернага аслаблення і расчлянення Расіі і ўплываў на зацікаўленасць урада Рэйха ў як мага хуткім дасягненні з ёю мірнага пагаднення (9).

Пры такім становішчы ў першай фазе вайны, асабліва пасля наступлення расійскіх войскаў ва Усходняй Прусіі ў 1914 г., урадавыя колы нямецкага Рэйха хоць і спадзяваліся адсунуць Расію ад сваіх усходніх межаў і стварыць для гэтага буферную польскую дзяржаву, а таксама анексіраваць Літву і Курляндыю, аднак далей гэтых захопніцкіх планаў не ішлі. Такія намеры былі з пэўнага пункту гледжання досыць памяркоўныя і прымальныя для расійскага боку ў час мірных перагавораў (10). Такім чынам, Беларусь, як і рэшты Украіна, Латгалія* і Эстонія, заставалася па-за абсягам нямецкіх тэрытарыяльных дамаганняў, пагэтаму не бралася пад увагу канцэпцыя беларускіх адраджэнцаў аб стварэнні залежнай ад Германіі буфернай беларускай дзяржавы і выкарыстанні для гэтай мэты беларускага нацыянальнага руху. Такім чынам, слабасць гэтага руху была важным, але не вызначальным фактарам, што прычынілася ў недастатковай зацікаўленасці нямецкага Рэйха беларускім пытаннем. Адначасова Германія не збіралася выкарыстоўваць сепаратысцкія тэндэнцыі, мацнейшыя за тыя, што дзейнічалі сярод беларусаў і сярод літоўцаў (11), бо гэта вынікала з вышэйшых мэт нямецкай палітыкі, якой у дадзеным выпадку была анексія Літвы. Згодна з такімі палітычнымі меркаваннямі развіваўся наступ германскіх войск на ўсходнім фронце. Летам 1915 г. яны занялі Каралеўства Польскае, Літву і Курляндыю, дасягнуўшы пад канец верасня лініі Дзвінск — Браслаў — Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск — Луцк, пасля чаго наступіла затрымка ваенных аперацый, якая працягвалася на ўсходзе аж да 18.2. 1918 г. Такім чынам, на працягу двух год і пяці месяцаў нямецка-расійскі фронт падзяляў Беларусь на дзве часткі. Паводле беларускага гісторыка Вадзіма Круталевіча, пад нямецкай акупацыяй заставаліся яе заходнія абшары плошчаю 50 тыс. км$^2$, што складала прыкладна 25 % сучаснай тэрыторыі Беларусі (12).

Увосень 1915 г. на частцы занятых паўночна-ўсходніх земляў быў створаны вайсковы адміністрацыйны абшар Обэр Ост, які ўзначаліў шэф генеральнага штаба генерал Эрых Людэндорф пад агульным кіраўніцтвам камандуючага ўсходнім фронтам фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга. Абшар гэты, плошчаю 109 тыс. км$^2$, пасля неаднаразовых змен унутранай адміністрацыйнай структуры вясной 1917 г. падзяляўся на тры адзінкі: Літву, Курляндыю і Беластоцка-Гродзенскую акругу, якой прызначалася роля сувязнога звяна паміж Прыбалтыкай і Польшчай (13). У межах гэтай акругі апынулася трэцяя частка акупаваных беларускіх земляў плошчаю каля 17 тыс. км$^2$. На адрэзку ад ваколіц Ліды да Браслава ўсходняя мяжа Обэр Оста супадала, з невялікімі адхіленнямі, з сучаснай граніцай Літвы і Беларусі (14) (гл. карту).

Усходняя мяжа Обэр Оста супадала з засягам нямецкіх тэрытарыяльных дамаганняў у Расіі. Разам з усходняй граніцай запраектаванай польскай дзяржавы яна павінна была раздзяліць тэрыторыі панавання Расіі і Германіі. Рэштка акупаваных беларускіх земляў плошчаю каля 33 тыс. км$^2$ уваходзіла ў склад вайскова-аперацыйнай паласы паміж граніцай Обэр Оста і лініяй нямецка-расійскіх акопаў. Адносна гэтых абшараў урадавыя колы Рэйха не мелі анексійных

* Усходняя частка Латвіі.— *Рэд.*

чыць прызнанне Бэргера перад Амерыканскім вайсковым трыбуналам у Нюрнбергу: гаворачы, пра «напружанасці» ў адносінах Кубэ з афіцэрамі СС, ён сцвярджаў, што «яны зацікавіліся планамі, якія яўна скіраваныя былі на тое, каб, я б сказаў, пакончыць з Кубэ, каб ён вымушаны быў пакінуць пасаду генеральнага камісара» (251). Значыць, калі размова з Гітлерам вялася, ён гэтыя намеры адхіліў, бо Кубэ застаўся на сваім месцы і выкрываў надалей злачынствы СС. Справу напаткала фіяска. 14 жніўня Брант пераслаў рапарты Готбэрга і Штраўха Бэргеру і адзначыў, што Гімлер прасіў азнаёміць з імі Розэнберга (252). Той, у сваю чаргу, выслаў у Мінск свайго намесніка Мэера, каб перадаць Кубэ «сур'ёзнае папярэджанне» (253).

На некалькі тыдняў запанавала ціша. Уночы з 21 на 22 верасня яе перарваў выбух міны, падкладзенай пад матрац Кубэ. Нямецкае інфармацыйнае бюро (Deutsches Nachrichtenbüro) паведаміла з Мінска, што Кубэ загінуў у час пакушэння, арганізаванага бальшавіцкімі агентамі, і гэта было пацверджана з савецкага боку. Для расследавання ўсіх акалічнасцей пакушэння была створана Вялікая спецыяльная камісія (Grosse Sonderkomission), якая складалася з афіцэраў СС: старшыні — Бондарфа, а таксама Брэера і Гайса. Камісія высветліла, што міну прынесла і ўсталявала ў спальні Кубэ яго прыбіральшчыца, Алена Мазанік, якая атрымала яе ад Марыі Восіпавай, партызанскай сувязной. Быў раскрыты ўдзел у пакушэнні іншых членаў падполля, высветлена, што абедзве названыя жанчыны ўцяклі да партызанаў і самалётам перапраўлены ў Маскву (254). Гэтыя звесткі пацвердзіліся пазней у маскоўскім часопісе «Работница» за люты 1947 г.— г. зн. тады, калі ў СССР была яшчэ невядома справаздача Бондарфа (255).

Супадзенне ў паказаннях Мазанік і Восіпавай з вынікамі расследаванняў Бондарфа адназначна сведчыць пра ўдзел гэтых жанчын у пакушэнні на Кубэ, аднак гэта не вырашае пытання, хто быў яго ініцыятарам і арганізатарам. Смерць Кубэ, безумоўна, была наруку савецкім уладам, якім яго палітычныя паводзіны перашкаджалі куды больш за злачынствы эсэсаўцаў; тыя толькі ўзбуджалі ў грамадстве нянавісць да немцаў, і партызаны гэтым лёгка карысталіся. Аднак смерць Кубэ, па згаданых ужо матывах, была наруку і кіраўніцтву СС, якое ўжо перабрала ўсе іншыя магчымасці пазбыцца ад гаўляйтэра ў Мінску. Такім чынам, нельга адкінуць версіі, што пакушэнне на Кубэ падрыхтавала СС. На карысць такой гіпотэзы сведчаць наступныя акалічнасці, што вынікаюць з аналізу справаздачы камісіі Бондарфа:

1. Камісія складалася выключна з афіцэраў СС і працавала пад непасрэдным наглядам шэфа СД у Мінску, які падпарадкоўваўся Готбэргу, Баху і Гімлеру. Гэта дазваляла праціўнікам Кубэ цалкам падпарадкаваць яе вынікі свайму ўплыву.



2. Следства праводзілася ўсяго некалькі дзён — ужо 29.9.1943 г. шэф мінскага СД распусціў камісію. Толькі пасля таго «высветлілася», што Мазанік, дапушчаная да працы ў доме Кубэ, была да вайны працаўніцай НКУС, а ў цяперашні момант — дзяячкай савецкага падполля. Адначасова, у надзвычайна кароткі тэрмін, былі выкрытыя ўсе падпольшчыкі, што ўдзельнічалі ў пакушэнні на Кубэ, і не адзін з іх не выкарыстаў магчымасці ўцячы адразу ж пасля гібелі гаўляйтэра. Гэта сведчыла альбо пра надзвычайныя здольнасці СС, альбо пра фабрыкацыю ўсёй справы, тым больш што ўсіх сведкаў знішчылі, так што сляды былі замецены цалкам.

3. За такі кароткі час — г. зн. да 29 верасня! — камісія высветліла, што Мазанік і Восіпаву з партызанскага лётнішча пераправілі ў Маскву. Гэта надзвычай важная акалічнасць у справаздачы, яна сведчыць пра тое, што СД мела сваіх інфарматараў у атрадзе, куды ўцяклі абедзве жанчыны. Значэнне гэтага факта пацвярджаецца яшчэ і тым, што ў савецкім варыянце публікацыі справаздачы камісіі Бондарфа гэты пункт быў апушчаны.

У Савецкім Саюзе першае паведамленне пра смерць Кубэ апублікавала маскоўская «Правда» 24 верасня, у ім адзначалася, што гаўляйтэр загінуў ад «меткой партизанской пули». Гэтая памылка паўстала, хутчэй за ўсё, у выніку ўласнай інтэрпрэтацыі паведамлення нямецкага радыё. Варта звярнуць на яе больш пільную ўвагу, бо гэта значыла, што камандаванне партызанскага атрада, у які ўцяклі Мазанік і Восіпава, не выслала ў Маскву паведамлення. Можна, такім чынам, меркаваць, што атраднае камандаванне, якое, паводле цяперашняй версіі, здаўна і загадзя рыхтавалася да пакушэння, даведалася пра яго толькі з вуснаў незнаёмых беглых жанчын і паставілася да справы засцярожліва, дапускаючы, што гэта, магчыма, правакацыя. Пра гэта сведчыў пазнейшы лёс Мазанік і Восіпавай: пасля публікацыі ў 1947 г. артыкула ў «Работницы» некалькі гадоў вакол іх панавала суцэльнае маўчанне. Між іншым, не згадваў пра іх і Л. Цанава, аўтар вялікай працы аб партызанскай вайне на Беларусі, дзе знайшлося месца для значна менш цікавых фактаў (256). Адзначым, што аўтар кнігі на пачатку пяцідзесятых гадоў быў міністрам дзяржаўнай бяспекі БССР. Можна, такім чынам, дапусціць, што версія аб правакацыі СС сур'ёзна бралася пад увагу.

Кубэ таксама апасаўся пакушэння. У апошнія месяцы свайго жыцця ён меркаваў замяніць паліцэйскую ахову вакол свайго дома «прыватнай» вартай, якая павінна была складацца з даверных членаў SA або маладых фольксдойчаў (257). Але Гімлер «ні ў якім выпадку» не пагаджаўся на такія праекты (258). Значыць, ён поўнасцю трымаў Кубэ ў руках. Смерць Кубэ і па сённяшні дзень не перастае быць таямніцай, нягледзячы на шматлікія згадкі ў літаратуры на гэтую тэму.

У дзень пахавання Кубэ ў Берліне Гітлер загадаў ад свайго імя

намераў. Яны павінны былі адыграць ролю разменнай пазіцыі ў будучых мірных перагаворах і вярнуцца да Расіі пасля адмаўлення апошняй ад прэтэнзій на землі, далучаныя да Обэр Оста (15).

Урадавая пазіцыя Рэйха ў гэтай справе заставалася нязменнай прыкладна да канца 1916 г. Аб гэтым сведчыць выказванне канцлера Тэабальда фон Бэтман Гольвэга ад 23.11. 1916 г., у якім ён акрэсліў ваенныя задачы Германіі наступным чынам: «Прызнанне новага Каралеўства Польскага, уступка абшараў Курляндыі і Літвы і ўсталяванне са стратэгічных меркаванняў агульнай мяжы нямецкіх (г. зн. Обэр Оста.— *Ю. Т.)* і польскіх тэрыторый з Расіяй» (16). Гэтая пазіцыя часткова змянілася пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі. Як паказвае пратакол нарады Бэтмана Гольвэга з вярхоўным вайсковым камандаваннем, якая адбылася 23.4.1917 г. у Бад-Кройцнаху, у гэты час разглядалася магчымасць пашырэння здабычы Германіі ў Прыбалтыцы (Латвія, Эстонія), але не прадбачылася змены ўсходняй мяжы Обэр Оста (17). У змене гэтай мяжы Германія не была зацікаўлена і на брэсцкіх перагаворах. Такім чынам, апроч далучаных да Обэр Оста земляў, што мясціліся ў трохкутніку Гродна — Ліда — Брэст і складалі каля 8 % цяперашняй тэрыторыі Беларусі, акупацыю беларускіх абшараў немцы лічылі за часовую з'яву.

Такая пазіцыя нямецкага ўрада выключала існаванне якіх-небудзь маштабных праектаў, як, напрыклад, стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы, канфедэрацыю Літвы і Беларусі ці ўключэнне або федэралізацыю беларускіх земляў з Польшчай. Большасць занятых немцамі беларускіх земляў павінна была пагэтаму вярнуцца да Расіі, адносна ж той часткі, што далучылася да Обэр Оста, існавалі разнастайныя праекты. Спачатку яна павінна была далучыцца да Рэйха, у 1917 г.— да Літвы, у 1918 г.— да Украіны (частка Беластоцка-Гродзенскай акругі), і нарэшце вясною 1919 г. іх аддалі Польшчы. У такім становішчы, апрача імкненняў да максімальнай эксплуатацыі гаспадаркі, характэрнай, дарэчы, для ўсіх акупіраваных тэрыторый, паводзіны нямецкіх акупацыйных улад абмяжоўваліся фактычна рэалізацыяй пэўнай нацыянальнай палітыкі.

З гэтага пункту гледжання на тэрыторыі Обэр Оста панавалі вельмі разнастайныя ўмовы. Паводле даных перапісу 1897 г., якімі карысталася нямецкая адміністрацыя, 34,4 % жыхароў гэтага абшару складалі літоўцы, 20,8 % — беларусы, 13,5 % — яўрэі, 11,8 % — палякі, 10,5 % — латышы, 6,2 % — расейцы і 2,5% — немцы (гл. табл. 1). Каля $^2/_3$ ад усяго беларускага насельніцтва Обэр Оста прыпадала на Беластоцка-Гродзенскую акругу, дзе яно складала абсалютную большасць (56,0 %). Аднак даныя перапісу ў час вайны не адлюстроўвалі фактычнага стану галоўным чынам таму, што не ўлічвалі істотныя дэмаграфічныя зрухі, якія адбыліся за гэты перыяд. А між тым з 1897 па 1914 г. агульная колькасць



жыхароў краю ўзрасла на 30 % — да 5,8 млн. (18), пасля чаго, у выніку эвакуацыі ў глыб Расіі ў 1915 г., паменшала напалову і ў 1916 г. складала 2,9 млн. (19). У яшчэ большай ступені зменшылася колькасць праваслаўнага насельніцтва, і працэнт беларусаў ад агульнай лічбы жыхароў Обэр Оста ў выніку быў, напэўна, ніжэйшы за 1897 г.

**Табліца 1. Нацыянальная структура насельніцтва Обэр Оста (паводле даных расійскага перапісу 1897 г.)**

| | Обэр Ост цалкам | | у т. л. Беластоцка-Гродзенская акруга | |
|---|---|---|---|---|
| | тыс. | % | тыс. | % |
| Усяго | 4504,2 | 100,0 | 1061,4 | 100,0 |
| у т. л. | | | | |
| Літоўцы | 1550,3 | 34,4 | 3,5 | 0,3 |
| Беларусы | 936,1 | 20,8 | 594,5 | 56,0 |
| Яўрэі | 607,9 | 13,5 | 190,0 | 17,9 |
| Палякі | 534,1 | 11,8 | 147,1 | 13,9 |
| Латышы | 468,9 | 10,5 | 0,2 | 0,0 |
| Расейцы | 278,2 | 6,2 | 112,3 | 10,6 |
| Немцы | 113,0 | 2,5 | 9,2 | 0,9 |

*Крыніца:* Das Land Ober Ost. Stuttgart 1917, S. 433.

Такім чынам, улады Обэр Оста апынуліся перад праблемай кіравання шматнацыянальным рэгіёнам, дадатковую спецыфіку якога складала абумоўленая гістарычна дамінацыя польскай культуры на беларуска-літоўскіх землях і нямецкай — у Курляндыі. Маладыя літоўская, латышская і беларуская культуры, якія развіваліся ў цені гэтых старых культур, былі яшчэ слабыя, а іх грамадскае значэнне — непараўнальнае з пераважаючым удзелам гэтых нацыянальнасцей у насельніцтве Обэр Оста. Паводле звестак даследчыка гісторыі школьніцтва за акупацыйны перыяд Ганса Цэмке, спробы літоўскай інтэлігенцыі па стварэнню сучаснай літаратурнай мовы былі тады яшчэ ў пачатковай стадыі і не знаходзілі водгуку сярод мясцовага сялянства, якое не разумела штучных моўных неалагізмаў і высмейвала іх (20). Гэткія самыя цяжкасці перажывала ў сваім развіцці і беларуская мова і літаратура.

Імкнучыся вырашыць складаную моўную праблему, акупацыйныя ўлады прынялі за прынцып аднолькавае стаўленне да ўсіх нацыянальнасцей (21). Гэта было звязана, напэўна, з намечанай у першай фазе вайны анексіяй усёй тэрыторыі Обэр Оста, бо наданне прывілеяў нейкай адной нацыі з нямецкага пункту гледжання было б нявыгадна. У выніку для ўсіх нацыянальнасцей у роўнай меры адносіўся ўказ аб забароне ўсялякай палітычнай дзейнасці, выдадзены Гіндэнбургам 28.7.1915 г. (22), гэтак жа, як і дазвол улад на функцыяніраванне камітэтаў дапамогі ахвярам вайны. Да

ўскласці вянок на яго магіле (259). Затое Гімлер сказаў, што толькі смерць выратавала Кубэ ад канцлагера (260). Градацыя ацэнак гэтага чалавека была вельмі шырокая, і не толькі ў вачах найбуйнейшых асоб гітлераўскай Германіі, але і пасляваенных даследчыкаў.

І сапраўды, цяжка адназначна ацаніць дзейнасць Кубэ. Ён быў найвышэйшым прадстаўніком гітлераўскага акупацыйнага рэжыму на Беларусі, бясспрэчна, злачыннага па сваім характары. З фармальнага пункту гледжання, згодна з дэкрэтам Гітлера ад 17.7.1941 г., яму «асабіста і непасрэдна» былі падначалены камандзір СС і паліцыі ў Мінску, таму адказнасць за масавыя забойствы, што праводзіліся гімлераўскімі органамі, павінна была абцяжарваць таксама і Кубэ. Аднак у гэтым самым дэкрэце адзначалася, што толькі сам рэйхсфюрэр СС мае права выдаваць распараджэнні камандзірам СС і паліцыі. Такім чынам, уплыў цывільнай адміністрацыі на іх дзейнасць выключаўся. Да самай смерці Кубэ гэтая інструкцыя не змянілася, на яе падставе паліцэйскія ўлады ўхіляліся ад якоганебудзь умяшальніцтва з боку кіраўніцтва цывільнай адміністрацыі. Паводзіны Вермахта таксама не залежалі ад гэтай адміністрацыі.

Можна, такім чынам, меркаваць, што пры тых абставінах Кубэ не нёс непасрэднай службовай адказнасці за злачынствы генацыду. У той сітуацыі ён мог, гэтак жа як і іншыя камісары на акупіраваных савецкіх тэрыторыях, проста захоўваць глыбокі нейтралітэт да злачынстваў гімлераўскага апарату. Пазней, на Нюрнбергскім працэсе, такая пазіцыя не расцэньвалася як важкі довад віны, пра што сведчаць памяркоўныя прыгаворы Амерыканскага вайсковага трыбунала.

Аднак гэтыя здарэнні Кубэ ўспрымаў нераўнадушна, магчыма, пад ўплывам пачуцця маральнай адказнасці, што, дарэчы, адлюстравана ў яго апошняй, жнівеньскай, справаздачы. З гэтых самых меркаванняў ён не хацеў пакінуць сваёй пасады — у той драматычнай асабістай сітуацыі адыход мог бы стаць для яго сапраўдным выйсцем, але гэта азначала б капітуляцыю перад злачынствамі СС.

Таму можна было б палічыць за непаразуменне меркаванне Даліна, паводле якога Кубэ і СС мелі перад сабою тыя ж самыя мэты і пабуджэнні, калі б не тэндэнцыйнасць гэтага аўтара (261). Гэта датычыцца нават яўрэйскага пытання. Райтлінджер, даследчык генацыду яўрэяў у Еўропе, адзначаў, што дзеянні Кубэ ў гэтым напрамку не мелі поспеху, аднак тут жа заўважыў, што «... сярод цывільных або вайсковых буйных чыноўнікаў у Расіі Кубэ быў адзіны, хто пэўны час тармазіў дзейнасць расісцкіх забойцаў. Патэтычны і няўдачлівы, тоўсты і сладастрасны, гэты стараваты чалавек шмат месяцаў займаўся тым, на што не асмеліўся ніводзін сябра праслаўленай антыгітлераўскай апазіцыі» (262). Заўважым, між іншым, што Клаўса фон Штаўфэнберга і яго таварышаў гісторыкі ГДР прызнавалі за антыфашыстаў (263).



Кубэ ацаніў і падтрымаў беларускае пытанне, у перспектыве ён бачыў стварэнне асобнай беларускай дзяржавы пад кіраўніцтвам Рэйха. Гэтая канцэпцыя і спробы па яе ажыццяўленні выклікалі суровае асуджэнне савецкіх улад, і — як вынік — у працах гісторыкаў і публіцыстаў БССР ацэнка Кубэ была адназначна адмоўная. Затое ў колах беларускай эміграцыі ўвогуле ўстрымліваліся ад якіхнебудзь ацэнак, галоўным чынам, дзеля таго, каб найбольш выгадна прадставіць дзейнасць Астроўскага, якая распачалася толькі пасля смерці Кубэ.

Таму варта прывесці пасмяротную ацэнку Кубэ, змешчаную ў жалобным паведамленні Камітэта Даверу. Яно падпісана старшынёй Камітэта Іваноўскім і яго намеснікам Сабалеўскім і адлюстроўвае палітычную пазіцыю большай часткі беларускіх нацыянальных дзеячаў таго перыяду. Варта, дарэчы, заўважыць, што аўтары паведамлення паўстрымаліся ад таго, каб спісаць пакушэнне на «маскоўскіх агентаў». Падаём поўны яго тэкст:

«22 верасня памёр ад рукі баязлівага злачынцы генеральны камісар Беларусі, гаўляйтэр Вільгельм Кубэ. Вестку аб гэтай трагічнай смерці беларусы прынялі з найглыбейшым абурэннем. У асобе Нябожчыка беларускі народ траціць свайго найлепшага сябра і змагара за інтарэсы Беларусі. Беларусы верылі і адчувалі, што іх жаданні будуць здзейсненыя генеральным камісарам Кубэ. Жыццё і дзейнасць гэтага дзяржаўнага мужа стала перашкодаю нашым ворагам. Таму яны стараліся яго прыбраць. У сувязі з трагічнай смерцю гэтага чалавека беларускі Камітэт Даверу выказвае ад імя беларускага народа самае глыбокае спачуванне нямецкаму народу і ўраду Нямецкага Рэйху» (264).

## НАСТРОІ НАСЕЛЬНІЦТВА І ПАЗІЦЫІ ПАЛІТЫЧНЫХ ГРУП

Паводле некалькіх прычын, палітыка Кубэ аказала на настроі беларускага насельніцтва вельмі абмежаванае ўздзеянне. Па-першае, яна распаўсюджвалася толькі на тэрыторыю Генеральнага камісарыята Беларусі. Па-другое, на гэтым абшары, як і па ўсёй Беларусі, значна большы ўплыў на пазіцыю насельніцтва мелі іншыя фактары: палажэнпе на савецка-германскім фронце, вынішчэнне яўрэйскага насельніцтва, партызаншчына і метады барацьбы з ёю, нарэшце, эканамічная сітуацыя гарадскіх і вясковых жыхароў. У некаторых раёнах Заходняй Беларусі спецыфічную ролю адыгрывала польскае пытанне. Гэтае мноства вызначальных прычын, якія да таго ж з рознай інтэнсіўнасцю дзейнічалі ў прасторы і часе, не дазваляе так лёгка вызначыць грамадскія настроі.

Найбольш аднастайная сітуацыя панавала ў раёнах, што знаходзіліся ў зоне вайсковага праўлення ва Усходняй Беларусі. Са-

сярэдзіны 1917 г. яны з'яўляліся адзінай легальнай формай грамадскай дзейнасці мясцовага насельніцтва. Гэтыя камітэты выконвалі таксама ролю нефармальных прадстаўніцтваў паасобных нацыянальнасцей і былі ўпаўнаважаныя прадстаўляць уладам прапановы ў сацыяльнай, асветнай і культурнай галінах (23).

Прынцып аднолькавага стаўлення да паасобных нацыянальнасцей Обэр Оста афіцыйна быў заяўлены ў выдадзеных Гіндэнбургам 22.12.1915 г. асноўных дырэктывах, якія датычыліся арганізацыі школьніцтва, а таксама — у інструкцыі ад 16.1.1916 г. (24). У іх забаранялася весці ў пачатковых школах навучанне па-руску і ўводзілася абавязковае выкладанне на роднай мове. Такі парадак павінен быў захоўвацца і пры вывучэнні рэлігіі. Інструкцыі прадугледжвалі для ўсіх школ абавязковае вывучэнне нямецкай мовы ў ступені, дастатковай для авалодання яе вуснай і пісьмовай формамі. Затое не ўводзілася абавязковага наведвання школы, што выключала прымусовае навязванне дзецям навукі на мове, якую іх бацькі лічылі за непажаданую. У імя ажыццяўлення прынцыпу раўнапраўя, усім нацыянальнасцям Обэр Оста была дазволена культурная дзейнасць і выданне газет на роднай мове. Выдаваліся двухмоўныя пашпарты: нямецка-латышскія, нямецка-літоўскія, нямецка-польскія і нямецка-беларускія — адпаведна па акругах.

У новай сітуацыі магчымасці беларускай грамадска-культурнай працы напачатку былі вельмі абмежаваныя. Прычынай была вайсковая мабілізацыя, а таксама эвакуацыя насельніцтва, якая ахапіла большую частку дзеячаў беларускага руху, у глыб Расіі. Створаны ў сакавіку 1915 г. «Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны» ў Вільні пасля эвакуацыі яго старшыні Вацлава Іваноўскага працягваў ва ўмовах нямецкай акупацыі сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча. Восенню 1915 г. ён згуртаваў вакол сябе невялікую групу пазасталых дзеячаў, сярод якіх найбольшую ролю адыгрывалі Францішак Аляхновіч, Алаіза Пашкевіч-Кейрыс, Вацлаў Ластоўскі, Ян Луцкевіч, Вінцэнт Святаполк-Мірскі, Юліяна Мэнке, Баляслаў Пачобка, Язэп Салавей і ксёндз Уладзіслаў Талочка. Асабліва цяжкая кадравая сітуацыя была ў правінцыі.

Яшчэ ў першыя месяцы акупацыі, перад выхадам указанняў Гіндэнбурга, камітэт арганізаваў у Вільні настаўніцкія курсы, потым, у канцы 1915 г., адкрыў першую ў гісторыі і адзіную ў той час беларускую публічную школу. У гэты перыяд стараннямі польскага Камітэта адукацыі ў Вільні былі адчынены 4 польскія гімназіі, 8 прагімназій, 30 пачатковых школ, а таксама сотні школ у правінцыі (25), створаных, між іншым, для беларускіх дзяцей (26). Гэтае параўнанне яскрава адлюстроўвала розніцу інтэлектуальнага і матэрыяльнага патэнцыялу палякаў і беларусаў. Не былі пагэтаму перабольшаннем словы Людэндорфа, які пісаў: «Беларус не ўваходзіў у разлік. Палякі пазбавілі яго нацыянальнасці, не даючы нічога ўзамен. Восенню 1915 г. я хацеў зарыентавацца ў рассяленні беларусаў. Але напачатку знайсці іх было літаральна немагчыма. І толькі пазней высветлілася, што гэта вельмі распаўсюджаны народ, знешне, аднак, спаланізаваны і такі адсталы культурна, што дапамагчы яму можна толькі праз даўгачаснае ўздзеянне» (27).



Мясцовыя нямецкія ўлады былі слаба зарыентаваныя ў нацыянальнай спецыфіцы літоўска-беларускіх земляў. У першыя месяцы акупацыі гэтая акалічнасць тармазіла пачынанні «Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны» (28). Як сведчыць дзяячка гэтага камітэта Юліяна Мэнке (пасля вайны — Дубяйкоўская, псеўданім — Кветка Вітан), нямецкія вайсковыя ўлады ў Вільні «ведалі палякаў, расейцаў, яўрэяў, часткаю — літоўцаў, але беларусы былі для іх нечым новым. Колькі мемарыялаў з гістарычнымі тлумачэннямі трэба было апрацаваць, каб давесці жаданні і патрэбы беларусаў!» (29).

Прызнанне немцамі нацыянальнай адметнасці беларусаў і раўнапраўнага існавання беларускай мовы побач з іншымі мовамі Обэр Оста мела істотнае значэнне для абуджэння культурна-асветнай працы (30). 15.2.1916 г. у Вільні пад рэдакцыяй В. Ластоўскага (з лета 1917 г.— пад рэдакцыяй Я. Салаўя) пачала выходзіць беларуская газета «Гоман», якая друкавалася два разы на тыдзень. Яна прапагандавала ідэю незалежнасці літоўска-беларускіх земляў у выглядзе новага Вялікага княства Літоўскага, змяшчала распараджэнні акупацыйных улад, гістарычныя матэрыялы, літаратурныя творы і інш. Да 1918 г. гэта была адзіная беларуская газета на абшары Обэр Оста (31). Намаганнямі камітэта 1.6.1916 г. у Вільні быў адчынены так званы Беларускі клуб, у рамках якога арганізавалі аматарскі тэатр, у лютым 1917 г. ён ужо меў сцэну ва ўласным распараджэнні (32). У Вільні да таго ж адкрылася беларуская бібліятэка, кнігарня, кааперацыйнае таварыства «Раніца», дзіцячы прытулак «Золак», паступова развівалася выдавецкая дзейнасць, асабліва ў галіне падручнікаў і школьнай літаратуры. У 1918 г. было выдадзена 28 беларускіх кніжак, супраць 7, што выйшлі ў 1916 г. (33).

Асабліва вялікія цяжкасці выпалі на долю беларускага школьніцтва, якое не існавала з часоў расійскага праўлення і цяпер павінна было ствараццa спачатку. Найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных або эвакуіраваных у Расію. Пагэтаму ўлады Обэр Оста прынялі рашэнне адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, што на Гродзеншчыне, дзе на некалькіх месячных курсах павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. Цяжка аказалася знайсці выкладчыкаў, таму занятки ў семінарыі пачаліся толькі 15.10.1916 г. і працягваліся да 15.11.1918 г. Дырэктарам яе быў анямечаны сілезец Бэндзеха, а выкладчыкамі, між іншым, Б. Пачобка і Квяцінскі,

вецкая эвакуацыйная кампанія і нямецкія рэквізіцыі Вермахта ўжо напачатку вайны прывялі гаспадарку гэтай часткі краю да поўнага ўпадку. Зямельная рэформа і скасаванне вайсковымі ўладамі ўсіх ранейшых абмежаванняў жывёлагадоўлі абудзілі надзеі сялянства на рост прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Аднак гэтыя чаканні неўзабаве развеяліся, бо Вермахт па-ранейшаму нахабна рэквізаваў прадукцыю, паборы раз за разам раслі без увагі на патрэбы мясцовага насельніцтва, без скідкі на неабходнасць аднаўлення вытворчасці. Паводле нямецкіх падлікаў, ужо ў верасні 1942 г. па ўсёй тылавой зоне групы армій «Цэнтр» пагалоўе жывёлы ўпала да такой ступені, што ў сялян часта адбіралі апошнюю карову, якую савецкія ўлады дазвалялі ўтрымліваць пасля таго, як была праведзена калектывізацыя (т. зв. «сталінская карова»). На бойню гналі нават цельных кароў (265).

Вялікія спусташэнні ў сельскай гаспадарцы Усходняй Беларусі выклікала партызанская вайна, у якой абодва варожыя бакі імкнуліся пазбавіць праціўніка харчовых запасаў. Мы ўжо згадвалі, што падчас карных экспедыцый немцы ўганялі і нават вынішчалі жывёлу, а савецкія партызаны на Віцебшчыне пераправілі некалькі тысяч галоў за лінію фронту. Вынікі гэтай барацьбы, аднак, падалі цяжарам на цывільнае насельніцтва, а не на баявых праціўнікаў. Ужо ў 1942 г. сяляне пачалі хаваць ад рэквізіцый збожжа, білі жывёлу патаемна і не пастаўлялі харч у гарады. Гараджанам стала вельмі цяжка пракарміцца. Паводле інструкцый Шэнкендорфа, з 3.9.1942 г. тыднёвы паёк людзей найцяжэйшых прафесій павінен быў складацца з: 1580 г жыта, 250 г грэчкі і проса, 4000 г бульбы, 100 г мяса, 60 г тлушчаў і 0,5 л малака (266). Аднак ужо пад канец гэтага месяца мяса і тлушчы перасталі выдавацца (267). Вельмі востра не хапала паліва і элементарных прамысловых вырабаў.

У 1943 г. матэрыяльнае становішча насельніцтва ва Усходняй Беларусі пагоршылася яшчэ больш. Ужо не толькі гараджане, але і частка вяскоўцаў адчула голад, асабліва ў мясцінах, дзе прайшліся карныя экспедыцыі. Людзі часта трацілі дах над галавой і жылі пад сталай пагрозай дэпартацыі на прымусовую працу або і проста смерці ад падазрэння у супрацоўніцтве з партызанамі. У невыносных ўмовах, пра якія 3.7.1941 г. гаварыў Сталін, на кантраляваных немцамі тэрыторыях Усходняй Беларусі апынулася перш за ўсё мясцовае насельніцтва. Апрача жыцця, людзям, бадай, ужо не было чаго губляць, пераход у партызаны ў такой сітуацыі, асабліва пасля сталінградскага пералому, калі сілы ляснога войска значна павяліччыліся, даваў усё ж неяк больш шансаў перажыць вайну. У недасяжных для немцаў зонах, т. зв. партызанскіх рэспубліках, для насельніцтва ствараліся неблагія, а часам — лепшыя, і, натуральна,— больш бяспечныя ўмовы, чым пад акупацыяй. Гэта была галоўная прычына вялікага наплыву людзей у партызанскія атрады ў 1943 г.



У адрозненне ад зоны цывільнага рэжыму, нямецкія вайсковыя ўлады ва Усходняй Беларусі не праводзілі актыўнай нацыянальнай палітыкі і не імкнуліся выкарыстаць яе, каб дабіцца прыхільнага стаўлення тутэйшых жыхароў. Калі не лічыць створаных у некаторых месцах гурткоў Самапомачы, што займаліся выключна дабрачыннасцю, у гэтай частцы краю не паўстала ніякіх беларускіх арганізацый накшталт БНС (да рэформы) альбо Камітэта Даверу, і толькі ў верасні 1943 г. вайсковыя ўлады пагадзіліся на дзейнасць СБМ. На беларускай мове тут не выйшла аніводнай кніжкі ці брашуры, адозвы і прэсу для мясцовага насельніцтва выдавалі, у прынцыпе, па-расійску. Затое партызаны выдавалі і распаўсюджвалі шмат газет на беларускай мове, іх выхад набываў пэўнае палітычнае значэнне. Акупацыйныя ўлады выдалі дазвол на арганізацыю мясцовых (на раённым узроўні) культурных таварыстваў і народных дамоў, пры якіх было створана некалькі аматарскіх тэатраў. Аднак у моўныя праблемы немцы не ўмешваліся, пагэтаму, напрыклад, у Віцебску і Барысаве гэтыя тэатры давалі спектаклі на беларускай мове, а ў Бабруйску і Магілёве — на расійскай (269). Улады не аказвалі прымусу і ў справе выбару мовы навучання, дый, зрэшты, школы на гэтым абшары праіснавалі вельмі нядоўга — фактычна адзін сезон 1942/43 г. Такім чынам, моўная сітуацыя складвалася без якога-небудзь пэўнага ўздзеяння ўлад, яна залежала, найперш, ад жаданняў і магчымасцей культурна-асветных дзеячаў. Гэта не спрыяла развіццю нацыяналістычных беларускіх або расійскіх тэндэнцый. На гэтай глебе, бадай, не адчувалася напружанняў.

Матэрыяльныя ўмовы існавання жыхароў Генеральнага камісарыята выглядалі інячай. На вёсцы тут пераважалі асобныя прыватныя гаспадаркі, напачатку вайны савецкая эвакуацыя іх амаль не закранула, рэквізіцыі Вермахта таксама спусташылі не ў такой ступені, як ва ўсходняй частцы краю. Абавязковыя пастаўкі на 1942 г. у разліку на адзін гектар ворыва і пашы складалі: 100 кг збожжа, 200 кг бульбы і 20 кг мяса жывой вагою — гэта былі досыць памяркоўныя патрабаванні, яны давалі сялянам магчымасць распараджацца нават большай часткаю прадукцыі, чым пры Саветах (270). У параўнанні з высокімі коштамі набываных машын і зямельных прылад, вотруб'я і г. д. закупачныя цэны былі нізкія, хоць пакідалі ў сялян адчуванне эксплуатацыі, аднак пры гэтым знешне захоўваліся прыкметы рынкавых механізмаў, а не татальнага грабяжу, што панаваў на ўсходзе (271). Землі знішчаных партызанамі памешчыцкіх маёнткаў ахвотна разбіраліся ў арэнду, такім чынам, палявыя работы на тэрыторыі Генеральнага камісарыята былі праведзены восенню 1942 г. на 100 % (272).

Паводле справаздачы Генеральнага камісарыята ў Мінску, план закупу сельскагаспадарчай прадукцыі ад ураджаю 1942 г. выконваўся наступным чынам: збожжа — 81,5 %, салома — 80 %, сена —

часова — прафесар Рудольф Абіхт з Вроцлаўскага універсітэта. У выніку тут атрымалі падрыхтоўку 144 настаўнікі беларускіх школ (34). Пэўная палёгка надышла ў 1918 г., калі вярнулася на радзіму частка мабілізаваных ці эвакуіраваных педагогаў.

Па меры таго як вырашаліся элементарныя кадравыя праблемы, развівалася сетка беларускіх пачатковых школ. Паводле афіцыйных нямецкіх звестак, яшчэ ў кастрычніку 1916 г. на ўсёй тэрыторыі Обэр Оста дзейнічала ўсяго 8 такіх школ, ужо ў снежні 1917 г. іх колькасць узрасла да 50, а вясною 1918 г. дасягнула 89. У большасці сваёй яны мясціліся на тэрыторыі Беластоцка-Гродзенскай акругі, дзе вясной 1918 г. дзейнічала ўжо 79 беларускіх школ. Іх доля ў агульнай лічбе школ Обэр Оста (без Курляндыі) складала толькі 6,5 %, а ў Беластоцка-Гродзенскай акрузе — 21,2% (гл. табл. 2).

Такім чынам, гэты ўдзел быў зашмат ніжэйшы за агульны працэнт беларускага насельніцтва на ўпамянутых абшарах. Віною таму быў не толькі недахоп настаўнікаў, але і пазіцыя польскага каталіцкага духавенства. Яно працівілася адкрыццю школ на роднай мове для беларускіх дзяцей-католікаў. Спробы нямецкіх улад адчыніць беларускія школы былі сустрэты рашучым супраціўленнем большасці ксяндзоў, якія выкарыстоўвалі з гэтай мэтай разнастайныя санкцыі: не дапускалі да споведзі і прычасця бацькоў, што пасылалі сваіх малых у беларускія школы, або і саміх вучняў. Ксяндзы звычайна адмаўляліся выкладаць рэлігію па-беларуску і забаранілі дзецям карыстацца падручнікамі катэхізіса на гэтай мове (35). Паводзіны клеру ў гэтай справе, з традыцыйным трактаваннем беларусаў каталіцкага веравызнання як палякаў, а праваслаўнага — як рускіх, мелі выразны палітычны характар, яны выяўлялі імкненні большасці палітычных груповак у Польшчы да федэралізацыі або анексіі беларускіх земляў. З прычыны супраціўлення духавенства да вясны 1918 г. у каталіцкіх асяродках Обэр Оста было створана ўсяго толькі пяць школ з беларускім навучаннем, пераважная іх большасць узнікла сярод праваслаўнага насельніцтва, якое складала каля 60 % беларускамоўнай масы ў гэтым абшары і ўхваляла школы на роднай мове (36). Паводле сведчанняў Цэмке, нямецкія ўлады ў Беластоцка-Гродзенскай акрузе часам ішлі насуперак інструкцыям, даючы згоду на адкрыццё польскіх школ для беларусаў-католікаў пасля іх настойлівых пісьмовых хадайніцтваў (37).

**Табліца 2. Школьніцтва на тэрыторыі Обэр Оста (без Курляндыі)**

| | Усяго | У тым ліку | | | | Доля беларускага школьніцтва (%) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | літоўскіх | польскіх | беларускіх | | А* | Б** |
| | | | | школ | вучняў | | |
| Усяго | | | | | | | |
| 10.1916 | 828 | 260 | 385 | 8 | 641 | 1,0 | 1,0 |
| 12.1917 | 1108 | 542 | 291 | 50 | 3266 | 4,5 | 4,4 |
| 3—4.1918 | 1350 | 710 | 299 | 89 | — | 6,5 | — |
| у тым ліку ў Беластоцка-Гродзенскай акрузе | | | | | | | |
| 10.1916 | 358 | 6 | 267 | 3 | 497 | 0,8 | 1,8 |
| 12.1917 | 324 | 17 | 176 | 46 | 3043 | 14,2 | 11,5 |
| 3—4.1918 | 365 | 23 | 178 | 79 | — | 21,2 | — |

* Адносна агульнай лічбы школ.
** Адносна агульнай лічбы вучняў.

*Крыніца:* Zemke. H. Der Oberbefehlshaber Ost und das Schulwesen im Verwaltungsgebiet Litauen. Berlin, 1936, S. 101—104.



У аперацыйнай вайсковай паласе, якая распасцерлася на большую частку акупіраваных беларускіх земляў, тэндэнцыі германскай палітыкі адрозніваліся ад тых, што панавалі на абшары Обэр Оста. Яны не знайшлі пакуль што адлюстравання ў гістарычных працах і маглі б быць апісаны толькі пасля вывучэння архіўных матэрыялаў штаба 10-ай арміі. У роўнай ступені ні беларуская літаратура, ні «Zeitung der 10 Armee» не ўказваюць на з'яўленне там якіх-небудзь арганізацый, не падаюць інфармацыі пра культурную і выдавецкую дзейнасць. Напэўна, тут распаўсюджваліся кнігі і часопісы, якія выдаваліся ў Вільні. Аднак прынцыпы школьнай палітыкі ўлад Обэр Оста хоць і датычыліся толькі гэтай тэрыторыі, аказвалі ўплыў на ўзнікненне беларускіх школ таксама і ў вайсковай аперацыйнай зоне. Паводле звестак А. Луцкевіча, на канец 1918 г. агульная колькасць гэтых школ на абшары «старой акупацыі» (г. зн. на тэрыторыях, занятых немцамі да 18.2.1918 г.) перавышала за 150. У параўнанні да 89 школ, зарэгістраваных вясной 1918 г. на землях Обэр Оста, гэта азначала, што каля 60 беларускіх школ было створана ў аперацыйнай зоне (38). Іншыя аўтары называюць значна большыя лічбы, аднак не акрэсліваюць час і месца існавання гэтых школ. Так, напрыклад, Адам Станкевіч агульны лік беларускіх школ, створаных за час нямецкай акупацыі, называе больш за 200, Вернер Хасельблат — аж за 300, а Канстанцін Сракоўскі — каля 350 (39). Магчыма, гэтыя звесткі датычацца не толькі перыяду «старой акупацыі», але таксама і часткі абшараў, занятых у 1918 г.

Такім чынам, германская палітыка адносна беларусаў у абедзвюх зонах акупацыі абмяжоўвалася ў асноўным культурна-асветнымі справамі і не давала падстаў спадзявацца вырашыць справу беларускай дзяржаўнасці з нямецкай дапамогай. Незалежна ад прычын такіх адносін Германіі беларускія дзеячы на чале з Іванам і Антонам Луцкевічамі, а таксама Вацлавам Ластоўскім разумелі

83,9 %, бульба — 62,2 %, мяса — 40,5 %, тлушчы — 38,5 %, ільня-
ное насенне — 82,5 % (273). Пэўная частка гэтых запасаў была
знішчана партызанамі альбо перайшла ў іх рукі, аднак адбылося
гэта або на скупных пунктах, або пазней, пры далейшым перавозе
прадукцыі з гэтых пунктаў. Важна падкрэсліць, што сяляне прывозілі
прадукцыю на гэтыя пункты насуперак партызанскай агітацыі («ані
кілаграма збожжа для акупантаў»). Іх не спынялі ані забойствы,
якія чынілі «лясныя мсціўцы» над вясковымі пастаўшчыкамі, ані
паленне гаспадарак. Калі б партызаны мелі рацыю, трактуючы
гэтых людзей як ворагаў, дык тады належала б прызнаць, што
і Кубэ не памыляўся, гаворачы, што выкананне абавязковых паста-
вак сведчыла аб падтрымцы нямецкіх улад насельніцтвам (274). Але
цяжка пераводзіць гэты канфлікт у ідэалагічны разрэз — ім ад-
люстроўваюцца хіба толькі супрацьлеглыя пазіцыі варожых бакоў,
а не сялянства, якое не жадала ўблытвацца ў барацьбу, а падаткі
для Германіі трактавала гэтаксама, як некалі падаткі для Саветаў,
а яшчэ раней — для Польшчы.

Таму здабыццё прыхільнасці вясковага насельніцтва, якое скла-
дала 85—90 % жыхароў Генеральнага камісарыята Беларусі, мела
для абодвух бакоў вялікае значэнне. Пагэтаму і партызаны імкнулі-
ся не толькі застрашыць сялян, але дзейнічалі і наадварот: дзялілі
паміж людзей здабытую жывёлу, харч ці паліва. Кубэ таксама
стараўся пазбегнуць сітуацый, якія маглі б кінуць мясцовых жыха-
роў у роспач — пазней яна непазбежна вылілася б у партызанскія
настроі. Дзеля гэтага Генеральны камісарыят значна заніжаў лічбы
наяўнага пагалоўя хатняй жывёлы, каб давесці, што павелічэнне
паставак Вермахта — справа немагчымая (275). Аналагічным чы-
нам дзейнічалі ўлады Генеральнага камісарыята і пры вярбоўцы
працоўнай сілы. Так, да верасня 1942 г. уключна з гэтай зоны ў Гер-
манію было вывезена толькі 31 тыс. чалавек (без уліку ваеннапа-
лонных), прытым падкрэслівалася, што ў гарадах працоўнай сілы
нестае, так што вербаваць яе можна толькі на вёсцы, аднак там
перашкаджае гэтаму дзейнасць партызанаў. Гэта была праўда, але
не ўся, паколькі партызаны ў той момант кантралявалі яшчэ ня-
значную частку абшараў камісарыята (276). Захады цывільных
улад прыносілі плён: да сакавіка 1943 г. колькасць высланых у Рэйх
працаўнікоў павялічылася толькі да 35 тысяч (277).

Пералом у сітуацыі настаў толькі з пачаткам вялікіх карных
аперацый на абшары Генеральнага камісарыята Беларусі — г. зн. з
лістапада 1942 г.*. Паводле разлікаў Кубэ, да канца жніўня
1943 г. забойствы і дэпартацыі абязлюдзілі край так, што 240 тыс. га
зямлі не было апрацавана, а 10—15 % сялянскіх сем'яў страціла
апошнюю карову (278). Гэтыя акцыі значна пагоршылі дэмагра-

---

* Буйныя аперацыі сталі праводзіцца з лета 1943 г.— *А. Л.*



фічную і гаспадарчую сітуацыю ў краі, а іх палітычныя вынікі набы-
лі пагрозлівы рэзананс. Яны, перш за ўсё, перакрэслілі надзеі вяско-
вых жыхароў — весці нармальную, упарадкаваную гаспадарку ў та-
кіх умовах было немагчыма. Людзі апынуліся ў атмасферы бясправая
і няспыннай пагрозы, а гэта была адна з найважнейшых задач
партызанаў. Але і цяпер рэакцыя грамадства не была такою адна-
душнай, як ва Усходняй Беларусі: раслі не толькі партызанскія
атрады, але таксама, і прычым у няменшай ступені, сілы Самаахоўы
і паліцыі. Настроі жыхароў былі тут больш разнастайныя, гэтак жа,
як і грамадскія ўплывы: з аднаго боку — паражэнні немцаў на
Усходнім фронце і партызанская вайна, а з другога — нацыяна-
лістычная прапаганда. Нарэшце, нягледзячы на паступовае збяднен-
не краю, тутэйшым сялянам па-ранейшаму было што губляць,
асабліва ў параўнанні з жыхарамі Усходняй Беларусі.

Паводле нямецкіх крыніц, з красавіка 1943 г. дзве супрацьлег-
лыя групы насельніцтва займалі ў гэты час крайнія, выразна акрэс-
леныя пазіцыі. Першая з іх — рашучыя прыхільнікі бальшавізму —
найчасцей жылі ў гарадах, якія да верасня 1939 г. мясціліся на
тэрыторыі СССР, супрацоўнічалі з партызанамі і чакалі вяртання
Чырвонай Арміі. У другую групу ўваходзіла невялікая частка бела-
рускай інтэлігенцыі і сялян з гарадскіх ваколіц, яны зрабілі рашу-
чую стаўку на нямецкую палітыку і бачылі сваю будучыню толькі
пад аховай Германіі, з якой «звязалі свой лёс на радасць і на гора»
(279). І адна, і другая група мелі ў грамадстве невялікую ўдзельную
вагу.

Паміж гэтымі крайнімі групоўкамі знаходзілася большасць на-
сельніцтва Генеральнага камісарыята Беларусі. На пачатку акупа-
цыі яна сустрэла немцаў прыхільна, але пад націскам далейшых
падзей адхіснулася ад іх і — на думку нямецкіх сведкаў сітуацыі —
вагалася паміж «палітычнай антыпатыяй, нацыяналізмам і праса-
вецкімі сімпатыямі». Галоўную ўвагу гэтая частка насельніцтва
скіроўвала на партызанскую праблему, далейшае ажыццяўленне
зямельнай рэформы і здавальненне паўсядзённых жыццёвых патрэ-
баў, аднак яе хвалявалі таксама і палітычныя справы: пытанне
будучага самакіравання Беларусі, выхад яе з Остлянда, імкненне да
незалежнасці ў Прыбалтыйскіх краінах, а таксама — акцыя Уласа-
ва (280). Намаляваная нямецкімі назіральнікамі сітуацыя, і асаблі-
ва праявы беларускага нацыяналізму, вельмі цікавая, і не толькі
таму, што гэта было новае з'явішча ў палітры грамадскіх настрояў:
у першы перыяд акупацыі паліцэйскія данясенні паблажліва абмі-
налі гэтае пытанне, а савецкія крыніцы ў змаганні з беларускім
нацыяналізмам замоўчвалі яго свядома.

Цікавую характарыстыку грамадскіх настрояў прадставіў Антон
Адамовіч, тагачасны мінскі журналіст: «...думалася больш-менш
усім, што горш жа, як пад Саветамі, проста быць ня можа, дык і ня

немагчымасць стварэння асобнай дзяржавы ў зоне акупацыі, пад якой знаходзілася чвэрць беларускіх земляў (40). Гэта абумовіла тактыку іх паводзін: немцаў трэба было пераканаць у мэтазгоднасці стварэння новай самастойнай дзяржаўнай адзінкі — Вялікага княства Літоўскага, дзе беларускія і літоўскія землі злучаліся б па прынцыпу аўтаноміі. Такая пазіцыя беларускіх дзеячаў знайшла адлюстраванне ў выдадзеных з іх ініцыятывы ў снежні 1915 г. і лютым 1916 г. адозвах канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага, мемарыялах да парламента (1.9.1917 г.) і канцлера Рэйха (снежань 1917 г.), нарэшце у рэзалюцыях канферэнцыі прадстаўнікоў усіх беларускіх груповак, якая адбылася ў Вільні 25—27.1.1918 г. Гэтая канцэпцыя не ўзбудзіла, аднак, зацікаўленасці нямецкіх улад, якія з 1917 г. імкнуліся да стварэння асобнай літоўскай дзяржавы, куды меліся ўвайсці, між іншым, і далучаныя да Обэр Оста беларускія землі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ажывіўся беларускі нацыянальны рух і на тэрыторыі Усходняй Беларусі. У сакавіку 1917 г. узнікае Беларускі нацыянальны камітэт, які ў выніку паслядоўных змен пeратвараецца ў Вялікую Беларускую Раду. Яна прэтэндуе на ролю краёвага палітычнага прадстаўніцтва, у сярэдзіне лістапада 1917 г. патрабуе заключэння міру з Германіяй, аб'яднання акупіраваных немцамі беларускіх земляў з рэшткай краю і федэралізацыі з Расіяй беларускай дэмакратычнай рэспублікі. 14.12.1917 г. Рада склікае ў Мінску першы Усебеларускі з'езд, які прыняў пастанову аб неадкладным стварэнні выканаўчага органа ўлады на Беларусі. Ноччу 18 снежня савецкія войскі разагналі з'езд, з гэтай прычыны яго функцыі пераняў падпольны выканаўчы камітэт Рады з'езда, які, між іншым, выслаў сваіх прадстаўнікоў на мірныя перагаворы ў Брэст (41). Пасля новага нямецкага наступу (18.2. 1918 г.) і адыходу з Мінска савецкіх войскаў (19.2.1918 г.) Рада з'езда выходзіць з падполля, абвяшчаючы сябе часовым урадам на Беларусі, і 21.2.1918 г. утварае свой выканаўчы орган — народны сакратарыят на чале з Язэпам Варонкам.

Палітычная сітуацыя ў Мінску мянялася хутка, пагэтаму, калі нямецкія войскі ўваходзілі ў горад (25.2.1918 г.), ні берлінскія ўлады, ні камандаванне 10-ай арміі не ведалі яе дакладна. Палітычнай асновай іх паводзін мог быць толькі Брэсцкі трактат, у якім, аднак, беларускае пытанне не ўлічвалася. Займаючы Беларусь аж да Дняпра, немцы па-ранейшаму трактавалі яе як расійскую тэрыторыю, своеасаблівы заклад пад кантрыбуцыі памерам 6 млрд. рублёў, выплочваць якія абавязвалася Савецкая Расія (42). Але ў Мінску яны нечакана сутыкнуліся з палітычным цэнтрам, які іменаваў сябе беларускім урадам. Увайшоўшы ў горад, нямецкія атрады абышліся з ім, як з урадам варожай дзяржавы: з будынка народнага сакратарыята скінулі беларускі нацыянальны штандар і на яго месцы ўставілі нямецкі, сканфіскавалі касу, т. ч. зрабіўшы немагчымай далейшую дзейнасць гэтага органа.



Неўзабаве пасля інцыдэнту народны сакратарыят адаслаў вышэйшым акупацыйным уладам мемарыял, у якім, між іншым, дамагаўся тлумачэнняў іх стаўлення да пабудовы беларускай дзяржаўнасці. І хоць змест нямецкага адказу невядомы, далейшае развіццё падзей сведчыць аб тым, што старанні беларускага народнага сакратарыята не былі дарэмнымі. Афіцыйна не прызнаны, ён тым часам распачынае ажыўленую нарматыўную дзейнасць. 9.3.1918 г. выканаўчы камітэт Рады з'езда выдае канстытуцыйную грамату, у якой абвяшчае ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (далей БНР.— *Рэд.*), па-ранейшаму трактаванай як частка агульнарасійскай федэрацыі, і акрэслівае асновы яе канстытуцыі, у т. л. адмену прыватнага ўладання зямлёй і перадачу яе тым, хто на ёй працуе (43). 18 сакавіка Рада Усебеларускага з'езда абвяшчае сябе Радай БНР, куды ўваходзяць таксама прадстаўнікі нацыянальных меншасцей — палякаў, яўрэяў, рускіх, украінцаў, літоўцаў. Нарэшце 25 сакавіка Рада БНР выдае чарговую канстытуцыйную грамату, у якой пракламуе незалежнасць Беларусі і разрыў дзяржаўных сувязей з Расіяй, абвяшчае пры гэтым неправамоцным Брэсцкі трактат, паводле якога беларускія землі былі падзелены на некалькі частак (44).

Акт незалежнасці ад 25 сакавіка адлюстроўваў надзеі на прызнанне Беларускай Народнай Рэспублікі германскім урадам і іншымі краінамі. Аднак гэты крок не прывёў да змен у пазіцыі немцаў. У адказ на ноту народнага сакратарыята новы канцлер Рэйха Георг Гертлінг паведаміў, што Берлін трактуе Беларусь як частку Савецкай Расіі і, паводле Брэсцкага трактата, не мае права без згоды ленінскага ўрада прызнаць новаствораную беларускую дзяржаву (45). У канцы красавіка 1918 г. Рада БНР выслала кайзеру Вільгельму II тэлеграму з падзякай за «вызваленне Беларусі ад чужацкага ўціску і анархіі» і просьбу «абараніць імкненні Рады да ўмацавання дзяржаўнай незалежнасці і непадзельнасці краю ў саюзе з нямецкім Рэйхам». Адказу не было. Не далі выніку і іншыя намаганні Рады БНР у гэтай справе.

У чаканні шчаслівага павароту ў вялікай палітыцы Германіі і ў свеце не прызнаная ў Берліне Рада БНР прыступіла ў паразуменні з камандуючым 10-ай арміі генералам Эрыхам фон Фалькенгайнам да арганізацыі мясцовага апарату ўлады. Ужо 27 сакавіка была апублікавана пастанова аб перадачы ёй усіх краёвых дзяржаўных устаноў. 20 красавіка Рада выдала «часовы загад мясцовым беларускім радам», у якім акрэсліваліся прынцыпы выбараў па вёсках, валасцях, гарадах і мястэчках, паветах і губернях органаў Беларускай Народнай Рэспублікі і прыняцця імі на сябе ўлады ад акупантаў у асобных адміністрацыйных галінах. Паводле сцвяр-

будзе, што «цяпер будзе йначай», а мо нат і лепш хоць у сім-тым хоць-бы для беларускае нацыянальнае справы, а з гледзішча яе — і для Беларусі наагул. Магчымасці для гэтае справы, а, значыцца, і пэрспектывы былі-ж адчыніўшыся адразу — беларуская мова, прынамся, атрымала адразу-ж статус адзінае афіцыйнае мовы, прызнаванае за гэткую новым акупантам—толькі ў беларускай мове быў дапушчальны і друк, і тэатр, і школьніцтва. Бесперашкодна дэманстраваліся й адпаведна ўшаноўваліся нацыянальныя эмблемы — бел-чырвона-белы сцяг, гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», гэрб Пагоні, чаго, між іншага, не было на суседняй Украіне, і прыежджыя сюды ўкраінцы вельмі дзіваваліся з гэткага «нацыянальнага рэнесансу» на Беларусі» (281).

І сапраўды, нягледзячы на супраціўленне берлінскіх улад і перашкоды з боку партызанскага руху, упартыя намаганні Кубэ ў галіне беларусізацыі пачалі прыносіць усё больш і больш плёну. На другі год акупацыі было адчынена каля 30 сярэдніх школ — агульнаадукацыйных і прафесіянальных, яны сталі асяродкамі нацыянальнага выхавання моладзі, базаю СБМ. Выйшлі новыя газеты і часопісы, развівалася выдавецкая дзейнасць, узнікалі творчыя аб'яднанні, аматарскія культурныя суполкі ў правінцыі, на добрым узроўні працаваў тэатр у Мінску, у яго рамках была створана беларуская опера. Усё гэта ўздымала нацыянальную свядомасць сярэдняга грамадзяніна, і асабліва моладзі. Такім чынам, без увагі на адносіны да «вялікай палітыкі», расло супрацьдзеянне савецкай ідэалогіі. Вынікі карных аперацый не маглі стрымаць росту гэтай свядомасці: паўсюдна асуджаліся не толькі злачынствы карных атрадаў, але і прычыны, што іх выклікалі,— маральнага аўтарытэту савецкага партызанскага руху яны не павялічвалі. Варта адзначыць і тое, што рост нацыяналістычных настрояў адбываўся падчас адступлення Вермахта на ўсходнім фронце, калі ў грамадстве расло перакананне, што немцам не удасца пазбегнуць паражэння.

Польскае падполле і мясцовае польскае насельніцтва не ўсюды аднолькава ставіліся да гэтых тэндэнцый. Ужо ўвосень 1942 г. Галоўнае камандаванне АК справядліва прадбачыла, што «пры захаванні цяперашняга стану рэчаў нацыянальная свядомасць беларускіх мас будзе, напэўна, узрастаць», таму было вырашана гэтыя тэндэнцыі абярнуць на карысць Польшчы (282). Тым часам кіраўніцтва Віленскай і Навагрудскай акруг АК, абапіраючыся, напэўна, на назіранні мясцовага польскага насельніцтва, расцэньвала беларускі нацыяналізм як з'яву, варожую польскім інтарэсам на гэтых абшарах, з якой неабходна весці змаганне (283).

Хутчэй за ўсё антыпольская кампанія, якую ў сярэдзіне 1942 г. паліцыя бяспекі распачала, не зважаючы на пратэсты генеральнага камісара, дала падставы для такіх меркаванняў (284). Гэтая акцыя парушыла ўклад польска-беларускіх стасункаў, які



тарыў і падтрымліваў Кубэ. Папраўдзе, гэта была сістэма хісткай раўнавагі, якая па-сапраўднаму не задавальняла ні адзін, ні другі бок, але на працягу многіх месяцаў яна забяспечвала хаця б вонкавы спакой ва ўзаемаадносінах. Цяпер замест гэтага паліліся ўзаемныя абвінавачванні і прэтэнзіі, завісла атмасфера антыпольскай траўлі, пачаліся новыя нацыянальныя канфлікты.

Восенню 1942 г. у Слоніме сярод польскай інтэлігенцыі 84 чалавекі было расстраляна, да канца акупацыі ў акрузе з працы выгналі каля 1000 палякаў — іх замянілі беларусамі (285). Увесну 1943 г. тут каля 500 палякаў падалі прашэнне аб прызнанні іх беларускай нацыянальнасці (286). У чэрвені 1942 г. у акрузе ўвялі грашовае пакаранне за выкарыстанне ў працоўны час «іншай мовы» — г. зн. не беларускай ці нямецкай. Відаць, гэта не дапамагло, бо ў верасні 1943 г. акруговы камісар Эрэн паўтарыў сваё распараджэнне і загадаў распаўсюдзіць яго па ўсіх установах горада і Слонімскай акругі (287). Акруговы камісар Навагрудка падаваў, што 80 % беларускага насельніцтва ставілася да палякаў адмоўна, адначасова ён «шкадаваў», што звальненне палякаў з іх пасад прынесла вялікія цяжкасці — гэта была «больш інтэлігентная і значна больш карысная для нас частка насельніцтва» (288). У Навагрудку 31.7.1942 г. таксама было расстраляна некалькі дзесяткаў палякаў, між іншым, некалькі ксяндзоў, а 1.8.1943 г.— 12 манашак (289). Тое самае адбывалася і ў Вілейскай акрузе: улетку 1942 г. сярод польскай інтэлігенцыі тут загінула больш за 100 чалавек (290).

Бясспрэчна, паліцэйскія ўлады разлічвалі ад самага пачатку ўцягнуць у антыпольскую кампанію беларускае насельніцтва. Невыпадкова ў канцы мая 1942 г., г. зн. напярэдадні ўсёй акцыі, беластоцкая «Новая дарога» апублікавала перадавы артыкул пад назваю «Больш актыўнасці!» — ён быў разлічаны на распальванне варожасці да палякаў і заклікаў беларусаў прыняць удзел у планаваных «чыстках». Газета, між іншым, пісала: «Але і цяпер яшчэ вельмі часта мы сустракаемся з тым самым старым «польскім» духам сярод паасобных солтысаў, войтаў, паліцыі і службоўцаў, варожа настроеных да беларусаў. Гэтыя панове, займаючы да 1939 году тыя ці іншыя пасады ў адміністрацыі, відаць, забываюцца на тое, чый хлеб ядуць, і ўяўляюць сябе ў старой ролі. Прыкладаў гэткага стаўлення можна знайсці вельмі многа. Там, дзе ёсць актыўныя беларусы, гэтыя стасункі вельмі хутка выпраўляюцца і справядліва ўладкоўваюцца нямецкімі ўладамі. Мы, аднак, не заўсёды выяўляем належную актыўнасць. Менавіта гэтым у сапраўднасці можна растлумачыць факт, што нават там, дзе жыве амаль 100 % беларусаў, паміж нямецкаю ўладай і насельніцтвам часта стаіць польскі чыноўнік» (291).

Такія палітычныя матывы ў будучыні павінны былі прывесці да аслаблення польскага элемента і ўзмацнення беларускага, і яны

джэння Круталевіча, немцы перадалі ў кампетэнцыю Рады БНР ведамствы гандлю, прамысловасці, асветы, сацыяльнага забеспячэння і інш., якімі кіраваў народны сакратарыят пад надзорам нямецкіх улад (46).

27.5.1918 г. Фалькенгайн прыняў прадстаўнікоў Рады БНР і народнага сакратарыята і выказаў ім «сімпатыі нямецкіх уладаў», паведаміў, што «акупацыйныя ўлады хацелі б бачыць ў Радзе пасрэдніка паміж нямецкай адміністрацыяй і беларускім народам дзеля ўлагоджвання — паводле магчымасці — жыццёвых цяжкасцей, выкліканых вайной». Фалькенгайн дадаў, што дзейнасць Рады і сакратарыята ў гэтым кірунку «прынясе для Беларусі ў недалёкай будучыні пазітыўныя вынікі». Гэта магло расцэньвацца як абяцанне прызнаць БНР. У выніку 21.6.1918 г. нямецкае камандаванне пагадзілася на стварэнне дарадчых устаноў пры павятовых камендантах для рэгулявання адносін паміж насельніцтвам і нямецкімі войскамі (47).

Важнай сферай дзейнасці народнага сакратарыята было школьніцтва. Пры народным сакратарыяце асветы было створана бюро па справах распрацоўкі школьных падручнікаў і таварыства «Прасвета», якое занялося іх выданнем. Былі арганізаваны настаўніцкія курсы і школьная інспекцыя, пашырылася сетка пачатковых і сярэдніх школ. У Мінску быў створаны Беларускі педагагічны інстытут, рэктарам якога стаў В. Іваноўскі, а выкладчыкамі — Я. Карскі, Б. Тарашкевіч, У. Ігнатоўскі і інш. Рыхтавалася адкрыццё універсітэта. Працавалі ў Мінску Беларускі тэатр, Таварыства драмы і камедыі і іншыя культурныя ўстановы. Пад кантролем народнага сакратарыята выходзіла больш дзесятка газет і часопісаў на беларускай мове.

Народны сакратарыят атрымаў паўнамоцтвы і ў галіне знешняй палітыкі. З яго ініцыятывы нямецкае вайсковае камандаванне пачало летам 1918 г. перагаворы з урадам Савецкай Расіі аб аб'яднанні з тэрыторыяй БНР усходніх раёнаў Беларусі, занятых расійскімі войскамі. З гэтай мэтай, а таксама для здабыцця прызнання БНР у Маскву выехала беларуская надзвычайная місія, аднак народны камісар замежных спраў Г. Чычэрын яе не прыняў (48). Былі акрэдытаваны прадстаўніцтвы БНР на Украіне і ў Літве, высылаліся дыпламатычныя місіі ў Варшаву, Берлін, Берн, Капенгаген і інш. У Кіеве адкрылася Беларуская гандлёвая палата. Грамадзяне краю атрымлівалі пашпарты ад імя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Такім чынам, падтрымка, аказаная Фалькенгайнам справе БНР, заходзіла вельмі далёка. Па сутнасці, беларусам не было дазволена толькі стварэнне ўласнага войска, затое ў астатніх галінах народны сакратарыят мог развіваць дзяржаўную дзейнасць, за якой, натуральна, сачылі акупацыйныя ўлады. Варта заўважыць, што было гэта не толькі ціхае неафіцыйнае спрыянне. Пра тое сведчыць, між



іншым, публічная падтрымка ў друкаваным органе штаба Фалькенгайна — «Zeitung der 10 Armee» — адозвы Беларускага нацыянальнага камітэта ад 17.3.1918 г. з пратэстам супраць літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх прэтэнзій на беларускія землі, якія ў дачыненні да Літвы і Украіны былі зацверджаны Брэсцкім трактатам, падпісаным немцамі (49).

Дзве лініі нямецкай палітыкі, г. зн. непрызнанне Берлінам БНР і адначасовае стварэнне яе пад аховай 10-ай арміі, супярэчылі сабе толькі знешне. У сапраўднасці яны адлюстроўвалі своеасаблівую тактыку паводзін нямецкіх улад, якая была вынікам эвалюцыі поглядаў на беларускае пытанне. Пры ўступленні ў лютым 1918 г. у Мінск немцы былі перакананы ў абсалютнай няздольнасці беларусаў да стварэння ўласнай дзяржавы. Аднак яны засталі тут дынамічны палітычны цэнтр, дзейнасць якога хутка вызваляла ад сну народныя сілы і ўзбуджала сярод немцаў зацікаўленасць патэнцыяльнымі магчымасцямі беларускага руху. Найбольш скептычна ацэньвалі гэтыя магчымасці берлінскія ўрадавыя колы, пра што сведчыць іх стаўленне да ўкраінскага пытання (50), затое лакальныя назіранні не былі такія адназначныя, яны пацвярджалі мэтазгоднасць праверкі арганізацыйных здольнасцей рады БНР і народнага сакратарыята на практыцы.

Стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы адлюстроўвала спадзяванні немцаў на ліквідацыю небяспечнага расійскага кліна, якім, паводле Брэсцкага трактата, была Беларусь: ён убіваўся паміж дзвюма новаўтворанымі дзяржавамі — Літвой і Украінай (51). На фоне такой палітычнай перспектывы трацілі сваё значэнне перашкоды, што раней не дазвалялі акупантам зацікавіцца беларускім пытаннем. Так, напрыклад, прафесар Берлінскага універсітэта Фрыц Куршман пасля знаёмства летам 1918 г. з сітуацыяй на Беларусі пагаджаўся, што беларускі рух яшчэ слабы, але заўважаў яго хуткае і лёгкае даспяванне і пашырэнне. Ён зазначаў таксама і слабасці Рады БНР, аднак і тут выявіў перакананне, што «калі ўжо беларусы трымаюцца ў сядле, дык, пэўна, навучацца ездзіць» (52). Выразна была ўсвядомлена карысць, якую прыносіла існаванне ўкраінскай і беларускай дзяржаў для германскай палітыкі адносна Польшчы і Расіі (53).

Такім чынам, толькі пасля заключэння Брэсцкага міру і акупацыі каля 85 % беларускай тэрыторыі пытанне дзяржаўнасці гэтага краю зацікавіла нямецкія вайсковыя колы. Падтрымка дзейнасці Рады БНР і народнага сакратарыята мела на мэце падрыхтаваць іх да прыняцця на сябе рэальнай улады на Беларусі. Гэта быў, паводле трапнага вызначэння Куршмана, рэзервовы ўрад, фармальнае прызнанне якога магло ажыццявіцца пры станоўчым для Германіі выніку вайны. На думку Круталевіча, перад такім рашэннем не ўстрымалі б немцаў і пастановы Брэсцкага трактата (54).

знаходзілі водгук сярод часткі беларусаў — супрацоўнікаў адміністрацыі, паліцыі, а таксама дзеячаў БНС, якія рознымі шляхамі дапамагалі СД у ажыццяўленні гэтай кампаніі. Пра гэта згадваюць не толькі польскія, але і беларускія крыніцы (292). Не выклікае сумненняў удзел мясцовых арганізацый БНС у прызначэнні на працу ў Германіі ў першую чаргу палякаў і нават беларусаў каталіцкага веравызнання, якіх падазравалі ў прапольскіх сімпатыях і раўнадушшы да «адраджэння Бацькаўшчыны» (293). Трэба сказаць, што ўжо ў ліпені 1942 г. у вярбоўчыя камісіі Заходняй Беларусі паліцыя пераслала загад — высылаць на працу ў Рэйх найперш палякаў, так што гэтыя камісіі, напэўна, маглі абысціся і без дапамогі БНС (294). Значыць, яе ўдзел у адсылцы працоўнай сілы ў Нямеччыну паліцыя выкарыстоўвала дзеля распальвання новых канфліктаў паміж польскім і беларускім насельніцтвам.

Ацэньваючы гэтыя падзеі, камендант Віленскай акругі АК, палкоўнік Аляксандр Кшыжаноўскі («Дзяміда»), пісаў у кастрычніку 1942 г.: «Беларусы гэтак жа, як і літоўцы, лічаць, што ад немцаў няма чаго спадзявацца, але супрацоўнічаюць з імі, бо лічаць за больш карыснае для сябе знішчэнне польскага духу. Яны расцэньваюць гэта як расчыстку плацдарма для сваёй будучай дзейнасці» (295). Кшыжаноўскі трапна акрэсліў значэнне гэтай кампаніі ў змене кадравай сітуацыі ў Заходняй Беларусі, аднак, складаючы свой рапарт, яшчэ не ведаў яе вынікаў. Толькі пасля вайны стала вядома, што ў 1943 г. доля беларусаў у складзе адміністрацыйнага апарату ўзнялася на абшары Генеральнага камісарыята да 80 %, а ў паліцыі — да 60 % (296). Гэта былі вельмі значныя змены на карысць беларусаў, тым больш што ім выпала заняць кіраўнічыя пасады.

На рост перавагі беларусаў і аслабленне польскіх пазіцый акоўскае падполле адказала антыбеларускім тэрорам. Самых вялікіх памераў ён дасягнуў у Лідскай акрузе. Паводле беларускіх крыніц, там загінула каля 1200 беларусаў (297). Праўдзіц-Шляскі падае, што карны аддзел яго штаба ў гэты час выканаў 300 смяротных прысудаў над «здраднікамі і прадажнікамі». Звычайна пад такую класіфікацыю падпадалі праціўнікі адбудовы польскай дзяржаўнасці на гэтых землях. Звыш таго, падначаленыя яму ячэйкі АК выдалі ў рукі гестапа і палявой жандармерыі «членаў камуністычнай арганізацыі», у выніку было арыштавана 80 чалавек, частку з якіх расстралялі, а частку вывезлі на працу ў Германію (298). Нават калі гэтыя лічбы і не зусім дакладныя, яны даюць уяўленне пра трагічны размах такіх падзей. Лідскі акруговы камісар адзначаў, што «ў выніку тэрарыстычных акцый белапалякаў (Weisspolen) беларускі ўплыў неўзабаве спыніўся, так што ўрэшце стала немагчыма прыцягнуць беларускія адміністрацыйныя сілы на кіраўнічыя пасады» (299). Камісар дадаваў, што 500-асабовая дапаможная паліцыя ў гэтай акрузе па-ранейшаму складалася з палякаў, ён лічыў гэтых людзей



...ы цалкам ненадзейны элемент. Напэўна, яны былі звязаныя з польскім падполлем. Лідская акруга займала выключную пазіцыю па размаху і эфектыўнасці антыбеларускай тэрарыстычнай кампаніі на абшары ўсяго Генеральнага камісарыята Беларусі. У іншых акругах, дзе беларусы ў дужай ступені авалодалі апаратам, атрады АК да восені 1943 г. былі невялікія, а тэрарыстычныя акцыі здараліся досыць рэдка (300).

Магчыма, абвастрэнне нацыянальных адносін паміж беларускім і польскім насельніцтвам адбывалася ў адпаведнасці з планам RSHA, які быў скіраваны на ўзбуджэнне варожасці паміж усімі народамі былых «крэсаў усходніх». Пра гэта сведчаць аналагічныя падзеі ў Заходняй Украіне і літоўскай Віленшчыне. Аперацыя, што прайшла на Беларусі, была ўсяго толькі мініяцюрай у параўнанні з той, што адбывалася на польска-ўкраінскіх абшарах, аднак і яна прывяла да паглыблення ўзаемнай варожасці. Апрача гэтага, дадатковую ролю тут адыграў упадак польскага палітычнага прэстыжу пасля таго, як СССР разарваў адносіны з урадам генерала Сікорскага — паведамленні аб гэтым ішлі па акоўскіх каналах (301).

Сярод беларускіх палітычных згуртаванняў «на радасць і на гора» звязалі свой лёс з Трэцім Рэйхам групы Акінчыца і Ермачэнкі. Абодва яны былі людзьмі Розэнберга, перад якімі ён паставіў прыкладна аднолькавую задачу: актывізацыя беларускага нацыяналізму, мабілізацыя матэрыяльных і духоўных сіл народа на барацьбу з бальшавізмам, а ў будучыні — стварэнне пад крылом пераможнай Германіі асобнай беларускай дзяржавы. Палітычнае крэда Акінчыца гучала наступным чынам:

«Мы, беларусы, не павінны глядзець на гэтую вайну з гледзішча выключна беларускіх інтарэсаў... Мы павінны ўсведаміць сабе, што вайна вядзецца ў імя будучыні ўсяго культурнага свету. Ад таго, якая сіла возьме верх, будзе залежаць лёс усіх народаў. Гэта зусім зразумела, і таму мы не можам абмежавацца фальшывай у грунце рэчы формулаю: «Пачакаем і паглядзімо, якая сіла будзе карысней шаю для беларускай справы...» Апрача ўсяго іншага, вайна вядзецца за перабудову Еўропы на новых гаспадарчых і палітычных асновах. Якая б гэтая Еўропа ні была ў бліжэйшай будучыні, нам, беларусам, шкадаваць перадваеннай Еўропы не даводзіцца. Нічога ў ёй мы ня мелі і мець не маглі... У сваім краі, дзе ніколі мы ня мелі ніякіх магчымасцяў да нацыянальнае, не толькі паводле духу і зместу, але і паводле формы, працы — цяпер мы гэтую магчымасць маем. А гэта ў сучасны момант плюс вельмі важны» (302).

Акінчыц звязваў усе свае палітычныя надзеі з Трэцім Рэйхам і падкрэсліваў, што «лёс беларускай справы залежыць выключна ад антыбальшавіцкага фронту». Ён рашуча паўставаў супраць тых беларускіх дзеячаў, што не падзялялі яго спадзяванняў на нямецкую перамогу, а разлічвалі на іншыя перспектывы заканчэння вайны

Пагаршэнне ваеннай сітуацыі для Германіі на заходнім фронце не дазволіла рэалізаваць канцэпцыю беларускай дзяржаўнасці. Пры такіх абставінах 27.8.1918 г. была заключана дадатковая ўмова да Брэсцкага трактата, паводле якой восенню 1918 г. немцы пачалі перадтэрміновую эвакуацыю сваіх войскаў з тэрыторыі паміж Дняпром і Бярэзінай. Працэс гэты паскорыла рэвалюцыя ў Германіі і яе капітуляцыя. У пачатку снежня немцы перадалі ўладу ў Мінску савецкім органам. Рада і ўрад БНР эвакуіраваліся ў Гродна і дзейнічалі там да першых дзён красавіка 1919 г., г. зн. да выхаду нямецкіх войскаў з Гродзеншчыны.

## УЗАЕМНЫЯ ІНТАРЭСЫ, КАНТАКТЫ І АДНОСІНЫ Ў МІЖВАЕННЫ ПЕРЫЯД

Яшчэ восенню 1918 г. Куршман прадбачыў, што беларусы калінебудзь не без падстаў будуць з удзячнасцю ўспамінаць нямецкую акупацыю (55). Натуральна, ён меў на ўвазе яе палітычныя аспекты. Праз восем год яго калега з Берлінскага універсітэта, прафесар М. Фасмер адзначыў на акадэмічнай канферэнцыі ў Мінску, што на Беларусі «нямецкая акупацыя была разумней, чым акупацыя ў іншых месцах», і што для Беларусі «нямецкі народ сваёй акупацыяй зрабіў менш шкоды, чым другія народы» (56). Гэта была згадка наконт падзелу Беларусі, зробленага ў 1920 г. паміж Польшчай і Расіяй, чаго, аднак, у публічным выступленні ў сталіцы Савецкай Беларусі Фасмер не выказаў даслоўна.

Баланс нямецкай акупацыі на Беларусі ў час першай сусветнай вайны на справе выявіў шэраг важных актываў. Асабліва — прызнанне Германіяй, упершыню сярод дзяржаў свету, нацыянальнага адрознення беларусаў і раўнапраўя іх мовы, стварэнне беларускага школьніцтва і фактычная падтрымка ў 1918 г. незалежніцкіх імкненняў. Здавалася б, што такія актывы былі дастатковыя для выпрацоўкі ў беларускай палітычнай свядомасці міжваеннага перыяду пэўных германафільскіх традыцый. У сапраўднасці яны не атрымалі значнага развіцця не толькі ў Савецкай Беларусі, але і ў заходняй частцы краю, якая, паводле Рыжскага трактата, апынулася ў межах польскай дзяржавы. У свядомасці народных мас нямецкая акупацыя перш за ўсё была звязана з бязлітаснай эканамічнай эксплуатацыяй і затрымкай працэсу рэвалюцыйных пераўтварэнняў, у колах нацыянальных дзеячаў яе ацэньвалі не толькі праз прызму актываў, але з пункту гледжання ўсяго балансу нямецкай палітыкі, які ў рэшце рэшт аказаўся адмоўным. У гэтых ацэнках асабліва выдзялялася адмова нямецкага ўрада ад прызнання Беларускай Народнай Рэспублікі, што ўжо ў час акупацыі выклікала вострыя палітычныя крызісы ў Радзе БНР і народным сакратарыяце, а пасля вайны стварала перакананне сярод беларускіх нацыянальных дзеячаў у не-



зацікаўленасці Германіі справай беларускай дзяржаўнасці (57). Інцыдэнт ад 25.2.1918 г. са штандарам і касай вырас да памераў сімвала і засланіў сабой станоўчыя ўчынкі Фалькенгайна. У параўнанні з гэтымі негатыўнымі пачуццямі не такім значным выглядаў характар нацыянальнай палітыкі на абшары старой акупацыі, якая займала адносна невялікую частку беларускіх земляў і эфект якой у дужай ступені аслаблялі вынікі Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Беларускія пасляваенныя ацэнкі вынікаў нямецкай акупацыі рашуча адыходзілі ад прагнозаў Куршмана і не супадалі з поглядамі Фасмера.

Значна ўплывалі на гэта і пасляваенныя рэаліі. Створаная пасля паражэння Рэйха Германская Веймарская Рэспубліка на працягу 14-гадовага існавання не стварыла нагоды для супрацоўніцтва з беларускімі нацыянальнымі згуртаваннямі, якія на той час засяроджваліся ў Вільні і на эміграцыі. Праўда, у Берліне дзейнічала група відных дзеячаў БНР (1919—1925 г.), аднак гэта не абудзіла ў немцаў зацікаўлення беларускім пытаннем. Сказвалася пацяпленне ў савецка-германскіх адносінах. Пасля падпісання 5.11.1922 г. дагавора паміж Германіяй і РСФСР аб пашырэнні ўмоў Рапальскага трактата на іншыя савецкія рэспублікі ў Берліне быў акрэдытаваны пасол Беларускай ССР. Працаваў ён, аднак, толькі пару тыдняў, бо пасля ўтварэння СССР (30.12.1922 г.) яго функцыі пачало выконваць агульнасаюзнае пасольства (58). Адначасова былі цэнтралізаваны прадугледжаныя ў гэтай умове беларуска-германскія гаспадарчыя кантакты. Затое ў 1926 г. пачалі завязвацца непасрэдныя навуковыя сувязі, у рамках якіх Германію наведаў шэраг беларускіх навукоўцаў. Першым нямецкім вучоным, які ў лістападзе 1926 г. прыехаў у Мінск, быў ужо прыгаданы Фасмер. Кантакты гэтыя, аднак, працягваліся вельмі нядоўга і не паспелі аказаць уплыву на павелічэнне германскага зацікаўлення Беларуссю. Пасля першых сціплых, хоць і даволі цікавых спроб навуковага супрацоўніцтва ў час нямецкай акупацыі (59), у пасляваенныя гады ў гэтай галіне наступіў амаль поўны застой. Бадай што адзіным выключэннем была кніжка Я. Карскага «Geschichte der weissrussischen Volksdichtung und Literatur» (Берлін, 1925), выдадзеная з ініцыятывы Фасмера ў перакладзе з рускай на нямецкую мову.

Яскравай ілюстрацыяй стану нямецкага зацікаўлення беларускай праблематыкай у дагітлераўскі перыяд можа паслужыць дзейнасць Брэслаўскага інстытута Усходняй Еўропы. Аж па 1927 г. уключна ў выдаваных гэтым Інстытутам «Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven» не з'явілася літаральна аніводнай распрацоўкі, нават бібліяграфічнай нататкі, што датычылася б Беларусі. У 1928—1935 гг., г. зн. да канца выдання «Jahrbücher...», апублікавана ў іх 3 артыкулы, 4 інфармацыі і каля 40 рэцэнзій, прысвечаных пытанням беларускай гісторыі, літаратуры, культуры і эканомікі.

і адначасова імкнуліся ўзмацніць свае нацыянальныя пазіцыі ва ўмовах акупацыі. Акінчыц, такім чынам, заклікаў змагацца не толькі з савецкім падполлем і яго прыхільнікамі, ён дамагаўся ліквідацыі дзеячаў, «якія хацелі б займаць залатую сярэдзіну».

Гэтыя прынцыпы Акінчыц імкнуўся рэалізаваць з дапамогаю сваіх людзей, асабліва тых, што працавалі ў прапагандысцкім апараце беларускіх акруговых камісараў. Паводле шматлікіх сведчанняў, гэта былі самыя ярыя даносчыкі, якія прыкладалі руку да непасрэднага знішчэння сваіх палітычных праціўнікаў альбо вывазу іх у Германію. Бясспрэчна, гэтая «бескампраміснасць» адлюстроўвала мізэрнае грамадскае значэнне нацыянал-сацыялістычнай групы Акінчыца, якое ён спрабаваў узмацніць шляхам ліквідацыі патэнцыяльных канкурэнтаў.

Ермачэнка, хоць і быў далёкі ад «залатой сярэдзіны», усё ж такі лічыўся з грамадскімі настроямі і бачыў поўную непрыдатнасць догмаў Акінчыца для практычнай дзейнасці. Найперш — прагматык, ён спрабаваў пагадзіць інтарэсы нямецкай палітыкі з нацыянальнымі імкненнямі беларусаў. Пры гэтым яго поўнасцю падтрымліваў Кубэ. Але і Ермачэнку не ўдалося дасягнуць шырокага грамадскага прызнання. Сучасныя крыніцы звязваюць гэта з даволі нязначнай колькасцю членаў БНС. На самай справе ў зеніце ягонай кар'еры, г. зн. у кастрычніку 1942 г., лічба сяброў БНС не перавышала і 30 тысяч (303). Аднак гэты паказчык не адлюстроўваў усёй праблемы і не з'яўляўся вызначальным у яе вырашэнні. Сярод насельніцтва панаваў настрой чакання: у які бок перавесяцца шалі на ўсходнім фронце? Да таго ж БНС не змагла дабіцца неабходных паўнамоцтваў у адміністрацыйнай і вайсковай галіне. Пазіцыю Ермачэнкі, як і пазіцыю Акінчыца, маглі ўмацаваць адпаведныя рашэнні з Берліна — яны абодва спадзяваліся на гэта і паміж сабой вялі бескампрамісную барацьбу. Увесну 1943 г. настала яе развязка: у сакавіку Акінчыц быў забіты ў выніку пакушэння, а ў красавіку Ермачэнка быў вымушаны пакінуць Беларусь.

Крытыка Акінчыца магла быць скіравана супраць Партыі беларускіх нацыяналістаў (ПБН), якую ўзначальвалі Вацлаў Іваноўскі і Ян Станкевіч. І сапраўды, яны разлічвалі, што паражэнне Германіі найперш адбудзецца на заходнім фронце і яна капітулюе перад Злучанымі Штатамі і Вялікабрытаніяй, і менавіта ад гэтых краін трэба спадзявацца падтрымкі для беларускай незалежніцкай ідэі. У 1942 г. такая канцэпцыя выглядала не менш рэальна, чым стаўка Акінчыца і Ермачэнкі на перамогу Германіі, больш за гэта — яна супадала з аналагічнымі канцэпцыямі шмат якіх некамуністычных згуртаванняў ва Усходняй Еўропе. З разлікам на такі ход падзей ПБН планавала за час акупацыі стварыць неабходныя для ажыццяўлення сваёй ідэі перадумовы: на першым месцы стаялі задачы апанавання адміністрацыі, стварэнне беларускіх узброеных сіл і



прапагандысцкая падрыхтоўка насельніцтва. У вялікай ступені гэтага ўдалося дасягнуць шляхам супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам, таму на Беларусі, як і ў Прыбалтыцы, па сутнасці не адбылося стварэння антынямецкага нацыянальнага* партызанскага руху (304).

Іваноўскі, які займаў пасаду мінскага гарадскога старшыні, а з канца чэрвеня 1943 г. яшчэ і старшыні Камітэта Даверу, вёў вельмі тонкую гульню. Пад канец 1941 г. ён прыняў на працу ў Мінскай гарадской управе афіцэра 2-га аддзела ГК АК Вітаўта Буткевіча, а ў лютым 1942 г.— Гражыну Ліпіньскую («Данута»), якая неўзабаве ўзначаліла акоўскую экспазітуру ў Мінску. Ён аблегчыў разведчыкам іх працу, запрасіўшы на такія пасады, дзе яны не толькі трымалі пад кантролем свае раёны, але ў дадатак мелі доступ да гаспадарчай інфармацыі вайсковага значэння. У канцы 1942 г. Іваноўскі выкарыстаў свае магчымасці, каб вырваць з рук гестапа Буткевіча, якога арыштавалі па даносу за прыналежнасць да польскага падполля, перасцярог польскіх дыверсантаў ад учынкаў, якія маглі парушыць канспірацыю. Паводле сведчанняў удзельнікаў польскага падполля ў Мінску, ад Іваноўскага яны атрымлівалі бясспрэчна вялікую дапамогу (305). Пры такіх абставінах яго колішняя адмова ад супрацоўніцтва з ZWZ, аб якой ён паведаміў Зану ў верасні 1941 г. («Я вам дапамагаць не буду, але і перашкаджаць не буду»), магла азначаць жаданне захаваць як мага больш самастойнасць у адносінах да кіраўнікоў польскага падполля: ён хацеў быць партнёрам, а не падначаленым (306).

Варта спыніцца на дапамозе, аказанай Іваноўскім польскаму падполлю ў Мінску, з дзвюх прычын. Па-першае, гэта ілюструе яго фактычнае стаўленне да германскіх інтарэсаў, якіх ён выразна не падтрымліваў. Па-другое, ён не разлічваў на пасрэдніцтва акоўскай экспазітуры ў арганізацыі кантактаў паміж ПБН і кіраўніцтвам польскага падполля, калі прымаў іх на працу ў Мінскую гарадскую ўправу. Вырашальную ролю ў гэтай справе адыграў Кастравіцкі, які пасля сустрэчы ў Мінску ў канцы 1941 г. дапамог перaадолець нежаданне размаўляць з беларусамі ў Галоўным камандаванні АК. Вясною 1942 г. пры ўдзеле Кастравіцкага было апрацавана спецыяльнае данясенне, прысвечанае беларускай праблеме, гэты рапарт праз Галоўнае камандаванне быў перасланы Сікорскаму. У ім паведамлялася, што некаторыя беларускія дзеячы шукаюць кантактаў з польскім падполлем, каб дасягнуць паразумення ў справе супольнай абароны ад Расіі, вызвалення ўсёй Беларусі з дапамогаю Польшчы і заключэння з Польшчай цеснай федэрацыі. У рапарце прапаноўвалася тэрмінова ўвайсці ў кантакт з гэтымі дзеячамі (307).

* Відаць, аўтар мае на ўвазе — нацыяналістычнага руху.— *Рэд.*

Апрача дзвюх нататак-рэцэнзій нямецкай аўтаркі Эмы Гертэль, усе астатнія матэрыялы былі апрацаваны беларусамі, галоўным чынам Уладзімірам Самойлам і Антонам Луцкевічам.

Беларускае пытанне не набыло ў Германіі большага значэння таксама і пасля прыходу да ўлады ў 1933 г. нацыянал-сацыялістаў. Нягледзячы на тое, што адной з найважнейшых мэт палітыкі Трэцяга Рэйха стаў антыкамунізм і знішчэнне Савецкай дзяржавы, да 1940 г. у Германіі не было распрацавана аніякіх праграм расчлянення СССР (60). Праўда, беларускім і ўкраінскім пытаннем у Польшчы цікавіліся некаторыя партыйныя інстанцыі, дзяржаўныя органы і вайсковая разведка, але іх погляды на гэту справу розніліся паміж сабой і не адлюстроўвалі палітыкі, напрамкі якой вызначаў Адольф Гітлер. Пра гэта сведчыць і адкінуты праект, прадстаўлены ў чэрвені 1938 г. Альфрэдам Розэнбергам, аб стварэнні партыйна-дзяржаўнага органа для адзінай, суцэльнай апрацоўкі і ацэнкі праблем Усходу, звязаных з бальшавізмам, і забеспячэння ў гэтай галіне планавай палітычнай лініі (61).

У гэтым адыграла сваю ролю канкрэтная геапалітычная сітуацыя. Агрэсіўныя намеры гітлераўскай Германіі адносна СССР не маглі ажыццявіцца без супрацоўніцтва з Польшчай або без папярэдняга вываду яе з гульні як дзяржавы дзеля здабыцця непасрэднага кантакту з СССР. Пачынаючы з 1935 г., Гітлер не раз спрабаваў схіліць польскі ўрад да сумеснага паходу на СССР, мэтай якога было б, між іншым, заняцце Украіны і Беларусі. Пры такім варыянце абрысоўвалася даволі спецыфічная канцэпцыя паводзін ва ўкраінска-беларускім пытанні, пэўную ролю ў якой павінна была адыграць Польшча. Апошні раз гэтая прапанова ўзнаўлялася Гітлерам у студзені 1939 г. у час спаткання з міністрам замежных спраў Юзафам Бэкам, аднак польскі ўрад на яе не пагадзіўся. У гэтай сітуацыі праблема Украіны і Беларусі на пэўны час знікла з палітычнага далягляду Германіі. Гэта выявілася ў падпісанні савецка-германскага пакта ад 23.8.1939 г., у якім акрэсліваліся інтарэсы абедзвюх дзяржаў у Польшчы: усе заходнебеларускія, заходнеўкраінскія і нават некаторыя этнічна-польскія землі былі пакінуты ў зоне інтарэсаў СССР (62).

Пры такой сітуацыі ў перыяд з 1933 па 1939 г. дзейнасць прыхільнікаў расчлянення СССР, асабліва Розэнберга і падначаленага яму ведамства замежнай палітыкі Нямецкай нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі не мела поспеху і не набыла вялікага пашырэння. Варта, аднак, прыгадаць спробы іх уздзеяння на беларускія асяродкі ў Польшчы. Ужо летам 1933 г. гэтае ведамства завязала кантакт з Фабіянам Акінчыцам — ідэолагам і правадыром невялікай групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў (63). Пры падтрымцы ведамства гэтая група распачала ў лістападзе 1933 г. у Вільні выданне часопіса «Новы шлях». Амаль адначасова ў Берліне (напэўна, з ініцыятывы Акінчыца) быў створаны Саюз беларускіх студэнтаў у Германіі (64). Але гэтыя спробы не прыносілі спадзяваных вынікаў. Так, Саюз студэнтаў дзеля невялікай колькасці беларусаў у нямецкіх навучальных установах не змог разгарнуць шырокай дзейнасці, а тыраж «Новага шляху» не перавышаў 500 экземпляраў, што гаварыла пра яго невялікую папулярнасць.

Таксама безвыніковымі былі спробы Акінчыца па стварэнню на заходнебеларускіх землях Беларускай партыі нацыянал-сацыялістаў. Прычынаю былі адсутнасць шырокай падтрымкі фашысцкага руху з боку грамадскасці, а таксама абмежаванні, што накладаліся на гэты рух польскімі адміністрацыйнымі ўладамі, якія не без падстаў падазравалі ў ім гітлераўскую агентуру. У выніку Акінчыц у кастрычніку 1936 г. не атрымаў дазволу ўлад на скліканне з'езда беларускіх нацыянал-сацыялістаў (65), а на пачатку 1937 г. дзейнасць гэтай групы была практычна забаронена. Адначасова забаронена было і выданне часопіса «Новы шлях». Ацэньваючы дзейнасць групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў, Энгельгарт пісаў яшчэ ў час вайны, што яна не мела значэння.

Зацікаўленасць беларускай праблематыкай выяўлялі таксама нямецкія навукова-даследчыя цэнтры. У 1937 г. ёю заняўся Нямецкі Інстытут вывучэння замежных праблем пры Берлінскім універсітэце, у якім быў створаны беларускі сектар разам з бібліятэкай. Вывучэннем беларускага пытання кіраваў прафесар Гергард фон Мэндэ. Летам 1937 г. разам з некалькімі студэнтамі ён наведаў Вільню, дзе закупіў немалую колькасць беларускіх кніжак для інстытуцкай бібліятэкі і правёў размовы з беларускімі дзеячамі (66). Беларускім пытаннем заняўся таксама Берлінскі інстытут вывучэння граніц і замежных краін. Вынікі дзейнасці абодвух інстытутаў прызначаліся, верагодна, для службовага выкарыстання, пра што сведчыць мізэрная колькасць публікацый іх прац (67).

Супрацоўніцтва з групай Акінчыца, даследаванні і кантакты з беларускімі дзеячамі ў Вільні выяўлялі імкненні Розэнберга стварыць на тэрыторыі Заходняй Беларусі палітычны плацдарм для запланаванага нападу на СССР. З гэтымі ж самымі мэтамі яшчэ больш шырокая падтрымка аказвалася заходнеўкраінскім арганізацыям і групоўкам. Спашлёмся на выказванне Арно Шыкеданца, шэфа штаба Розэнберга, які пісаў у сваім мемарыяле ад 14.6.1939 г. начальніку канцылярыі Рэйха Гансу Ламерсу наступнае:

«...Абсалютна не выключана, што ў выпадку нямецка-польскага канфлікту Саветы пад выглядам узброенай дапамогі Польшчы зоймуць гэтыя абшары (заходнебеларускія і заходнеўкраінскія.— *Ю. Т.*), каб застацца ў іхніх межах. Пры такім новым падзеле Польшчы Вялікая Германія страціла б, напэўна, найбольш абяцальныя перспектывы расчлянення Расіі, тады як адцягнуўшы ўвагу Саветаў на пэўны час ад сумежных дзяржаў Германія атрымала

Размовы прадстаўнікоў ГК АК і ПБН распачаліся з ініцыятывы беларусаў у ліпені 1942 г. у Мінску, яны працягваліся ў студзені 1943 г. у Варшаве, а пад канец гэтага года — у Вільні (308).

Прадстаўнік ПБН — Ян Станкевіч — спрабаваў зацікавіць кіраўніцтва польскага падполля і польскі ўрад у Лондане перспектывамі стварэння беларускай дзяржавы на тэрыторыі, якая б ахоплівала, у прынцыпе, увесь беларускі моўны абшар, гэта азначала, што заходняя мяжа планаванай дзяржавы праходзіла б уздоўж лініі Керзана. Пасля вайны Беларусь заключыла б з Польшчай дзяржаўную унію, так што прадстаўляць яе перад светам павінна было агульнае міністэрства замежных спраў. Дзейнічаць самастойна на міжнароднай арэне ПБН не магла, таму прадстаўляць беларускія справы перад брытанскім кабінетам павінен быў, згодна з праектам, польскі ўрад у Лондане. Такім чынам, Польшча стала б галоўным архітэктарам будучай беларускай дзяржавы. З другога боку, Польшча атрымлівала б магчымасць гэтай самай дзяржавай адгарадзіцца ад Расіі. Пасля далучэння да праекта Украіны ва Усходняй Еўропе магла б паўстаць цалкам новая палітычная сістэма.

Уся гэтая ідэя ў галоўных абрысах паўтарала канцэпцыю Пілсудскага 1919—1920 гг. і сведчыла пра тое, як моцна адбіўся колішні праект у свядомасці Іваноўскага і іншых беларускіх палітыкаў. Яны рабілі стаўку перш за ўсё на антыбальшавізм Чэрчыля і яго зацікаўленасць у спыненні камуністычнай экспансіі ў Еўропе. Аднак беларусы недаацэньвалі фармальна-прававых аспектаў Рыжскага трактата, а менавіта яны вызначалі пазіцыю прадстаўнікоў Галоўнага камандавання АК і Варшаўскай дэлегатуры эмігранцкага ўрада. Пагэтаму на перагаворах палякі былі гатовыя даць гарантыі на пазнейшае пашырэнне ўдзелу беларусаў у адміністрацыі і гаспадарчым жыцці, належнае задавальненне іх патрэб у галінах мовы, культуры, школьніцтва і рэлігіі, аднак беларусы пры гэтым павінны былі заставацца нацыянальнай меншасцю ў пасляваеннай польскай дзяржаве з давераснёўскімі межамі.

Даволі рана пачаў дабівацца кантактаў з кіраўнікамі польскага падполля і Радаслаў Астроўскі. 21.11.1942 г. ён спатыкаўся ў Варшаве з Уладыславам Тамкевічам («Кшыштафам»), дзеячам БІП. Ад імя беларускага згуртавання «Цэнтр» ён прапанаваў правесці перагаворы, якія прывялі б да супрацоўніцтва на аснове федэрацыі і польскай дапамогі ў пабудове беларускай дзяржавы. Адначасова Астроўскі перасцярог Тамкевіча ад кантактаў з Акінчыцам, кс. Гадлеўскім і Ермачэнкам, ён казаў, што гэтыя дзеячы «знаходзяцца цалкам у руках акупанта і стаяць па-за рамкамі незалежніцкай барацьбы». Пра Я. Станкевіча ён таксама гаварыў зняважліва. Такім чынам, ён імкнуўся зняславіць у вачах польскага падполля сваіх палітычных праціўнікаў, а заадно прадэманстраваў прываблівую «падатлівасць» у тэрытарыяльных і іншых пытаннях. «Інтэлігенцкія



кадры ў нас слабыя,— казаў Астроўскі,— пагэтаму Польшча павінна дапамагчы ў гэтай справе, высылаючы на гэтую тэрыторыю сваіх людзей, якія б былі большымі беларусамі за саміх беларусаў» (309). У Тамкевіча засталося ад размовы непрыемнае ўражанне і апасенне, што гэта была правакацыя. Пасля ГК АК праігнаравала паслугі, прапанаваныя Астроўскім.

Перагаворы прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных згуртаванняў з польскім падполлем адбываліся падчас разнастайных сітуацый на фронце: калі нямецкія войскі рваліся на Волгу і Каўказ, цярпелі паражэнне пад Сталінградам, каціліся назад, на Захад. Мянялася і палітычнае становішча польскага ўрада: саюзніцтва з СССР перайшло ў варожую адчужанасць пасля разрыву адносін. Аднак ні пры якіх абставінах паразумення дасягнуць не ўдалося. Беларусы не маглі пагадзіцца на аднаўленне Рыжскай мяжы і новы падзел сваёй краіны, палякі не прымалі канцэпцыі федэралізму ў такой ступені, якая прапаноўвалася на перагаворах: спачатку галоўнаю перашкодай тут былі адносіны з СССР, пазней — нерэальнасць самога праекта.

Такім чынам, слабела значэнне Польшчы як альтэрнатыўнага фактару ў палітычных меркаваннях беларускіх нацыяналістычных груповак. Стаўка на Германію ўсё яшчэ здавалася больш прывабнай.

## НАПЯРЭДАДНІ ТАТАЛЬНАЙ КАТАСТРОФЫ

### АПОШНІ ЭТАП АКУПАЦЫІ (ВЕРАСЕНЬ 1943 — ЛІПЕНЬ 1944)

Пералом у вайне, які пачаў вырысоўвацца пад Сталінградам, пасля Курскай бітвы (5.7—23.8.1943) вызначыўся канчаткова. Савецкія ўзброеныя сілы здолелі перайсці ў контрнаступ па ўсёй лініі фронту. У верасні — кастрычніку Чырвоная Армія заняла амаль усю тэрыторыю Левабярэжнай Украіны і 6 лістапада ўвайшла ў Кіеў. На цэнтральным адрэзку фронту 17 верасня быў заняты Бранск, 21 — Чарнігаў, 25 — Смаленск, а назаўтра — Хоцімск, першы раённы горад Беларусі*. 26 лістапада Чырвоная Армія ўвайшла ў Гомель, у снежні апынулася перад брамамі Віцебска, а 14 студзеня заняла Калінкавічы і Мазыр на Палессі. З гэтага часу аж да наступнай буйной аперацыі ў чэрвені 1944 г. лінія фронту перарэзала Беларусь на дзве часткі (гл. карту). Затое на поўдні наступ савецкіх войскаў не спыняўся, так што ў студзені 1944 г. перастаў існаваць Рэйхскамісарыят Украіны.

Перамогі Чырвонай Арміі і высадка саюзніцкага дэсанта на Сіцыліі неўнікнёна павінны былі прывесці да паражэння Трэцяга

* Першым раённым цэнтрам быў г. п. Камарын (23.9.1943).— *А. Л.*

б немалую карысць... Землі з беларускім і заходнеўкраінскім насельніцтвам мелі б неацэннае значэнне як асяродкі і базы для глыбокага расколу Расіі... Гэта быў бы найбольш адпаведны момант для таго, каб увесці абодва гэтыя народы ў арбіту нямецкіх інтарэсаў для адпору Расіі...» (68).

Мемарыял Шыкеданца толькі нязначна апярэдзіў падпісанне савецка-германскага пакта, што сведчыла аб адсутнасці каардынацыі паміж буйнейшымі дзеячамі Трэцяга Рэйха ў галіне ўсходняй палітыкі, а таксама аб тым, што канцэпцыі Розэнберга і яго супрацоўнікаў не мелі істотнага ўплыву на рашэнні Гітлера. Заключэнне гэтага пакта было для Розэнберга нечаканасцю і шокам. 25.8.1939 г. ён пісаў у сваім дзённіку: «Як жа мы можам яшчэ гаварыць аб ратаванні і фармаванні Еўропы, калі вымушаны прасіць дапамогі ў разбуральнікаў Еўропы?.. І калі мы вымушаны яшчэ перадаць Савецкаму Саюзу тэрыторыю польскай Украіны, дык гэта пасля Карпацкай Украіны другі з нашага боку ўдар, скіраваны ў самую вялікую антымаскоўскую сілу» (69).

Сапраўдны кірунак усходняй палітыкі Трэцяга Рэйха быў цяжкі для прадказання нават сярод такіх тузоў, як Розэнберг і Шыкеданц. У гэтай сітуацыі не так лёгка было маніпуляваць адрасаванай беларусам нямецкай прапагандай. «Новы шлях» — адзіны яе рупар на Беларусі — займаўся найбольш праблемамі грамадска-гаспадарчай мадэлі нацыянал-сацыялізму, не закранаючы пытання адносін Трэцяга Рэйха да беларускай дзяржаўнасці. Напэўна, гэтая акалічнасць стала адной з галоўных прычын палітычнага банкруцтва Акінчыца. Усе астатнія заходнебеларускія арганізацыі і палітычныя групоўкі ставіліся да фашысцкай прапаганды раўнадушна або варожа. Гэта датычылася не толькі КПЗБ (распушчанай Камінтэрнам у 1938 г.) і кіраваных камуністамі легальных левых арганізацый, але і цэнтрысцкага, з народнафронтаўскімі тэндэнцыямі Беларускага народнага аб'яднання (БНА), і нават даволі актыўнай нацыяналістычнай групоўкі на чале з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім, што гуртавалася вакол штотыднёвіка «Беларускі фронт».

У 1936—1937 гг. «Беларускі фронт» шмат разоў выступаў адначасова і супраць камунізму, і супраць фашызму, даводзячы, што ніводзін з гэтых кірункаў «не нясе беларускаму народу незалежнасці і суверэннасці, але нясе яму залежнасць і палітычную і эканамічную і імкненне да фізічнага і духоўнага знішчэння беларускага народа, нясе няволю» (70). Падобныя погляды прапаведаваў орган студэнцкай групоўкі прыхільнікаў Гадлеўскага — часопіс «25 сакавіка», які акрэсліваў фашызм як ворага беларускага народа (71). Рашуча выказвала антыфашысцкія тэндэнцыі прэса БНА — «Хрысціянская думка» і «Шлях моладзі».

Новыя тэндэнцыі ў беларускай віленскай прэсе пачынаюць назірацца ў 1938—1939 гг. Адбываецца гэта пад уплывам палітычнай



сітуацыі ў Еўропе (асабліва пасля далучэння Аўстрыі і падзелу Чэхаславакіі), а таксама звязанай з гэтымі падзеямі палітычнай гітлераўскай прапаганды, якая прадстаўляла Трэці Рэйх абаронцам інтарэсаў малых народаў і нацыянальных меншасцей. Немалое ўражанне пры гэтым аказвалі чуткі аб рэгістрацыі ў Германіі украінцаў і беларусаў, пры якой ставіліся пытанні адносна іх вайсковай кваліфікацыі і маёнткаў, канфіскаваных савецкімі ўладамі (72). Адначасова ў нямецкай прэсе з'явіліся паведамленні пра дыскрымінацыйныя дзеянні польскай улады ў адносінах да беларускага насельніцтва (73). Стваралася ўражанне зацікаўленасці немцаў беларускім пытаннем. Усё гэта падмацоўвалася паведамленнямі польскага друку аб падтрымцы, якую немцы нібыта аказвалі справе беларускай дзяржаўнасці, аб уцягванні беларусаў у каляніцу нямецкай палітыкі. Асабліва красамоўныя былі данясенні прэсы пра з'езд беларускіх дзеячаў з Польшчы, СССР, ЗША, Літвы і Эстоніі, які нібыта адбыўся ў чэрвені 1939 г. у Гданьску, каб разгледзець і падтрымаць прадстаўлены нямецкім урадам план стварэння незалежнай беларускай дзяржавы (74).

Сенсацыі ў друку, якія не мелі нічога агульнага з сапраўднымі планамі берлінскага ўрада, паўтараліся беларускай прэсай, абуджаючы надзеі розных палітычных груп на вырашэнне немцамі пытання беларускай дзяржаўнасці. «Беларускі фронт», які яшчэ ў 1937 г. адхрышчваўся ад фашызму, на пачатку 1939 г. змяніў свой палітычны кірунак. У чэхаславацкіх падзеях орган ксяндза Гадлеўскага бачыў «практычную рэалізацыю прынцыпу самавызначэння нацый, якую ў найчысцейшай форме прадэманстравала Германія» (75). Газета выказвала адабрэнне гітлераўскаму прынцыпу «ўлады правадыра» і ўсё часцей звяртала ўвагу на зацікаўленне Германіі беларускім пытаннем у кантэксце яе планаў знішчэння і расчлянення СССР. «На наш погляд,— пісаў «Беларускі фронт»,— расчлянення або падзелу Расіі на паасобныя нацыянальныя дзяржавы баяцца няма чаго: гэта ёсць натуральны працэс нашых часоў» (76).

Больш крытычна і цвяроза ацэньвала сітуацыю прэса Беларускага народнага аб'яднання, аднак і яна не хавала задавальнення з уяўных нямецкіх планаў. У канцы 1938 г. «Хрысціянская думка» пісала ва ўступным артыкуле «Нямецкія імкненні і беларусы»: «Апошнімі часамі Нямеччына вельмі цікавіцца Усходняй Еўропай — СССР, дзе размешчаны Украіна і Беларусь... не дзеля таго, што хоча дапамагчы ўкраінцам і беларусам збудаваць сваю дзяржаву, але дзеля таго, што гэтым спадзяецца разваліць СССР, адчыніць для свайго промыслу вялікі рынак збыту і дабрацца да хлебнага багацця Украіны ды ляснога багацця Беларусі... Гэта, аднак, не значыць, што беларусы павінны ўжо цяпер баяцца нямецкіх планаў і ўжо цяпер з імі змагацца. Не! Трэба толькі ведаць, што няма нікому бескарыснай помачы і што найкарыснейшая толькі ўласная сіла.

Рэйха. У прадчуванні гэтай катастрофы 3.9.1943 г. Італія аб'явіла аб сваёй капітуляцыі. 19—30 кастрычніка ў Маскве адбылася канферэнцыя міністраў замежных спраў СССР, Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе была прынята дэкларацыя аб вядзенні вайны аж да поўнай капітуляцыі Германіі і яе саюзнікаў. Кіраўнікі ўрадаў вялікай тройкі пацвердзілі гэтае рашэнне на канферэнцыі ў Тэгеране (28.11—1. 12.1943). Для Германіі гэта азначала не проста паражэнне, але поўны, татальны разгром. Такім чынам, пад канец 1943 г. ваеннае і палітычнае становішча змянілася кардынальна, разлічваць на паўтарэнне сітуацыі, што склалася пад канец першай сусветнай вайны, было ўжо немагчыма, ранейшыя планы страцілі пад сабою грунт. Вымалёўваўся ўпэўнены абрыс будучыні: уваход чырвоных войскаў у Германію, а значыць — і ва Усходнюю Еўропу.

Але і ў гэтай сітуацыі Гітлер не рашыўся змяніць сваю ранейшую ўсходнюю палітыку. Напэўна, тут збегліся ў адно і яго асабістая ўпартасць, і палітычная дактрына. Аднак усё гэта не можа вытлумачыць праблему да канца. Становішча на фронце напярэдадні 1944 г., калі большая частка Украіны і амаль адна пятая Беларусі ўжо былі страчаныя, не пакідала ілюзій: ніякія новыя палітычныя ініцыятывы змяніць яго ўжо не маглі. Супрацьстаяць Чырвонай Арміі германскія войскі былі не ў стане, пагэтаму любыя дэкларацыі нямецкага ўрада наконт будучыні ўсходніх народаў ніхто б сур'ёзна не ўспрыняў, і Гітлер асцерагаўся рабіць такія заявы — цяпер яны толькі лішні раз засведчылі б слабасць Трэцяга Рэйха. Фюрэр па-ранейшаму быў супраць фармальнага стварэння прадстаўнічых органаў усходніх народаў. Ён адхіліў гімлераўскі праект надання абмежаванай аўтаноміі Эстоніі і Латвіі (1).

Пазіцыя Гітлера не змянілася, і ўсходняя палітыка Германіі каціліся па старой каляіне. Яна па-ранейшаму зводзілася да эксплуатацыі гаспадарчага і чалавечага патэнцыялу акупаваных абшараў. Нямецкія ўлады жадалі шырэй выкарыстаць мясцовыя сілы дзеля спраў абароны, аднак часта іх старанні не прыносілі чаканых вынікаў. Ваенныя няўдачы Вермахта толькі вышэй узнялі хвалю дэзерцірстваў сярод салдат Осттрупэн. Увосень 1943 г. гэта спарадзіла сапраўдны крызіс даверу да такіх часцей. У кастрычніку сярод членаў Вышэйшага камандавання Вермахта паўстала думка, што лепш увогуле не мець ніякіх дапаможных атрадаў, чым мець такія, якія здраджваюць у крытычны момант і пераходзяць на бок партызан. Аднак людскія патрэбы Германіі былі настолькі вялікія, што распусціць Осттрупэн Вермахт не рашыўся. Замест гэтага большасць з іх перакінулі з савецкай тэрыторыі на захад: у Францыю, Галандыю, Італію і на Балканы (2).

Гэты недавер да Осттрупэн, бадай, і прывёў да таго, што паўнамоцтвы па стварэнні мясцовых фарміраванняў на Усходзе перайшлі ў рукі Гімлера: меркавалася, што пад эгідаю СС удасца арганізаваць



больш надзейныя паліцэйскія нацыянальныя адзінкі (3). Натуральна, такое рашэнне павялічвала значэнне СС на ўсім абшары акупацыі. У жніўні 1943 г. шэф Галоўнага ведамства СС Бэргер, які раней быў сувязным афіцэрам Гімлера ў міністэрстве Розэнберга, цяпер атрымаў пасаду шэфа дэпартамента палітыкі ОМі (з гэтага моманту перайменаванага ў Führungstab Politik) і стаў, такім чынам, фактычным кіраўніком нямецкай усходняй палітыкі. Істотных змен у палітыцы з гэтага, праўда, не адбылося. Тым не менш менавіта гэтае прызначэнне прадвызначыла ход шмат якіх падзей на Беларусі, асабліва пасля забойства Кубэ.

Пасля начнога выбуху ў доме гаўляйтэра абавязкі генеральнага камісара Беларусі пачаў выконваць Готбэрг як фактычны HSSPF RM і WR. Гэта адпавядала пагадненню паміж Гімлерам і Розэнбергам, якое было заключана 19.11.1941 г. на выпадак адсутнасці кіраўніка цывільнай адміністрацыі (4). 25.9.1943 г. Розэнбэрг пацвердзіў паўнамоцтвы Готбэрга як намесніка генеральнага камісара (5). Аднак само фармальнае прызначэнне мог выканаць толькі Гітлер — так значылася ў яго дэкрэце ад 17.9.1941 г. аб арганізацыі цывільнай адміністрацыі на акупіраваных абшарах СССР. Даўняя варожасць паміж Гімлерам і ОМі і тут прывяла да новай сваркі. У кастрычніку 1943 г. Розэнберг пасля ўзгаднення з Ламэрсам вырашыў прапанаваць на пасаду генеральнага камісара кандыдатуру свайго супрацоўніка — Шыкеданца. Але Бэргер, зацікаўлены ў тым, каб прывесці на гэтае месца чалавека СС, рашуча паўстаў супраць (6). На думку Даліна, Гітлер пад націскам СС пайшоў на ўступку, таму Готбэрг захаваў сваю пазіцыю (7). Аднак гэта не зусім дакладнае сцвярджэнне: да канца вайны Гітлер так і не падпісаў таго прызначэння, і Готбэрг па-ранейшаму толькі выконваў абавязкі генеральнага камісара Беларусі (8). Цяжка сказаць, чаму так атрымалася. Магчыма, Гітлер не хацеў надаць такую ролю СС, а магчыма, палічыў усю справу за не вельмі важную ў тагачаснай ваеннай сітуацыі.

Становішча на фронце стварала новыя спецыфічныя праблемы ў галіне кіраўніцтва. Па-першае, восенню 1943 г. значна паменшала тылавая зона групы армій «Цэнтр», а, па-другое, ад колішняга RKU (Рэйхскамісарыята Украіны.— *Рэд.*) у немцаў застаўся толькі невялічкі паўночна-ўсходні кавалак — Брэсцкая, Пінская і Кобрынская акругі. Пагэтаму Готбэргу была перададзена ўлада не толькі на абшары Генеральнага камісарыята, але і цывільныя справы ва Усходняй Беларусі, там, дзе яшчэ гаспадарыў Вермахт, а ў лютым — са згоды Гітлера — ён «часова» прыняў пад сваё кіраўніцтва і пазасталыя тры паветы RKU (9). Фармальна гэтыя «набыткі» на ўсходзе і на поўдні так і не былі ўключаны ў адміністрацыйны склад Генеральнага камісарыята Беларусі, якія па-ранейшаму заставаўся часткаю Рэйхскамісарыята Остлянда (далей — RKO.— *Рэд.*).

дзеля гэтага не можна слепа захапляцца Гітлерам, ані іншымі дабрадзеямі, бо кожны добры, але спярша для сябе, а пасля для другога» (77). Падобны тэкст быў змешчаны і ў «Шляху моладзі» і дапоўнены высновай, што «для беларусаў з усяго гэтага важна перад усім тое, што беларуская справа, беларуская праблема становіцца праблемай міжнароднай» (78).

Гэтыя спекуляцыі не выклікалі шырокага водгуку сярод народных мас не толькі ва Усходняй Беларусі, куды яны звычайна не траплялі, але і ў заходняй частцы краю, нягледзячы на паўсюднае незадавальненне грамадска-эканамічнай палітыкай польскага давераснёўскага ўрада. Ацэньваючы пазіцыю беларускай вёскі, «Беларускі фронт» напярэдадні другой сусветнай вайны пісаў, што «пры першай магчымасці людзі кінуліся б у абоймы кожнаму, хто шчыра ці няшчыра задэкляраваў бы лепшую долю, камуністы маюць уплыў, але пры ведамым прымітывізме нашай вёскі такі самы ўплыў маглі б мець фашысты і нават манархісты» (79). Ацэнка гэтая была небеспадстаўная, аднак у тагачасных умовах хлеб і зямлю абяцалі толькі камуністы. Гэта прадвызначала сімпатыі большай часткі сялянства да бальшавізму і СССР, якія выразна выявіліся пры ўступленні Чырвонай Арміі ў верасні 1939 г. Не адмаўлялі гэтага і аўтары, якіх нельга падазраваць у прасавецкіх тэндэнцыях (80).

Затое рознілася стаўленне беларускай інтэлігенцыі, асабліва палітычных і грамадскіх дзеячаў. У гэтых колах ведалі ў агульных рысах аб трагічных падзеях у БССР у трыццатых гадах, звязаных галоўным чынам з прымусовай калектывізацыяй і барацьбой з «нацдэмаўшчынай». Вынікам іх былі шматлікія людскія ахвяры, у т. л. сярод найвыдатнейшых беларускіх дзеячаў палітыкі і прадстаўнікоў навукі і культуры, а таксама знішчэнне гістарычных каштоўнасцей і інтэлектуальных здабыткаў дваццатых гадоў. З другога боку, занятце Чырвонай Арміяй усходняй часткі польскай дзяржавы азначала ўз'яднанне ўсіх беларускіх земляў у адной савецкай рэспубліцы, супраць чаго не выступаў ніводзін беларускі нацыяналіст. Бо гэта азначала рэалізацыю многіх беларускіх пастулатаў — народнагаспадарчых, моўных, культурна-асветных, якія ігнараваліся ў міжваенны перыяд польскімі ўладамі. Такім чынам, знікалі ранейшыя спрэчкі і партыйныя падзелы, замест якіх з'яўляліся новыя, іх адзіным найважнейшым крытэрыем было стаўленне да савецкай рэчаіснасці. Тыя, што яе прымалі, заставаліся ў верасні 1939 г. на месцы або варочаліся на абшары, занятыя савецкімі войскамі, а тыя, што разлічвалі на падтрымку Германіі ў справе беларускай дзяржаўнай незалежнасці або прадчувалі асабістую пагрозу, накіроўваліся ў зону нямецкай акупацыі ці ў Літву.

Неўзабаве, аднак, з'явіліся першыя расчараванні. Новыя савецкія ўлады давалі сялянам зямлю, адчынялі грамадскія перспектывы, уздымалі беларускую мову да статуса дзяржаўнай, уводзілі яе



ў школах і друкавалі на ёй газеты, але адначасова пачалі фізічную ліквідацыю вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Гэта абуджала сярод беларускай інтэлігенцыі няпэўнасць у сваёй будучыні, стварала адчуванне, што курс пачатку трыццатых гадоў у палітыцы БССР працягваецца, і рушыла надзеі на пазітыўнае стаўленне савецкіх улад да беларускага нацыянальнага пытання.

Новая сітуацыя ўтварылася пасля перадачы Вільні і заходняй Віленшчыны савецкімі ўладамі Літве ў канцы кастрычніка 1939 г. Гэты горад зноў, цяпер усяго на восем месяцаў, становіцца асяродкам, які збірае вакол сябе беларускіх дзеячаў. З Коўна вярнуўся ксёндз Гадлеўскі, які ўзнавіў дзейнасць сваёй групоўкі. Заставаліся тут ксёндз Адам Станкевіч, прафесар Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч, Францішак Аляхновіч, Язэп Найдзюк і інш. Была аднаўлена арганізацыйная і выдавецкая дзейнасць. Зноў аналізавалася сітуацыя і перспектывы яе развіцця. Істотна ўплывала на афармленне такіх ацэнак далейшае абвастрэнне палітычнага становішча ў Еўропе ў канцы 1939 г. і ў пачатку 1940 г., асабліва напад СССР на Фінляндыю, Германіі — на Данію і Нарвегію, як і наступ немцаў на французскім фронце. Гэта сведчыла аб эскалацыі вайны, у якой савецка-германскі канфлікт здаваўся непазбежным.

Перад пагрозай гэтага канфлікту, а таксама з горкага вопыту назірання за дзейнасцю савецкіх улад, шмат дзеячаў з віленскага асяродку на чале з Гадлеўскім вырашыла перайсці ў зону нямецкай акупацыі арганізаваным шляхам, атрымаўшы папярэднюю згоду нямецкага консульства ў Коўне перад самым 15.6.1940 г., гэта значыць перад уваходам Чырвонай Арміі ў Прыбалтыку (81). Частка эмігрантаў пазбягала такім чынам савецкіх рэпрэсій, але большасць разлічвала на падтрымку незалежніцкай дзейнасці з боку Германіі. У Вільні засталося, аднак, нямала дзеячаў, галоўным чынам членаў Беларускага народнага аб'яднання (між іншым, кс. А. Станкевіч, С. Грынкевіч-старэйшы, А. Клімовіч), а таксама В. Іваноўскі, якія не звязвалі сваіх палітычных планаў з Трэцім Рэйхам (82).

## ПЕРАД НАПАДАМ ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІІ НА СССР

Апрача эмігрантаў, на тэрыторыі Германіі апынулася пэўная колькасць беларусаў, якія служылі ў польскай арміі і ў верасні 1939 г. трапілі ў нямецкі палон. Апроч таго, на акупаваных немцамі тэрыторыях, галоўным чынам у Варшаве, Лодзі і Празе, здаўна існавалі невялікія калоніі беларусаў. Для таго каб іх зарэгістраваць, а таксама наладзіць апеку і пасрэдніцтва ў наёме на працу, у лістападзе 1939 г. у Берліне было створана пры міністэрстве ўнутраных спраў Weissruthenische Vertauenstelle, у гаворцы называнае Беларускім Прадстаўніцтвам. Амаль адначасова (3.12.1939 г.) для бела-

Блізкасць фронту і спецыфічны характар падначаленага Готбэргу абшару — дзве вызначальныя ўмовы, якімі тлумачыцца незалежнасць пазнейшых яго паводзін. Да таго ж ён быў чалавекам СС, прэстыж ведамства значна пашыраў яму свабоду яго ўчынкаў. Ён мог ігнараваць залежнасць ад улад RKO і адначасова — карыстацца шырокімі паўнамоцтвамі, якія Розэнберг прызнаў за генеральным камісарам Беларусі ў маі 1943 г. Готбэрг імкнуўся вывесці Беларусь з-пад фармальнага падначалення Остлянда, каб непасрэдна падпарадкоўвацца Берліну. 1.4.1944 г. Гітлер выдаў дзеля гэтага спецыяльны дэкрэт і тым самым узаконіў становішча, якое рэальна існавала з той пары, як памёр Кубэ (10). Варта заўважыць, што гэты дэкрэт не быў апублікаваны і, такім чынам, не выкарыстоўваўся прапагандай.

У сапраўднасці Готбэрг не збіраўся працягваць палітычны курс Кубэ (11): ні Гітлер, ні Гімлер не былі прыхільнікамі супрацоўніцтва са славянскімі народамі. Да таго ж станавілася зразумела, што Вермахту не ўдасца ўтрымаць у сваіх руках тэрыторыю Беларусі. Готбэрг прадбачыў, што неўзабаве давядзецца праводзіць эвакуацыю, і загадзя распарадзіўся, каб галоўныя аб'екты ў Мінску былі замініраваны (12). Прапанова маршала Буша наконт адступлення да лініі Бярэзіны дзеля скарачэння працягласці фронту толькі ўзмацніла настрой няпэўнасці. І хаця Гітлер адкінуў гэтую прапанову і загадаў не здаваць беларускай тэрыторыі, яго распараджэнне, як і шмат папярэдніх, не магло ўжо стрымаць германскага адыходу. Працягваць палітыку Кубэ папросту не мела сэнсу.

Готбэрг не жадаў рабіць стаўку на беларускі нацыяналізм і меў на гэта яшчэ і асабістыя прычыны, асабліва — недавер, дакладней кажучы, варожасць да старшыні Камітэта Даверу — Вацлава Іваноўскага. Готбэрг не забыўся, як члены Камітэта выступалі з пратэстам супраць варварскіх метадаў карных атрадаў СС на сумесным пасяджэнні ў жніўні 1943 г. Былі ў яго і іншыя нагоды для падазрэнняў. Дэлегацыя Камітэта (Іваноўскі, Сабалеўскі, Калубовіч) прымала ўдзел у пахаванні Кубэ ў Берліне. 25 верасня гэтыя дзеячы мелі спатканне са сталым намеснікам Розэнберга — Альфрэдам Мэерам і прадставілі яму праект аб прызнанні аўтаноміі Беларусі і ўз'яднання яе тэрыторыі (13). Гэты візіт не ўзгадняўся з Готбэргам, бо адбываўся ён у момант «міжцарства» і мог расцэньвацца як спроба вынесці на суд ОМі вельмі непрыемную для СС інфармацыю пра вынікі карных экспедыцый на Беларусі. Пагэтаму пераемнік Кубэ цалкам ігнараваў Камітэт Даверу і нават выношваў намер яго роспуску.

Такім чынам, у першыя тыдні свайго праўлення Готбэрг не выказваў намеру палітычнага супрацоўніцтва з беларусамі. Разведка Арміі Краёвай адзначала гэтыя тэндэнцыі на Беларусі. У лістападзе яна паведамляла: «Уступкі, зробленыя гаўляйтэрам Кубэ (стварэнне Рады Даверу, Саюза беларускай моладзі, Навуковага таварыства і г. д.), фармальна стаяць пад пытальнікам — прычынаю — смерць гаўляйтэра, а таксама — набліжэнне фронту. Генеральны камісарыят Беларусі будзе ліквідаваны і трапіць — прынамсі, часткова — пад кіраўніцтва Палявой камендатуры — з гэтым трэба лічыцца» (14). У іншым данясенні таго перыяду гаварылася: «Палітычныя штабы беларусаў і літоўцаў ужо задумваюцца аб эміграцыі... Усе беларускія ўстановы з Магілёва, Мінска і да т. п. альбо распушчаныя, альбо эвакуіраваныя і распадаюцца самі» (15).



Напэўна, Готбэрг разлічваў на тое, што свае асноўныя праблемы: барацьбу з партызанамі і выкарыстанне гаспадарчых рэсурсаў Беларусі — ён здолее выканаць і без дапамогі палітычных сродкаў. Такая лінія цалкам супадала з пазіцыяй Берліна. З вясны 1943 г. у руках Готбэрга апынулася практычна ўся паліцэйская ўлада на абшарах Генеральнага камісарыята і Усходняй Беларусі. Цяпер ён хацеў поўнасцю падпарадкаваць сабе і гаспадарчую дзейнасць, і не толькі на тэрыторыі цывільнай адміністрацыі, але і ў зоне вайсковага рэжыму.

У выніку на цэнтральным участку фронту ўжо ў лістападзе 1943 г. вайсковая Гаспадарчая інспекцыя была распушчана, а яе супрацоўнікі перайшлі ў Генеральны камісарыят у Мінску. Такім чынам, пад кіраўніцтвам Готбэрга на Беларусі ўтварыўся суцэльны гаспадарчы абшар. У лютым 1944 г. яго тэрыторыя павялічылася за кошт ужо прыгаданых былых трох паветаў RKU. Пры гэтым падкрэслівалася асаблівая неабходнасць звесці пад адзін дах усё кіраўніцтва сельскай гаспадаркай. У снежні 1943 г. у сістэме Галоўнага камісарыята ў Мінску паўстаў новы Галоўны аддзел харчавання і сельскай гаспадаркі. Яго дзейнасць пашыралася на тэрыторыі цывільнага і вайсковага праўлення. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб узмацніць эксплуатацыю беларускай сельскай гаспадаркі, значэнне якой узрасло пасля страты немцамі Украіны.

Гаспадарчая палітыка Кубэ адышла ў нябыт. Пад канец акупацыі людзі балюча адчулі на сабе гэтыя перамены. Акупацыйныя ўлады раз за разам павялічвалі нормы паставак мяса і жорстка дамагаліся іх выканання. Жывёлагадоўля прыйшла ў глыбокі заняпад. Паводле звестак слонімскага акруговага камісара, у выніку інтэнсіўнага нарошчвання харчовых паставак для Германіі і партызан пагалоўе жывёлы ў гэтай акрузе ў 1944 г. зменшылася на 50 % у параўнанні з 1942 г.,ад ранейшага статка свіней і авечак засталося ўсяго 10 %, а птаства было вынішчана амаль поўнасцю. У адной вёсцы на 80 гаспадарак прыходзілася 10 коней, а ў шасці вёсках налічылі толькі 11 свіней (16). Напэўна, гэта адзін з самых вострых прыкладаў, якія праўдзіва адлюстроўваў становішча беларускай жывёлагадоўлі таго перыяду.

Аднак найважнейшым клопатам Готбэрга па-ранейшаму заста-

русаў, што знаходзіліся ў Германії і на тэрыторыі нямецкай акупацыі, пачалося выданне штотыднёвіка «Раніца». Кіраўніком Беларускага Прадстаўніцтва быў прызначаны Акінчыц, які перад самай вайной прыехаў у Берлін, а пасля ягонага скорага звальнення гэтую функцыю да канца вайны выконваў Анатоль Шкутка. Установа мела некалькі сваіх мясцовых аддзяленняў.

Летам 1940 г. беларусы, якія знаходзіліся ў Берліне, атрымалі згоду на стварэнне грамадскай арганізацыі — Беларускага камітэта самапомачы (далей БКС.— *Рэд.*) у Германіі,— старшынёй якой стаў былы консул БНР у Берліне А. Бароўскі. Адначасова былі адкрыты аддзяленні Камітэта ў Познані і Лодзі, а пазней — у Мюнхене, Лейпцыгу, Празе, Торуні і інш. Незалежна ад БКС у Германії ў студзені 1940 г. быў створаны Беларускі камітэт у Генеральнай губерні з сядзібай у Варшаве і двума аддзяленнямі — у Белай-Падляшскай і Кракаве. Статутнай мэтай гэтых арганізацый была сацыяльная апека (галоўным чынам — сталоўкі) і культурна-асветная дзейнасць, між іншым, арганізацыя аматарскіх мастацкіх калектываў, лекцый і бібліятэк. У Варшаве члены Беларускага камітэта атрымлівалі харчовыя карткі лепшай катэгорыі, чым большасць польскага насельніцтва, пагэтаму ў яго шэрагах апынулася нямала палякаў (83).

На базе гэтых арганізацый утварылася некалькі згуртаванняў, якія адлюстроўвалі палітычны расклад сіл перад вераснем 1939 г. Агульнай рысай гэтых груп было жаданне выступаць у ролі прадстаўнікоў беларускага народа і патэнцыяльных палітычных партнёраў Германії і навязаць нямецкім уладам аптымальныя, на іх погляд, рэцэпты вырашэння беларускага пытання пасля спадзяванага разгрому СССР. Групы гэтыя імкнуліся здабыць у немцаў прызнанне і падтрымку, разлічваючы дасягнуць галоўнага палітычнага ўплыву на Беларусі пасля таго, як яе зоймуць германскія войскі. Развілася своеасаблівая канкурэнцыя за права выкарыстання найбольш абяцальных магчымасцей у апараце Трэцяга Рэйха. Стаўкі былі розныя, бо аніводная нямецкая партыйная, вайсковая або ўрадавая інстанцыя не ў стане была ясна выказацца наконт будучага лёсу Беларусі.

Рана распачаў такую дзейнасць доктар Іван Ермачэнка (84) — галоўны дзеяч беларускага асяродка ў Празе. Там ён прыцягнуў да супрацоўніцтва старога Васіля Захарку — сімвалічнага лідэра БНР у эміграцыі, спадзеючыся такім чынам надаць сваім пачынанням характар гістарычнай пераемнасці. Пасля заняцця Чэхіі германскімі войскамі 20. 4.1939 г. Гітлеру быў пасланы мемарыял, апрацаваны Ермачэнкам і падпісаны Захаркам. З фрагментаў, апублікаваных Васілём Рамаsuccкім, вынікае, што аўтар мемарыяла звяртаўся да Гітлера з просьбай прыняць пад увагу беларускае пытанне ў планаваным разгроме і расчляненні СССР. Мемарыял гэты не быў пра-



ігнараваны, пра што сведчаць пазнейшыя размовы Ермачэнкі і Захаркі з былым германскім паслом у Празе Андарам фон Генке летам 1939 г. У выніку беларускіх дзеячаў запрасілі 3.8.1939 г. на канферэнцыю ў міністэрстве замежных спраў у Берліне, дзе іх запэўнілі, што Германія стаіць супраць канцэпцыі «адзінай і непадзельнай Расіі» (85). На гэтай канферэнцыі Ермачэнка і Захарка прадставілі сваю праграму беларуска-нямецкага супрацоўніцтва (86).

Ермачэнка ў 1940—1941 гг. займаўся арганізацыяй беларускіх лекараў у Германії ў супрацоўніцтве з доктарам Вагнерам, які ў сярэдзіне 1941 г. заняў у міністэрстве акупаваных усходніх земляў пасаду загадчыка аддзела, што сачыў за дзейнасцю аддзяленняў Самапомачы на акупаваных абшарах СССР. Адначасова Ермачэнка прыцягваў кантакт з прафесарам Мэндэ, маючы з ім «частыя размовы наконт гісторыі і становішча на Беларусі» (87). Прафесар таксама заняў высокую пасаду ў міністэрстве Розэнберга. Гэтыя сувязі спадзейнічалі будучай кар'еры Ермачэнкі.

Фабіян Акінчыц у сваю чаргу рабіў стаўку на партыю нацыянал-сацыялістаў і падтрымліваў кантакт з яе ўсходнім аддзелам. Аднак шансы яго паступова слабелі. Няўдалая спроба стварэння беларускай партыі нацыянал-сацыялістаў, а таксама фіяска яго праекта па фарміраванню дыверсійнай групы ў тыле нямецка-польскага фронту зрабілі яму славу аферыста. У Акінчыца сярод беларускай эміграцыі было мала прыхільнікаў. Гэта стала адной з прычын распаўсюджання ягонай ненайлепшай рэпутацыі. Пагэтаму неўзабаве пасля прызначэння на пост кіраўніка Беларускага Прадстаўніцтва яго звольнілі і адціснулі на задні план. Вясной 1940 г. Акінчыц узначаліў Беларускі камітэт у Варшаве, адсунуўшы з насады ранейшага яго старшыню, доктара Мікалая Шчорса, аднак ужо ў сярэдзіне 1940 г. вымушаны быў пакінуць Варшаву. Сталася гэта пасля ўмяшання ў справу варшаўскай службы бяспекі (СД), якая вярнула Шчорса на ранейшае месца, бо, на думку былых кампетэнтных яго дзеячаў, «Шчорс хоць нешта з сябе ўяўляў, у той час як Акінчыц — нічога» (88).

У Берліне ў канцы 1940 і на пачатку 1941 г. Акінчыц пісаў ва Усходні аддзел нацысцкай партыі даносы шмат на каго з беларускіх эміграцыйных дзеячаў, рабіў прапановы іх выцяснення і замены сваімі людзьмі. У сваім рапарце ад 1.11.1940 г. ён прадставіў, між іншым, праект заданняў для беларускіх нацыянал-сацыялістаў, у якім прадугледжвалася:

— арганізацыя курсаў для падрыхтоўкі будучых палітыкаў, адміністрацыйных дзеячаў, публіцыстаў і журналістаў;

— перашкаленне ваеннапалонных беларускай нацыянальнасці;

— арганізацыя курсаў ваеннай падрыхтоўкі, шпіёнскай і прапагандысцкай дзейнасці супраць Савецкай Беларусі, адпраўка пера-

валася барацьба з савецкімі партызанамі. Іх дзейнасць пагражала не толькі выкананню гаспадарчых задач — цяпер, з набліжэннем фронту, навісла небяспека дэзарганізацыі непасрэдных тылоў дзеючай арміі. Папярэднія супрацьпартызанскія акцыі не далі жаданых вынікаў, апрача таго, выклікалі пратэсты Кубэ, якія ўсё ж такі надзейнічалі пэўным чынам: пасля атрымання апошняга рапарта ў кастрычніку 1943 г. Браўтыгам прапанаваў Бэргеру заняцца расследаваннем карных метадаў СС на Беларусі (17). Праўда, Бэргер адкінуў гэтую прапанову, тым не менш мусіў прызнаць, што адзін з самых лютых атрадаў СС пад камандаваннем Дзірлевангера дзейнічаў «абсалютна безадказна» (18). Такія выказванні ў найвышэйшых эсэсаўскіх колах прымусілі Готбэрга перагледзець свае метады барацьбы з партызанамі. Да таго ж разам са смерцю Кубэ знікла галоўная крыніца канфліктаў у лоне нямецкага кіраўніцтва на Беларусі. У гэтых абставінах Готбэрг не толькі стаў гаспадаром становішча, але і пераняў на сябе поўную адказнасць за развіццё далейшых падзей на гэтым абшары.

Свае новыя погляды Готбэрг прадставіў падчас канферэнцыі, якая адбылася ў ОМі ў канцы лістапада 1944 г. Па-першае, ён прызнаў, што ранейшыя бесчалавечныя сродкі абыходжання з насельніцтвам былі памылкаю, бо «парушаюць яго пачуццё справядлівасці» (19), а, па-другое, карныя экспедыцыі не могуць прынесці чаканых вынікаў. Неўзабаве ў вайсковыя часці была разаслана спецыяльная інструкцыя, дзе падрабязна распісваліся паводзіны ў час карных экспедыцый. Забаранялася «залішне жорсткае» абыходжанне з цывільнымі жыхарамі; нельга было адлучаць матак ад дзяцей, палонных, якіх раней папросту расстрэльвалі, цяпер было загадана трымаць у перавалачных лагерах і трактаваць належным чынам. Хворыя, старыя, а таксама маткі з дзецьмі да 10 год павінны былі перасяляцца ў больш спакойныя мясціны, прычым ім дазвалялася перавезці з сабою ўсе свае здабыткі (20). У пачатку сакавіка 1944 г. Розэнберг падпісаў дэкрэт, які даваў права памілавання ўдзельнікам партызанскага руху на Беларусі (21).

Змякчэнне тэрору ў адносінах да насельніцтва было адным з элементаў новай антыпартызанскай стратэгіі Готбэрга. Ён крытычна* ацаніў вынікі ранейшых карных аперацый і цяпер імкнуўся дабіцца прыхільнасці насельніцтва, каб уцягнуць яго ў барацьбу супраць партызан. Гэта быў паварот да ранейшай канцэпцыі Кубэ. Аднак сітуацыя ў канцы 1943 г. аказалася ўжо зусім іншая: цяжка было спадзявацца на сапраўдную шырокую падтрымку беларусаў

* Што датычыцца крытычных ацэнак, то Готбэрг яшчэ ў красавіку 1943 г. на нарадзе ў Кубэ выступаў супраць карных метадаў. Таму, відаць, патрэбна больш уважліва глядзець на клубок тых адносін, якія ствараліся на Беларусі ў першы акупацыі.— *А. Л.*



у антыпартызанскай кампаніі. Не апраўдаліся і надзеі на стварэнне беларускіх паліцэйскіх батальёнаў замест некалі распушчанай Самаахоўы. Нягледзячы на доўгія стаpанні, да верасня 1943 г. арганізавана ўсяго два такія атрады (22). Паралельна з імі дзейнічалі толькі паліцыя парадку і чыгуначная ахова*. Гэтых сіл было недастаткова, пагэтаму летам 1943 г. для барацьбы з партызанамі апрача нямецкіх войскаў прыбыло некалькі нацыянальных паліцэйскіх батальёнаў, сярод іх літоўскія, латышскія, украінскія, расійскія і нават адзін польскі** (23). Але і гэтых сіл усё ж такі не хапала. Таму восенню 1943 г. зроблена нясмелая спроба пашырэння беларускіх паліцэйскіх батальёнаў, нягледзячы на пэўны недавер і недахоп кадраў. У верасні — кастрычніку была абʼяўлена лакальная мабілізацыя ў Баранавіцкай і Слонімскай акругах (24). Вынікі яе былі нечаканыя: на заклік вайсковых аддзелаў адгукнулася столькі прызыўнікоў, што гэтай колькасці хапіла з верхам, каб сфарміраваць два запланаваныя батальёны,— частку людзей давялося нават направіць у Слуцк, дзе павінен быў арганізавацца яшчэ адзін батальён (25). Неўзабаве быў сфарміраваны даволі вялікі добраахвотны батальён у Навагрудку, яго ядром сталі вучні мясцовай настаўніцкай семінарыі (26). Меркавалася стварыць добраахвотныя батальёны ў Глыбокім і Лідзе, аднак тут не набралася нават роты добраахвольцаў.

Такім чынам, пад кіраўніцтвам HSSPE RM u WR напачатку 1944 г. тэарэтычна было створана 7 батальёнаў, у якіх разам налічвалася 2167 чалавек. Тры з гэтых сямі батальёнаў (№ 64, 66 і 67) яшчэ знаходзіліся ў стадыі фарміравання. Па звестках Кушаля, сюды яшчэ трэба было дадаць батальён № 13***, што падпарадкоўваўся паліцыі бяспекі (каля 1000 чалавек), батальён чыгуначнай аховы (каля 1000 чалавек), а таксама паліцыю парадку (каля 20 000 чалавек) (27).

Такім чынам, агульная колькасць гэтых фарміраванняў на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі складала разам больш за 24 тысячы чалавек. Відаць, ва Усходняй Беларусі колькасны склад паліцыі парадку быў не меншы. Апрача таго, на ўсходзе Беластоцкай акругі ў 1943 г. распачалося стварэнне беларускіх паліцэйскіх атрадаў. З улікам усіх гэтых звестак атрымліваецца, што ў пачатку 1944 г. у шэрагах вайскова-паліцэйскіх атрадаў па ўсёй Беларусі

* Напэўна, маюцца на ўвазе ахоўныя паліцэйскія батальёны — *А. Л.*

** Польскі батальён прыбыў яшчэ ў 1942 г. Нацыянальныя паліцэйскія батальёны падпарадкоўваліся як Шэнкендорфу, так і Вышэйшаму начальніку СС і паліцыі бяспекі і СД Беларусі.— *А. Л.*

*** Звесткі Ф. Кушаля патрабуюць крытычнага позірку. Як бачна з табл. 12, беларускі паліцэйскі батальён у лютым 1944 г. не ўпамінаецца. Усе названыя беларускія палітычныя батальёны падпарадкоўваліся начальніку паліцыі парадку.— *А. Л.*

школеных кадраў на тэрыторыю СССР для тэрарыстычных і сабатажных мэт (89).

Праект Акінчыца, напэўна, не быў адкрыццём для нямецкіх органаў, аднак ён садзейнічаў яго назначэнню. У пачатку 1941 г. яму даручылі назіранне за лагерамі польскіх ваеннапалонных і вярбоўку тутэйшых беларусаў. Акінчыцу было даверана кіраўніцтва над т. зв. курсамі прапагандыстаў пад Берлінам, дзе праходзілі навуку «ідэалагічныя кіраўнікі» для працы на Беларусі. Гэта была т. зв. школа Акінчыца, выхаванцы якой («маладыя актывісты») павінны былі рыхтаваць падмурак да рэалізацыі яго палітычных планаў на Беларусі.

Трэцяе згуртаванне прадстаўляў малады лекар Мікалай Шчорс, актыўны дзеяч Беларускага студэнцкага саюза 30-ых гг. у Вільні, яго некалькігадовы старшыня, ідэалагічны паплечнік кс. Гадлеўскага. У гэтую групоўку ўваходзілі многія дзеячы ў Варшаве (кс. Вінцэнт Гадлеўскі, кс. Пётр Татарыновіч, Чэслаў Ханяўка, Мікалай Ждановіч, Баляслаў Манкевіч, Барыс Стрэльчык, Пётр Ластаўка і інш.), у Берліне (Мікалай Шкялёнак, Анатоль Шкутка, С. Грынкевіч-малодшы, Мікола Абрамчык і іншыя), у Лодзі (Вітаўт Тумаш) і ў іншых асяродках. Галоўным ідэолагам гэтай групы быў Гадлеўскі, які выступаў як прадстаўнік Беларускага Народнага Фронту. У Варшаве ён выдаў палітычную праграму згуртавання, яна распаўсюджвалася сярод беларусаў Германіі, Генеральнай губерні, Чэхаславакіі і Францыі. Члены гэтай групы займалі пераважную частку кіраўнічых пасад у беларускіх камітэтах, яны ж былі ядром рэдакцыйнага калектыву «Раніцы» (90).

19.6.1941 г. галоўныя дзеячы гэтай групы стварылі ў Берліне арганізацыю пад назвай «Цэнтр», якая фармальна прэтэндавала на ролю кіраўніка, планавальніка і каардынатара дзейнасці беларускай эміграцыі ў Германіі і Генеральнай губерні. Старшынёй «Цэнтра» стаў Шчорс, а яго членамі — Ханяўка, Гадлеўскі, Шкялёнак, Шкутка і Тумаш (91). Аднак стварэнне «Цэнтра» ледзь не за пару дзён да нападу на СССР сведчыла, што яго галоўнай мэтай была не дзейнасць сярод эміграцыі, а каардынацыя працы па ходу заняцця немцамі беларускіх земляў. Такім чынам, гэта быў орган, які ў спрыяльных умовах збіраўся абʼявіць сябе часовым урадам Беларусі. Паводле паведамлення Ждановіча, блізкага супрацоўніка Шчорса, размеркаванне пасад у гэтым урадзе было прадугледжана загадзя, яго ядро павінны былі скласці сябры «Цэнтра».

У адрозненне ад Ермачэнкі і Акінчыца, група Шчорса для рэалізацыі сваіх мэт арыентавалася на вайсковыя колы («Абвер»*) і СД**. Іх логіку лёгка зразумець: беларускія землі зоймуць ня-

* Разведвальная і контрразведвальная служба германскай арміі.— *Рэд.*
** Палітычная служба бяспекі нацысцкай партыі.— *Рэд.*



мецкія войскі, і неадкладнае стварэнне беларускага часовага ўрада стане фактам, які будзе адбівацца на далейшых паводзінах акупацыйных улад. З гэтага пункту гледжання тактыка Шчорса, Гадлеўскага і іх паплечнікаў не рознілася ад дзейнасці Літоўскага Фронту Вызвалення (Lietuvos Išlaisvinimo Frontas), які пры падтрымцы «Абвера» ўтварыў літоўскі часовы ўрад на чале з Ёзасам Амбразявічусам.

Супрацоўніцтва групы Шчорса і «Абвера» распачалося ў другой палове 1940 г. Яно грунтавалася на вярбоўцы і перасылцы ў Савецкую Беларусь агентаў, падрыхтаваных у абвераўскім цэнтры ў г. Сулеювэк пад Варшавай (92). У засылцы агентаў істотную ролю выконвала блізкае да савецка-нямецкай мяжы аддзяленне Варшаўскага камітэта, размешчанага ў Белай-Падляшскай. Не пазней як вясной 1941 г. група Шчорса пачала вербаваць добраахвотнікаў у дыверсійныя падраздзяленні «Абвера». Быў створаны 50-асабовы атрад, які пасля вучобы ў Лямсдорфе пад Аполем 18.6.1941 г. быў перакінуты цераз мяжу ў раёне Сувалак з заданнем выконваць дыверсіі на чыгуначнай лініі Стоўбцы — Баранавічы (93). Ініцыятарам гэтай акцыі быў ксёндз Гадлеўскі, які бачыў у стварэнні дыверсійнай групы пачатак «першай штурмавой роты» і зародак нацыянальных узброеных сіл (94). Варшаўскі камітэт пры супрацоўніцтве з СД сфармаваў таксама групу з некалькіх дзесяткаў чалавек для кіравання будучымі органамі адміністрацыі і паліцыі неадкладна пасля прыходу на Беларусь нямецкіх войскаў.

Варта заўважыць, што беларускі палітычны дзеяч Радаслаў Астроўскі (95), які адыграў асабліва важную ролю ў гісторыі акупацыі Беларусі, займаў у гэты час чакальную пазіцыю і афіцыйна не далучаўся да ніводнай з гэтых груп. На працягу шматгадовай палітычнай карʼеры ён прызвычаіўся загадзя не выкладаць свае карты на стол. У гэтым сэнсе ён быў куды больш асцярожлівы, чым астатнія прэтэндэнты на ўладу ў Беларусі, асабліва ў параўнанні са Шчорсам і кс. Гадлеўскім, чые ініцыятывы, як выявілася, не мелі за сабой ніякіх сапраўдных гарантый і абавязацельстваў з нямецкага боку. Зрэшты, у Астроўскага былі і іншыя прычыны, каб не ўдзельнічаць у такім спаборніцтве напярэдадні нападу на СССР. Большасць яго прыхільнікаў засталася на радзіме, а ў эміграцыі ў яго быў непрымірымы праціўнік — ксёндз Гадлеўскі, які не мог дараваць Астроўскаму супрацоўніцтва з камуністамі ў 1924—1927 гг., а потым — з польскімі ўладамі. У новай сітуацыі Астроўскі палічыў за лепшае пазбягаць скандалаў і даносаў. Пагэтаму ён не ўвайшоў у групу «Цэнтр» і замацаваўся на сціплай пасадзе кіраўніка лодзскага аддзялення самапомачы, а пазней — тутэйшай Vertauenstelle і чакаў адпаведнага моманту (96).

У беларускіх колах панавалі надзеі на падтрымку Трэцяга Рэйха для справы беларускай дзяржаўнасці. На гэтым фоне дзейнасць

Табліца 12. **Развіццё беларускіх паліцэйскіх батальёнаў**

| Нумар часці | Месца пастою | Колькасны асабовы склад | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 20.12.1943 | 30.1.1944 | 29.2.1944 |
| 48 | Слонім | 592 | 615 | 590 |
| 49 | Мінск | 327 | 322 | 314 |
| 60 | Сноў* | 562 | 562 | 526 |
| 64 | Глыбокае | — | — | 65 |
| 65 | Навагрудак | — | — | 477 |
| 66 | Слуцк | — | — | 172 |
| 67 | Ліда | — | — | 23 |
| | Разам | 1481 | 1499 | 2167 |

* Мястэчка пад Нясвіжам Баранавіцкай акругі, 3 лютага 1944 г. батальён размяшчаўся ў Баранавічах.

*Крыніца:* HSSPF RM u WR, Kräfteübersichten vom 1.1.1944, 30.1.1944, 1.3.1944, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T-175, ролік 225/2764380-94.

знаходзілася не менш як 50 тыс. чалавек, калі не лічыць яшчэ чужых нацыянальных часцей*.

Готбэрг, хоць і пачаў разбудову беларускіх паліцэйскіх батальёнаў, па-ранейшаму не меў да іх вялікага даверу і пагэтаму імкнуўся трымаць іх пад самым пільным наглядам. Дзеля гэтага 2.12.1943 г. ён звярнуўся да паліцэйскіх улад у Берліне з просьбаю прысылаць на Беларусь па 8 нямецкіх афіцэраў, 2 адміністрацыйных чыноўнікаў, 58 падафіцэраў, 4 перакладчыкаў і 2 шафёраў на кожны батальён (28). Усяго — па 74 чалавекі на кожны батальён. Менавіта тут крылася галоўная крыніца недаверу да часцей былой Самааховы, у якіх не было такога суровага кантролю нямецкага персаналу. Кушаль у сваёй цытаванай працы не раз адзначаў, што нямецкія афіцэры імкнуліся выжыць з гэтых батальёнаў беларускіх афіцэраў і падафіцэраў і занізіць іх ролю, у выніку чаго і ўзнікалі канфлікты. Несумненна, што галоўным тормазам фарміравання беларускіх узброеных сіл быў недавер нямецкага камандавання, а не праблема з беларускімі кадрамі.

З аднаго боку, у немцаў былі падставы для недаверу: у кепска ўзброеных, слаба падрыхтаваных атрадах, якія не мелі ў гэтай барацьбе палітычнай мэты, панавала дэзерцірства, аднак, з другога боку, яны нічога не рабілі дзеля таго, каб гэты недавер развеяць.

* З гэтай лічбай цяжка пагадзіцца. На наш погляд, агульная колькасць вайскова-паліцэйскіх атрадаў была намнога менш. Па стану на 29.02.1944 г., Вышэйшаму начальніку СС і паліцыі «Цэнтр» і Беларусі падпарадкоўваліся ўсяго каля 30 тыс. чалавек, уключаючы нямецкія, латышскія, літоўскія, беларускія і іншыя паліцэйскія фарміраванні, а таксама службу парадку.— *А. Л.*



Пагэтаму тут па-ранейшаму панавала ўзаемнае напружанне. Нават вынікі лакальнай мабілізацыі ў Баранавічах і Слоніме, якія сведчылі пры жаданне беларусаў удзельнічаць у заведама безнадзейнай барацьбе на баку Германіі, не маглі пераканаць немцаў. Справа ў тым, што гэтая мабілізацыя вялася пад зманлівымі лозунгамі патрыятызму і арганізацыі беларускага войска — менавіта яны і прадвызначылі поспех усёй справы (29). І сапраўды, цяжка падабраць нейкае іншае тлумачэнне такога наплыву добраахвотнікаў: прызыўнікам, напраўдзе, пагражалі нямецкія рэпрэсіі ў тым выпадку, калі б яны не з'явіліся па закліку ўлад, але, з другога боку, іх чакала партызанская расправа, так што ўсякі выбар быў небяспечны.

19.10.1943 г. Готбэрг выдаў новае распараджэнне: паліцэйскія ўлады Генеральнага камісарыята Беларусі і іх акруговыя камісары павінны былі распачаць арганізацыю абаронных вёсак — пасля ачышчэння абраных населеных пунктаў ад ненадзейных элементаў было загадана раздаць пазасталым жыхарам па 50—100 вінтовак (30). Гэта быў яшчэ адзін зварот да колішняй канцэпцыі Кубэ. Даўні праект адпавядаў патрэбам дня: ён не вымагаў ніякіх спецыяльных палітычных уступак і разам з тым забяспечваў рэальнае павышэнне ўзроўню грамадскай бяспекі, неабходнай для выканання гаспадарчых задач. 22 лістапада, на канферэнцыі ў ОМі, Готбэрг паведамляў, што ў абаронных вёсках распачалася новая асадніцкая кампанія: туды спецыяльна сталі перасяляць ахоўнікаў-паліцыянтаў, некаторыя з іх ужо атрымалі зямельныя надзелы. Готбэрг заявіў, што арганізацыя такіх гарнізонаў «спраўджвае сябе надзвычайна» і становіцца важным фактарам грамадскай бяспекі на Беларусі (31). Напачатку 1944 г. гэтая аперацыя распачалася і ва ўсходнебеларускіх раёнах.

Па звестках Гэсэ, у працэсе стварэння абаронных вёсак не раз паўставалі перашкоды. Па-першае, шмат у якіх вызначаных усходнебеларускіх паселішчах не хапала мужчын: іх альбо вывезлі на працу ў Германію, альбо нанялі на будоўлю вайсковых аб'ектаў Вермахта. А па-другое, насельніцтва папросту страціла давер да акупантаў — у некаторых вёсках людзі кідаліся ўцякаць, убачыўшы нямецкіх салдат, пасланых для арганізацыі абароннай вёскі (32). Таму вынікі гэтай кампаніі аказаліся досыць сціплыя.

На тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі гэтая кампанія праходзіла больш паспяхова. У Баранавіцкай акрузе было арганізавана 14 абаронных вёсак (33), паўсталі яны і ў Глыбоцкай, Слонімскай, Навагрудскай, Слуцкай і іншых акругах, прычым нярэдка ў такіх паселішчах асядалі прыбыльцы, якіх гнала з усходу наступленне Чырвонай Арміі. Сярод іх аказваліся бежанцы з Віцебшчыны, казакі, каўказцы і салдаты з брыгады Камінскага, якія разам з сем'ямі эвакуіраваліся з Браншчыны. 5 такіх вёсак было створана і на ўсходзе Беластоцкай акругі. Такім чынам, на Беларусі

Янкі Станкевіча (97), ідэалагічна звязанага з Вацлавам Іваноўскім, была выключэннем. Гэтыя дзеячы скептычна ацэньвалі шансы Германіі на перамогу, а акупацыю Беларусі разглядалі як часовую з'яву, і гэтак жа, як і польскае падполле, арыентаваліся на заходніх саюзнікаў, адводзячы ім у сваіх прагнозах пераважную ролю пры арганізацыі пасляваеннага ладу ў Еўропе. Асабліва пажаданы быў, на іх думку, польскі саюзнік, з ім звязваліся надзеі на вывад беларускага пытання на міжнародны форум на базе федэрацыйнай канцэпцыі. Гэтыя дзеячы разлічвалі на магчымасць пераадолець цяжкасці, звязаныя галоўным чынам з разыходжаннямі ў тэрытарыяльным пытанні, і знайсці шляхі да паразумення з польскім падполлем (98).

Канцэпцыя Іваноўскага і Станкевіча ў адным важным пункце ўсё ж не адрознівалася ад пазіцый астатніх груп. Яна дапускала выкарыстанне нямецкай акупацыі для разбудовы сіл беларускага нацыяналізму, у прыватнасці, пры апанаванні адміністрацыі і стварэнні ўласных узброеных сіл. Аднак супрацоўніцтва з немцамі ставіла пад пытальнік поспехі ў польска-беларускім дыялогу і прадстаўленне беларускага пытання ў Лондане. Верагодна, папярэдняе высвятленне тактыкі паводзін у гэтай няпростай справе адбылося ў першай палове 1940 г. у Вільні і прадугледжвала надвойную гульню, пры якой ролі павінны былі падзяляцца наступным чынам: Вацлаў Іваноўскі будзе займацца дзейнасцю афіцыйнай, а Янка Станкевіч — стварэннем канспіратыўнага цэнтра, у вачах польскага падполля — чыстага ад абвінавачванняў у супрацоўніцтве з немцамі.

У чэрвені 1940 г. Станкевіч прыбыў у Варшаву і праз некалькі месяцаў утварыў падпольную арганізацыю пад назвай Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН), галоўным чынам, сярод сяброў Беларускага камітэта, апазіцыйна настроеных да палітыкі Шчорса і Гадлеўскага. Ён завязаў кантакт з Зоф'яй Дабжыньскай («Евай») — дзяячкай ўсходняга нацыянальнага сектару Бюро інфармацыі і прапаганды (БІП) у галоўным камандаванні ZWZ — Саюза узброенай барацьбы (арганізацыя, якая папярэднічала стварэнню Арміі Краёвай.— *Ю. Т.*), праз пасрэдніцтва якога летам 1941 г. спрабаваў распачаць перагаворы з БІПам. Аднак да гэтага не дайшло. Напэўна, тут аказалі ўплыў недавер да Станкевіча і сумненні ў значнасці ПБН, якую ён прадстаўляў, а таксама нежаданне ўступаць у дыскусіі наконт будучыні заходнебеларускіх земляў, якія лічыліся часткаю тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

У такой сітуацыі арыентацыя беларускіх груп на супрацоўніцтва з Трэцім Рэйхам выглядала больш рэалістычна. Праўду кажучы, тут не было дасягнута якіх-небудзь дамоўленасцей, аднак цікавасць, якую выяўлялі германскія вайсковыя колы да беларускай праблематыкі, узбуджала надзеі эміграцыйных дзеячаў на блізкую падтрымку незалежніцкіх ідэй і пастулатаў. Гэта былі небеспадстаўныя надзеі,



мяркуючы па выказваннях Гітлера адносна будучыні Беларусі і іншых заходніх рэспублік СССР.

Упершыню Гітлер выказаўся ў гэтай справе 21.7.1940 г., калі, паведамляючы аб рашэнні напасці на СССР, сфармуляваў палітычныя мэты сваёй кампаніі. На заходніх абшарах СССР павінны былі функцыяніраваць тры асобныя дзяржаўныя арганізмы — Украіна, Беларусь і федэрацыя Прыбалтыйскіх рэспублік (99). Гэтую канцэпцыю ён паўтарыў у канцы ліпеня 1940 г., лаканічна растлумачыўшы: «Украіна, Беларусь і балтыйскія дзяржавы — да нас», што ўказвала на імкненне ўзалежніць будучыя дзяржавы ад Германіі (100). У наступным сваім выказванні ад 5.12.1940 г. Гітлер акрэсліў ролю гэтых дзяржаў як буфераў Трэцяга Рэйха (Pufferstaaten) (101). Магчыма, што на стварэнне гэтай канцэпцыі паўплываў прэцэдэнт са Славацкай дзяржавай, якая паўстала вясной 1939 г.

Да праблемы будучага статуса Беларусі і іншых савецкіх тэрыторый Гітлер нанова звярнуўся ў пачатку 1941 г., калі апрацоўваў інструкцыю да дырэктывы № 21 (план «Барбароса»). Паводле слоў начальніка штаба Ёдля, яго ўказанні гучалі наступным чынам: «Каб скончыць гэтую вайну, на такіх агромністых абшарах недастаткова будзе проста разбіць непрыяцельскія войскі. Уся тэрыторыя павінна будзе падзяліцца на дзяржавы з уласным кіраўніцтвам, з якімі мы зможам заключыць мір. Стварэнне такіх урадаў вымагае вялікага спрыту і як след абдуманых агульных прынцыпаў. Кожная рэвалюцыя ў вялікім маштабе прыводзіць да фактаў, якіх ужо не ўдасца выкрасліць. Сённяшнюю Расію ўжо немагчыма ўявіць без сацыялістычнай ідэі. Толькі яна можа ствараць унутраную аснову для ўзнікнення там новых дзяржаў і ўрадаў. Жыдоўска-бальшавіцкая інтэлігенцыя — дагэтуль прыгнятальнік народа — мусіць быць знішчана... Нашаю мэтай з'яўляецца як мага хутчэйшае, пры затраце мінімальных ваенных сіл, стварэнне залежных ад нас сацыялістычных дзяржаўных арганізмаў. Заданне гэта настолькі складанае, што нельга абцяжарваць ім армію» (102). Для гэтага,— працягваў Ёдль,— на савецкія тэрыторыі, «размежаваныя нацыянальна, будуць накіроўвацца камісары Рэйха, мэтай якіх будзе хуткае палітычнае будаўніцтва новых дзяржаў» (103).

Гэтыя ўказанні Гітлера, што акрэслівалі паводзіны Вермахта ў палітычнай галіне, былі ўлічаны ў падпісанай 13.3.1941 г. шэфам галоўнага камандавання ўзброеных сіл Кейтэлем інструкцыі да дырэктывы плана «Барбароса». У ёй гаварылася:

«Расійская тэрыторыя, якую мы павінны заняць па ходу аперацыі, як толькі дазволіць развіццё ваенных дзеянняў, будзе падзелена, паводле спецыяльных указанняў, на асобныя дзяржавы са сваімі ўрадамі... Як толькі аперацыйная зона дасягне дастатковай глыбіні, яна з тылу будзе абмежавана. Новаакупаваныя землі на тылах аперацыйнай зоны атрымаюць уласную палітычную адміністрацыю.

паўстала не менш як некалькі дзесяткаў супрацьпартызанскіх вясковых пунктаў супраціўлення. Тым не менш даць адназначную ацэнку іх дзейнасці даволі цяжка. Пасля адступлення глыбоцкі акруговы камісар пісаў у сваёй справаздачы, што ў яго акрузе абаронныя вёскі «не выканалі сваёй задачы», дзве з іх партызанам удалося цалкам абяззброіць (34). Затое баранавіцкі акруговы камісар ацаніў іх дзейнасць станоўча (35). Як бы там ні было, ва ўсёй гэтай справе можна заўважыць яшчэ адзін вельмі істотны аспект: упершыню нямецкія ўлады рашыліся на перадачу значнай колькасці зброі ў рукі насельніцтва.

У канцы 1943 г. акупацыйныя ўлады вырашылі актывізаваць польскія сілы для барацьбы з савецкім партызанскім рухам і прыцягнуць да супрацоўніцтва атрады АК. Дзеля гэтага яны адмовіліся ад ранейшага антыпольскага курсу, які быў абраны імі ў сярэдзіне 1942 г. Немцы разлічвалі на тое, што слаба ўзброеныя акоўскія атрады, якія варагавалі з савецкімі партызанамі і нават мелі з імі крывавыя сутычкі, цяпер не адмовяцца ад прапановы паправіць стан свайго ўзбраення.

І сапраўды, некаторыя атрады АК пагадзіліся з такою прапановаю. 9.12.1943 г. камандзір стаўбцоўскай групоўкі АК у Навагрудскай акрузе капітан Адольф Пільх (псеўданім «Гара») заключыў з немцамі дагавор і да канца акупацыі атрымліваў ад іх зброю і амуніцыю, якія высылаліся з Мінска (36). Крыху пазней (пасля 24.12.1943 г.) такое пагадненне заключыў у Лідзе камандзір прынёманскай групоўкі, паручнік Юзаф Свіда (псеўданім «Лех»), які на працягу студзеня, лютага і сакавіка 1944 г. атрымаў пяць абозаў зброі (37). Абодва камандзіры сцвярджалі, што камандаванне АК Навагрудскае акругі адобрыла гэтыя пагадненні, прычым Свіда і акруговы камендант палкоўнік Януш Праўдзіц-Шляскі дамовіліся аб тым, што нямецкія пастаўкі зброі і амуніцыі пяройдуць у поўнае распараджэнне каменданта акругі (38). Галоўнае камандаванне АК у Варшаве і лонданскі галоўнакамандуючы асудзілі гэтыя здзелкі. 17.1.1944 г. з Лондана прыйшоў загад разарваць супрацоўніцтва з немцамі і разабрацца з тымі, хто прыняў у ім удзел. Свіда быў высланы з Навагрудчыны, а Пільх насуперак загаду не спыніў супрацоўніцтва.

Пасля першых поспехаў з навагрудскімі атрадамі Готбэрг вырашыў пашырыць кантакты і звязацца з віленскім акруговым камандаваннем АК. 19.1.1944 г. прадстаўнік мінскай дэлегатуры СД у Вілейцы Зайдлер сустрэўся з віленскім акруговым камендантам АК палкоўнікам Аляксандрам Кшыжаноўскім і прапанаваў яму наладзіць нямецка-польскае супрацоўніцтва ў барацьбе з савецкімі партызанамі, паабяцаўшы пры гэтым забяспечыць групоўкі, падначаленыя віленскай камендатуры, зброяй і амуніцыяй. Паводле кароткага рапарта, адзінае, чаго ўдалося дабіцца Зайдлеру,— гэта згоды на яшчэ адно спатканне, на гэты раз перагаворы з Кшыжаноўскім павінен быў весці сам шэф вілейскай дэлегатуры СД Гравэ. Але неўзабаве такую самую прапанову Кшыжаноўскі атрымаў ад літоўскага камандавання Вермахта, пасля чаго вырашыў перапыніць кантакты з СД на Беларусі і распачаў перагаворы з шэфам віленскага «Абвера» Юліюсам Хрысціянсанам (39).



Тым не менш ініцыятыва Готбэрга не прапала марна. 1 сакавіка, падчас выступлення на канферэнцыі ў ОМі, ён паведаміў, што «чатыры тыдні таму (г. зн.— недзе на стыку студзеня і лютага.— *Ю. Т.*) на наш бок перайшлі тры буйныя польскія атрады (Banden) і спачатку таксама добра змагаліся» (40). Готбэрг не падаў дакладных звестак пра гэтыя фарміраванні, аднак, хутчэй за ўсё, гэта былі віленскія атрады, бо апрача Навагрудскай акругі, з якой немцы заключылі пагадненні ў снежні, толькі Віленская акруга АК часткова знаходзілася на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі. Адначасова Готбэрг скардзіўся, што ініцыятыва нямецкіх службаў у Вільні перашкодзіла далейшым перагаворам з Кшыжаноўскім і таму неўзабаве надзейнасць гэтых атрадаў пачала хутка слабець (41). Аднак новы курс акупацыйных улад на Беларусі ў адносінах да польскага падполля ад гэтага не змяніўся. Пра гэта сведчыць загад Готбэрга ад 23.2.1944 г. наконт мабілізацыі ў Беларускую краёвую абарону: з гэтага загада былі выключаны ўся Лідская акруга, а таксама пэўныя раёны Віленскай і Глыбоцкай, дзе гаспадарыла АК (42).

Нямецкія ініцыятывы зыходзілі, такім чынам, з двух асяродкаў — мінскага і віленскага, але крыніца ў іх была адна — агульнае распараджэнне цэнтральных берлінскіх улад. 10 лютага Хрысціянсан паведаміў на перагаворах з Кшыжаноўскім, што пагадненне, якое яны збіраюцца заключыць, было складзена з ведама і даручэння Вышэйшага нямецкага камандавання. Паводле акоўскіх дакументаў, гэты праект гучаў так:

1. Гэта вайсковы, а не палітычны дагавор, ён скіраваны на тое, каб ачысціць край ад савецкіх бандаў.
2. Ніякіх змен у кіраванні краем і адміністрацыйнай палітыцы не прадугледжваецца. Польскі бок абавязуецца не кранаць нямецкай арміі, нямецкай і літоўскай адміністрацыі. Харчовыя пастаўкі для войска павінны адбывацца без перашкод.
3. У кожнай акрузе выступаць у якасці прадстаўніка партызанскіх атрадаў павінна толькі адна паўнамоцная асоба. Паміж польскім і нямецкім камандаваннем прызначаецца сувязны.
4. Польскія атрады атрымліваюць поўны боекамплект, аж да лёгкай артылерыі ўключна.
5. Польскія атрады атрымліваюць права на збор харчовых паставак на вызначаных абшарах.
6. Некаторыя віды зброі могуць выдавацца толькі на перыяд бая-

Паводле нацыянальнай спецыфікі і тактычнага размежавання вайсковых груп яны будуць спачатку падзелены на «Поўнач» (Прыбалтыка), «Цэнтр» (Беларусь) і «Поўдзень» (Украіна). На гэтых абшарах палітычная адміністрацыя пераходзіць у рукі рэйхскамісараў, якія атрымаюць дырэктывы ад фюрэра» (104).

Гэтыя дырэктывы ўсё яшчэ не задавальнялі Гітлера, таму пасля знаёмства з імі 17.3.1941 г. ён зноў пацвердзіў: «Мы павінны стварыць вольныя ад Сталіна рэспублікі («Stalinfreie Republiken»). Сталінскую інтэлігенцыю належыць знішчыць. Кіраўнічы апарат дзяржавы павінен быць разбіты» (105). Некалькі дзён пазней ён ужо гаварыў аб Прыбалтыцы, Беларусі і Украіне як аб дзяржавах-пратэктаратах, якія «павінны быць сацыялістычнымі, аднак не мець уласнай інтэлігенцыі». «Трэба,— казаў Гітлер,— прадухіліць стварэнне новай інтэлігенцыі. Дастаткова абмежавацца тут прымітыўнай сацыялістычнай інтэлігенцыяй» (106).

Гэтыя выказванні даюць некаторае ўяўленне аб характары задуманых Гітлерам дзяржаў. Аляксандр Далін ацэньваў іх як «кантраляваныя Германіяй і пазбаўленыя значэння адміністрацыйныя адзінкі» (107), а Джэральд Райтлінгер ахрысціў гэтую канцэпцыю Гітлера як «сапраўднае вар'яцтва», бо не мог сабе ўявіць функцыяніравання дзяржавы без нацыянальнага кіраўніцтва (108). Можна, аднак, сумнявацца, ці былі гэтыя намеры Гітлера вядомы сярод беларускіх эміграцыйных дзеячаў, якія арыентаваліся на Трэці Рэйх, але нават знаёмства з гэтымі планамі наўрад ці змяніла б іх пазіцыю. З пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў, візія будучай «вольнай ад Сталіна» Беларусі мала чым адрознівалася ад сталінскай рэспублікі, і гэта аднолькава датычылася пытання палітычнай незалежнасці, як і пазіцыі нацыянальных кіраўнічых кадраў. Новая сітуацыя папросту абазначала замену распараджальнага цэнтра — з Масквы на Берлін, але перспектыва здабыцця абмежаванай дзяржаўнасці ўсё ж яе прываблівала.

Аднак дырэктывы Гітлера ўзбуджалі засцярогі сярод яго блізкіх супрацоўнікаў. У асяроддзі Розэнберга, прызначанага міністрам акупаваных усходніх земляў, як сведчыць дакладная запіска гэтага ведамства № 1 ад 2.4.1941 г., хоць і згаджаліся з адасабленнем Беларусі і нават павелічэннем яе тэрыторыі на ўсходзе, аднак меркавалі, што ўсё ж яна «занадта адстае ў культурнай і гаспадарчай галінах», у сувязі з чым «абуджэнне яе нацыянальнага жыцця і стварэнне паўнакроўнага дзяржаўнага механізма можа аказацца вельмі марудпай і цяжкай справай» (109). Тым не менш,— сказана было далей,— гэтую спробу ўсё-такі варта было б падтрымаць дзеля аслаблення Расіі. Выходзячы з такіх меркаванняў, ведамства Розэнберга не прапаноўвала варыянтаў далучэння часткі беларускіх земляў да Генеральнай губерні, што магло б стаць сведчаннем распрацоўкі такой канцэпцыі ў Берліне.



Не маючы веры ў нацыянальную сталасць беларускага народа, дастатковую для самастойнасці, Розэнберг не рашаўся канчаткова сфармуляваць сваю пазіцыю адносна яго будучыні. Ён быў прыхільнікам стварэння самастойнай украінскай дзяржавы і пратэктарата Прыбалтыйскіх краін — Літвы, Латвіі і Эстоніі (Baltenland), якія пасля каланізацыі, германізацыі «расава прыдатных» элементаў і высялення элементаў непажаданых павінен быў некалі стаць часткай нямецкай дзяржавы. Беларусь жа не ўваходзіла ў праектаваныя Розэнбергам тэрытарыяльныя структуры. З аднаго боку, ён не планаваў прызнання незалежнага дзяржаўнага статуса Беларусі, як, напрыклад, Украіны, з другога боку, кіруючыся галоўным чынам этнічнымі (расавымі) прынцыпамі, не прызначаў ёй будучыні, падобнай да Бальтэнлянда (110). Нарэшце, толькі ў маі 1941 г. Розэнберг прызнаў неабходнасць злучэння Беларусі з прыбалтыйскімі краінамі ў адным Рэйхскамісарыяце Остлянд, аднак гэта было часовае выйсце, тыпова адміністрацыйнае і не вырашальнае для яе палітычнага статуса.

Пры такой сітуацыі фармуляваныя Розэнбергам і яго супрацоўнікамі «задачы» Беларусі былі імглістыя, часта падлягалі зменам і ніколі не вырашаліся канчаткова. Яна то трактавалася як тэрыторыя, што падлягала разам з Прыбалтыкай германізацыі і ўключэнню ў Рэйх, то як абшар, які не падлягаў такому ўключэнню (111). Часам называлі Беларусь зямлёй для перасялення «непажаданых элементаў» з Прыбалтыкі і Польшчы, і нават — будучым прыродным запаведнікам. Пры гэтым Розэнберг не выключаў надання Беларусі ў бліжэйшай неакрэсленай будучыні «свайго роду аўтаноміі».

Негатыўныя меркаванні пра Беларусь і непакой перад хуткім выступленнем на яе тэрыторыю і звязанымі з ім адміністрацыйнымі цяжкасцямі выказваў таксама і гаспадарчы штаб, які ўзначальваў Герман Гёрынг, упаўнаважаны Гітлера ў справах чатырохгадовага плана. У выдадзеных незадоўга да нападу на СССР дырэктывах, т. зв. «зялёнай папцы», ён папярэджваў вайсковых камандзіраў і гаспадарчыя службы, што «на Беларусі напачатку будзе, напэўна, цяжка знайсці слой лаяльных да нас кіраўнікоў, бо беларусы ў сваім інтэлектуальным узроўні стаяць ніжэй за тамашніх расейцаў, яўрэяў, палякаў» (112).

У кантэксце гэтых характарыстык нацыянальных магчымасцей беларусаў варта адзначыць ініцыятыву аддзела па ўпарадкаванню абшараў (Reichstelle für Raumordnung). У мемарыяле, падрыхтаваным гэтай установай 22.6.1941 г. і перасланым шэфу дзяржаўнай канцылярыі Ламерсу, а значыць — адрасаваным Гітлеру, прапаноўвалася перанесці ўсходнюю мяжу Генеральнай губерні да лініі Ліда — Баранавічы — Лунінец — Сарны — Роўнае — Тарнопаль. Гэты праект фактычна азначаў уключэнне ў Генеральную губерню

вых дзеянняў з умоваю, што яны будуць абавязкова вернутыя пасля іх заканчэння.

7. Прадугледжваецца польска-нямецкае баявое супрацоўніцтва (43).

Аднак гэтае пагадненне не было падпісана — Кшыжаноўскі спаслаўся на тое, што паміж Польшчаю і Германіяй працягваецца вайна, і адкінуў праект дагавора. Хрысціянсан паставіўся да гэтага з разуменнем, ён прапанаваў варыянт, які дазволіў бы АК, не мяняючы прынцыповай пазіцыі, атрымліваць ад немцаў зброю і амуніцыю і іншае вайсковае забеспячэнне. Ежы Дабжаньскі, які прысутнічаў пры гэтай размове, сведчыць, што гаворка ішла пра стварэнне сістэмы вайсковых складоў са слабай аховай. З ціхай згоды Вермахта акоўскія атрады маглі б нападаць на іх і такім чынам здабываць сабе ўсю неабходную экіпіроўку (44). Гэтая аднабаковая пазіцыя немцаў вырашыла справу — немагчыма было адмовіцца ад зброі, якая ледзь не сама падала ў рукі.

Такім чынам, фармальны дагавор быў заменены камуфляжам, прычым настолькі ўдалым, што пасля вайны вяліся доўгія спрэчкі вакол становішча акоўскіх атрадаў у апошняй фазе акупацыі. І сапраўды, вясною 1944 г. не атакаваныя немцамі атрады АК зрабілі шэраг нападаў на іх склады і гарнізоны, аднак цяжка вызначыць, у якой меры гэта былі аўтэнтычныя дзеянні і ў якой — інспіраваныя «Абвэрам». Апошнюю версію пацвярджае той факт, што немцы рознымі іншымі спосабамі падкідвалі зброю ў раёны размяшчэння акоўскіх атрадаў. Кампетэнтныя дзеячы АК сведчаць, што гэткім шляхам немцы дапаўнялі стан узбраення навагрудскіх атрадаў, а таксама брыгад паручніка Грацыяна Фруга (псеўданім «Шчэрбец») і паручніка Зыгмунта Шандзяляра («Лупашкі») у Віленскай акрузе (45).

На Віленшчыне і Навагрудчыне нямецкая патаемная дапамога АК сталася сакрэтам Палішынэля, аднак нельга было голасна развражаць пра яе. Віленскі публіцыст Юзаф Мацкевіч быў, бадай што, першым польскім аўтарам, які не пабаяўся гневу апалагетаў «палітычнай праўды» і загаварыў пра гэта публічна. Ён пісаў:

«А пакуль што існуе дагавор. Немцы пацiху даюць нам зброю — лічыцца, што мы яе здабываем,— і не кранаюць. А ўзамен хочуць, каб мы разагналі савецкіх партызан. Як спаткаецца наш атрад з жандарамі на дарозе, дык адны глядзяць у адзін бок, а другія — ў іншы, так і расходзяцца, як дзве лялі. Апошнім часам лідскі гэбітскамісар, уласна кажучы, перадаў увесь свой «гэбіт» у нашыя рукі, каб мы яму ўзамен ачысцілі павет ад бальшавікоў. І мы «ачышчаем», калі ўдаецца... Хаця... справа ўжо да таго дайшла, што наш камендант пры поўным парадзе: на канфедэратцы — тры зоркі, «маўзэр» пры пасе, «жоўнеж польскі» ў пілотцы — на козлах сярод бела дня заязджае ў нямецкую гарадскую камендатуру. Выходзіць нямецкі



камендант, салютуе пад казырок. Ідуць на нараду. Выходзяць — зноў пад казырок, наш сядае і ад'язджае ў лес. Во што робіцца» (46).

Новы паварот нямецкай палітыкі да палякаў, і асабліва падкармліванне зброяй, спрыялі ўзмацненню пазіцыі АК у некаторых раёнах Заходняй Беларусі. А у Лідскай акрузе склалася ўвогуле унікальная сітуацыя: напачатку 1944 г. нямецкая акупацыйная адміністрацыя тут папросту пакінула свае валасці і толькі ў гарадах і на дарогах яшчэ падтрымлівала свой кантроль. Трапныя назіранні Мацкевіча пацвярджае акоўская справаздача з Навагрудскага ваяводства, у якой апісваецца сітуацыя, што панавала ў лютым — сакавіку 1944 г. Варта прывесці з яе шырокую цытату:

«Пад канец 1943 — у пачатку 1944 гг. абставіны склаліся такім чынам, што шэраг паветаў Навагрудчыны апынуўся, уласна кажучы, цалкам у польскіх руках. Немцы, заўважыўшы антыбальшавіцкую актыўнасць войска польскага, выкарысталі яе дзеля ўласнай бяспекі. Яны не чапаюць польскіх атрадаў і нават у многіх выпадках аказваюць ім дапамогу. Натуральна, гэта прыводзіць у замяшанне палітычныя погляды польскага грамадства і ў сэнсе прапагандысцкім і палітычным можа прынесці вялікую шкоду... Шчучынскі павет уваходзіць у склад Лідскага гэбітскамісарыята... Гэта астравок Рэчы Паспалітай, на якім мясцовыя нямецкія ўлады выказваюць максімум цярпімасці і зразумення ў адносінах да арганізаванага і ўзброенага польскага грамадства. Шчучынскі павет нагадвае раёны Жлобіна і Бабруйска часоў Доўбар-Мусніцкага. Нямецкая ўлада існуе толькі ў мястэчках, а чырвоных — па той бок Нёмана.

Польскія атрады праводзяць рэгулярную мабілізацыю — старасты афіцыйна разносяць імянныя прызыўныя павесткі... Кожнае нядзелі, на кожнае свята ў вёсках спраўляюць палявую імшу з казаннем... Млыны, дзяржаўныя маёнткі і вёскі плоцяць даніну натурай і грашыма. Варшавяне з УКБ (Ударны кадравы батальён Баляслава Пясэцкага.— *Ю. Т.*) кажуць, што ў цэлай Польшчы няма такіх спрыяльных умоў для стварэння падпольнай арміі, як у Шчучынскім павеце. Натуральна, што справа тут не толькі ў настроях насельніцтва, але і ў нямецкай паблажлівасці. Немцы вызвалілі са шчучынскага астрога дзевяць хлопцаў, гаворачы, што вяртаюць ім свабоду пры ўмове, што яны пойдуць да «белых» (47).

Пры такой сітуацыі ў першай палове 1944 г. акоўскія шэрагі пачалі хутка разрастацца. Справа пайшла з асаблівым размахам пасля таго, як на вызначаных Готбэргам абшарах была праведзена веснавая мабілізацыя мужчын у АК. Аб гэтым мабілізацыя сведчыць статыстыка: колькасны асабовы склад акоўскіх атрадаў у Навагрудскай акрузе ў чэрвені 1944 г. дасягнуў 7,7 тыс. чалавек, прычым 40 % з іх складалі праваслаўныя беларусы (48). Цікава, што з гэтай агульнай колькасці на невялікую Лідскую акругу прыйшлося

пераважнай часткі тэрыторый, якія паводле савецка-германскага дагавора былі заняты Чырвонай Арміяй у верасні 1939 г. Сваю прапанову аддзел па ўпарадкаванню абшараў абгрунтоўваў, папершае, «адсутнасцю магчымасцей развіцця ў польскага народа на яго цеснай тэрыторыі», а па-другое,— «моцнай паланізацыяй беларусаў, якія не выпрацавалі амаль ніякіх нацыянальных ідэалаў» (113).

Цяжка вызначыць, у якой меры адбіліся погляды нямецкіх вышэйшых колаў, занятых рэалізацыяй плана «Барбароса», на пазіцыю Гітлера ў справе палітычнай адміністрацыі на абшарах будучай акупацыйнай зоны. Ясна адно: пасля сваіх сакавіцкіх выказванняў ён ужо больш не варочаўся да канцэпцыі «вольных ад Сталіна» рэспублік. 16.5.1941 г. ён паведаміў Ламерсу, што яшчэ не прыняў канчатковага рашэння аб арганізацыі цывільнага кіраўніцтва, але збіраўся агаварыць яго асобна, з усімі зацікаўленымі персонамі (114). Але і на пачатку чэрвеня ў гэтай справе не было зроблена ніякіх удакладненняў, пра што сведчаць дырэктывы Галоўнага камандавання Вермахта па прапагандзе. Яны сцвярджалі, што «не трэба пакуль што прапагандаваць расчляненне СССР на паасобныя дзяржавы», аднак папярэджвалі, што гэта не канчатковая дырэктыва, бо развіццё палітычнай сітуацыі перад самым пачаткам аперацыі можа выклікаць «асабліва дзейсныя новыя прапагандысцкія тэндэнцыі» (115).

Новыя тэндэнцыі неўзабаве праявіліся, аднак не пацвердзілі прагнозаў Галоўнага камандавання. 18 чэрвеня начальнік паліцыі бяспекі выдаў распараджэнне, якое забараняла беларускім, украінскім, рускім і каўказскім эмігрантам вяртацца з Германіі на радзіму без дазволу паліцэйскіх улад (116). Амаль адначасова ведамства Розэнберга атрымала катэгарычную забарону ўступаць у перагаворы з прадстаўнікамі гэтых эмігрантаў (117).

Вясной 1941 г. па ходу прыгатаванняў да нападу на СССР былі распрацаваны і зацверджаны шматлікія падрабязныя інструкцыі, якія сталі асновай дзеянняў Вермахта, аператыўных груп паліцыі (Einsatzgruppen) і гаспадарчай службы на акупаваных землях. Яны датычыліся правядзення вайсковых аперацый, гаспадарчай эксплуатацыі, вынішчэння паасобных груп насельніцтва, абыходжання з ваеннапалоннымі і інш. Не было затое аніякіх цвёрдых рашэнняў наконт будучай адміністрацыйна-палітычнай развязкі. I калі 22.6.1941 г. нямецкія войскі ўваходзілі на тэрыторыю Беларусі, ніводная акупацыйная інстанцыя не арыентавалася ў справе прызначанага ёй палітычнага статуса.



# З НАДЗЕЯЙ НА ХУТКУЮ ПЕРАМОГУ (ЧЭРВЕНЬ — СНЕЖАНЬ 1941)

## САВЕЦКАЯ ЭВАКУАЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

Нямецкія войскі пад камандаваннем фельдмаршала фон Бока, якія ўваходзілі ў склад групы армій «Цэнтр», за першы тыдзень вайны занялі Гродна, Брэст, Маладзечна, Слуцк, Баранавічы, Мінск, Бабруйск — г. зн. практычна ўсю Заходнюю і Цэнтральную Беларусь. 9 ліпеня яны выйшлі на лінію Дняпра, 11 ліпеня занялі Віцебск, 13-га — Оршу, 15-га — Полацк, 16-га Смаленск і 26-га Магілёў. Астатняя, невялікая паўднёва-ўсходняя частка Беларусі акупавана ў другой палове жніўня: 19-га — Гомель, 22-га — Мазыр.

Толькі 29 чэрвеня, г. зн. назаўтра пасля таго як немцы занялі Мінск, Савет Народных Камісараў СССР і ЦК Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) накіравалі ў партыйныя і дзяржаўныя органы прыфрантавой паласы дырэктыву, у якой акрэсліваліся асноўныя задачы эвакуацыі (1). Яшчэ пазней — 3 ліпеня — гэтыя задачы прадставіў народу Сталін у сваёй прамове па радыё. Яны гучалі так: «Пры вымушаным адыходзе частак Чырвонай Арміі трэба ўганяць увесь рухомы чыгуначны састаў, не пакідаць ворагу ні аднаго паравоза, ні аднаго вагона, не пакідаць працўніку ні кілаграма хлеба, ні літра паліва. Калгаснікі павінны ўганяць усю жывёлу, хлеб здаваць пад захоўнасць дзяржаўным органам для вывазкі яго ў тылавыя раёны. Уся каштоўная маёмасць, у тым ліку каляровыя металы, хлеб і гаручае, якая не можа быць вывезена, павінна безумоўна знішчацца» (2).

Эвакуацыя насельніцтва на ўсход і перамяшчэнне альбо знішчэнне матэрыяльных здабыткаў і запасаў адыгрывала важную ролю ў савецкай абарончай стратэгіі. Гэтыя захады прымаліся савецкімі ўладамі з намерам пазбавіць немцаў магчымасці выкарыстання людскога і гаспадарчага патэнцыялу пакінутых земляў і адначасова яго эксплуатацыі ў сваіх абарончых інтарэсах.

Аднак хуткі наступ нямецкіх войскаў не дазволіў рэалізаваць гэтыя дырэктывы на абшарах Заходняй Беларусі і Міншчыны (3). Гэтая частка Беларусі толькі нязначна адчула на сабе вынікі савецкай эвакуацыі. Тут нават амаль не паспелі правесці мабілізацыю прызыўнікоў (4). Асабліва моцна (на 80 %) былі разбураны Мінск, але галоўнай прычынай гэтага былі налёты нямецкай авіяцыі (5).

Затое іншая сітуацыя панавала ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі: на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне і Палессі — тут савецкія ўлады мелі больш часу для эвакуацыйных захадаў. Варта разгледзець бліжэй вынікі гэтай акцыі, галоўным чынам, каб даць ацэнку становішча насельніцтва і гаспадарчага патэнцыялу Беларусі пасля прыходу нямецкіх войскаў.

6,5 тыс. чалавек, г. зн. амаль 85 % ад агульнай лічбы жаўнераў ва ўсёй Навагрудскай акрузе АК (49). Затое ў іншых раёнах Навагрудчыны, дзе Готбэрг не даваў спецыяльнага дазволу, вынікі мабілізацыі ў АК былі досыць сціплыя.

Напярэдадні адыходу немцаў сілы АК нямала зрабілі для таго, каб расправіцца з патэнцыяльнымі працўнікамі аднаўлення польскай улады на Навагрудчыне. Як падаваў Пільх, пачынаючы са снежня 1943 г. да канца чэрвеня 1944 г. члены яго атрада забілі каля 6 тысяч «бальшавікоў» (50). Думаецца, што пераважная частка забітых — гэта мірныя беларускія жыхары, якіх западозрылі ў сувязях з савецкімі партызанамі. Вынішчэнне беларусаў павялічылася і ў Лідскай акрузе. Паводле беларускіх крыніц, з сярэдзіны лютага да паловы красавіка 1944 г. ад рук акоўцаў там загінула некалькі тысяч чалавек (51).

Нямецкая адміністрацыя да канца акупацыі не спыняла заігрыванняў з акоўцамі на Беларусі і ў Літве, нягледзячы на вонкавы рост антынямецкіх дыверсійных выступленняў АК. У адрозненне ад нападаў савецкіх партызан гэтыя акцыі нават не знайшлі адлюстравання ў тагачасных нямецкіх дакументах. Акупацыйныя ўлады настолькі пераканаліся ў бяскрыўднасці Арміі Краёвай, што нават вырашылі паспрабаваць яе сілы выкарыстаць пры абароне Вільні ад Чырвонай Арміі (52). Разглядаўся нават праект склікання польскага прадстаўніцтва (Vertrauenstelle) у Літве (53), уступак у галіне асветы, культуры і г. д.

Аднак да такога супрацоўніцтва не дайшло, бо пад канец акупацыі, у ліпені, АК паспрабавала выбіць нямецкія войскі з Вільні. Гэтая аперацыя стала свайго роду гістарычнай індульгенцыяй АК, яна павінна была засведчыць, што ўсе стасункі з немцамі былі проста тактычнымі сродкамі, якія служылі іншай, вышэйшай мэце — умацаванню ўласных сіл дзеля адбудовы польскай дзяржаўнасці на ўсходніх абшарах.

Паводзіны Готбэрга ў справе развіцця беларускіх паліцэйскіх атрадаў, стварэння казацкіх батальёнаў, арганізацыі абаронных вёсак, нарэшце, ператварэнне часткі Слонімшчыны і Навагрудчыны ў «самаўладную рэспубліку» расійскай брыгады Камінскага (54) сведчаць аб тым, што ён перш за ўсё кіраваўся ўласнымі інтарэсамі ў барацьбе з савецкімі партызанамі, а не нейкімі меркаваннямі беларускай палітыкі. Пагэтаму меў рацыю Кляйст*, калі сцвярджаў, што Готбэрг быў працўнікам ранейшага курсу Кубэ.

Такім чынам, можна меркаваць, што ўсе змены, якія неўзабаве пачаліся ў гэтым напрамку і завяршыліся скліканнем Беларускай цэнтральнай рады (БЦР), былі вынікам ініцыятывы Астроўскага, а не Готбэрга. Смерць Кубэ нарэшце дазволіла апальнаму бела-

* Супрацоўнік апарату Розэнберга.— *А. Л.*



рускаму дзеячу вярнуцца на радзіму, дзе ён здаўна ўжо спадзяваўся стаць палітычным лідэрам. Не пазней за пачатак кастрычніка 1943 г. разам са штабам камандуючага цэнтральным адрэзкам фронту Клюге Астроўскі перабраўся са Смаленска ў Баранавічы. Тым часам у Мінску размясцілася смаленскае СД. Астроўскі пастараўся не страціць кантактаў, завязаных з вайсковымі і паліцэйскімі ўладамі ў Смаленску, і цяпер, маючы іх рэкамендацыі і падтрымку новага шэфа Готбэрга, адчуваў сябе на кані (55).

Несумненна, што менавіта Астроўскі (асабіста альбо праз пасрэдніцтва сваіх нямецкіх спонсараў) адразу ж узяўся за справу і паспяшаўся пераканаць Готбэрга ў мэтазгоднасці стварэння на Беларусі органа цэнтральнага самакіравання. Аднак ёсць нямала доказаў таго, што Готбэрг не адразу даў сябе ўгаварыць. Тры важкія акалічнасці перашкаджалі ажыццяўленню гэтага праекта: па-першае, берлінскія інструкцыі забаранялі стварэнне такога органа, па-другое, фармальна яшчэ існаваў Камітэт Даверу, але з ім Готбэрг супрацоўнічаць не хацеў, бо не мог пагадзіцца з пазіцыяй Іваноўскага, нарэшце, па-трэцяе, ён не верыў у магчымасці беларускага нацыяналізму і не спяшаўся разыгрываць гэтую карту. З другога боку, Готбэрг разумеў, што такі орган адыграе пэўную прапагандысцкую ролю і стане карысным інструментам у барацьбе з партызанамі.

Свае праекты і апасенні ў галіне беларускай палітыкі Готбэрг упершыню прадставіў на канферэнцыі, якая адбывалася ў ОМі 22—23.11. 1943 г. У ёй прымалі ўдзел вышэйшыя кіраўнікі гэтага міністэрства на чале з пастаянным намеснікам Розэнберга — Мэерам (56). Готбэрг па-ранейшаму не выказваў да беларусаў даверу, абвінавачваў у супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі, даводзіў, што яны не ведаюць уласнай мовы, быў супраць адкрыцця культурных установ накшталт Мінскага тэатра і лічыў, што культурная праца не павінна выходзіць па-за межы самага прымітыўнага ўзроўню. Тым не менш ён выказаўся за як мага хутчэйшае выданне школьных падручнікаў, за далейшую працу арганізацый Самапомачы і Саюза беларускай моладзі, бо лічыў, што ў грамадстве яны адыгрываюць станоўчую прапагандысцкую ролю.

У той момант Готбэрг палічыў, што стварэнне органа, пра які так старанна клапаціўся Астроўскі,— справа другарадная. У агульных фразах, нават не падаўшы яго будучай назвы, не акрэсліўшы кола яго паўнамоцтваў, Готбэрг паведаміў толькі, што такі орган мог бы выконваць некаторыя дарадчыя функцыі. У прыватнасці, ён тады не праводзіў ніякай сувязі паміж праектам склікання БЦР і развіццём беларускіх узброеных сіл, што між тым пазнейшыя даследчыкі палічылі за галоўны матыў яе стварэння. Калі ўжо казаць дакладна, дык на гэтай канферэнцыі Готбэрг вёў гаворку не пра стварэнне новага органа, а пра актывізацыю раней створанай Рады Даверу, каб такім чынам пераканаць удзельнікаў канферэнцыі, што выданне

Калі браць фармальна, у гэтай ацэнцы павінна ўлічвацца ўся тэрыторыя тагачаснай БССР плошчаю 225,7 тыс. км$^2$ (гл. табл. 3), бо яе змены адбыліся ўжо пасля вайны, у выніку чаго яна паменшала да 207,6 тыс. км$^2$. Аднак на практыцы гэта не заўсёды ўдаецца, таму што апублікаваныя пасля вайны вынікі савецкай эвакуацыі і іншых захадаў пры адступленні, а таксама памеры людскіх і гаспадарчых страт, якія адбыліся па віне нямецкіх акупацыйных органаў, датычацца сучаснай тэрыторыі БССР, без той часткі Брэстчыны і Беласточчыны, якая пасля вайны далучылася да Польшчы (6). Пагэтаму ўсюды, дзе гэта не будзе агаворвацца спецыяльна, прадстаўленыя ацэначныя даныя эвакуацыі датычацца сучаснага абшару Беларусі.

**Табліца 3. Тэрыторыя і насельніцтва Беларускай ССР (стан на 1.1.1941)**

| | Тэрыторыя (тыс. км$^2$) | Насельніцтва (тыс. чал.) |
|---|---|---|
| **Беларуская ССР увогуле** | 225,7 | 10454,9 |
| у т. л. | | |
| усходнія вобласці | 127,3 | 5640,0 |
| Гомельская | 15,8 | 917,1 |
| Мінская | 28,3 | 1347,2 |
| Магілёўская | 28,9 | 1402,7 |
| Палеская | 26,0 | 680,0 |
| Віцебская | 28,3 | 1293,0 |
| заходнія вобласці | 98,4 | 4815,5 |
| Баранавіцкая | 23,3 | 1184,4 |
| Беластоцкая | 20,9 | 1368,8 |
| Брэсцкая | 17,2 | 790,4 |
| Пінская | 16,3 | 533,6 |
| Вілейская | 20,7 | 938,3 |

*Крыніца:* Раков А. Население БССР. Мн., 1969. С. 8.

**Насельніцтва.** Агульная колькасць жыхароў Беларускай ССР у цяперашніх межах на 1.1.1941 г. была роўная 9183 тыс. чал. Доля вясковага насельніцтва складала каля 80 %, у тым ліку ва ўсходніх абласцях — 74 %. Нацыянальную структуру насельніцтва Беларусі напярэдадні вайны можна акрэсліць толькі прыблізна. Паводле перапісу 17.12.1926 г., сярод жыхароў усходніх абласцей беларусы складалі 80,6 %; яўрэі — 8,2 %, расійцы — 7,7 %; палякі — 2,0 %. Але ў выніку перасяленняў у 30-ых гг. колькасць беларусаў у працэнтнай структуры паменшала.

Яшчэ цяжэй даць ацэнку насельніцтва заходніх абласцей. Паводле польскага перапісу 9.12.1931 г., 48,7 % мясцовых жыхароў палічылі за родную беларускую, «рускую» або «тутэйшую» мову, 38,8 % — польскую; 8,4 % — яўрэйскую; 1,7 % — украінскую; 1,7 % — расійскую. Гэтыя даныя не адлюстроўвалі сапраўднага



стану. Пра тое сведчыць наступны факт: доля праваслаўнага насельніцтва — 57,4 % — аказалася больш за тую, што разам складала жыхарства з беларускай, «рускай», «тутэйшай», украінскай або расійскай мовай (7). Пагэтаму можна вызначыць працэнт беларускамоўнага насельніцтва разам з яго каталіцкай часткай, нешта каля 65 %. У 1940—1941 гг. ён павялічыўся. З аднаго боку, гэтаму спрыяў наплыў службоўцаў, настаўнікаў і т. п. з Усходняй Беларусі, з другога боку — уздзейнічала распачатая савецкімі ўладамі дэпартацыя, якая найбольш закранула польскае насельніцтва. Аднак ацэнка долі беларускага жыхарства на гэтых абшарах напярэдадні нямецкага нашэсця, якую прыводзяць савецкія аўтары,— звыш 80 % — выглядае перабольшана (8). Напэўна, яна абмяжоўвалася — 70—75 %.

Паводле перагледжаных даных, летам 1941 г. савецкія ўлады на Беларусі мабілізавалі для службы ў Чырвонай Арміі каля 500 тыс. чалавек і эвакуіравалі звыш 1,5 млн. яе жыхароў (9). Разам гэта складала каля 2,0 млн. чалавек, г. зн. прыблізна 22 % ад усяго насельніцтва БССР у цяперашніх межах. Як паведамляюць М. М. Загарулька і А. Х. Юдзянкоў, тут не ўлічваліся рабочыя і інжынерныя спецыялісты, якія былі перавезены на ўсход разам з сваімі прадпрыемствамі і ўстановамі, а таксама тыя людзі, што рушылі ў эвакуацыю з уласнай ініцыятывы і на сваім транспарце (10). З улікам гэтых катэгорый насельніцтва агульная лічба мабілізаваных у войска і вывезеных у глыб СССР павінна яшчэ павялічыцца.

Мабілізацыя і эвакуацыя ў паасобных рэгіёнах адбывалася паразнаму. У Заходняй Беларусі гэтыя акцыі закранулі галоўным чынам нядаўніх прыбыльцаў — савецкіх дзяржаўных і партыйных функцыянераў. Затое карэннае насельніцтва ў большасці сваёй засталося на месцы. Прычынаю такіх паводзін стаў не толькі хуткі наступ нямецкіх войскаў. Значыў тут і вопыт 1939—1941 гг., які не спрыяў эвакуацыйным тэндэнцыям. Таму пераважная большасць эвакуіраванага насельніцтва паходзіла з Усходняй Беларусі, дзе, за выключэннем Міншчыны, савецкія ўлады паспелі разгарнуць адпаведную кампанію. Такім чынам, у выніку эвакуацыі і мабілізацыі колькасць жыхароў у гэтай частцы рэспублікі паменшала прыкладна на 35 %. Яшчэ больш знізіўся ўзровень насельніцтва ў Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Палескай абласцях.

**Прамысловасць.** У 1940 г. на Беларусі пражывала 4,8 % насельніцтва СССР, тады як яе ўдзел у агульнасаюзнай вытворчасці не перавышаў 2 % (11). У пераліку на душу насельніцтва ўзровень прамысловай прадукцыі быў, такім чынам, ніжэйшы ў 2,4 раза ў параўнанні з сярэднім па СССР. Тагачасная беларуская энергетыка працавала галоўным чынам на торфе і драўніне і пастаўляла 0,5 млрд. квт. гадз. электраэнергіі; г. зн. 55 квт. гадз. на аднаго жыхара, або ў 4,6 раза менш, чым у сярэднім па СССР (252 квт.

нейкіх дадатковых прававых актаў у гэтай справе не спатрэбіцца. Готбэрг спадзяваўся, што такім шляхам яму ўдасца абмінуць складаную фармальную працэдуру.

Вынікі канферэнцыі ўказваюць на тое, што Готбэрг усё ж такі збіраўся выкарыстаць праект Астроўскага, але надышоў канец лістапада, а справа не рушылася з месца. Усё ўпіралася ў праблему кіраўніцтва: стаць старшынёю рэарганізаванай Рады Даверу Астроўскі мог толькі пасля таго, як гэтую пасаду пакіне Іваноўскі. Аднак Готбэрг, хаця і быў зацікаўлены ў тым, каб пазбыцца Іваноўскага, не стаў яго звальняць ці патрабаваць, каб ён падаў у адстаўку, а пакінуў гэтую справу Астроўскаму і яго прыспешнікам.

Спачатку яны думалі, што ананімнымі лістамі ім удасца запалохаць Іваноўскага і прымусіць яго пакінуць Мінск, але спроба не ўдалася (57). І тады пачалася падрыхтоўка да пакушэння. 6 снежня, калі Іваноўскі ў адкрытай брычцы вяртаўся дадому з гарадской управы, на яго напалі двое мужчын, адзін з якіх — Аляксандр Камінскі — раней служыў у мінскай паліцыі і «ўцёк» у партызаны,— прагучала некалькі стрэлаў. Іваноўскі быў паранены, але не смяртэльна. Яго адразу ж перавезлі ў гарадскі шпіталь і кінулі без лекарскай дапамогі. Назаўтра, 7.12. 1943 г., Вацлаў Іваноўскі памёр (58). Готбэрг ужо 23 лістапада, падчас ужо згаданай канферэнцыі, выразна намякаў на тое, што на Іваноўскага рыхтуецца пакушэнне і выканаюць яго самі беларусы. Ён звязаў гэта з неабходнасцю актывізацыі Рады Даверу (59). Адказнасць за смерць Іваноўскага кладзецца як на плечы Астроўскага, так і Готбэрга — першы быў ініцыятарам пакушэння, другі ведаў пра яго ад пачатку і дазволіў, каб яно адбылося.

Са смерцю Іваноўскага знікла апошняя перашкода на шляху Астроўскага да БЦР. Неўзабаве пасля пакушэння, 19.12.1943 г., акругова баранавіцкі камісар Рудольф Вэрнер склікаў сход мясцовага актыву, на якім кандыдатуру Астроўскага вылучылі на пасаду прэзідэнта БЦР (60). Гэта і быў той самы «выраз народнага даверу», на які пазней спасылаліся Готбэрг і Астроўскі.

Праз два дні, 21.12. 1943 г., у Мінску адбыўся ўрачысты сход, на якім Готбэрг абвясціў стварэнне Беларускай цэнтральнай рады і прызначыў Астроўскага яе прэзідэнтам. Тут жа быў апавешчаны статут, у якім БЦР іменавалася прадстаўніцтвам беларускага народа, а яе галоўнай мэтаю ставілася мабілізацыя ўсіх нацыянальных сіл на барацьбу з бальшавізмам. Прадстаўляць акупацыйным уладам прапановы па гэтай праблеме стала правам і абавязкам БЦР. Адсюль вынікае, што Рада павінна была стаць, галоўным чынам, дарадчым органам, аднак у некаторых галінах (сацыяльная апека, культура і школьніцтва) яна мела права на самастойныя рашэнні і магла распараджацца ад уласнага імя (61).

Дарэчы, ва ўрачыста зачытаным статуце не было ніякіх спасылак на нейкія загады альбо іншыя рашэнні цэнтральных берлінскіх улад, якія маглі б лічыцца прававой падставай дзейнасці БЦР. І сапраўды, такой падставы не існавала: БЦР узнікла ў выніку рэарганізацыі Рады (дакладней кажучы — Камітэта Даверу), прычым Готбэрг выкарыстаў плён свайго папярэдніка — Кубэ. Аднак БЦР не з'яўлялася фармальным працягам Камітэта Даверу, які быў толькі адміністрацыйнай камісіяй Генеральнага камісарыята, а не асобным беларускім органам. Функцыі і паўнамоцтвы БЦР і Камітэта Даверу былі розныя, таму такая рэарганізацыя стала толькі прыкрыццём для самавольных рашэнняў Готбэрга. Берлінскае начальства закрывала вочы на гэтую прававую фікцыю, тым больш што яе аўтарам быў чалавек СС, а ў Мінску ніхто не спрабаваў спецыяльна ў гэтым разабрацца.

Ва ўрачыстай прамове з нагоды абвяшчэння БЦР Готбэрг паабяцаў паляпшэнне жыццёвых умоў: павелічэнне заробкаў, забеспячэнне харчовымі і прамысловымі таварамі, медыцынскімі паслугамі і прызваў насельніцтва да арганізацыі абаронных вёсак. Беларускі народ, якому яшчэ зусім нядаўна ў Берліне ён выказваў недавер, цяпер Готбэрг называў не іначай як «фанатычным ворагам бальшавізму». Нядаўні праціўнік развіцця беларускай навукі і культуры, які лічыў адкрыццё Мінскага тэатра залішняй раскошай, цяпер пракламаваў іх росквіт (62). Готбэрг разлічваў, што гэтыя тыпова прапагандысцкія дэкларацыі створаць уражанне змены кірунку нямецкай палітыкі на Беларусі, а заадно адцягнуць увагу ад сапраўднай сутнасці новага органа.

Апрача фармальных паўнамоцтваў, пералічаных ва ўступнай частцы, у статуце БЦР былі пункты, якія абмяжоўвалі яе дзейнасць толькі тымі заданнямі, якія выстаўлялі перад ёй акупацыйныя ўлады. Абмежаванні датычыліся нават такіх накірункаў дзейнасці БЦР, дзе яна мела права на самастойныя рашэнні: культуры, школьніцтва і сацыяльнай апекі. Усе распачынанні ў гэтых галінах павінны былі прадстаўляцца на разгляд акупацыйных улад. Прэзідэнт БЦР прызначаўся і здымаўся з пасады паводле рашэння генеральнага камісара, згодна з прапановамі прэзідэнта ён прызначаў таксама і членаў Рады (63). Такім чынам, БЦР нават з фармальнага пункту погляду не была самастойным органам. Варта адзначыць, што ані ў статуце, ані ва ўрачыстай уводнай прамове Готбэрга нічога не гаварылася пра задачы БЦР у вайсковай галіне. У рэшце рэшт, 21 снежня стала днём абвяшчэння БЦР, а не яе стварэння, бо, апрача Астроўскага, не быў яшчэ прызначаны ні адзін член Рады. Значыцца, Готбэрг дзейнічаў вельмі асцярожна.

Астроўскага гэта як быццам бы не расчаравала. У адказ на прамову Готбэрга ён выказаў разуменне, што ў час вайны нельга разлічваць на поўнае і канчатковае вырашэнне беларускага пытання, але заявіў, што не траціць надзеі на вырашэнне гэтай праблемы

гадз. ) і ўдвая менш, чым ў даваеннай Польшчы (1938 г. — 113 квт. гадз.), якая ў гэтай галіне займала далёкае месца ў Еўропе. Гэтыя паказчыкі адлюстроўваюць нізкі тагачасны патэнцыял і тэхнічны ўзровень беларускай прамысловасці, якая, за выключэннем машынабудаўніцтва і металаапрацоўкі (15,2 % ад агульнай вытворчасці), грунтавалася на перапрацоўцы мясцовай сыравіны — сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай. У 1940 г. больш за 90 % прамысловай прадукцыі БССР прыходзілася на ўсходнія раёны: 23,1— на Віцебск; 21,2 % — на Мінск; 16,6 % — на Гомель і 11,5— на Магілёў. Гэтыя чатыры гарады агулам давалі 72,4 % прамысловай прадукцыі рэспублікі (12).

З названых усходніх раёнаў было эвакуіравана ўсяго 109 вялікіх і сярэдніх прадпрыемстваў, сярод іх 90 аб'ектаў — з Віцебска, Гомеля і Магілёва. Кошт сродкаў вытворчасці — машын і абсталявання — на гэтых прадпрыемствах ацэньваўся ў 478,1 млн. рублёў. Гэта была палова ад сумы ўсіх асноўных фондаў Усходняй Беларусі (13). Акрамя таго, шмат прадпрыемстваў былі часткова дэманціраваны і знішчаны. З іх вывезлі 3200 металаапрацоўчых станкоў, 8933 тэкстыльныя, трыкатажныя і шавецкія машыны, 8664 рухавікі, 18 турбагенератараў з агульнай магутнасцю 32 тыс. квт (ва ўсёй Усходняй Беларусі яна складала 105,3 тыс. квт), 69 тнасфарматараў, 845 тон каляровых металаў і 3366 вагонаў іншай сыравіны і гатовых вырабаў (14). Такім чынам, на тэрыторыі, дзе эвакуацыя праводзілася планамерна, г. зн. у Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абласцях, прамысловая вытворчасць была ў значнай ступені падарвана. Затое ў Мінску прадпрыемствы панеслі толькі частковыя страты, а ў заходніх рэгіёнах увогуле ўцалелі.

**Сельская гаспадарка.** Паводле перагледжаных звестак, летам 1941 г. з Беларусі на ўсход было адагнана 674 тыс. (без коней) галоў жывёлы (15). Апрача таго, калгасы перадалі ў распараджэнне Чырвонай Арміі 36 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы і 11 тыс. свіней. Разам гэта складала 721 тыс. галоў — амаль 9 % ад усяго пагалоўя рэспублікі, прычым статак буйной рагатай жывёлы зменшыўся амаль на 440 тыс. галоў, або на 15,4 %. Савецкія крыніцы не падаюць звестак пра маштабы зарэзу скаціны часцямі Чырвонай Арміі, канторай «Заготжывёла» і сялянамі, што адбывалі ў эвакуацыю або заставаліся на месцы. Між тым гэта былі сур'ёзныя страты, улічваючы іх, можна меркаваць, што пагалоўе жывёлы на Беларусі пры ўваходзе нямецкіх войскаў аказалася на 20—25 % ніжэйшае, чым у пачатку 1941 г. Верагодна, што ў такой самай ступені паменшала і пагалоўе свіней — адганяць іх на вялікую адлегласць было нельга, таму часцей забівалі на месцы. Значна зменшылася і конскае пагалоўе пасля рэквізіцый, якія праводзілі пры адступленні атрады Чырвонай Арміі.

Савецкія эвакуацыйныя мерапрыемствы ў галіне сельскай гаспа-



**Табліца 4. Эвакуацыя жывёлы з Беларускай ССР (тыс. галоў)**

А — агульны ўзровень пагалоўя на 1.1.1941 г.

В — колькасць жывёлы, якая была эвакуіравана летам 1941 г.

| | Коні | | Буйная рагатая жывёла | | Свінні | | Авечкі і козы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | А | В | А | В | А | В | А | В |
| Беларуская ССР цалкам (у сучасных межах) | 1170,3 | — | 2843,6 | 395,3 | 2520,4 | 15,5 | 2577,9 | 245,0 |
| у тым ліку: | | | | | | | | |
| заходнія вобласці | 572,8 | — | 1221,9 | 0,0 | 1109,8 | 0,0 | 1364,7 | 0,0 |
| усходнія вобласці | 597,5 | — | 1621,7 | 395,3 | 1410,6 | 15,5 | 1213,2 | 245,0 |
| Гомельская | 94,8 | — | 228,0 | 65,3 | 209,6 | 9,5 | 115,8 | 70,4 |
| Мінская | 129,9 | — | 367,3 | 15,0 | 398,6 | — | 284,9 | 5,0 |
| Магілёўская | 166,5 | — | 384,0 | 70,0 | 379,2 | 3,5 | 298,2 | 27,0 |
| Палеская | 71,5 | — | 305,6 | 115,0 | 180,6 | 2,5 | 193,5 | 42,6 |
| Віцебская | 134,8 | — | 336,8 | 130,0 | 242,9 | — | 320,8 | 100,0 |

*Крыніца:* Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры БССР к началу Великой Отечественной войны. Без м. выд., 1943, в. 148; Народное хозяйство Белорусской ССР. М., 1966. С. 102.

«згодна з інтарэсамі беларускага народа — саюзніка вялікага нямецкага народа». Ён выказаў словы падзякі і вернасці і заклікаў народ да супрацоўніцтва з Германіяй і супольнай барацьбы «да канчатковае перамогі» (64). Астроўскі ведаў межы сваёй кампетэнцыі і разумеў апасенні Готбэрга, пагэтаму вырашыў абраць тактыку малых крокаў і адваёўваць уступкі спакваля, паступова.

Астроўскі вырашыў зрабіць першую стаўку на тое, што зараз было найбольш патрэбна Готбэргу і што ён сам трымаў цяпер у сваіх руках,— на прапаганду. Адразу ж пасля абвяшчэння БЦР з дапамогай мясцовых службаў БНС у правінцыі ён арганізаваў шматлікія маніфестацыі падтрымкі БЦР пад лозунгамі беларускай незалежнасці і барацьбы з партызанскім рухам (65). 10.1.1944 г. Астроўскі выступіў з адозвай да народа, якая распаўсюджвалася па ўсіх даступных каналах масавай інфармацыі (66). Ён заклікаў партызан і жыхароў, што знаходзіліся пад лясною аховай, адмовіцца ад супраціўлення і вярнуцца дадому (67). Да гэтай акцыі была падключана і праваслаўная царква (68). Такой інтэнсіўнай прапаганды на Беларусі не бачылі ад пачатку акупацыі.

На самай справе ўся гэтая ўзмоцненая апрацоўка галоў вялася дзеля таго, каб падрыхтаваць беларускае грамадства да вайсковай мабілізацыі. Готбэрг, праўда, яшчэ не атрымаў дазволу на гэта з Берліна, але спадзяваўся, што неўзабаве справа вырашыцца. Пра тое сведчылі прыгатаванні да мабілізацыі ў Прыбалтыцы. Толькі ў гэты момант нарэшце была склікана Рада БЦР. 22 студзеня адбылося т. зв. канстытуцыйнае пасяджэнне Рады, на якім быў публічна абвешчаны яе 14-асабовы склад на чале з прэзідэнтам Астроўскім і двума яго намеснікамі — Шкялёнкам і Сабалеўскім (69). 24 студзеня было створана 12 аддзелаў БЦР, сярод іх — вайсковы, кіраўніком якога прызначылі Кушаля (70).

У лютым, пасля распараджэння Гітлера аб правядзенні на Беларусі мабілізацыі, у БЦР адбыліся новыя перамены. 23 лютага Готбэрг «у адказ на прапанову прэзідэнта БЦР ад 18.2.1944 г.» выдаў загад аб стварэнні Беларускай краёвай абароны (далей — БКА) і даручыў БЦР правесці на пэўных абшарах Генеральнага камісарыята Беларусі вайсковую мабілізацыю (71). БЦР адразу ж узялася за падрыхтоўку гэтай акцыі. 25 лютага ў Мінску адбыўся вялікі мітынг, на якім так званы «беглы» капітан Чырвонай Арміі Ігар Капор «выкрыў» тайны загад Сталіна аб поўным вынішчэнні беларускага народа, пасля чаго была падрыхтавана рэзалюцыя аб гатоўнасці гэтага народа да барацьбы з бальшавізмам (72). У той самы дзень БЦР празначыла сваіх акруговых камендантаў у Мінску, Баранавічах, Глыбокім, Навагрудку, Слоніме, Слуцку і Вілейцы. Ім было загадана ўзначаліць працу прызыўных камісій ў сваіх акругах (73).

Готбэрг разумеў, што, калі адзінай справаю БЦР будзе мабілізацыя, ніякай грамадскай папулярнасці ёй гэта не прынясе, і таму, згодна з раней аб'яўленай праграмай, вырашыў пашырыць яе паўнамоцтвы і ў іншых галінах. Для народа гэта магло б стаць сведчаннем аўтарытэта Рады і яе самастойнасці. Пра гэта Готбэрг гаварыў 1 сакавіка на чарговай канферэнцыі ў ОМі, прычым падкрэсліваў, што акупацыйныя ўлады, калі б яны перадаручылі БЦР некаторыя галіны адміністрацыі, па-ранейшаму маглі б трымаць іх пад сваім кантролем і агульным кіраўніцтвам (74). Аднак з чыста фармальнага боку вырашыць такое пытанне было вельмі цяжка, паколькі ОМі не магло кіраваць дзейнасцю БЦР — яно не дало санкцыі на яго стварэнне. Пры гэтым «паўнамоцтвы» БЦР у вайсковай галіне не мелі істотнага значэння — падобная мабілізацыя праводзілася таксама і на іншых абшарах Беларусі, якія знаходзіліся па-за межамі Генеральнага камісарыята і не падлягалі кампетэнцыі БЦР.

Пагэтаму Готбэргу даводзілася дзейнічаць так, каб атрымаць як мага большы прапагандысцкі эфект і адначасова не парушыць інструкцый свайго начальства. Такім чынам, 1 сакавіка ён апублікаваў у сваім афіцыйным весніку статут БЦР, пазначыўшы яго заднім чыслом — 21.12.1943 г., са спасылкай на распараджэнне Розэнберга ад 24.4.1942 г., якое ўсё ж не давала права на стварэнне такога органа. У лютым ён дазволіў Астроўскаму прызначыць сваіх акруговых намеснікаў, якія тэарэтычна павінны былі заняцца фарміраваннем мясцовага апарату БЦР, а на самай справе — сачыць за правядзеннем мабілізацыйнай кампаніі. Пагэтаму іх не сталі прызначаць у тых акругах, дзе не праводзілася мабілізацыя (Лідская, Ганцавіцкая і Барысаўская акругі). Готбэрг пагадзіўся, каб БЦР пераняла на сябе кіраўніцтва арганізацыямі Самапомачы, але ніякага практычнага значэння такая іх перадача не мела, бо сацыяльная апека па-ранейшаму заставалася ў руках акруговых камісараў. Тое самае адбылося і ў галіне народнай асветы. 21 лютага Готбэрг загадаў акруговым камісарам перадаць БЦР школьныя справы, аднак аддзелы асветы і школьныя інспектараты да канца акупацыі заставаліся ў штаце акруговых камісарыятаў (75). Цяпер акруговыя ўпаўнаважаныя БЦР маглі толькі аказваць нейкі ўплыў на школьную працу.

Трэба заўважыць, што пытанне ўлады было цесна звязана з пытаннем фінансавання гэтых галін грамадскага жыцця. БЦР існавала на датацыі Генеральнага камісарыята, не маючы ўласнага бюджэту, і гэта зноў жа было вынікам яе юрыдычнага становішча. Пагэтаму «рэальна» яна магла распараджацца толькі ў такіх сферах дзейнасці, дзе не магло паўстаць фінансавых праблем. Да такіх належалі Беларускае навуковае таварыства, Беларускае культурнае згуртаванне (яно было створана ў пачатку лютага 1944 г.), бібліятэкі, што дагэтуль былі ўвогуле зачыненыя, а таксама народныя дамы. Тое самае было і з Мінскім гарадскім тэатрам — у красавіку 1944 г. па-

даркі гэтак жа, як у выпадку з насельніцтвам і прамысловымі прадпрыемствамі, у найбольшай ступені закранулі ўсходнія вобласці — Віцебскую, Магілёўскую, Гомельскую і Палескую. Толькі ў выніку эвакуацыі агульнае пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў гэтых абласцях зменшылася на 30 %, авечак — на 26 % (гл. табл. 4). Калі дадаць сюды пастаўкі жывёлы для Чырвонай Арміі і не адлюстраваныя ў справаздачах факты забою — узровень пагалоўя ў чатырох усходніх абласцях аказваецца ў гэтым выпадку амаль на палову ніжэйшы ў параўнанні з 1941 г. (16).

У яшчэ большай ступені скараціліся ва ўсходніх абласцях БССР запасы збожжа і хлебных прадуктаў. З агульнай іх колькасці — 151,5 тыс. тон — было вывезена на ўсход або выкарыстана нейкім іншым чынам 81,2 тыс. тон, або 54 %; знішчана 42,5 тыс. тон, або 28 % (17). Астатак часткова быў падзелены савецкімі органамі паміж людзьмі, часткова разграблены насельніцтвам (18). Савецкія ўлады імкнуліся знішчыць таксама і няжатую збажыну, ім гэта ўдалося ў некаторых раёнах Усходняй Беларусі (19). Савецкі гісторык А. Фактаровіч, спрабуючы прывесці сапраўдныя памеры гэтай апусташальнай кампаніі, даводзіць, што яна не датычылася той часткі пасеваў, якую ўлады падзялілі сярод людзей пры эвакуацыі (20). Але гэтую ацэнку не пацвярджаюць шматлікія лістоўкі, якія раскідаліся з самалётаў у зоне нямецкай акупацыі (напрыклад, пад Магілёвам), у іх савецкія ўлады заклікалі калгаснікаў да знішчэння ўраджаю. Гэтыя заклікі, аднак, ігнараваліся насельніцтвам (21).

Важнае месца ў эвакуацыйнай палітыцы савецкіх улад займала ліквідацыя сродкаў сельскагаспадарчай вытворчасці на пакінутых землях. Было вывезена амаль 5000 трактароў (а разам з імі — больш за 3900 трактарыстаў), 223 збожжавыя камбайны і мноства іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, у дадатак перададзена ў распараджэнне арміі 600 цягачоў і 400 камбайнаў. Гэта складала адпаведна 54 % цягачоў і 37 % камбайнаў ад агульнарэспубліканскай гаспадаркі ў пачатку 1941 г. Адначасова для вайсковых патрэб перадавалася вялікая колькасць коней. Такія захады таксама закранулі галоўным чынам усходнія раёны Беларусі, дзе сельская гаспадарка засталася без значнай цяглавай сілы, як механічнай, так і коннай.

Асабліва выяўны характар у час савецкай эвакуацыі набыла дзейнасць груп знішчэння, т. зв. «истребительных батальонов», сярод іх заданняў значылася, між іншым, руйнаванне будынкаў агульнаграмадскага ўжытку, жылых дамоў і іншых публічных збудаванняў. У батальёны набіралі часцей за ўсё камсамольцаў, якія не падпадалі пад мабілізацыю. На Беларусі яны дзейнічалі на падставе дырэктывы ЦК Кампартыі Беларусі ад 23.06.1941 г. (22), аднак іх арганізоўвалі таксама і ў Літве, што пацвярджае існаванне



адзінага распараджэння, якое зыходзіла ад цэнтральных савецкіх улад.

Яны, аднак, не паўсюль маглі выканаць свае заданні, руйнуючы здабыткі і сродкі існавання цывільнага насельніцтва з разлікам прымусіць яго да эвакуацыі. Так, на заходнебеларускіх абшарах вынікі гэтай дзейнасці былі даволі сціплыя. Прычынаю тут стаў не толькі хуткі прыход немцаў, але і супраціўленне насельніцтва, якое старалася абараніць сваю маёмасць. Ды і мясцовыя камсамольцы не выявілі асаблівай руплівасці пры выкананні такіх загадаў. Інакш выглядала справа на ўсходзе Беларусі. Тут дзейнасць «истребительных батальонов» падтрымлівалася сіламі арміі. Вынікам падобных аперацый сталі значныя спусташэнні на Віцебшчыне, між інш., амаль цалкам былі спалены Віцебск і Полацк (23). На ўсход ад Барысава таксама паліліся грамадскія і жыллёвыя будынкі (24). Страты, панесеныя ад дзейнасці гэтых груп, ніколі не выяўляліся і не падлічваліся. Пасля вайны іх спісвалі на нямецкіх акупантаў.

У выніку эвакуацыі значная частка людскіх і матэрыяльных рэсурсаў Беларусі паслужыла для абароны СССР. Затое для германскай ваеннай гаспадаркі вынікі гэтай кампаніі не мелі вялікага значэння. Немцы не пераацэньвалі прамысловага патэнцыялу БССР і не вельмі разлічвалі на яго выкарыстанне. Эвакуацыя не стварыла асаблівых перашкод для забеспячэння харчамі нямецкага войска і акупацыйнай адміністрацыі, бо з насельніцтва іх спаганялі самым няшчадным чынам. Таму востры дысбаланс паміж павялічаным попытам і паніжаным прапанаваннем харчовых сродкаў найперш лёг цяжарам на плечы мясцовага цывільнага насельніцтва.

Такім чынам, эвакуацыя прынесла савецкім уладам не толькі пэўную матэрыяльную карысць. Яна выконвала важную палітычную ролю і была разбуральным фактарам у грамадскім жыцці акупаванай Беларусі, пагаршаючы бытавыя цяжкасці яе насельніцтва. На гэта было разлічана, між іншым, згаданае руйнаванне жылых дамоў і людскіх здабыткаў, якое не змяшчаецца ў эканамічныя катэгорыі барацьбы. Сталін ужо ў сваёй прамове па радыё 3 ліпеня сфармуляваў задачы мабілізацыі насельніцтва для партызанскай барацьбы і стварэння на акупаваных абшарах «нясцерпных умоў для ворага і яго прыспешнікаў» (25). Гэта было грознае прадвесце; абвяшчэнне бязлітаснай барацьбы, дзе не браліся ў разлік бытавыя інтарэсы насельніцтва. Ва ўмовах голаду, галечы і адсутнасці даху над галавой куды больш было шанцаў на тое, каб уцягнуць народ у антынямецкія выступленні. Гэтае выказванне сведчыла яшчэ аб адным: савецкія ўлады адмаўляліся ад усялякіх форм грамадскай дзейнасці, якія дапамаглі б забяспечыць людзям пад акупацыяй элементарную ахову здароўя і маёмасці. Прызнавалася толькі барацьба.

Гэтыя намеры знайшлі рэалізацыю ва Усходняй Беларусі. Гра-

сля рамонту ён быў перададзены пад кіраўніцтва БЦР, але фінансавала яго па-ранейшаму гарадская ўправа. Усе гэтыя перамены на самай справе мала што давалі, аднак вакол іх раздзімалі шумную прапаганду. Маляваліся пышныя планы на будучыню, праекты развіцця народнай асветы, адкрыццё універсітэта і іншых вышэйшых школ, пабудовы новых тэатраў, пенсіённыя праграмы і г. д., як быццам бы не існавала Чырвонай Арміі і акупацыя павінна была працягвацца вечна (76).

Аднак уся гэтая прапагандысцкая пальба вялася з дальнім прыцэлам, каб стварыць уражанне, што на Беларусі і сапраўды паўстаў краёвы орган улады, і ад яго імя абвясціць мабілізацыю ў «нацыянальнае» войска, бо менавіта так растлумачвалі мэты мабілізацыі і характар БКА. Але нічога агульнага з сапраўднымі намерамі Готбэрга тут не было. 1 сакавіка, на ўжо згаданай канферэнцыі ў ОМі, ён прадставіў праект стварэння ў Беларусі на працягу 4—6 тыдняў антыпартызанскага фарміравання, т. зв. Kampfgruppe von Gottberg, сілаю 20 тыс. чалавек. У яго павінны былі ўліцца казацкія і каўказскія часці, брыгада Камінскага і беларускія батальёны (77). Такім чынам, БКА была задумана як адно з гэткіх фарміраванняў Готбэрга. Праўда, ён не называў праектаванага колькаснага складу БКА, але з тых даных, якія прадставіў, можна зразумець, што гаворка вялася пра 10-тысячны кантынгент (78).

Амбіцыі Астроўскага сягалі значна вышэй: паводле яго загаду аб мабілізацыі, на прызыўныя пункты склікалі каля 40 тыс. мужчын (79). І гэта зрабіла вялікае ўражанне. Пра гэта не толькі гаварыў сам Астроўскі і пісалі тагачасныя газеты, якіх можна падазраваць у тэндэнцыйнасці, але і Готбэрг, і акруговыя камісары адзначалі ў сваіх справаздачах, што мабілізацыя прайшла ўдала і толькі гаспадарчыя ўмовы не дазволілі дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў (80). Навагрудскі акруговы камісар паведамляў, што на яго тэрыторыі мабілізацыйнае распараджэнне выканана амаль поўнасцю, прытым частка прызыўнікоў з'явілася нават з тых раёнаў, дзе гаспадарылі партызаны (81). За малым выключэннем так было паўсюль, рэдкім дысанансам прагучала справаздача слонімскага акруговага камісара: ён пісаў, што прызыўнікі ўкрываюцца ад мабілізацыі (82), аднак, магчыма, тым ён хацеў апраўдаць асабістае, вельмі адмоўнае, стаўленне да такой акцыі (83). Кіраўніцтва польскага падполля ўважліва сачыла за ходам мабілізацыі і атрымлівала інфармацыю аб яе масавым характары (84), а камандуючы АК паведамляў: «Беларусы — цалкам за немцаў пасля апошніх уступак, большасць з іх ідзе ў войска ахвотна» (85).

Аднак Готбэрг не планаваў ствараць 40-тысячнае войска: гэта пагражала зрывам працы многіх патрэбных для Германіі прадпрыемстваў і ўстаноў. Пагэтаму акруговыя камісары забракавалі больш за 50 % прызыўнікоў і адаслалі іх дахаты. Так ці іначай, 15 са-



кавіка ў шэрагі БКА улілося 19 тыс. чалавек (86). Пад канец сакавіка іх стала яшчэ больш — нешта каля 22 тыс. Да БКА было далучана і некалькі паліцэйскіх батальёнаў. Такім чынам асабовы склад БКА да канца сакавіка ўзняўся да 24—25 тыс. чалавек, а праз паўмесяца з іх ужо было сфарміравана 39 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў (87). Па загаду Готбэрга ад 10 сакавіка скасоўвалася пасада нямецкага каменданта паліцэйскіх атрадаў, а самі гэтыя атрады разам з новастворанымі батальёнамі БКА пераходзілі пад камандаванне Кушаля. На базе вайсковага аддзела БЦР паўстала вярхоўнае камандаванне БКА, часам называнае яе штабам. Гэтыя захады сведчылі аб стварэнні асобнага беларускага вайсковага фарміравання.

Хаця акруговыя камісары адправілі дамоў многіх прызыўнікоў, Беларуская краёвая абарона ўсё ж перайшла за рамкі, якія вызначыў для яе Готбэрг. Астроўскі меркаваў, што, паставіўшы яго перад фактам, зможа неяк вырашыць матэрыяльныя і арганізацыйныя праблемы, якія з'явіліся адразу ж пасля мабілізацыі. Асабліва не хапала афіцэраў, зброі і абмундзіравання. Готбэрг спрабаваў здабыць у Берліне для БКА 20 тыс. вінтовак, аднак іх не прыслалі і да сярэдзіны мая (88). Пагэтаму давялося абмежавацца зброяй з мясцовых складоў — на 6—7 чалавек выдалі па адной вінтоўцы (89). Пры гэтым сапёрныя батальёны выкарыстоўвалі на розных працах, у рамках арганізацыі Тодта. Магчыма, такім шляхам Готбэрг «карэкціраваў» непамерныя амбіцыі Астроўскага.

Не дзіва, што дысцыпліна ў войску пачала падаць, а ўзамен расло дэзерцірства, усё гэта адбывалася яшчэ і пад уплывам партызанскай прапаганды. Таму ў сярэдзіне мая Астроўскі быў вымушаны прывесці асабовы склад БКА ў адпаведнасць з наяўнай зброяй. БЦР растлумачыла сваё рашэнне неабходнасцю пазбыцца нежаданых элементаў (90). Так паступова асабовы склад БКА змяншаўся, і ў апошнія тыдні акупацыі ён быў ужо шмат ніжэйшы, чым адразу пасля мабілізацыі. А ў другой палове мая пачалі паступаць партыі зброі. Толькі цяпер усё яшчэ слаба ўзброеныя батальёны пачалі выкарыстоўваць у барацьбе з партызанамі. 15 чэрвеня, г. зн. за два тыдні да канца акупацыі, ў Мінску была адкрыта афіцэрская школа БКА.

Апошнім мерапрыемствам БЦР на Беларусі стаў другі ўсебеларускі кангрэс, які адбыўся ў Мінску 27.6.1944 г. пад гукі франтавой кананады. На яго з'ехалася 1039 дэлегатаў з беларускіх раёнаў, а таксама з Літвы, Латвіі, Варшавы, Лодзі, Кракава, Вены, Кёнігсберга, Прагі і Берліна (91). Магчыма, санкцыю на скліканне кангрэса Готбэрг атрымаў з Берліна, хутчэй за ўсё — ад Бэргера. Дакументальных сведчанняў пра гэта не сустракалася, ёсць толькі ўскосныя: на кангрэс сабраліся дэлегаты з-па-за межаў Генеральнага камісарыята, але яны павінны былі мець на гэта афіцыйны дазвол.

Ч. 1.pdf

мадскае жыццё было тут паралізавана: спустошаныя прадпрыемствы, сельская гаспадарка без сродкаў вытворчасці, кадры спецыялістаў — на фронце або ў эвакуацыі, уся адміністрацыйная сістэма, сувязь і забеспячэнне разбураны, значная частка насельніцтва перавезена на ўсход. На долю цывільнага насельніцтва, якое не пакінула родных мясцін, выпалі вялікія страты (26). Заходняя Беларусь апынулася ў значна лепшым становішчы. У параўнанні з усходнімі рэгіёнамі летам 1942 г. у Мінску яе называлі «квітнеючай» (27).

## БЕЛАРУСЬ ПАД НЯМЕЦКІМ ВАЙСКОВЫМ ПРАЎЛЕННЕМ (ЧЭРВЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1941)

Непасрэдна пасля таго як германскія войскі занялі Беларусь, на ўсім яе абшары было ўведзена ваеннае праўленне. Згодна з дырэктывамі Галоўнакамандавання Вермахта, яно мела пераходны характар, з цягам часу цывільныя ўлады павінны былі пераняць ад яго адміністрацыйныя функцыі. На самай справе ў 1941 г. цывільным уладам была перададзена толькі частка Беларусі, рэшта яе тэрыторыі да канца акупацыі знаходзілася пад ваенным праўленнем. Перыяд суцэльнага панавання ваеннай адміністрацыі працягваўся толькі пару тыдняў.

У той час пераважная частка Беларусі ўваходзіла ў састаў тыла групы армій «Цэнтр», аднак яе паўднёвыя раёны апынуліся ў тыле групы армій «Поўдзень». Мяжа, што падзяляла гэтыя тылы, ішла ўздоўж чыгуначнай лініі Брэст — Гомель за 10—20 кіламетраў на поўнач ад яе.

Паводле распараджэння галоўнакамандуючага сухапутных войск ад 3.4.1941 г., адміністрацыйныя задачы арміі не ішлі далей за падтрыманне на акупаваных абшарах парадку і бяспекі дзеля іх гаспадарчага выкарыстання франтавымі і акупацыйнымі атрадамі. Гэтыя ўказанні праводзіў у жыццё на пераважнай частцы беларускай тэрыторыі камандуючы тыламі групы армій «Цэнтр» генерал Макс фон Шэнкендорф. Пры яго штабе, які летам 1941 г. часова размяшчаўся ў Баранавічах, дзейнічаў галоўны камандзір СС і паліцыі, групэнфюрэр СС Эрых фон Бах. Ён узначальваў ахоўныя войскі СС, іх мэтай была пацыфікацыя занятых беларускіх земляў. Бах падначальваўся рэйхсфюрэру СС Гімлеру.

Праз шэфа паліцыі і службы бяспекі Рэйха Рэйнгарда Гайдрыха Гімлер кіраваў яшчэ і дзейнасцю аперацыйных груп (Einsatzgruppen) — спецыяльных паліцэйскіх атрадаў, прызначаных для барацьбы з палітычнымі праціўнікамі гітлерызму, галоўным чынам камуністамі і савецкімі функцыянерамі, а таксама — для вынішчэння яўрэйскага насельніцтва. На Беларусі дзейнічала айнзацгрупа



С, перайменаваная 11.7.1941 г. ў айнзацгрупу В*, ёю кіраваў брыгадэнфюрэр СС Артур Нэбэ. У другой палове ліпеня камандаванне айнзацгрупы В пераехала ў Смаленск, дзе быў размешчаны штаб камандзіра групы армій «Цэнтр».

Камандуючаму тылам групы армій падпарадкоўвалася сетка тэрытарыяльных палявых камендатур, а ім у сваю чаргу — шматлікія мясцовыя камендатуры, якія ствараліся практычна ва ўсіх гарадах і райцэнтрах. На ўсіх узроўнях гэтага вайскова-адміністрацыйнага апарата дзейнічалі адпаведныя гаспадарчыя службы. Яны займаліся арганізацыяй харчовых і фуражных паставак і мабілізацыяй мясцовага насельніцтва для выканання неабходных вайсковых работ. Апрача таго, ваенныя камендатуры давалі падтрымку раённаму апарату айнзацгрупы В, куды ўваходзілі рухомыя аперацыйныя атрады паліцыі, т. зв. Einsatzkommandos.

Але гэты ваенна-паліцэйскі апарат не мог цалкам справіцца з усімі гаспадарчымі і рэпрэсіўнымі задачамі. Для падтрымання жаданага парадку трэба было арганізаваць яшчэ адзін, дадатковы, сіламі мясцовага насельніцтва. Акупацыйныя ўлады тут кіраваліся згаданай інструкцыяй галоўнакамандуючага сухапутных войск ад 3.4.1941 г., якая дапускала стварэнне органаў мясцовай адміністрацыі ў абсягу адпаведна патрэбам арміі. На такой падставе паўставалі службы сярэдняга і ніжэйшага ўзроўню, гарадскія, раённыя і павятовыя ўправы. Яны мелі ў сваім распараджэнні мясцовую дапаможную паліцыю (службу аховы парадку). Усе гэтыя органы маглі працаваць пад уважным непасрэдным наглядам вайсковых камендатур і, згодна з названай інструкцыяй, не павінны былі мець характару палітычнай адміністрацыі. Яе спадзяваліся стварыць толькі пасля ўвядзення цывільнага праўлення.

Варта звярнуць асаблівую ўвагу на працэс стварэння дапаможнага адміністрацыйна-паліцэйскага апарату на Беларусі. На тое ёсць некалькі прычын. Па-першае, гэта быў зыходны пункт у дзейнасці акупацыйнага рэжыму. Па-другое, усе ўправы і паліцыя павінны былі стварацца нанова, бо папярэдняя савецкая адміністрацыя перастала дзейнічаць. Нарэшце, па-трэцяе, у працэсе стварэння новай адміністрацыі адлюстравалася пэўнае стаўленне насельніцтва да нямецкай акупацыі, нягледзячы на тое, што часам прызначэнне на службу тут рабілася пад прымусам.

Трэба бліжэй прыгледзецца да гэтай праблемы яшчэ з аднае прычыны: савецкія гісторыкі малююць адназначна варожае стаўленне беларускага народа да нямецкай акупацыі. Раманоўскі сцвярджае нават, што ў «савецкіх людзей не было іншых пераканнняў, акрамя самаахвярнай адданасці сваёй сацыялістычнай Радзіме і

* Айнзацгрупа А дзейнічала ў тыле групы армій «Поўнач», г. зн. у Прыбалтыцы, у тым ліку і ў некалькіх сельсаветах Беларусі, далучаных немцамі да Літвы.

Кангрэс абвясціў сябе паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніком беларускага народа і прыняў рэзалюцыю, якая спасылалася на Дэкларацыю незалежнасці Беларусі ад 25.3.1918 г., прынятую Радай БНР у Мінску, прычым толькі на тую яе частку, дзе гаварылася аб поўным разрыве Беларусі з Расійскай дзяржавай ва ўсіх яе формах. Кангрэс выказаў сваё непрызнанне БССР як формы беларускае дзяржаўнасці, аб'явіў неправамоцнымі ўсе польска-савецкія пагадненні, якія датычыліся Беларусі, і пацвердзіў, што адзіным законным прадстаўніцтвам беларускага народа і яго краю з'яўляецца сёння БЦР на чале з прэзідэнтам Астроўскім (92).

Апошні пункт рэзалюцыі стаў апафеозам усёй дзейнасці Астроўскага за час акупацыі. Разам з тым гэта была адзіная згадка пра тагачасны момант, таму што палітычнае становішча на Беларусі за перыяд нямецкай акупацыі і пазнейшыя перспектывы на кангрэсе не разглядаліся. Пагэтаму рэзалюцыя аб разрыве дзяржаўных адносін з Расіяй аніяк не магла замяніць дэкларацыі аб нацыянальнай незалежнасці. І справа была не ў тым, што прыняць такую дэкларацыю перашкодзіла набліжэнне Чырвонай Арміі. Рэжысёрам кангрэса было СД, а тэксты выступленняў — зацверджаны Готбэргам (93). Таму яго рэзалюцыі не маглі супярэчыць тагачаснай лініі нямецкай усходняй палітыкі.

Магчыма, Астроўскі спадзяваўся, што рэзалюцыя кангрэса, у якой БЦР была названа адзіным законным прадстаўніком беларускага народа, прымусіць нямецкія ўлады паскорыць рашэнне аб сапраўдным наданні ёй такога статуса, бо, нягледзячы на ўсе стаpанні Готбэрга, жаданых перамен у гэтай справе ўсё не было і не было. 26 чэрвеня, г. зн. напярэдадні эвакуацыі з Мінска, у ОМі згаджаліся, што можна было б пашырыць задачы БЦР, ды толькі да пэўнай ступені, але аб тым, кабператварыць яе ў орган нацыянальнага краёвага прадстаўніцтва, «пакуль што не можа быць гаворкі» (94). Пагэтаму да канца акупацыі прававое становішча БЦР так і не было высветлена, і пераняць на сябе адміністрацыйныя функцыі яна не магла. Такім чынам, за шэсць месяцаў свайго існавання БЦР не стала нічым іншым, як толькі прапагандысцкім інструментам Готбэрга, які атрымаў заданне да канца акупацыі ўтрымліваць нямецкія пазіцыі на Беларусі. Тое самае датычыцца і БКА — яе дзейнасцю фактычна кіравалі немцы. Пасля вайны яе намінальны камандзір — Кушаль празнаваў, што «немцы зусім не мелі намеру дазволіць беларусам стварыць нейкую беларускую збройную сілу, ім патрэбны былі толькі людзі, якіх беларусы павінны ім даць, а кіраваць людзьмі меліся яны самі без нашай помачы» (95). Т. зв. штаб БКА, які пасля правядзення мабілізацыі павінен быў займацца выключна прапагандаю сярод салдат, мог з імі кантактаваць толькі са згоды нямецкага начальства (96).

Такім чынам, Готбэрг ніколі не быў вялікім прыхільнікам беларускага нацыяналізму: ён зрабіў стаўку на БЦР, каб супрацьпаставіць не ўплыву савецкай прапаганды на грамадства, стварыць бачнасць нацыянальнай дзяржавы са сваім урадам, міражную карціну росквіту беларускай культуры і дабрабыту. На гэта працавала ўсё: і прэса (яе тыражы ў той перыяд значна павысіліся), і СБМ, і іншыя установы. Мінскі гарадскі камісар Бэкер адкрыта прызнаў гэта ў сваёй справаздачы, зробленай ужо пасля эвакуацыі: у апошнія месяцы акупацыі ён займаўся адбудовай руінаў, спаборніцтвамі агароднікаў, развіццём гарадскога трамвайнага транспарту, закладкаю новых могілкаў, правядзеннем конкурсу на самы прыгожы дом, адкрыццём музычнай школы, аднаўленнем спектакляў гарадскога тэатра, актывізацыяй культурнага жыцця, нарэшце, святкаваннем угодкаў «вызвалення» (22 чэрвеня), і ўсё гэта — з меркаваннаў палітычных, усё дзеля таго, каб супрацьдзейнічаць эвакуацыйнаму псіхозу (97).

Астроўскі таксама вёў хітрую гульню. Улетку 1941 г. ён быў упэўнены ў перамозе Германіі, аднак ужо ў лістападзе 1942 г. засумняваўся ў выніках вайны, пра гэта сведчаць згаданыя яго перагаворы з Галоўным камандаваннем АК. Тым больш не магло ў яго ўнікнуць ілюзій у наступным годзе. Магло б здацца, што ён свядома зрабіў стаўку на безнадзейную карту, калі распачаў стварэнне БЦР. Але гэта не зусім так. Галоўным матывам яго дзейнасці быў разлік на тое, што беларусам удасца з дапамогай Германіі ўзмацніць свае нацыянальныя пазіцыі і, перш за ўсё, стварыць уласныя ўзброеныя сілы, з якімі пасля можна было б распачаць барацьбу за незалежнасць Беларусі. З гэтага пункту гледжання тактыка Астроўскага, па сутнасці, не адрознівалася ад паводзін віленскіх і навагрудскіх атрадаў АК. Аднак на гэтым і канчалася аналогія: польскія атрады разлічвалі на тое, што СССР прызнае давераснёўскія межы, і заставаліся ў большасці сваёй на месцы, затое Астроўскі мог спадзявацца толькі на эвакуацыю і пазнейшую вайну паміж заходнімі альянтамі і Савецкім Саюзам пасля перамогі над Германіяй.

Астроўскі, калі пачаў развіваць гэтую канцэпцыю, даволі рана прыйшоў да высновы, што менавіта Польшча магла б стаць галоўнай апорай яе рэалізацыі, і ўзяўся рыхтаваць глебу для будучага саюзу. Яго не вельмі турбавалі ранейшыя няўдачы беларускіх дзеячаў у гэтай галіне, і ён не звяртаў увагі на польска-беларускія канфлікты ў правінцыі, якія абвастралі ўзаемную варожасць (98). У студзені 1944 г. ён выступіў з прамовай, у якой заклікаў усе нацменшасці на Беларусі прыняць удзел у супольнай барацьбе з бальшавізмам (99). У ГК АК гэты заклік успрынялі як прапанову польска-беларускага супрацоўніцтва (100). Адначасова акоўская разведка ў Мінску выслала ў Варшаву паведамленне, якое павінна было заахвоціць кіраўнікоў падполля да перагавораў з Астроўскім. Магчыма, ён сам быў яго ініцыятарам. А гаварылася ў ім вось аб чым:

справе Камуністычнай партыі» (28). Такія пасылкі абгрунтоўвалі тэорыю аб стыхійным супраціўленні акупантам з самых першых дзён вайны. Усялякія іншыя матывы паводзін беларускага насельніцтва, як, да прыкладу, нежаданне ўмешвацца ў германа-савецкую барацьбу, падтрымка акупацыйнага рэжыму або выкарыстанне яго ва ўласных нацыянальных інтарэсах — папросту выключаліся з разгляду.

Тым часам у беларускім грамадстве не вялося ніякай папярэдняй прапагандысцкай падрыхтоўкі на выпадак германскай агрэсіі*. Гэта быў вельмі важны фактар. Прафесар Чэслаў Мадайчык трапна заўважыў, што ў 1939—1941 гг., г. зн. ва ўмовах савецка-нямецкага супрацоўніцтва, «у Савецкім Саюзе пазбягалі ўсяго, што магло б стаць для гітлераўскага Рэйха прычынай нападу і канфлікту. Нягледзячы на трывогу, выкліканую экспансіяй гэтай дзяржавы, у поглядах савецкіх людзей знікала адчуванне грознай небяспекі германскага фашызму, якую так моцна падкрэсліваў у 1935 г. Камінтэрн; не было інфармацыі аб злачынствах Рэйха ў некаторых, ужо занятых ім, краінах...» (29).

Ва ўмовах псіхалагічнай нейтралізацыі грамадства адносіны да нямецкага нападу і акупацыі фарміраваліся на падставе ўласнага вопыту, на ўражаннях савецкай рэчаіснасці. Асабліва складаная сітуацыя панавала ў Заходняй Беларусі. Беларускае насельніцтва гэтага краю ў канцы 1939 г. з радасцю сустрэла савецкую аграрную рэформу і ліквідацыю польскага асадніцтва. Але неўзабаве пачалася прымусовая калектывізацыя, пераважная частка сялян сустрэла яе варожа. І хоць да чэрвеня 1941 г. пад калектывізацыю падпала ўсяго 49 тыс. вясковых гаспадарак, г. зн. толькі 6,7 % ад іх агульнай колькасці, ход падзей сведчыў пра немінучы працяг гэтай кампаніі (30).

Нельга, аднак, сцвярджаць, што адны апасенні перад калектывізацыяй вызначалі стаўленне большасці беларусаў да савецкай улады. Часта яны самі станавіліся яе апорай і мелі пры тым немалы выйгрыш, асабліва ў галіне асветы, культуры і грамадска-палітычнай перспектывы (31). Пры гэтым, праўда, пачаліся палітычныя рэпрэсіі і дэпартацыі, якіх не пазбеглі нават дзеячы былой КПЗБ, але масавым з'явішчам яны не сталі і не змянілі такім чынам адабральнага настрою шырокіх сялянскіх мас да савецкай улады. Дарэчы, нават Уладзіслаў Казлоўскі, лідэр беларускага нацыянал-сацыялізму, у гэты час спакойна пражываў у Вільні, магчыма, у гэтым праявіўся ўплыў тагачасных савецка-германскіх адносін (32). Улады не чапалі таксама і дзеячаў Беларускага народнага аб'яднання — кс. Адама Станкевіча, Станіслава Грынкевіча-старэйшага, ці Язэпа Найдзюка. Тое самае датычыцца прафесара Вацлава Іваноўскага і інш.

* Гэтае сцвярджэнне аўтара не мае трывалых доказаў. Наадварот, цэлым шэрагам прыкладаў можна давесці адваротную карціну.— *А. Л.*



Затое ў палякаў пасля верасня 1939 г. было шмат прычын для незадавальнення. Гэтае насельніцтва ў 1920—1939 гг. было часткай пануючай нацыі. Пасля прыходу савецкіх улад яно апынулася ў становішчы нацменшасці. Адчуваць такую перамену было вельмі балюча. Да таго ж на іх абрынуўся галоўны цяжар дэпартацый. Усе польскія ваенныя і цывільныя асаднікі, уся лясная служба падпалі пад высяленне (33). Немалую частку высяленцаў склалі польскія чыноўнікі і паліцыянты (34). Памешчыцтва (пераважна — польскае) страціла матэрыяльную аснову для існавання. Напалоханыя рэпрэсіямі, многія палякі шукалі сховішча ў Вільні або на тэрыторыі Генеральнай губерні. Яны абвінавачвалі ў гэтых падзеях не толькі цэнтральныя савецкія ўлады, але і мясцовых беларусаў. Бо менавіта яны станавіліся ўладальнікамі перадзеленых маёнткаў і прылад, ім жа прыпісваліся і даносы, цераз якія людзі траплялі на высяленне ў глыб СССР.

Нягледзячы на розныя ўражанні ад савецкай рэчаіснасці ў беларусаў і палякаў, у першых данясеннях айнзацгрупы В з Заходняй Беларусі* адзначалася прыхільнае стаўленне да прыходу нямецкіх войск сярод абедзвюх груп насельніцтва. Паводзіны насельніцтва пераходзілі ад «даволі прыязнай нейтральнасці» да «радасці з нагоды вызвалення ад савецкага ярма, якая выяўлялася ў гатоўнасці беларускага і польскага насельніцтва працаваць разам з намі ў справе аднаўлення» (35). Гэтая ацэнка, безумоўна, не датычылася ўсіх беларусаў і ўсіх палякаў, хоць даволі трапна характарызавала ўражанні першых нямецкіх атрадаў (рапарты СД не прыхарошвалі рэчаіснасці), аднак не поўнасцю адлюстроўвала сапраўдныя адносіны мясцовых жыхароў.

Прыход немцаў беларускае сялянства адразу ж выкарыстала для роспуску ўсіх калгасаў і вяртання на сваю індывідуальную гаспадарку. У Заходняй Беларусі гэта было асабліва лёгка зрабіць, бо тутэйшыя калгасы пратрывалі ўсяго некалькі месяцаў. Гэтая акалічнасць, напэўна, адыграла сваю ролю — нямецкія ўлады не выказалі супраціўлення пры іх роспуску, хоць, паводле інструкцыі, павінны былі захаваць калектыўныя гаспадаркі. Затое ў астатніх жыццёвых галінах панавала напружанае чаканне. Немцы не спяшаліся з вызначэннем будучага грамадска-палітычнага ладу, прыкрываючыся толькі агульнымі лозунгамі аб вызваленні ад бальшавізму. Частку беларусаў — найперш супрацоўнікаў савецкай адміністрацыі, настаўнікаў і г. д. ахапіла паніка. Яны баяліся помсты за сваю дзейнасць у 1939—1941 гг. з боку палякаў. Тое самае датычылася і сялянства, якое так ці іначай карысталася дабром, атрыманым у час зямельнай рэформы.

Пры такой сітуацыі ў людскіх настроях на Беларусі пераважалі

* Тут і далей маецца на ўвазе тэрыторыя былой Заходняй Беларусі.— *Рэд.*

«Беларусы лічаць, што завербаваныя і ўзброеныя немцамі беларускія атрады неўзабаве пяройдуць на бок польскай арміі для супольнай барацьбы з Расіяй за ўсходнія крэсы. Беларусы, сярод якіх ёсць былыя польскія, савецкія і нямецкія грамадзяне і якія цяпер займаюць самае высокае становішча, 2,5 года працавалі ў савецкай Беларусі, пазналі ўплыў расійскага камунізму, пазналі патрэбы і жаданні насельніцтва, і, што характэрна — амаль усе яны перакананыя, што лёс Беларусі будзе вырашаць Польшча, а не Расія. Польшча павінна зразумець, што беларускі і польскі люд, які 25 гадоў жыў за кардонам, сумаваў па ёй і чакаў яе прыходу. Паражэнне Польшчы ў 1939 г. было для яго вялікім ударам, ён бедаваў аб Польшчы і яе нязбытых спадзяваннях. Аднак сёння, асабліва пасля абвастрэння польска-савецкага канфлікту, вера ў Польшчу ажыла з даўняй сілай. Фраза: «Толькі Польшча нам дапаможа»,— у кожнага на вуснах, толькі шэпчуць яе паціху. Традыцыі 1919—1920 гг. не аслаблі» (101).

Аднак з Варшавы водгуку не было. Затое мабілізацыя ў БКА зрабіла тут значна большае ўражанне, і не дзіва — з Мінска ў Варшаву ішлі раздзьмутыя звесткі, гаварылася нават аб стварэнні 200-тысячнага беларускага войска. Пагэтаму ў красавіку 1944 г. Астроўскі адчуваў сябе больш упэўнена і выслаў для перагавораў у Варшаву свайго даверанага супрацоўніка Адама Дэмідэцкага-Дэмідовіча з новымі прапановамі. Размова павінна была весціся аб заключэнні будучай беларуска-польскай федэрацыі, а ў дадзены момант, падчас вайны,— аб стварэнні беларускага прадстаўніцтва пры польскім лонданскім урадзе: гэты ўрад рэпрэзентаваў бы інтарэсы Беларусі на міжнароднай арэне (102).

Такія прапановы ўзбудзілі пэўнае зацікаўленне. 2 мая камандуючы АК паведамляў ураду: «Крызіс Беларускай Цэнтральнай Рады. Астроўскі шукае паразумення з нашымі палітычнымі коламі». А 17 мая даносіў: «Астроўскі і Кушаль, нягледзячы на пранямецкую тактыку, бачаць апору для Беларусі ў Польшчы» (103). Дэталёвае абгрунтаванне мэтазгоднасці супрацоўніцтва з Астроўскім ГК АК прадставіла ў рапарце ад 20 мая. У дакуменце з разуменнем гаварылася аб палітыцы БЦР і звязаных з ёю дзеячаў, пісалася аб тым, што рабіць стаўку на заходніх саюзнікаў ім не мае сэнсу, бо тыя «пра беларусаў нічога не ведаюць, дый справа беларуская — для іх не праблема». У сувязі з гэтым Галоўнае камандаванне падкрэслівала станоўчую ролю Астроўскага, які, нягледзячы на супраціўленне ў сваім грамадстве, заклікае да беларуска-польскага супрацоўніцтва і мяркуе адвесці беларускія ўзброеныя сілы на польскую тэрыторыю (104). З гэтага можна зрабіць выснову: Астроўскі выдатна разумеў, што ў найбліжэйшы момант яму давядзецца пакінуць Мінск, пагэтаму лічыў сваю дзейнасць на Беларусі зыходным пунктам для далейшай палітычнай гульні.



Ён разыгрываў адначасова дзве партыі: яўную — з немцамі і патаемную — з палякамі. І пры ўсім тым не забываўся і пра савецкі варыянт (105). У Мінску ён займаў такую высокую пазіцыю, якая дазваляла яму даволі празрыста і публічна гаварыць аб прынцыпах сваёй палітычнай тактыкі. «Мы не фантасты, а рэальныя палітыкі і, маючы 25-гадовы дослед нашай народнай трагедыі, добра разумеем, што пры сучасных абставінах беларускі народ, ідучы па шляху да здзяйснення свайго найвышэйшага ідэалу, павінен шукаць сабе помачы з боку больш магутнага прыязнага суседа. Палітычная кан'юнктура ў сучасны момант злажылася так, што гэтым апекуном-пратэктарам для беларускага народа з'яўляецца Нямеччына» (106). Менавіта ў гэты час ён распачаў тайныя перагаворы з АК, значыць, чакаў змены палітычнае кан'юнктуры.

З пункту гледжання галоўнай задачы, г. зн. барацьбы з партызанскім рухам, усе паліцэйскія і прапагандысцкія захады Готбэрга (надзвычайнае становішча, спецыяльная ахова Мінска) не прынеслі жаданага поспеху. Праўда, у Мінску зменшылася колькасць дыверсій, цэлыя партызанскія зоны ўдалося заблакіраваць, але дабіцца пералому ў партызанскай вайне было ўжо немагчыма (107). Дзейнасць БЦР таксама не аказала на яе вялікага ўплыву. У красавіку 1944 г. Готбэрг паведамляў, што толькі невялікая частка насельніцтва Беларусі радасна сустрэла стварэнне БЦР, затое ў масе сваёй людзі альбо ўспрынялі яго раўнадушна, альбо ў няпэўнасці чакалі перамен (108). Падобнае меркаванне выказваў і камісар Мінскае акругі. Тое самае адбывалася і ў Баранавіцкай акрузе, якая лічылася за аплот БЦР. Яе акруговы камісар Вэрнер сцвярджаў, што вакол Рады групавалася толькі невялікая кучка інтэлігентаў, а большая частка беларусаў трымалася раўнадушна і пасіўна, галоўным чынам, з увагі на партызанскую пагрозу (109). Лідскі камісар пісаў, што ў яго акрузе наогул не існавала БЦР і БКА (110).

Цікавыя заўвагі падае ў сваёй справаздачы глыбоцкі акруговы камісар Гахман: «Не магло быць ніякай гаворкі пра давер беларускага насельніцтва да БЦР». На яго думку, адною з важкіх прычын гэтага былі канфлікты, звязаныя з дзейнасцю абранага «нешчаслівай рукою» акруговага ўпаўнаважанага БЦР Івана Касяка. Сваімі дзеяннямі ён болей шкодзіў справе, чым дапамагаў, так што ў акрузе сярод беларусаў нават павялічыліся прапольскія сімпатыі. Гахман пісаў, што культурная праца апынулася ў застоі пасля таго, як ёю пачаў загадваць упаўнаважаны БЦР. «Спатрэбіўся ўвесь мой аўтарытэт, каб хоць працягваць культурную дзейнасць, якую распачало нямецкае цывільнае кіраўніцтва» (111).

Натуральна, стаўленне насельніцтва да БЦР аб'ектыўна залежала ад ваенна-палітычнай сітуацыі. У гэты час ужо ні ў каго не заставалася ілюзій, канец акупацыі непазбежна набліжаўся, і трэба было лічыцца з тым, што савецкая ўлада неўзабаве вернецца. Аднак гэта

няпэўнасць і пасіўнасць. Данясенні айнзацгрупы B улетку 1941 г. адзначалі безыніцыятыўнасць тутэйшага насельніцтва пры арганізацыі адміністрацыйнага апарату і паліцыі. Прычына, на думку немцаў, крылася ў распыленасці і абязлічванні беларускай інтэлігенцыі, якая не была падрыхтавана для кіраўніцтва адміністрацыяй (36). Пагэтаму пасля хадайніцтваў Шчорса, шэфа групы «Цэнтр», у ліпені 1941 г. вайсковыя ўлады выдалі дазвол на арганізацыю беларускіх грамадскіх камітэтаў. Яны павінны былі згуртоўваць інтэлігенцыю і рыхтаваць яе да кіраўніцтва адміністрацыяй, паліцыяй, школьніцтвам і інш. У ліпені такія камітэты з'явіліся ва ўсіх буйных гарадах Беларусі, а таксама ў Беластоку і Вільні. Некаторыя з іх, асабліва віленскі, навагрудскі, гродзенскі і беластоцкі, горача прыняліся за справу, аднак ужо ў першай палове жніўня выйшаў загад аб іх роспуску (37). Утрымаўся толькі віленскі камітэт, а пад канец 1941 г. да яго зноў далучыўся беластоцкі. Немцы спадзяваліся выкарыстаць іх у процівагу польскаму і літоўскаму насельніцтву.

Старанні Шчорса па стварэнні на Беларусі беларускага адміністрацыйнага апарату падтрымлівала СД. Яна выказвала большае зацікаўленне да нацыянальных праблем, чым ваенныя камендатуры. Нэбэ, шэф айнзацгрупы B, на пачатку ліпеня, яшчэ да нападу на СССР, паведамляў, што Галоўнае ўпраўленне бяспекі Рэйха рашыла выкарыстаць дзеля гэтага беларускіх эмігрантаў з тэрыторыі Германіі і Генеральнай губерні. Нэбэ разлічваў, што яны будуць накіроўвацца на Беларусь, па дзве-тры асобы на кожны горад, і зоймуцца там стварэннем новай адміністрацыі (38). Па загаду Нэбэ такую групу беларускіх адміністрацыйных кадраў пачаў камплектаваць супрацоўнік СД у Варшаве, штандартэнфюрэр СС, доктар Франц Сікс. Пад яго кіраўніцтвам пачаў вербаваць такіх людзей і Шчорс. Але вынікі гэтай аперацыі аказаліся значна больш сціплыя, чым планавалася. Было завербавана разам каля 50 асоб, у першыя дні ліпеня іх заслалі на Беларусь (39). Пераважную частку агентаў накіравалі ва Усходнюю Беларусь, прычым каля 30 асоб пакінулі ў Мінску. Пагэтаму выхадцы з эміграцыі адыгралі нязначную ролю ў арганізацыі адміністрацыйнага апарату і паліцыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Пасля падзей 1939—1941 гг. сярод польскага насельніцтва Заходняй Беларусі ад пачатку нямецкай акупацыі запанавалі антысавецкія і антыбеларускія настроі. Палякі пачалі шукаць шанцы, каб нанова злучыць Заходнюю Беларусь з Польшчай. Гэта была найвышэйшая мэта, якая апраўдвала ў вачах польскіх незалежнікаў любыя сродкі барацьбы, не выключаючы вываду з палітычнай гульні беларусаў. Апошніх, не зважаючы на іх прасавецкую ці незалежніцкую арыентацыю, палякі не без падстаў лічылі за патэнцыяльную перашкоду на шляху да ўзнаўлення межаў, акрэсленых у Рыжскім дагаворы.



Маючы перад сабой такія палітычныя мэты, польскае насельніцтва прыхільна сустрэла нямецкія войскі і распачало актыўна ўдзельнічаць у стварэнні новай адміністрацыі і паліцыі. Авалоданне мясцовым апаратам улады польскія дзеячы ацэньвалі як важны зыходны пункт аднаўлення сваіх эканамічных, культурных, а пазней і палітычных пазіцый. Істотнае значэнне ў гэтай справе займала пазіцыя Вермахта. Не маючы спецыяльных дырэктыў Гітлера адносна будучага палітычнага статуса Беларусі, вайсковыя колы выяўлялі абыякавасць да нацыянальных праблем і кіраваліся ў сваіх паводзінах выключна прагматычнымі меркаваннямі. Цікавай ілюстрацыяй такой пазіцыі былі, між іншым, плакаты Вермахта, якія выкарыстоўваліся на Беларусі ў першы перыяд акупацыі — іх друкавалі на нямецкай, польскай і расійскай мовах, а не па-беларуску (40).

У надзеі на аднаўленне даверасьнёўскай сітуацыі 1939 г. следам за нямецкай арміяй на Беларусь пацягнуўся цэлы шэраг даваенных польскіх чыноўнікаў і дзеячаў, якія ў 1939—1941 гг. хаваліся ў Вільні і Генеральнай губерні. Яны мелі рэпутацыю пакрыўджаных Саветамі, акрамя таго, пэўная частка гэтых людзей валодала нямецкай мовай, пагэтаму нямецкія камендатуры лёгка згаджаліся на тое, каб яны займалі адміністрацыйныя і паліцэйскія пасады (41). Паводле рапартаў айнзацгрупы B, перайманне палякамі кіраўніцтва пачалося адразу пасля ўваходу нямецкіх войск. Неўзабаве яны апанавалі ўсе галоўныя пасады ў гарадскіх і раённых (павятовых) управах Заходняй Беларусі (42). Была створана, галоўным чынам зноў пад кіраўніцтвам палякаў, мясцовая дапаможная паліцыя, колькасна значна большая за ўсходнебеларускую. СД крытычна ацэньвала паблажлівае стаўленне Вермахта да такіх польскіх ініцыятыў, падазраючы, што ў будучым пад прыкрыццём легальнай дапаможнай паліцыі будзе дзейнічаць польскі рух супраціўлення (43).

Знешні характар адміністрацыі ў вялікай ступені вызначаўся паводзінамі чыноўнікаў на ніжэйшых і сярэдніх пасадах. Іх набіралі з заходнебеларускіх гарадоў і мястэчак, і ў залежнасці ад сітуацыі большасць з іх магла гаварыць на трох мовах: польскай, беларускай або рускай. Паколькі пераважна палякі занялі кіраўнічыя пасады, ва ўправах службоваю мовай стала польская. Прывядзём тут некалькі прыкладаў, узятых з беларускіх, нямецкіх і польскіх крыніц.

**Беластоцкая акруга.** «У цяперашні момант амаль усе адміністрацыйныя пасады, апрача кіраўнічых, якія занялі немцы, знаходзяцца ў руках палякаў, бо акупанты пастанавілі вярнуць на працу тых людзей, што займалі дадзеныя месцы да 1939 г. Дарэчы, недахоп беларускіх кадраў прымусіў акупантаў шукаць апоры ў польскім элеменце... Дапаможную службу нясе мясцовая паліцыя, амаль цалкам створаная з былых польскіх паліцыянтаў...» (44).

не азначала, што прапагандысцкія захады Готбэрга, у т. л. і БЦР, не прынеслі ніякага плёну. Ужо сам факт яе стварэння істотна ўплываў на рост нацыяналістычных тэндэнцый у грамадстве. Нягледзячы на яе няпоўны статус, які звычайна мала каго бянтэжыў, на гэты орган глядзелі як на поўную форму беларускага ўрада, як на праяву новай нямецкай палітыкі на Беларусі, урэшце, як на своеасаблівы прывілей, зроблены для яе. Язэп Малецкі, упаўнаважаны Астроўскага ў Вілейцы, быў упэўнены, што за час панавання Готбэрга Беларусь у галіне дзяржаўнага будаўніцтва значна апярэдзіла краіны Прыбалтыкі і Украіну, дзе такіх органаў стварыць не дазволілі (112). І гэта была даволі распаўсюджаная думка. У той час вярбоўка людзей для працы ў Нямеччыне вялася ўжо больш памяркоўнымі метадамі, і гэтыя перамены людзі таксама звязвалі з уплывам БЦР.

І сапраўды, новыя, больш канкрэтныя метады прапаганды лепш уздзейнічалі на свядомасць, чым колішнія дэкларацыі і выступленні, якія не ўзбуджалі асаблівага даверу. Нарэшце перасталі замоўчваць дзейнасць партызан, бо раней гэтай тэмы сарамліва пазбягалі. Цяпер публікавалі паасобныя факты з адпаведнымі каментарыямі, якія павінны былі скампраметаваць партызанскі рух у вачах грамадскасці. Пры гэтым асаблівы націск рабіўся на антыбеларускія выступленні партызан, якія і сапраўды здараліся не адзін раз. Закіды прапаганды было няпроста аспрэчваць: паленне партызанамі беларускіх школ, забойствы і запалохванне настаўнікаў — усё гэта былі сапраўдныя факты, з якіх рабіліся высновы аб тым, што такая дзейнасць супярэчыла элементарным нацыянальным інтарэсам, у прыватнасці развіццю беларускай нацыянальнай школы (113). У адным з выступленняў Астроўскі дэмагагічна абвясціў, што сам пайшоў бы ў партызаны, каб толькі меў пэўнасць, што яны змагаюцца за незалежнасць Беларусі (114).

Адной з праграм новага курсу Готбэрга стала актывізацыя нацыяналістычных настрояў сярод сяброў СБМ. Фармальна Саюз беларускай моладзі да канца акупацыі заставаўся ў распараджэнні Генеральнага камісарыята і пагэтаму апынуўся ў лепшым матэрыяльным становішчы, чым іншыя грамадскія арганізацыі, што перайшлі ў ведамства БЦР. Восенню 1943 г. быў адкрыты яшчэ адзін навучальны цэнтр у Фларыянаве Баранавіцкай акругі, а ў пачатку 1944 г.— яшчэ дзве школы ў Мінску. Па-ранейшаму арганізоўваліся экскурсіі ў Германію. Пры гэтым колькасць членаў СБМ з 30—40 тыс. у канцы 1943 г. павялічылася ледзь не да 100 тыс. у сярэдзіне 1944 г. (115). Нягледзячы на ўсе старанні партызан, перашкодзіць развіццю СБМ ім не ўдалося. Уласная ўніформа і эмблемы, палітычная адукацыя, спецыяльныя публікацыі, культурна-асветная дзейнасць, нарэшце, вайсковая муштра, каманды, лагеры і беларускія вайсковыя маршы, якія загучалі на Беларусі ўпершыню і былі чымсьці абсалютна нечуваным не толькі для мо-



ладзі, але і для старэйшых,— усё гэта прывабліваламу ў шэрагі СБМ новых і новых сяброў. Палітычнае значэнне Саюза беларускай моладзі было значна большае за тое, што мелі аналагічныя арганізацыі ў Латвіі і Эстоніі.

Таму акруговыя камісары, якія ў сваіх справаздачах, як правіла, рэзка крытыкавалі БЦР, звычайна вельмі станоўча ацэньвалі дзейнасць СБМ. Яны ўхвалялі не толькі выхаваўчую працу ў беларускім нацыянальным духу, якую праводзіла гэтая арганізацыя, але і актыўную дапамогу пры наборы моладзі для працы на авіяцыйных заводах у Мінску і ў Нямеччыне. У канцы 1943 г., паводле дамоўленасці паміж СБМ і заводам Юнкерса ў Дэсаў, туды было накіравана каля тысячы хлопцаў ва ўзросце 15—20 гадоў (116). У чэрвені 1944 г., напярэдадні наступлення Чырвонай Арміі, у Германію выехала 5000 сяброў СБМ, якія добраахвотна запісаліся ў дапаможную службу Люфтвафэ (Lüftwaffe) (117). Самая вялікая група — 2000 хлопцаў — былі дабраволыцы з Глыбоцкай акругі (118), каля 500 чалавек — з Баранавіцкай (119).

Герцаг, разглядаючы вынікі гэтай акцыі, заўважыў, што добраахвотнае паступленне на дапаможную службу ў нямецкую армію летам 1944 г.— факт «амаль неверагодны». Ён дашукваўся прычын такой з'явы, спрабаваў вытлумачыць яе нянавісцю да бальшавізму, цягаю да прыгодаў ці іншымі матывамі, аднак нідзе не абмовіўся аб прымусовых наборах (120). Далін (121), а таксама адзін з колішніх дзеячаў СБМ М. Лужынскі, які быў вучнем Маладзечанскай сярэдняй гандлёвай школы, пацвярджаюць, што акцыя мела добраахвотны характар. Лужынскі апісваў, як у пачатку мая 1944 г. у гэтую школу прыбылі акруговы кіраўнік СБМ Сценнік і лейтэнант паветраных сіл Ферман, які сказаў вучнёўскай грамадзе: «Сёння разыгрываецца лёс усяе Еўропы, а таксама вашае Бацькаўшчыны. Беларусы ўжо стварылі сваю армію ў форме Беларускае Краёвае Абароны. Аднак мадэрная армія не можа быць эфектыўнай без свайго лётніцтва. Я заклікаю вас, юнакі, ісці ахвотнікамі ў паветраныя збройныя сілы. Некаторыя з вас стануць пілотамі, іншыя — навігатарамі або бортмеханікамі». І пайшлі — 46 хлапцоў» (122).

Адзін з былых кіраўнікоў СБМ, які не пажадаў раскрыць свайго імя, паведаміў, што ў яго акрузе даводзілася нават стрымліваць напор моладзі, якая жадала служыць у Люфтвафэ. 16—20-гадовым хлопцам падабалася прыгожая лётчыцкая форма, яны думалі, што атрымаюць зброю, стануць лётчыкамі. Адзіным ідэалагічным матывам быў страх перад вяртаннем Чырвонай Арміі.

Сярод дарослых таксама адзначаўся пэўны рост антысавецкіх і нацыяналістычных настрояў, аднак акрэсліць іх дакладна цяжэй, чым у маладзёжным асяроддзі. Так, у красавіку 1944 г. Готбэрг паведамляў, што шмат у якіх раёнах жыхары выказвалі жаданне арганізаваць у сябе абаронныя вёскі, але здзейсніць гэтыя пажа-

**Гродна.** «Адміністрацыйны апарат Гародні — амаль выключна ў польскіх руках. Добрае супрацоўніцтва з нямецкімі ўстановамі. 72-асабовая служба парадку — выключна палякі» (45).

**Брэст.** «Беларусы ў Берасці задаволеныя, што паўночная частка акругі павінна далучыцца да Усходняй Прусіі. У паўднёвай частцы пануе страх перад яе далучэннем да ГГ (Генеральнай губерні.— *Ю. Т.*) і аднаўленнем нацыянальнай барацьбы з палякамі. Увогуле — па-ранейшаму незадаволенасць з таго, што палякі пераняли адміністрацыю» (46).

**Лідская акруга.** «Палякі неадкладна ўвайшлі ў кантакт з кіруючымі нямецкімі вайсковымі ўладамі ды пачалі займаць усе пасады ў акруговай, павятовай і валаснoй адміністрацыі, у паліцыі, а таксама ў нямецкіх установах... Такім чынам, ад самага пачатку нямецкай акупацыі ўся адміністрацыйная і паліцэйская ўлада ў паветах і валасцях апынулася поўнасцю ў польскіх руках» (47).

**Вілейская акруга.** «У самой Вілейшчыне прыходзілася бачыць такія кур'ёзныя шыльды, як «Пастарунак Польскай Паліцыі Панствовай». У павятовых управах, вясковым школьніцтве, паліцыі, валасцях — усюды польская мова... Ашмянскі павет палякі лічылі нейкай «польскай рэспублікай». Уся адміністрацыя, паліцыя, школьніцтва былі абсаджаны палякамі... У Маладзечне старшынёй павету быў былы ротмістр польскай кавалерыі Віктар Уневіч.., яго заступнікам быў Вітальд Бурачэўскі, былы рэферэнт бяспекі вілейскага староства.., начальнікам паліцыі быў афіцэр польскай «двойкі»* Карчэўскі...» (48).

**Баранавічы і Слонім.** «Адміністрацыйны апарат — польскі» (49).

Не такую сітуацыю ўбачылі немцы ва Усходняй Беларусі. Тут дзейнічалі іншыя вызначальныя ўмовы: апрача адрознення, што накладаў даваенны лад жыцця, свой уплыў аказвалі жахлівыя разбурэнні з лета 1941 г.— вынікі эвакуацыйнай кампаніі і ваенных дзеянняў. У Мінску, Віцебску, Магілёве, Гомелі і іншых буйных гарадах не дзейнічалі электрастанцыі і водаправоды, пераважная частка жыхароў засталася без даху над галавой. Пасля эвакуацыі і знішчэння харчовых запасаў завісла пагроза голаду. Пачаліся нямецкія вайсковыя рэквізіцыі і рабункі. Штодзённым клопатам для гараджан стала барацьба за выжыванне. Адзіным ратункам у такой сітуацыі былі ўцёкі на вёску, дужая частка народу пакінула гарады.

Рабункі і разбурэнні, ад якіх так пакутавала насельніцтва ўсходніх раёнаў Беларусі, для нямецкіх акупантаў былі з'явай звычайнай — яны панавалі ва ўсёй ваеннай паласе. Куды цікавей было сачыць за палітычным станаўленнем насельніцтва, якое перад гэтым

* Двойка (двуйка) — 2-гі аддзел Генштаба польскай арміі, які займаўся пытаннямі ваеннай разведкі.— *А. Л.*



больш за 20 гадоў пражыло пад уздзеяннем савецкай ідэалогіі. Аднак пачатковыя назіранні айнзацгрупы В у першыя тыдні акупацыі не выявілі якіх-небудзь асаблівасцей. Таксама, як і ў заходніх раёнах Беларусі, тутэйшае насельніцтва займала пазіцыю чакання або ставілася да немцаў прыязна, адмаўляючы бальшавізм. Крытыка савецкай улады датычылася галоўным чынам эканамічнай і сацыяльнай сферы (50). Асуджэнню часцей за ўсё падлягаў калгасны лад у БССР, які стаў прычынай заняпаду жывёлагадоўлі і земляробства, прывёў да крызісу народнага харчавання (51). Пагэтаму і ва ўсходняй частцы Беларусі адносіны жыхароў да нямецкай акупацыі былі цесна звязаны з надзеяй на ліквідацыю калгаснай сістэмы.

У рапартах айнзацгрупы В з тэрыторыі Усходняй Беларусі адзначалася вялікая грамадская пасіўнасць, яе лічылі за праяву саветызацыі і супрацьпастаўлялі актыўным паводзінам жыхароў заходняй паловы краю. Аднак мы ўжо бачылі, што і ў Заходняй Беларусі карэннае насельніцтва таксама выказвала пасіўнасць, такім чынам, гэта было агульнацыянальнае беларускае з'явішча. «Заходнебеларускую актыўнасць» на самай справе выяўлялі пераважна палякі, якія імкнуліся рэалізаваць свае нацыянальныя задачы.

Такіх імкненняў сярод усходніх беларусаў немцы не заўважалі і прыпісвалі гэта слабай нацыянальнай свядомасці. У немалой ступені яны мелі рацыю. У тутэйшай рэчаіснасці глыбокі след пакінула барацьба з т. зв. «нацдэмаўшчынай», якая абярнулася велізарнымі стратамі для беларускай культуры, выцясненнем з ужытку беларускай мовы і ўзмоцненай русіфікацыяй усходняй часткі краю. Варта тут прыгадаць характэрнае выказванне віленскага беларускага дзеяча Мар'яна Пяцюкевіча наконт сітуацыі з беларускай мовай у Мінску:

«Першы раз у жыцці давялося мне быць у Мінску позняй восенню 1941 г. на Усеагульнай канферэнцыі школьных інспектараў Беларусі... Хаця мне няраз і не было патрэбы чагось пытаць у сустрэчных мінчан, але я спрабаваў нешта запытаць, каб пераканацца, ці гэта беларусы. Усе яны на мае пытанні адказвалі па-руску і непрыязна глядзелі на мяне. Відаць, беларуса яны залічылі, як і немцаў, да «акупантаў» ісцінна «русского народа»... Канферэнцыю праводзіў Галоўны школьны інспектар ксёндз Вінцук Гадлеўскі. Стараўся ён са сваім мінскім асветным актывам надаць канферэнцыі беларускі патрыятычны дух. Стараўся ў сваіх прамовах ускінуць іскру любові да свайго народу і да яго культуры ў кожную душу ўдзельнікаў канферэнцыі. Кіданыя ім зярняты знаходзілі добрую глебу толькі ў прадстаўнікоў б. Заходняй Беларусі. Усходнікі мала рэагавалі. Яны захоўваліся, як на паншчыне. Падчас перапынкаў яны гуртаваліся «свае са сваімі» і вялі гутарку між сабой на «общепонятном языке». Гэта з'ява рабіла дрэннае ўражанне на тых заходнікаў, якія

данні было немагчыма толькі таму, што не хапала зброі (123). Мінскі гарадскі камісар Бэкер са здзіўленнем сцвярджаў, што 8000 жыхароў горада добраахвотна, без прынукі выйшла на пабудову ўмацаванняў вакол горада перад наступам Чырвонай Арміі. Бэкер адзначаў, што 80 % менчукоў «не вітала» набліжэння савецкіх войскаў (124). Пэўная частка мясцовых жыхароў лепш згаджалася жыць у акупацыйных умовах і мець перад сабой імглістую нацыянальную перспектыву, чым апынуцца зноў у савецкай рэчаіснасці. Такія ж настроі неслі з сабой і ўцекачы з усходу.

У гэтых адносінах цікава разгледзець справу БКА, асабліва — у перспектыве далейшых падзей. Мабілізацыя, бясспрэчна, была актам прымусовым, і, напэўна, большасць прызыўнікоў не адчувала маральнай адказнасці за сваю службу. Тым не менш нельга абмінуць маўчаннем і той факт, што 40 тыс., а паводле звестак Кушаля нават і 50 тыс., чалавек (125) прыйшлі ўсё ж такі на прызыўныя камісіі БКА. Гэтыя людзі ведалі, што іх будуць выкарыстоўваць для барацьбы з савецкімі партызанамі, і не іх віна або заслуга, што не хапіла часу, каб даць ім зброю, і большай частцы давялося вярнуцца дадому, а ваяваць пайшлі толькі нямногія батальёны. У тагачасных умовах яны маглі пазбегнуць мабілізацыі і сысці ў партызаны. Гэтага, аднак, яны не зрабілі. Улады, безумоўна, пагражалі за такія ўчынкі рэпрэсіямі, але ў адваротным выпадку тыя самыя рэпрэсіі ўчынялі і партызаны. Цяжка пагэтаму спрачацца з тым, што мабілізацыя ў БКА стала сур'ёзным палітычным поспехам Готбэрга і Астроўскага*.

Варта таму прыгледзецца больш уважна да таго, як паводзілі сябе гэтыя людзі ў дні наступлення Чырвонай Арміі, якое пачалося 23 чэрвеня і развівалася вельмі шпарка. 3 ліпеня савецкія войскі ўвайшлі ў Мінск, 5-га — у Маладзечна, 8-га — у Баранавічы, 9-га — у Ліду, а 16-га — у Гродна. Такім чынам, часу для эвакуацыі большасці батальёнаў БКА было дастаткова. Але гэтая эвакуацыя не толькі не праводзілася — яна нават не планавалася; батальёны не атрымалі загадзя адпаведных загадаў (126). Перад тым як пакінуць Мінск, Готбэрг нібыта збіраўся загадаць акруговым камендантам паліцыі адвесці часткі БКА на Захад, аднак, на думку Кушаля,

---

*Мабілізацыю ў БКА трэба разглядаць з пазіцыі таго часу.

1. Готбэрг, Астроўскі добра разумелі яе далёка ідучыя вынікі. Змабілізаваныя ў БКА і іх сем'і адразу станавіліся ахвярамі лёсу. Больш паспяхова прымусовая (за невыкананне — расстрэл) мабілізацыя праходзіла ў тых раёнах, якія кантраляваліся немцамі (нямецкія гарнізоны і г. д.). Не кожны мог адразу пайсці да партызан. Заложнікамі заставаліся сем'і, гаспадаркі.

2. Адпаведная частка ішла ў БКА дабравольна — гэта тыя, якія разумелі, што чакаць ім ад савецкай улады нічога добрага не прыходзіцца (паліцыя, нямецкая агентура і г. д.).

3. Частка верыла нямецкай прапагандзе і спадзявалася, што ўсё скончыцца добра.— *А. Л.*



каменданты больш сцераглі ўласную шкуру і шмат дзе аб'явілі дэмабілізацыю батальёнаў БКА (127). Але ж гэта не зусім дакладна: пра такія рашэнні павінны былі ведаць акруговыя камісары, а ў справаздачах, якія складаліся пасля эвакуацыі, на гэты конт нічога не значыцца. Пасля таго як 27 чэрвеня з Мінска знік т. зв. нямецкі штаб сувязі БКА, Астроўскі і Кушаль не змаглі выдаць атрадам БКА аніякіх распараджэнняў (128).

Беларускія батальёны засталіся кінутыя на ўласны лёс і ў пошуках выйсця кіраваліся пераважна загадамі сваіх камандзіраў. А. Віцкі выпадкова аказаўся непасрэдным сведкам гэтых падзей у Баранавіцкай акрузе, і вось што ён пісаў: «Пад вечар 30-га чэрвеня я прыйшоў на пляц каля казармаў... і выпадкам быў сведкам дэмабілізацыі батальёну, які налічваў каля 700 жаўнераў. Перад фронтам выстраеных ваякаў стаў камандзір батальёну. Пасля кароткай інфармацыі аб заіснаваўшай сітуацыі на фронце ён скончыў гутарку так: «Хто паедзе з намі, дык астацца на месцы ў шэрагу, а рэшта можа йсці дамоў».

Раптам жаўнерская маса ўзварухнулася і рынула ў казармы, каб забраць там свае рэчы і бегчы дамоў. На месцы ў шэрагу засталося 18 ваякаў, пераважна — падафіцэраў, а назаўтра на выезд з'явілася ўжо меншая іх колькасць» (129).

Такім чынам, тыя самыя людзі, што ў сакавіку паслухмяна ішлі на прызыўныя пункты, цяпер, калі ўлада пачала крушыцца, хутка пакінулі войска, у якое яна іх прызвала. За самы кароткі час, без бою, БКА перастала існаваць; толькі невялічкая частка салдат адышла на Захад (130). І гэтае адступленне, як і добраахвотны запіс моладзі ў Люфтвафэ, на думку некаторых нямецкіх даследчыкаў, «амаль немагчыма было зразумець». Акруговы баранавіцкі камісар Вэрнер адзначаў: «Палова сялян з абаронных вёсак эвакуіравалася, а батальёны БКА ўцяклі» (131).

Прыклад з БКА асабліва важны і характэрны: ён вельмі выяўна адлюстроўваў свядомасць і паводзіны «цвярозых рэалістаў» — пераважнай большасці грамадства, што пад славутай рахманасцю і пасіўнасцю прыкрывала сваё поўнае бяссілле перад дзвюма вялікімі армадамі, якія ў страшным двухбор'і вырашалі яе лёс. Насельніцтва, што апынулася паміж молатам і кавалдам, проста не магло ўвесь час адстойваць нейкія сапраўдныя палітычныя погляды, уся яго так званая пазіцыя змяшчалася ў адным слове — «выжыць!». Таму нярэдка здаралася, што вонкавыя праявы сімпатый, і нават колер і фасон мундзіра, уводзілі ў зман. Салдацкая прысяга на вернасць Беларусі ў тагачаснай сітуацыі мела для гэтых людзей не большае значэнне, чым колішняя іх прысяга Польшчы альбо Савецкаму Саюзу. Зрэшты, ужо праз пару тыдняў, пасля пераходу часткі салдат БКА ў шэрагі Чырвонай Арміі, яны маглі яшчэ раз выявіць сваю вернасць. Такую «стойкасць поглядаў» прадвызначала не само

Ч. 1.pdf

за сваю культуру, за сваю мову цярпелі праслед з боку польскіх акупацыйных уладаў. І мы — заходнікі — на сваё вочы ўбачылі «перадавую беларускую інтэлігенцыю» і горка расчараваліся» (52).

У ліпені 1941 г. ва Усходняй Беларусі быў створаны шэраг камітэтаў з тымі самымі функцыямі, што і ў заходняй частцы краю. Цяжка даць поўную ацэнку іх дзейнасці, бо і тут у першай палове жніўня яны былі распушчаны. Але цікава адзначыць, што, паводле данясенняў айнзацгрупы В, у адрозненне ад Заходняй Беларусі, роспуск камітэтаў не выклікаў сярод усходнебеларускага насельніцтва асаблівай рэакцыі (53). На гэта ўплывала адсутнасць нацыянальных супярэчнасцей у рэгіёне.

Не заўважалася тут і сур'ёзных сацыяльных канфліктаў, бо гэтаму ў вялікай ступені спрыяла захаванне папярэдняга зямельнага ладу. «Кулакі», якіх высялялі з вёскі ў 30-ых гг., цяпер вярталіся з высылкі і атрымлівалі свае старыя хаты або дапамогу для будоўлі новых. Жонак і дзяцей эвакуіраваных функцыянераў калгаснікі прымалі ў свае суполкі. Там, дзе не было прычын для асабістай помсты, захоўвалася прыязнае стаўленне да мясцовых партыйцаў, камсамольцаў і міліцыянераў. Людзі лічылі, што звычайны чалавек не павінен адказваць за рашэнні ўлад. Грунтуючыся на сведчаннях усходнебеларусіх эмігрантаў, амерыканскі гісторык Нікалас Вакар сцвярджае, што на пачатку акупацыі ніякія ідэалагічныя матывы не аказвалі ўплыву на грамадскія адносіны (54). Тое самае датычылася і акупантаў. «Іх успрынялі, як і многіх іншых у мінулым, не як немцаў, але як людзей, якія неслі надзею на перамены» (55).

Гэтая ацэнка, вядома, не была справядлівая для ўсяго грамадства, бо ўжо з першых дзён акупацыі пачалося стварэнне савецкага падполля і партызанскіх атрадаў. У недалёкай будучыні гэты рух зробіцца адным з найважнейшых вызначальных фактараў акупацыйнай гісторыі Беларусі, пакуль што ён быў яшчэ ў зародку, хоць летам 1941 г. было занатавана шмат дыверсійных акцый. Калыскаю і базай руху супраціўлення стала Усходняя Беларусь, дзе ў час эвакуацыі закладзены быў яго арганізацыйны падмурак.

Характар мясцовай адміністрацыі і паліцыі ва Усходняй Беларусі і сам працэс іх стварэння аказаліся пад уплывам тутэйшай грамадскай сітуацыі. У адрозненне ад сваіх заходніх суродзічаў, жыхары гэтай паловы краю не выяўлялі асаблівай ініцыятывы ў такой сферы. На думку Вакара, беларускае насельніцтва, на працягу дваццаці гадоў пазбаўленае правоў самастойнасці, і цяпер не было падрыхтавана да нейкіх уласных пачынанняў. Ініцыятыва належала вайсковым камендатурам: яны пад прымусам набіралі людзей для мясцовай адміністрацыі або ішлі насустрач кандыдатурам, якіх падтрымлівала насельніцтва. Тым не менш працэс гэты ішоў з вялікімі перашкодамі, асабліва на вёсцы, і куды больш марудна, чым у Заходняй Беларусі. Ужо на пачатку жніўня айнзацгрупа В паведамляла, што на ўсход ад Мінска народ не хоча займаць аніякіх пасад, баючыся вяртання савецкіх улад або начной помсты партызан (56).



На гэтай зямлі, як і на астатніх тэрыторыях, Вермахт пакідаў збоку нацыянальныя меркаванні пры падборы кадраў. У адміністрацыі і паліцыі служылі беларусы, рускія, з асаблівай ахвотай сюды бралі савецкіх немцаў, якіх у адным толькі Мінску налічвалася 150. У некаторых мясцовасцях ваенныя ўлады вярталі на пасады былых савецкіх службоўцаў, пры тым нават і камуністаў, якія з тых ці іншых прычын засталіся на Беларусі (57). Быў абвешчаны прызыў у дапаможную паліцыю. У яе шэрагах апынулася, між іншым, нямала ваеннапалонных і савецкіх міліцыянераў. Новыя ўлады высока ацэньвалі іх прафесійнасць і вопыт (58). Частка гэтых людзей пайшла ў паліцыю па заданню савецкага падполля.

На фоне гэтага кангламерату вылучалася група эмігрантаў на чале са Шчорсам. Яны разлічвалі на стварэнне ў Мінску часовага беларускага ўрада. Але тут іх спаткала расчараванне. Зараз жа па прыездзе айнзацгрупа паспяшалася «пераканаць» іх у тым, што яны ўзяліся за марную справу, бо пазіцыя Германіі адносна беларускага пытання яшчэ не вызначана — Гітлер не даў сваіх дырэктываў, і распачынаць палітычную дзейнасць зарана (59). Апрача выканання інструкцый, агульных для ўсёй дапаможнай адміністрацыі, гэтым дзеячам дазволілі толькі весці прапаганду дзеля ўзмацнення нацыянальнай свядомасці беларусаў, каб адасобіць іх ад расійскага ўплыву.

Такім чынам, надзеі Шчорса і яго групы на хуткае здзяйсненне іх палітычных планаў развеяліся пасля прыбыцця на Беларусь. З распараджэння айнзацгрупы, вайсковыя ўлады выкарысталі іх для стварэння адміністрацыі ў Мінску і наваколлі. Бургамістрам горада Мінска быў прызначаны малады лекар Вітаўт Тумаш, яго намеснікам — Адам Дэмідэцкі-Дэмідовіч, а камендантам гарадской дапаможнай паліцыі — Зміцер Касмовіч. Арганізацыяй адміністрацыі ў Мінскім раёне заняўся Мечыслаў Контаўт, у Віцебску — Усевалад Родзька. Затое Шчорс застаўся без ніякае пасады, хоць у якасці кіраўніка «Цэнтра» і групы прыбылых эмігрантаў ён, напэўна, разлічваў адыграць больш важную палітычную ролю (60).

Тым часам на галоўным месцы ў беларускай адміністрацыі нечакана апынуўся Астроўскі, пакінуўшы ззаду не толькі Шчорса, але і галоўнага свайго саперніка — ксяндза Гадлеўскага, які 22 чэрвеня быў прызваны на працу на берлінскую радыёстанцыю і ўлетку 1941 г. не мог прыехаць на Беларусь. Астроўскі таксама разлічваў на магчымае стварэнне беларускага ўрада і спадзяваўся, што зможа яго ўзначаліць. Няўдача Шчорса яго не напалохала — Астроўскі быў занадта вопытны ігрэц. Прыбыўшы ў Мінск, ён неўзабаве, прыкладна 10 ліпеня, атрымаў пасаду шэфа адміністрацыі Мінскай

насельніцтва, а пануючая ўлада — за апошнія некалькі год яна змянялася занадта часта.

Пераважная частка беларускага грамадства прадчувала блізкую змену гэтай улады і таму не вельмі цягнулася да БЦР. Нягледзячы на гэта, моцны парыў нацыяналізму не мог не пакінуць следу ў людской свядомасці. Міф пра будаўніцтва беларускай дзяржавы і войска, арганізацыю нацыянальных устаноў і скліканне кангрэса так удала быў пушчаны Готбэргам і Астроўскім, што жыве і да сённяшняга дня.

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЦР У НЯМЕЧЧЫНЕ

Летам 1944 г. Чырвоная Армія дасягнула лініі Віслы, а войскі заходніх саюзнікаў здабылі Парыж і наблізіліся да нямецкай мяжы. Разгром Трэцяга Рэйха стаў справаю найбліжэйшай будучыні. Толькі ў гэтай сітуацыі ў штабе Гімлера выспела канцэпцыя стварэння супольнага антыбальшавіцкага фронту народаў Расіі пад камандаваннем генерала Уласава. Туды павінны былі ўвайсці не толькі расійцы, але і ўкраінцы, беларусы і г. д. Германія ўжо страціла амаль усю тэрыторыю СССР, пагэтаму для барацьбы з Чырвонай Арміяй немцы меркавалі выкарыстаць усходніх рабочых, ваеннапалонных альбо бежанцаў, што апынуліся на тэрыторыі Рэйха. Ставіўся разлік і на прапагандысцкі эфект, нават на антысталінскую рэвалюцыю ў СССР. Першае спатканне Гімлера з Уласавым было прызначана на канец ліпеня, але ў гэтыя планы ўварвалася пакушэнне на Гітлера, таму сустрэчу давялося адкласці.

Тым часам Розэнберг па-ранейшаму быў тае думкі, што галоўным матывам супрацоўніцтва нерасійскіх народаў СССР з немцамі была надзея на стварэнне ўласных нацыянальных дзяржаў, незалежных ад расійскага ўплыву. Пагэтаму ён прадбачыў, што прадстаўнікі гэтых народаў будуць супраць гімлераўскага праекта, які прадугледжваў падпарадкаванне іх нацыянальных органаў і вайсковых часцей Уласаву. І хаця канчатковая мэта абедзвюх канцэпцый была тая самая — г. зн. абарона Германіі ад чырвоных войскаў,— але сродкі яе дасягнення прынцыпова адрозніваліся. Гітлер цяпер не займаў цвёрдай пазіцыі ў гэтай справе: ён не падтрымліваў і не перашкаджаў Гімлеру і Розэнбергу ажыццяўляць іх праекты, якія ўжо не маглі перамяніць сітуацыю (132).

Падобна на тое, што меркаванні Розэнберга падзяляла Галоўнае ведамства СС. Пра гэта сведчыць адзін цікавы факт: у ліпені, калі Гімлер планаваў правесці першае спатканне з Уласавым, у рамках яго ведамства ўзнік спецыяльны аддзел, т. зв. Freiwilligen-Leitstelle Ost (аддзел добраахвотных сіл з Усходу), пад кіраўніцтвам штурмбанфюрэра СС доктара Фрыца Арльта. Задачаю новага органа стала арганізацыя ўсходніх вайсковых фармацый. Арльт падзяліў свой



аддзел на шэраг нацыянальных сектараў, сярод якіх быў і беларускі. Па ўсім было відаць, што для кожнай нацыянальнасці мяркуецца стварыць асобныя часці Waffen-SS. У ОМі таксама былі створаны асобныя нацсекцыі (Leitstellen), якія павінны былі сачыць за нацыянальнымі арганізацыямі, размешчанымі ў Нямеччыне. Кіраўніком беларускай секцыі (Weissruthenische Leitstelle) стаў доктар Любэ.

Усе гэтыя арганізацыйныя змены распачаліся ў момант адступлення нямецкіх войскаў з Беларусі, пагэтаму Астроўскі падчас ад'езду з Мінска яшчэ нічога пра іх не ведаў. Ён, безумоўна, прадбачыў, што немцаў пагоняць з Беларусі, аднак не думаў, што гэта станецца так хутка і ператворыцца ў сапраўдны разгром. Яго план арганізаванай эвакуацыі войска быў перакрэслены, а разам з ім патанулі і ўсе далейшыя палітычныя камбінацыі. Ён стаў палкаводцам без войска — не было чаго і разлічваць на кантакт з польскім падполлем, якое пасля сутыкнення з Чырвонай Арміяй само апынулася ў крызісе. Мяркуючы па ўсім, у гэты час ён лічыў, што роля БЦР скончылася, ці, у самым лепшым выпадку, завісла пад пытальнікам.

Паасобныя дэталі эвакуацыі пацвярджаюць, што БЦР у гэты час апынулася ў няпэўным становішчы. 30 чэрвеня Рада БЦР пакінула Мінск. Большасць яе членаў скіравалася ў Кёнігсберг. Тым часам Астроўскі адкалоўся ад сваіх сяброў і вярнуўся ў Лодзь, куды пераехаў і Кушаль. БЦР рассыпалася на часткі (133). Аднак гэтае няпэўнае становішча працягвалася нядоўга. Ужо прыкладна 10 ліпеня Кох даручыў Бэкеру, які акурат тады прыбыў у Кёнігсберг, перавезці сяброў Рады ў Берлін і перадаць іх у распараджэнне ОМі. Астроўскага адшукалі ў Лодзі, і 12 ліпеня ён апынуўся ў Берліне (134). Усе гэтыя абставіны ўказваюць на тое, што дзейнасць БЦР у Германіі была ўзноўлена па загаду ОМі.

Толькі пасля таго як Рада пераехала ў Берлін, Розэнберг прызнаў яе за «выключнае і адзінае прадстаўніцтва беларускага народа» (135). У новых умовах Розэнберг вызначыў для БЦР новую палітычную ролю, таму прызнанне, на якое ОМі не магло рашыцца са снежня 1943 г., наступіла толькі цяпер. У адрозненне ад прадстаўнічых органаў іншых усходніх народаў, Рада была створана ў краі, а не ў эміграцыі і магла спаслацца на мандат другога ўсебеларускага кангрэса. Адсутнасць адпаведнага дэкрэта ОМі, якая ва ўмовах акупацыі па сутнасці ўтрымлівала Раду ў бяспраўі, цяпер станавілася козырам, маўляў, законнасць БЦР грунтуецца на волі народа, а не на распараджэнні акупацыйнай улады. Больш за гэта, зараз можна было прадставіць дзейнасць Рады ў эміграцыі як працэс будаўніцтва беларускай дзяржавы пад нямецкай акупацыяй, пераваны прыходам Чырвонай Арміі.

20 ліпеня, неўзабаве пасля таго як Розэнберг прызнаў БЦР,

акругі (61). Дагэтуль прадстаўнікам мясцовага насельніцтва даручалі кіраўніцтва толькі павятовымі або гарадскімі ўправамі. Яму, такім чынам, было даручана кіраўніцтва значна вышэйшага ўзроўню — Мінская акруга лічылася сталічнай. У іерархіі мясцовых дзеячаў гэта была пасада нумар адзін. Заняўшы яе, Астроўскі разлічваў з цягам часу павялічыць свой уплыў і на базе акруговай Мінскай управы стварыць цэнтральны орган беларускай адміністрацыі*.

Але ў той час на Беларусі панавала сітуацыя, якая не спрыяла здзяйсненню падобных планаў. Па-першае, Гітлер так і не вызначыў сваю пазіцыю адносна ўсталявання «новага парадку» на Усходзе. Па-другое, Астроўскі не меў бы падтрымкі сярод правінцыяльнай адміністрацыі, якая стваралася пад кіраўніцтвам Вермахта,— у пераважнай ступені тут дзейнічаў небеларускі элемент. Таму першнаперш ён пачаў збіраць вакол сябе беларускую інтэлігенцыю. Дзеля гэтага трэба было аднавіць старыя кантакты на Беларусі. Астроўскі з'ездзіў у Вільню, дабіўся згоды некалькіх асоб на супрацоўніцтва, дамогся ў немцаў дазволу на пераезд у Мінск або ў наваколле (62). Гэтыя захады Астроўскага знаходзілі падтрымку ў СД. Тут з трывогаю назіралі за ростам палітычнага ўплыву палякаў у Заходняй Беларусі і шукалі выйсця ў пашырэнні беларускай адміністрацыі.

Такім чынам, адміністрацыйны апарат, створаны на Беларусі ў першыя тыдні акупацыі, быў з'явішчам вельмі неаднародным. Побач з выпадковымі людзьмі, якія проста шукалі заробку, у ім распачалі сваю дзейнасць мясцовыя палітычныя дзеячы. Для іх гэта была адзіная магчымасць легальнай барацьбы за свае інтарэсы, пагэтаму кіраўнічыя пасады ў дапаможнай адміністрацыі яны расцэньвалі як плацдармы ў змаганні за палітычны ўплыў.

Удзельнікі гэтай барацьбы групаваліся галоўным чынам вакол наступных ідэалагічных напрамкаў:

а) беларускія дзеячы, якія імкнуліся да стварэння незалежнай беларускай дзяржавы;

б) польскія дзеячы, якія імкнуліся аднавіць становішча, якое існавала да верасня 1939 г.;

в) савецкія дзеячы розных нацыянальнасцей, якія выконвалі дыверсіі і разведзаданні дзеля вяртання становішча, што панавала да чэрвеня 1941 г.

Сутыкненне гэтых палітычных сіл непазбежна павінна было прывесці ва ўмовах акупацыі да польска-савецкага канфлікту ў барацьбе за Заходнюю Беларусь, паколькі беларускі нацыяналізм станавіўся перашкодай як для польскага, так і для савецкага пад-

* Аўтар тут не зусім дакладны. Р. Астроўскі заняў пасаду намесніка шэфа Мінскай акругі. У жніўні ён узначаліў аддзел народнай асветы Мінскай акругі. Пасля перадачы акругі Генеральнаму камісарыяту Беларусі Р. Астроўскі едзе далей на Усход, дзе арганізуе і кіруе акругамі ў Бранску, Смаленску, Магілёве.— *А. Л.*



полля, таму абодва бакі ставіліся да яго аднолькава варожа. Прэлюдыяй у гэтай барацьбе «ўсіх з усімі» на першым этапе акупацыі стаў польска-беларускі канфлікт.

Першыя стараннi былых землеўладальнікаў вярнуць сабе страчаныя маёнткі і інвентар падтрымалі нямецкія вайсковыя ўлады і мясцовая адміністрацыя. Многія распарцэляваныя землі або маёнткі, некалі перапрацаваныя на саўгасы, улетку 1941 г. зноў апынуліся ў руках старых уладароў. Адпаведных юрыдычных распараджэнняў наконт рэгуляцыі правоў на зямлю яшчэ не было, пагэтаму колішнія гаспадары лічыліся цяпер фармальна адміністратарамі сваіх маёнткаў, такім чынам, іх сацыяльны статус ад гэтага мала змяняўся (63).

Засталося нямала дакументальных ілюстрацый таго, як праходзіў гэты працэс, мы, аднак, абмяжуемся толькі трыма, узятымі з тагачасных польскіх крыніц,— яны досыць поўна характарызуюць яго праявы і вынікі.

У ліпені 1941 г. віленскі «Goniec Codzenny» («Гонец цодзенны») апублікаваў уражанні аднаго ўладальніка маёнтка ў Ашмянскім павеце. Ён перад прыходам Саветаў схаваўся ў Вільні, а з пачаткам нямецкай акупацыі вярнуўся на сваю зямлю. Па дарозе ён запытаўся ў сустрэчных сялян, куды падзеліся яго каровы, коні і мэбля. Прыбыўшы на месца, ён склікаў мужыкоў і сказаў ім:

«— У цябе, Валодзя,— мая сіўка, у цябе, Пецька,— мая гнедая кабыла, а ў цябе, солтыс,— мая жняярка. Каб мне гэта ўсё за гадзіну было на сваім месцы, бо гэта вам не калгасная і не ваша ўласнасць, яна заўсёды была мая.

— Мы і так ведаем, паночак: што наша, то наша, а што пана, тое вернем. Мы не хочам нікому крыўды. Як некалі было, так і цяпер будзе. Будзем разам працаваць.

І пачалі памалу, без спеху, як гэта ў нас звычайна робіцца на Беларусі, звозіць жывёлу і інвентар, дзякуючы Богу, што яшчэ змогуць з палеткаў, засеяных увосень ці ўвесну, сабраць жніво — ураджай абяцаў быць багаты».

У дадатак да гэтага паведамлення «Гонец цодзенны» пісаў, што «такія адносіны цяпер пануюць усюды на Беларусі. Нідзе няма ніякіх сутычак. За гэтым сочаць мясцовыя ўлады, прызначаныя ваеннымі камендатурамі» (64).

Не падзяляў гэтай думкі орган падпольнай Дэмакратычнай партыі — «Новэ дрогі», пішучы наступнае:

«...улетку 1941 г. на апусцелыя сядзібы пачалі вяртацца «пановe». Адны вярталіся з цяжкага бяздомнага блукання з вялікім запасам вопыту і разваг. Яны стараліся наладзіць адносіны з вёскай тактоўна і спакойна, кампрамісна. Але іншыя прыязджалі раз'юшаныя, поўныя помслівага запалу, яны прагнулі адплаты за тое, што было. Пачаліся скандальныя сцэны гвалту пры адбіранні жывога

Астроўскі абʼявіў пратэст, адрасаваны «ўсім урадам і народам свету» ў сувязі з тым, што Беларусь занялі савецкія войскі. «Гэтыя акты бальшавіцкай Масквы БЦР разглядае як новае гвалтоўнае парушэнне міжнароднага права. Сучаснае заняцце бальшавікамі тэрыторыі Беларусі БЦР разглядае як часовую ваенную акупацыю і мабілізуе ўвесь беларускі народ як у краі, так і за ягонымі межамі да хутчэйшага вызвалення свае Бацькаўшчыны» (136).

Такім чынам, БЦР і пасля эвакуацыі не перастала быць інструментам прапаганды, толькі не Готбэрга, а Розэнберга. Гэты пратэст, хаця і адлюстроўваў сапраўдную пазіцыю БЦР, несумненна, нарадзіўся з ведама і адабрэння Розэнберга, інакш ён папросту не быў бы апублікаваны.

Рэальныя задачы і паўнамоцтвы Рады на тэрыторыі Германіі былі вызначаны ў інструкцыі ОМі. Яны зводзіліся да гэтакіх указанняў:

1. Барацьба з бальшавізмам шляхам:
   а) удзелу ў падрыхтоўцы да стварэння беларускіх вайсковых фарміраванняў;
   б) удзелу ў стварэнні партызанскіх груп за лініяй фронту;
   в) актыўнай прапагандысцкай дзейнасці сярод беларускіх рабочых.
2. Абʼяднанне ўсіх беларусаў у Саюзе вызвалення Беларусі (гэты Саюз павінна была стварыць БЦР.— *Ю. Т.*).
3. Культурная, сацыяльная і прававая апека над усімі беларусамі ў Нямеччыне.
4. Маладзёжная праца (СБМ, вайсковая дапаможная служба).
5. Жаночая праца (137).

Грамадскай базай для дзейнасці БЦР павінна было стаць беларускае насельніцтва, якое апынулася ў Германіі альбо на тэрыторыі Польшчы і Чэхаславакіі, што заставаліся яшчэ пад нямецкай акупацыяй. Пераважную частку гэтых людзей немцы насільна вывезлі з Беларусі на прымусовую працу, іх агульная колькасць дасягала 378 тыс. чалавек. Апрача таго, у Германіі знаходзілася некалькі тысяч маладых людзей, якія паступілі ў дапаможную службу Люфтвафэ, а таксама нешматлікая даваенная эміграцыя. Такім чынам, у суме атрымлівалася нешта каля 400 тыс. чалавек, прычым сярод выхадцаў з Беларусі пэўную частку складалі польскія і расійскія рабочыя. У ліпені ў гэтую масу ўлілося некалькі дзесяткаў тысяч бежанцаў (138), так што агульная колькасць беларусаў у Германіі і на акупіраваных абшарах дасягала 500 тысяч.

Культурнай і сацыяльнай апекай ад імя БЦР павінны былі займацца берлінскае Беларускае прадстаўніцтва (Vertrauenstelle) і Камітэт Самапомачы. Абедзве арганізацыі мелі свае аддзелы ў найбуйнейшых беларускіх асяродках. Цяпер і адна і другая былі падпарадкаваны БЦР. Толькі зараз, у Германіі, пад кіраўніцтва Рады быў



перaведзены СБМ. Яго штаб з Мінска пераехаў у Тропаў у Судэтах. Дзейнасць Рады ў гэтых галінах зводзілася толькі да пераказвання нямецкім уладам сваіх пажаданняў. Стараннямі БЦР быў атрыманы дазвол на адкрыццё беларускіх школ пры ўмове, што такое жаданне выкажуць бацькі не менш як 20 дзяцей школьнага ўзросту. Некалькі такіх школ і сапраўды было адчынена (139). У верасні 1944 г. пры берлінскай арганізацыі «Вінэта» была створана гастрольная тэатральная трупа пад назвай «Жыве Беларусь», якая ў лістападзе — снежні дала 46 прадстаўленняў у розных эміграцыйных беларускіх асяродках (140). Арганізавана таксама і рэлігійнае жыццё. Увосень 1944 г. у Германіі выходзілі тры беларускія часопісы — «Раніца» (яе апошні нумар выйшаў 21.3.1945 г.), «Малады змагар» (для моладзі) і «Беларускі работнік», а радыёстанцыя ў Гамбургу да сакавіка 1945 г. вяла штодзённыя 15-хвілінныя перадачы на беларускай мове (141).

Аднак самай галоўнай задачай Рады быў удзел у нямецкай абарончай кампаніі. Па сутнасці, толькі гэтая мэта схіляла немцаў да падтрымкі існавання БЦР, яе сяброў і супрацоўнікаў. Астроўскі апынуўся ў цяжкай сітуацыі: з аднаго боку, ён разумеў непазбежнасць разгрому Германіі, а з другога — адступаць ад супрацоўніцтва з немцамі яму не было куды. Апаненты Астроўскага на Беларусі і ў эміграцыі папракалі яго ў тым, што ў гэты безнадзейны для Трэцяга Рэйха перыяд ён верна служыў яго інтарэсам, заклікаў беларусаў да канца змагацца з Чырвонай Арміяй і такім чынам падштурхоўваў людзей да дарэмнага кровапраліцця. У сувязі з гэтымі закідамі варта бліжэй разгледзець вайсковую дзейнасць БЦР.

У ліпені 1944 г. з Беларусі былі эвакуіраваны шматлікія нацыянальныя паліцэйска-вайсковыя фарміраванні. Яны сканцэнтраваліся на тэрыторыі Усходняй Прусіі і Паўночнай Мазовіі (142). Сярод іх было шмат беларускіх часцей: рэшткі БКА і яе афіцэрская школа, 13-ы батальён СД, атрады дапаможнай паліцыі і інш. На думку Кушаля, можна было набраць каля 10 тыс. салдат і афіцэраў — гэтага хапіла б на фарміраванне адной беларускай дывізіі (143). Можна было спадзявацца і на згоду Арльта з Галоўнага ведамства СС. Пра гэта сведчыць стварэнне іншых разнастайных усходніх часцей СС, тым больш што ў кастрычніку Арльт гаварыў, што намераны арганізаваць беларускую брыгаду СС (144).

Выкарыстанне гэтых магчымасцей залежала ў вялікай ступені ад Астроўскага, паколькі ўжо ў ліпені ён гаварыў пра гэта з Арльтам (145). Аднак прапанову аб стварэнні беларускага легіёна Астроўскі накіраваў не ў Галоўнае ведамства СС, а ў штаб генерала Кёстрынга, камандзіра Вермахта па справах ненямецкіх фарміраванняў, дзе ніхто не займаўся гэтым пытаннем, і таму было мала шансаў на яго хуткае вырашэнне. Прапанова была зроблена ў сярэдзіне ліпеня, акурат тады, калі Галоўнае ведамства СС вырашала лёс войскаў,

і мёртвага інвентару. Не раз — са зваротам да нямецкіх уладаў па дапамогу пры ўстанаўленні права ўладання. Немцы ахвотна мяшаліся ў справу і «кавалі морды» мужыкам, абараняючы «справядлівыя прэтэнзіі польскага пана». Мы ведаем прозвішчы тых людзей, што бачылі ў нямецкім акупанце дабрадзея і абаронцу. У будучыні іх спасцігне справядлівае і суровае пакаранне. Але факт застаецца фактам: сёння мы бачым, як віленская вёска, якая за два гады бальшавіцкай улады страціла сімпатыі да камунізму, цяпер нанова пачынае іх набываць. Спрытны агітатар ужо шэпча мужыку: «хацелі — дык во, смакуйце цяпер наперад сваю «панску Польску» (65).

«Скандальныя сцэны гвалту», пра якія пісалі «Новэ догі», не спыняліся, аднак, толькі на «каванні морды» мужыкам, у некаторых мясцінах здараліся людское супраціўленне і ахвяры, пра што восенню 1941 г. даносіла разведка ZWZ:

«У беларускія раёны часта вяртаюцца землеўладальнікі пад аховай нямецкай жандармерыі. Гэта выклікае канфлікты з мужыкамі, у якіх забіраюць калектывізаваную фальваркавую зямлю і розную надворную рухомую маёмасць. У ваколіцах Ліды дайшло да беспарадкаў, жандары застрэлілі некалькіх сялян. Немцы робяць выгляд, быццам бы «вяртаюць Польшчу», і такім чынам ствараюць варожасць паміж палякамі і беларусамі» (66).

Заваяванне пасад у мясцовай адміністрацыі і вяртанне былых паноў у свае фальваркі нямецкая служба бяспекі расцэньвала як этапы ажыццяўлення адзінага польскага плана — зварот Заходняй Беларусі пад сваё панаванне і ўзнаўленне даверасnёўскага status quo. Нейтралізацыя і вывад з гульні самых актыўных беларусаў была трэцім метадам ажыццяўлення гэтага плана: іх лічылі за палітычных праціўнікаў. Такія настроі падаграваліся прагай помсты за падзеі 1939—1941гг., тут перапляталіся грамадскія інтарэсы і асабістыя рахункі. Не дзіва, што ўжо ў першыя дні акупацыі палякі пачалі даносіць на беларусаў, выкрываючы іх сапраўдны або ўяўны бальшавізм (67).

Паводле беларускіх крыніц, такія здарэнні адбываліся на шырокім абшары і былі прычынаю вялікіх ахвяр летам 1941 г., асабліва сярод інтэлігенцыі (68). Стварылася атмасфера польскага вяршэнства і антыбеларускага тэрору. Характарызуючы тагачасную сітуацыю ў Вілейскай акрузе, Аляксандр Калодка піша, што пры гэтай атмасферы «шмат хто з інтэлігенцыі пакінуў акругу, не бачачы ніякай магчымасці грамадскай працы» (69).

У такой сітуацыі імкненне Астроўскага беларусізаваць адміністрацыю сутыкалася з вялікімі перашкодамі. У канцы ліпеня пад націскам СД ваенныя камендатуры паспрабавалі звольніць з кіраўнічых пасад палякаў і замяніць іх беларусамі. Але гэтая акцыя выклікала незадавальненне сярод польскага насельніцтва і новыя скаргі, пасля якіх частку нядаўна нанятых беларусаў пазвальнялі



(70). Падтрымлівала гэтыя тэндэнцыі эндэкаўская «Валька» (Walka), якая ўсіх спрэс беларускіх служачых абвінавачвала ў камунізме (71).

Кампанія па барацьбе з беларускім актывам рукамі нямецкіх акупантаў узмацняла варожасць і стварала перашкоды для тых нешматлікіх беларускіх і польскіх груп, якія шукалі паразумення. Не забягаючы наперад у разглядзе падзей, вынікам якіх сталі перагаворы паміж прадстаўнікамі Галоўнага камандавання Арміі Краёвай і Партыі беларускіх нацыяналістаў (далей ГК АК і ПБН.— *Рэд.*) у Мінску ў ліпені 1942 г., варта закрануць пытанне адказнасці за гэтыя трагічныя падзеі. Сярод дзеячаў беларускага руху, прычым не толькі нацыянальнага, але і камуністычнага, жыло перакананне, што гэту аперацыю інспіравалі польскія ўлады ў Лондане і іх падпольныя мясцовыя прадстаўнікі (72). Пазіцыя ПБН, сфармуляваная яе кіраўніком Янкам Станкевічам і прадстаўнічкаю ГК АК Зоф'яй Дабжыньскай («Евай»), гучала наступным чынам:

Станкевіч (ПБН): «...смутная вайна, у якой гестапа праліваe польска-беларускую кроў, у значнай ступені ідзе па віне мясцовых палякаў. Сярод беларусаў распаўсюдзілася думка, што «двудушнай палітыкай тутэйшых палякаў» кіруе польская цэнтральная ўлада, бо ў розных аддаленых ад сябе мясцовасцях палякі паводзілі сябе аднолькава пры ўваходжанні немцаў. Беларусы ўвогуле баяліся трапіць немцам на вочы, затое палякі віталі іх з энтузіязмам, дзякавалі за вызваленне ад бальшавікоў і запэўнівалі, што толькі палякі — сапраўдныя прыяцелі заходняй культуры і Германіі, маўляў, яна прынесла ім вызваленне ад прыроджанага ворага — Саветаў, у той час як беларусы — гэта натуральныя бальшавікі, якія арыентуюцца на Усход. Першая кроў, якая пралілася пры нямецкай акупацыі, была беларуская» (73).

Дабжыньская (ГК АК): «Я адказала на гэта: «Даю слова гонару, што такога распараджэння ўлад не толькі не было, але, наадварот, такія паводзіны — здрада Польшчы, і сапраўдныя польскія ўлады пакараюць гэтых людзей за здраду дзяржаве...». Я папрасіла пералічыць мясцовасці, дзе падобныя выпадкі мелі месца, а таксама даць пайменны спіс палякаў, якія працавалі на немцаў» (74). Такім чынам, прадстаўнік Галоўнага камандавання АК адназначна выказаўся супраць такіх паводзін.

На першы погляд, польска-беларускія сутыкненні ўзнікалі стыхійна, без удзелу акупантаў, аднак яны выкарыстоўвалі іх ва ўласных інтарэсах, дзеля рэалізацыі вызначанай яшчэ да нападу на СССР праграмы генацыду. Гайдрых, шэф паліцыі бяспекі і службы бяспекі Рэйха, ужо з першых дзён вайны ахвотна адобрыў даносы ад розных нацыянальных груп, аднак распарадзіўся, каб знішчальныя акцыі ў першую чаргу скіроўваліся на бальшавікоў і яўрэяў, а потым, з цягам часу, адпаведныя рашэнні будуць прымацца і су-

што эвакуіраваліся ў Мазовію (146).

Астроўскі зрабіў вельмі важны крок. З аднаго боку, ён задаволіў чыноўнікаў ОМі, якія пераканаліся, што беларусы стаяць на добрым шляху да стварэння свайго легіёна, прапанову БЦР поўнасцю падтрымалі. З другога боку, Галоўнае ведамства СС прыняло рашэнне ўключыць усе беларускія часці або іх рэшткі, што знаходзіліся ў Мазовіі, у новастворану 30-ую пяхотную дывізію СС пад камандаваннем обер-штурмбанфюрэра Зіглінга. Гэтую дывізію называлі яшчэ расійскай дывізіяй СС № 2 (147). Яе нацыянальны склад быў вельмі пярэсты. Найбольшую частку складалі беларусы, шмат было расійцаў, палякаў, украінцаў і іншых. Пасля кароткай падрыхтоўкі 23 жніўня 30-ую дывізію накіравалі на заходні фронт, дзе яна пачала хутка раставаць у выніку дэзерцірства. Большая частка ўцекачоў з гэтай дывізіі, пераважна палякаў і беларусаў, восенню 1944 г. уступіла ў войска генерала Андэрса (148).

Гэтай гульні Астроўскага не мог зразумець Кушаль, які сапраўды імкнуўся да стварэння беларускай нацыянальнай вайсковай часці — пра гэта сведчаць ужо цытаваныя яго ўспаміны. Астроўскі тым часам працягваў сваю лінію і высылаў Кушаля ў штаб Кёстрынга, каб падштурхнуць немцаў і хутчэй дабіцца рашэння аб фарміраванні беларускага легіёна. Гэтыя старанні не прыносілі ніякага плёну. Астроўскі рабіў выгляд занепакоенага, звяртаўся ў беларускую секцыю ОМі, але справа не зрушылася ні на крок. Нарэшце 11 кастрычніка да Кёстрынга напісаў Браўтыгам з ОМі, але і гэта не дапамагло (149). І толькі 6 лістапада на пасяджэнні БЦР было сказана, што, «як высветлілася», справа арганізацыі беларускага войска належыць да кампетэнцыі СС, а не Вермахта (150). Такім чынам, каб разблытаць гэтую справу, спатрэбілася чатыры месяцы.

Аднак зацягваць чаканне далей было небяспечна, таму, каб апраўдацца перад уладамі і паказаць, што апрача лозунгаў і заклікаў робіцца нешта яшчэ для барацьбы з бальшавізмам, БЦР у сярэдзіне верасня арганізавала пад сваёй фірмай т. зв. батальён БКА. Было прынята рашэнне, што, паколькі афіцыйна БКА не была распушчана, не трэба ствараць яе нанова. Праўда, не было атрымана ні адной вінтоўкі і ні аднаго мундзіра, аднак у берлінскай камендатуры ўдалося здабыць памяшканне нібыта для раненых салдат БКА, якія вярталіся са шпіталяў. Пад гэты дах сабралася некалькі сотняў салдат і афіцэраў, а таксама іх сямейнікі і іншыя цывільныя асобы, якія прабылі ў гэтым «батальёне» пяць месяцаў — да канца студзеня 1945 г. Для бяздомных бежанцаў гэта быў не найгоршы прытулак. Усё гэта вонкава прадстаўлялася як батальён БКА, афіцэрская школа і да т. п., рабілася многа шуму, ОМі па-ранейшаму дабівалася яго легалізацыі, але вынікаў гэта не прынесла ніякіх. Тым не менш удалося атрымаць ад міністэрства пэўныя грашовыя датацыі на ўсю імпрэзу, так што старанні ўсё ж марна не прайшлі (151).



І толькі ў сярэдзіне снежня 1944 г. справа беларускіх вайсковых фарміраванняў апынулася ў Галоўным ведамстве СС, тут яе абяцалі вельмі хутка ўладзіць. Аднак менавіта цяпер Астроўскі пачаў «траціць надзею» на гэтае рашэнне, распарадзіўся прыпыніць дзейнасць вайсковага аддзела БЦР і нават збіраўся распусціць вучэбны батальён (152). Прыблізна 10 студзеня БЦР атрымала вуснае паведамленне, што Галоўнае ведамства СС згаджаецца на стварэнне беларускай брыгады пад назваю Waffen-SS Grenadier-Brigade «Weissruthenien». Афіцыйнае пісьмовае пацвярджэнне аб гэтым было атрымана 26 студзеня (153). А ў наступны дзень Астроўскі абвясціў заклік да барацьбы і распарадзіўся падрыхтавацца да вярбоўкі валанцёраў. У гэты час Чырвоная Армія ўжо прабіла нямецкую абарону на Вісле і наблізілася да Одэра. У Берліне ўзнялася такая паніка, што і гаворкі быць не магло пра вярбоўку добраахвотнікаў. Зрэшты, у лютым, пасля налёту амерыканскай авіяцыі, перастала працаваць ОМі, а БЦР распачала паступовую эвакуацыю сваіх супрацоўнікаў у заходнюю частку Германіі. Такім чынам, брыгада «Беларусь» засталася толькі папяровым праектам.

Паходжанне вайсковай адзінкі, якая ў эміграцыйнай літаратуры атрымала назву дывізіі «Беларусь», было зусім іншае. Яно звязана з пазнейшым лёсам 30-ай дывізіі Зіглінга. Пасля шматлікіх дэзерцірскіх уцёкаў, а таксама пасля перадачы пад канец 1944 г. шэрага яе падраздзяленняў у войска Уласава, асабовы склад 30-ай дывізіі значна паменшаў. У студзені Зіглінг атрымаў загад папоўніць сваю дывізію шляхам вярбоўкі беларусаў. У сувязі з гэтым ён звязаўся з Астроўскім,і той перадаў яму вучэбны батальён. Так 28 студзеня частка гэтага батальёна, здатная да вайсковай службы, адышла да 30-ай дывізіі, а сама дывізія змяніла назву. З гэтай пары яна ўжо звалася: 30 Waffen-SS Grenadier-Division (Weissruthenische № 1) (154) — замест ранейшага Russische № 2. Пунктам яе фарміравання стала мясцовасць Гіршаў, што ў Баварыі. Але камплектаванне гэтай дывізіі так і не паспела скончыцца, і на фронт яна ніколі не трапляла. 30 красавіка яна апынулася ў амерыканскім палоне. У гэты час у яе ўваходзіла 3 батальёны — 1094 чал., з іх 182 афіцэры і падафіцэры (155).

Такім чынам, шмат фактаў указвае на тое, што, нягледзячы на заклікі і дэкларацыі, Астроўскі па магчымасці стрымліваў фарміраванне асобнай беларускай вайсковай адзінкі ў Нямеччыне. Прыкладна такую самую тактыку ён абраў і ў справе арганізацыі Саюза вызвалення Беларусі. Гэтае пытанне шмат разоў разглядалася на пасяджэннях Рады, вяліся дэбаты вакол назвы, статута і праграмы, ствараліся камісіі для распрацоўкі дэталяў. Усё гэта цягнулася аж да той пары, пакуль уся справа не страціла сэнсу перад тварам непазбежнай катастрофы, да якой каціўся Германія (156).

Стаўленне Астроўскага да дзейнасці Уласава было лагічным

працы інтэлігенцыі — польскай ці іншай (76). Адсюль вынікае, што «падтрымка», якую акупацыйныя ўлады аказвалі палякам і беларусам, была толькі тактычным ходам, разлічаным на іх узаемнае вынішчэнне і ўзмацненне нямецкага панавання на Беларусі. З гэтага пункту гледжання прыведзеныя раней ацэнкі АК і ПБН былі правільныя.

Іх пацвярджалі знішчальныя акцыі Вермахта і паліцыі на іншых беларускіх абшарах, дзе не было такога моцнага нацыянальнага напружання. У нямецкай дакументацыі мы знойдзем не адзін прыклад таго, як пад лозунгам барацьбы з савецкімі дзеячамі, дыверсантамі і т. п. у сапраўднасці вялося вынішчэнне цывільнага насельніцтва, якое ў вачах акупантаў менш за ўсіх было «вінаватае» ў камуністычнай дзейнасці або ўвогуле не мела да яе ніякіх адносін. У Мінску адразу ж пасля ўваходу нямецкіх войск, паводле загаду ваеннага каменданта, быў створаны т. зв. лагер цывільных палонных, куды сагналі ўсіх мужчын — жыхароў горада ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў. Лагер прачэсвала тайная ваенная паліцыя ў супрацоўніцтве з айнзацгрупай, пры гэтым да канца ліпеня вяліся расстрэлы — штодня забівалі каля 200 чалавек. Шукалі, як быццам, дыверсантаў, а ліквідавалі галоўным чынам выпадкова адабраныя ахвяры, паводле паліцэйскага рапарту — «функцыянераў, агентаў, крымінальнікаў, азіятаў і г. д.» (77).

Многа нявінных цывільных жыхароў у першыя тыдні акупацыі загінула ў т. зв. пацыфікацыйных акцыях, фармальна прызначаных для ачышчэння занятых тэрыторый ад савецкіх салдат, што хаваліся па лясах. Адна з такіх акцый была праведзена ў канцы ліпеня — пачатку жніўня ў заходнім Палессі сіламі 1-ай брыгады кавалерыі СС, у выніку яе было расстраляна 13 788 «марадзёраў». Параўноўваючы гэтую лічбу з колькасцю нямецкіх страт — 2 забітых і 15 параненых,— лёгка прыйсці да высновы, што акцыя мела невайсковы характар. Гэта пацвярджае і данясенне аднаго з яе ўдзельнікаў, камандзіра кавалерыйскага атрада штурмбанфюрэра СС Магіля, які расстраляў 6526 чалавек. «Паколькі атрад не напаткаў ні чырвонаармейцаў, ні камуністаў, расстрэльвалі галоўным чынам яўрэяў і людзей, якія займаліся камуністычнай дзейнасцю»,— гаворыцца ў рапарце (78).

У гісторыі акупацыі асобны раздзел займае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва, якое ў межах сучаснай тэрыторыі рэспублікі складала да вайны 700—750 тыс. чалавек. Значная частка яўрэяў, асабліва з Усходняй Беларусі, паспела эвакуіравацца на Усход, аднак пераважная іх маса апынулася ў зоне акупацыі. Летам 1941 г. іх загналі ў гета. Паступовая ліквідацыя яўрэйскага насельніцтва пачалася восенню 1941 г., але ўжо ў ліпені і жніўні немцы перайшлі да вынішчэння яўрэйскай інтэлігенцыі, асабліва — настаўнікаў, адвакатаў і савецкіх службоўцаў.



Трэба, нарэшце, адзначыць спецыфічнасць сітуацыі, у якой апынуліся беларусы — салдаты Чырвонай Арміі, што трапілі да немцаў у палон. Летам 1941 г. Вярхоўнае камандаванне Вермахта выдала загад аб іх вызваленні з лагераў ваеннапалонных, а 8.9.1941 г. пацвердзіла гэтае распараджэнне, патрабуючы як мага хутчэй адасланы палонных дадому (79). У аднолькавай ступені гэта датычылася і палонных іншых нацыянальнасцей, асабліва — немцаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў і эстонцаў, але не закранала расейцаў, яўрэяў і інш. У выніку тысячы былых чырвонаармейцаў вярнуліся на Беларусь, тут яны некалькі месяцаў маглі жыць цалкам спакойна. У гэты самы час іх таварышы, асабліва расейцы, масава гінулі ў лагерах з голаду, знясілення і хвароб. Нельга, аднак, адназначна лічыць гэта вынікам пэўнай нацыянальнай палітыкі. На думку Даліна, свой уплыў тут аказвала велізарная лічба савецкіх ваеннапалонных, якія апынуліся ў нямецкай няволі: у сярэдзіне снежня 1941 г. іх налічалася 3,8 млн. чалавек (80).

У час вайсковага кіравання акупацыйныя ўлады не праводзілі на Беларусі сістэматычнай гаспадарчай дзейнасці, замест гэтага займаючыся хаатычнымі рэквізіцыямі харчовых прадуктаў. Пагалоўе хатняй жывёлы, асабліва свіней і кароў, зменшылася пагэтаму яшчэ больш (81). Вялікія страты панеслі навуковыя ўстановы, бібліятэкі і музеі, паніштаныя і разрабаваныя Вермахтам і СС. Непапраўнай бядою станавіліся акцыі масавага знішчэння, што вяліся ў адпаведнасці з ідэалагічнымі прынцыпамі гітлерызму.

## НАПАЧАТКУ АКУПАЦЫЙНАГА ЦЫВІЛЬНАГА ПРАЎЛЕННЯ (ВЕРАСЕНЬ — СНЕЖАНЬ 1941)

Праекты новага палітычнага рэжыму на Усходзе ведамства Розэнберга распрацоўвала ўжо з красавіка 1941 г., але да той пары, пакуль іх не зацвердзіў бы Гітлер, яны не маглі выкарыстоўвацца на практыцы. Фюрэр тым часам не спяшаўся прыймаць рашэнне. У сярэдзіне мая, г. зн. незадоўга да нападу на СССР, ён адклаў «да пазнейшага разгляду» прапанаваны Розэнбергам праект дэкрэта аб арганізацыі цывільнага праўлення (82), не пагадзіўся і на перадачу Літвы і Латвіі цывільным уладам, якую планаваў правесці Кейтэль ужо пасля двух тыдняў ад пачатку ваенных дзеянняў (83). І толькі 17 ліпеня, калі нямецкія войскі знаходзіліся ў Смаленску, Гітлер выдаў некалькі дэкрэтаў адносна арганізацыі цывільнага кіраўніцтва на акупаваных тэрыторыях СССР. Аднак перадача гэтых абшараў цывільным уладам зацягвалася, Гітлер адкладаў гэтае рашэнне на пасля. Варта зазначыць, што новастворанае міністэрства акупіраваных усходніх тэрыторый на чале з Розэнбергам (Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete — далей RMfdbO, або OMi) першыя чатыры месяцы працавала неафіцыйна, паведамленне аб

працягам ужо апісанай яго тактыкі. Спатканне Гімлера з Уласавым, планаванае на ліпень, адбылося толькі 16 верасня. Было дамоўлена стварыць т. зв. Камітэт вызвалення народаў Расіі і армію, якая б падпарадкоўвалася гэтаму Камітэту. Галоўнае ведамства СС пачало рэалізацыю праекта. 13 кастрычніка ў гэтай установе прайшла канферэнцыя з удзелам Арльта, Крогера і Бухарта, было прынята рашэнне аб тым, каб даручыць Астроўскаму членства ў Камітэце. На думку кіраўніцтва СС, гэта не павінна было само па сабе перакрэсліць ідэю незалежнасці Беларусі (157). Аднак Астроўскі рашуча адмовіўся ад гэтага праекта. І не дапамаглі тут ні ўшчуванні Арльта, ні націск Кальтэнбрунэра. Торвальд піша, што ў час спаткання з Уласавым у Галоўным упраўленні бяспекі Рэйха Астроўскі сказаў яму: «Нашыя шляхі розныя. Вы — за вольную Расею, а я — за вольную Беларусь» (158). Сваю пазіцыю Астроўскі «вельмі адназначна» пацвердзіў падчас візіту ў Розэнберга — недзе ў апошнія дні кастрычніка (159).

Аднак знайшліся беларусы, украінцы і іншыя, якія пагадзіліся на ўдзел у абвешчаным 14 лістапада ў Празе Камітэце вызвалення народаў Расіі. У адказ на маніфест гэтага Камітэта прадстаўнікі дзевяці народаў СССР, у т. л. і БЦР, 18 лістапада выдалі сумесную заяву, у якой адмовіліся ад прызнання кіраўнічай ролі Уласава і запатрабавалі, каб ён абмежаваў сваю дзейнасць справамі этнаграфічнай Расіі (160). Пачаліся новыя перагаворы з нямецкімі ўладамі, але яны не дапамаглі вырашыць спрэчку паміж «сепаратыстамі» і камітэтам Уласава. Ды, зрэшты, было ўжо занадта позна гаварыць аб гэтым.

Група афіцэраў і маладзёжных дзеячаў крытычна паставілася да паводзін Астроўскага ў справе з камітэтам Уласава і асудзіла марнасць пры арганізацыі асобнага беларускага вайсковага фарміравання. Гэтыя людзі, што рваліся да безнадзейнай барацьбы, гуртаваліся вакол палітычна-вайсковай арганізацыі — Беларускай незалежніцкай партыі (БНП). Яе кіраўнікі — Усевалад Родзька, Міхаіл Вітушка і іншыя — супрацоўнічалі з «Абвэрам», прадстаўлялі БНП як патрыятычную канспіратыўную арганізацыю і выдавалі быццам бы нелегальны «Бюлетэнь БНП», на старонках якога заклікалі да ўзброенай барацьбы за незалежную Беларусь (161).

БНП была створана ў Мінску ў лішені 1942 г., але больш значную дзейнасць разгарнула толькі ў чэрвені 1944 г., арганізуючы некалькі канспіратыўных разведвальна-дыверсійных груп у тылах Чырвонай Арміі. У ліпені, а найпазней — у жніўні 1944 г. «Абвэр» арганізаваў у Дальвіцы ва Усходняй Прусіі навучальны цэнтр і рыхтаваў там добраахвотнікаў для дыверсійнай працы на Беларусі. Палітычным кіраўніком цэнтра быў Родзька (162).

Істотную ролю ў вярбоўцы добраахвотнікаў адыгрывала прапаганда БНП. Канспіратыўны арэол дазваляў ёй карыстацца такімі



прыёмамі, якія былі недапушчальныя ў афіцыйнай прапагандзе, і гэта выклікала да яе большы давер. БНП не толькі выкарыстоўвала патрыятычную фразеалогію, але дазваляла сабе і крытыку нямецкай акупацыйнай палітыкі на Беларусі, хоць гэтыя праблемы сталі ўжо справаю мінуўшчыны. Што да прагнозаў на будучыню, дык тут БНП малявала непазбежны канфлікт паміж саюзнікамі пасля перамогі над Германіяй. Выходзячы з такіх меркаванняў, БНП прапагандавала ўзмацненне ўласных сіл як вырашальнага фактару для будучыні Беларусі. «Гэтыя сілы,— гаварылася ў «Бюлетэні БНП»,— і перш за ўсё нацыянальнае войска і антысавецкі партызанскі рух, што ахапіў усю краіну,— ужо дзейнічаюць на Беларусі, і трэба далучыцца да іх, каб споўніць свой святы абавязак перад Бацькаўшчынай (163). Пад заклікам БНП: «Здабудзем беларускую дзяржаву — альбо згінем у барацьбе за яе!» — шмат беларусаў накіравалася ў Дальвіц, а адтуль — на Беларусь у зманлівай надзеі на англа-амерыканскі паход на СССР.

Праблема неадкладнага ўдзелу ў баявых аперацыях летам 1944 г. перарасла ў канфлікт — на гэтым грунце сутыкнуліся палітычныя амбіцыі Астроўскага і Родзькі. У выніку БНП перайшла ў апазіцыю да Астроўскага і БЦР. Лідэры гэтай партыі абвінавачвалі Раду ў няздольнасці кіраваць незалежніцкім рухам і выкрывалі яе марыянетачны характар (164). У канцы 1944 г. гэты канфлікт перарос у адкрытую варожасць — Астроўскага крытыкавалі за палітычнае згодніцтва, ускладалі на яго адказнасць за эвакуацыйны хаос, у якім была страчана пераважная частка сіл БКА, за няздольнасць арганізаваць беларускае войска ў Германіі, за нежаданне супрацоўнічаць з Уласавым і г. д. У пачатку 1945 г. Родзька ўвогуле адмовіўся ад супрацоўніцтва з Астроўскім і выказаў шкадаванне аб тым, што звязваўся з ім ў мінулым (165).

Фармальна БНП мела ўсе падставы, каб крытыкаваць Астроўскага, але ніякай разумнай альтэрнатывы яна не сфармулявала. Усе закіды БНП папросту адлюстроўвалі нямецкія абарончыя інтарэсы, якія вымагалі мабілізацыі ўсіх даступных сіл і сродкаў для ўзброенай барацьбы. Матывы паводзін Астроўскага ў Нямеччыне былі прынцыпова іншыя. Яго адносіны да арганізацыі войска, Саюза вызвалення Беларусі і камітэта Уласава сведчылі аб разуменні бескарыснасці і бяссэнсавасці ўдзелу ў абароне Рэйха. Астроўскі прыклаў усе старанні да таго, каб запэўніць сабе і БЦР магчымасць дзейнічаць і пасля капітуляцыі Германіі. Супрацоўніцтва з Уласавым магло б пасля вайны ўскладніць і нават зусім перакрэсліць яго палітычную працу ў эміграцыі. Лідэр БЦР не жадаў адмаўляцца ад такіх шанцаў і таму пад канец 1944 г. узяўся перакройваць статут Рады, падганяючы яго пад новую сітуацыю. Пленум БЦР прыняў гэты статут 14—17 студзеня 1945 г., калі Чырвоная Армія з берагоў Віслы рушыла ў паход на Берлін, а ОМі ўжо не ўнікала ў гэтакія справы (166).

яго арганізацыі было распаўсюджана толькі ў сярэдзіне лістапада.

Найпершай умовай увядзення цывільнага рэжыму на акупаваных землях было дастатковае аддаленне лініі фронту. Але для распрацоўкі неабходных дэкрэтаў і распараджэнняў гэты фактар не меў прынцыповага значэння. Справа выраппалася марудна з палітычных прычын, у прыватнасці з-за адсутнасці пэўнай, адназначнай канцэпцыі наконт будучага статуса занятых абшараў. Пытанне «вольных ад Сталіна рэспублік», да якога так часта звяртаўся Гітлер у недалёкім мінулым, летам 1941 г. было знята з парадку дня берлінскай палітыкі. З таго часу фюрэр яўна пазбягаў якіх-небудзь афіцыйных дэкларацый адносна будучыні гэтых земляў, хоць не раз выказваў сярод найбліжэйшых супрацоўнікаў свае анексійныя, каланізатарскія і да т. п. намеры (84).

Гітлер імкнуўся поўнасцю падпарадкаваць сваёй уладзе вырашэнне будучага лёсу ўсходніх народаў і тэрыторый. Ён разлічваў, што перамога над СССР прыйдзе хутка, і таму не бачыў патрэбы ў палітычным супрацоўніцтве з насельніцтвам занятых земляў. Гэтыя меркаванні ляглі ў падмурак арганізацыі і дзейнасці акупацыйнага цывільнага кіраўніцтва. Такім чынам, замест папярэдне запланаваных адміністрацыйных адзінак — Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны — дэкрэт Гітлера ад 17 ліпеня прадугледжваў стварэнне новых рэйхскамісарыятаў на чале з нямецкімі чыноўнікамі (85). На думку Мадайчыка, гэта азначала, што Гітлер адмовіўся ад ідэі пераўтварэння гэтых абшараў у васальныя тэрыторыі, і схіляў да поўнай іх каланізацыі (86).

Напачатку быў створаны Рэйхскамісарыят Остлянд з сядзібаю ў Рызе. Узначаліў яго прызначаны Гітлерам рэйхскамісар Гінрых Лёзэ. У склад Остлянда ўвайшлі Прыбалтыйскія краіны — Літва, Латвія, Эстонія, а разам з імі — Беларусь, якая яшчэ ў чэрвені, паводле планаў Розэнберга, павінна была вылучыцца ў асобную адміністрацыйную адзінку (87). Цяжка сказаць дакладна, чаму адбылося гэтае аб'яднанне. Дакументальныя архівы міністэрства Розэнберга не даюць на гэта адказу. Паводле апублікаваных пасля вайны ўспамінаў Ота Браўцігама, кіраўніка палітычнага аддзела ў гэтым міністэрстве, ідэя злучэння Прыбалтыйскіх краін і Беларусі ў адным Рэйхскамісарыяце Остлянд нарадзілася з імкнення стварыць на Усходзе больш-менш роўныя па велічыні і значэнню адміністрацыйныя адзінкі. Бо інакш, пры захаванні адасобленасці паміж Прыбалтыкай і Беларуссю, узніклі б дыспрапорцыі ў параўнанні з вялікім Рэйхскамісарыятам Украіна (88).

І сапраўды, нялёгка знайсці нейкія іншыя матывы такога аб'яднання: паміж Прыбалтыкай і Беларуссю існавала шмат адрозненняў у многіх галінах. Карэнні гэтых адрозненняў сягалі ў гісторыю міжваеннага дваццацігоддзя. У гэты перыяд Літва, Латвія і Эстонія існавалі як асобныя самастойныя дзяржавы. Усходняя Беларусь тады ўваходзіла ў склад СССР, а яе заходнія землі былі часткаю Рэчы Паспалітай. Адсюль вынікала неаднароднасць гаспадарчых структур, якая не паспела знікнуць за час кароткага існавання савецкай улады перад гітлераўскім нашэсцем. Немалую розніцу можна было назіраць і ў этнічным складзе тутэйшага жыхарства, і ў яго нацыянальнай свядомасці.

Такім чынам, паводле сваёй задумы, Остлянд стаў штучным аб'яднаннем разнародных тэрыторый. Гэты факт усведамлялі на ўсіх ступенях нямецкай чыноўнай іерархіі. Асабліва важкія прычыны для незадавальнення такой сітуацыяй былі ў Лёзэ — ён непасрэдна адказваў перад берлінскім кіраўніцтвам за дзейнасць адміністрацыі на гэтых землях. У сваім артыкуле, апублікаваным у студзені 1942 г., ён сцвярджаў, што трэба ўлічваць тэрытарыяльную неаднароднасць і адпаведна прыстасоўваць тактыку адміністрацыі — на Беларусі яна павінна быць інакшая, чым у Прыбалтыцы (89). У маі 1944 г., г. зн. напрыканцы акупацыі, аб'яднанне гэтых двух абшараў Лёзэ ацаніў як «вельмі шкоднае» (90). У Берліне таксама ставіліся адмоўна да гэтага зліцця. Ужо ў кастрычніку 1941 г. Розэнберг адзначаў, што рэйхскамісарыяты — гэта часовае адміністрацыйнае рашэнне, а ў сярэдзіне 1942 г. сцвярджаў, што саюз Беларусі і Прыбалтыкі існуе да пары (91).

Апрача таго, паўставала спецыфічнае пытанне прызначэння гэтых тэрыторый у нямецкіх перспектыўных планах. Паводле праекта, апрацаванага Розэнбергам і зацверджанага Гітлерам 16 ліпеня 1941 г., Прыбалтыка ў будучыні павінна была стаць нямецкай правінцыяй (92). Так лічылася да канца акупацыі (93). Затое будучыня Беларусі не была прадвызначана канчаткова і адназначна* (94). Адсутнасць пэўнай, акрэсленай канцэпцыі ў нямецкіх кіраўнічых колах дала падставу для ўзнікнення ў пазнейшай пасляваеннай літаратуры разнастайных поглядаў на гэтае пытанне: адны даследчыкі меркавалі, што з цягам часу Беларусь стала б часткаю Германіі, іншыя лічылі яе калоніяй.

У гэтых адносінах заслугоўвае ўвагі кампетэнтнае сведчанне генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. Ён нават летам 1943 г. не ведаў, які лёс быў прызначаны зямлі, што знаходзілася пад яго кіраўніцтвам. 12 жніўня 1943 г. Кубэ пісаў: «Вырашэнне праблемы, прадстаўленай у дэкрэце пана міністра ўсходніх акупаваных абшараў Рэйха ад 14.11.1942 г.— 11.1е.296 — на маю думку, залежыць ад асноўнай перадумовы, а менавіта — ад палітычнага рашэння наконт будучыні беларускай тэрыторыі. Трывалае далучэнне беларускіх земляў да германскай жыццёвай прасторы вымагала б, натуральна, куды больш інтэнсіўнага пашырэння адміністрацыі, чым у выпадку, калі б гэты абшар, як перадполле Германскага

---

* Відаць, калі не ўлічваць плана «Ост».— *А. Л.*



3—2224

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

У выніку вайны і акупацыі Беларусь панесла вялікія людскія страты. Калі непасрэдна перад нападам Германіі ў ёй налічвалася 9,2 млн. жыхароў (у цяперашніх межах), дык пад канец 1944 г. іх засталося толькі 6,3 млн. Такім чынам, насельніцтва зменшылася на 2,9 млн., альбо на 32 % (1). Аднак і па сённяшні дзень гэтыя лічбы дэталёва не ўдакладнены. Савецкія крыніцы шмат гадоў сцвярджалі, што нямецкія акупанты знішчылі 1408 тыс. цывільных жыхароў Беларусі і 378 тыс. выслалі на прымусовую працу ў Германію (2). Адначасова пісалася, што летам 1941 г. адсюль на ўсход, у эвакуацыю, было вывезена 1,5 млн. чалавек і больш за 500 тыс. мабілізавана ў Чырвоную Армію (3). Акрамя таго, у ліпені 1944 г. у войска было прызвана яшчэ звыш 600 тыс. чалавек (4). Разам гэта складала 4,4 млн. чалавек, альбо на 50% больш за афіцыйна названыя людскія страты (2,9 млн.), пры гэтым варта ўлічыць, што да канца 1944 г. толькі невялікая частка эвакуіраваных у глыб СССР магла вярнуцца на радзіму. Лічбы відавочна не сыходзіліся, і таму колькасць жыхароў, забітых акупантамі, ацэньвалі пазней больш як 750 тыс. (5). На думку аўтара, гэтая апошняя ацэнка больш адпавядае сапраўднасці, аднак яна па-ранейшаму завышаная.

Гаспадарка Беларусі таксама панесла вялікія страты. У 1945 г. узровень яе прамысловай вытворчасці складаў толькі 20 % ад даваеннай (6). У шмат разоў скарацілася і сельскагаспадарчая вытворчасць, адною з прычын гэтага былі антыпартызанскія карныя акцыі, у выніку якіх было спалена некалькі тысяч вёсак. Летам 1944 г. савецкія ўлады засталі на Беларусі толькі 39 % ад даваеннага пагалоўя коней, 31 % — буйной рагатай жывёлы, 11 % — свіней і 22 % — авечак і коз (7). Аднак цяжка вызначыць, у якой ступені прычынілася да гэтага нямецкая гаспадарчая эксплуатацыя. Справа ў тым, што самыя вялікія разбурэнні ў беларускай прамысловасці адбыліся ў выніку эвакуацыі на ўсход машын і абсталявання, а таксама — знішчэння партызанамі дробных прадпрыемстваў у правінцыі. У дадатак немцы ўлетку 1944 г. правялі эвакуацыю некаторых заводаў. Не выклікаюць даверу звесткі пра выкарыстанне або вынішчэнне хатняй жывёлы нямецкімі акупантамі — у некаторых выпадках гэтыя лічбы перавышаюць стан даваеннага пагалоўя (свінні, козы і авечкі), і гэта — без уліку вынікаў эвакуацыі на ўсход, задавальнення патрэбаў партызан і самога мясцовага насельніцтва (8).

Аднак асаблівым аспектам акупацыйнай гісторыі Беларусі было



не палітычнае становішча. Тут міжволі напрошваецца паралель з перыядам першай сусветнай вайны. Усходняя палітыка кіраўнічых колаў Другога і Трэцяга Рэйха грунтавалася на розных прынцыпах, а іх адносіны да беларускага пытання як палітычнага фактару былі, па сутнасці, аднолькавыя. У 1918 г. Беларусь была для Берліна «прызнанай краінай Еўропы», а слабы нацыянальны рух і нямецкая палітыка ў адносінах да Расіі не дазвалялі нямецкаму ўраду прыняць і падтрымаць канцэпцыю беларускай дзяржаўнай незалежнасці. У міжваенны перыяд аўтарытэт Беларусі ў берлінскіх палітычных колах зноў-такі не ўзняўся — перашкаджала адсутнасць уласнай нацыянальнай дзяржаўнасці і аслабленне ў 30-ых гг. палітычнага, эканамічнага і культурнага ўзроўню беларускага руху. Недарма напярэдадні другой акупацыі Розэнберг вельмі скептычна ацэньваў шансы перспектыўнага развіцця Беларусі ў рамках «новага ладу» ў Еўропе. Гэтая яго пазіцыя так і не змянілася да канца акупацыі.

Але пры бліжэйшым знаёмстве Беларусь выйгравала. Пра гэта сведчаць падобныя дзеянні Фалькенгайна і Кубэ — кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі ў перыяд першай і другой акупацыі. Іх праца мела значныя палітычныя вынікі. Так, Фалькенгайн, насуперак пазіцыі Берліна, пасадзейнічаў стварэнню і нядоўгаму існаванню Беларускай Народнай Рэспублікі, якая заклала традыцыю яе новай дзяржаўнасці. Кубэ, у сваю чаргу,— у значна горшых варунках — паспрыяў адраджэнню падаўленых у 30-ыя гг. нацыянальных пачуццяў беларусаў і ідэалу іх дзяржаўнай незалежнасці. Акалічнасці канфлікту «беларускага гаўляйтэра» з СС сведчаць аб тым, што яго паводзіны грунтаваліся не толькі на тактычных разліках — падзеі адбываліся ў той час, калі паражэнне Германіі не здавалася яшчэ непазбежным. Пасля смерці Кубэ яго намеснік Готбэрг пераняў гэтую палітычную лінію і надаў ёй эфектную прапагандысцкую аправу.

Вынікі цывільнага праўлення — гэта паступовая беларусізацыя адміністрацыі, роспуск калгасаў, арганізацыя школьніцтва, СБМ, культурнай і выдавецкай дзейнасці, беларусізацыя царкоўнага жыцця і, нарэшце, БНС, Камітэт Даверу і БЦР, якія, хоць і не атрымалі да канца акупацыі фармальнага прызнання ў Берліне як органы нацыянальнага прадстаўніцтва, фактычна ўсё ж такі адыгрывалі гэтую ролю. Ідэю корпуса Самааховы, якую Кубэ не змог да канца ажыццявіць ва ўмовах канфлікту з СС, пазней рэалізаваў Готбэрг у выглядзе БКА. У акупаваных краінах, якія мелі нацыянальную незалежнасць, такія вынікі нельга было б палічыць за дасягненні, але ва ўмовах Беларусі яны набывалі цалкам іншае значэнне, бо стваралі магчымасці для ўзмацнення і распаўсюджання нацыянальнай свядомасці, для арганізацыі нацыянальнага грамадскага жыцця.

Дзейнасць нацыянальных палітычных груп доўгі час была забла-

Рэйха, заставаўся звязаны з ім толькі праз базы з айчыны, або калі б на першы план ставілася як мага большая яго эксплуатацыя. Адсутнасць такога палітычнага рашэння адносна будучыні Беларусі робіўца тормазам у планаваным праўленні, дый увогуле ў любым планаванні» (95). Праблемы, пра якія гаварыў Кубэ: далучэнне да Германіі, перадполле, калонія ці нешта іншае — так і не былі вырашаны фармальна да канца акупацыі. Беларусь увайшла ў склад Остлянда як тэрыторыя з неакрэсленым палітычным прызначэннем.

Нарэшце трэцім пытаннем, якое не было вырашана ў перыяд арганізацыі цывільнага праўлення, стала вызначэнне будучых межаў Беларусі. Паводле праекта, апрацаванага ў чэрвені 1941 г. ведамствам Розэнберга, з даваеннай тэрыторыі БССР павінны былі адысці часткі Брэсцкай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абласцей. У час ваеннага праўлення яны апынуліся ў тыле групы армій «Поўдзень», а пасля пераходу на цывільнае праўленне павінны былі ўвайсці ў Рэйхскамісарыят Украіна. Невялікая частка Вілейскай вобласці адначасова далучалася да Літвы. Запланаванае пашырэнне межаў Беларусі на Усходзе не кампенсавала гэтых страт. Улічваючы ўсе змены, тэрытарыяльны абрыс Беларусі ў будучыні павінен быў выглядаць наступным чынам:

Табліца 5. **Планаваны ў чэрвені 1941 г. абрыс Генеральнай акругі Беларусі**

| | Тэрыторыя (тыс. км²) | Насельніцтва (млн. чал.) |
|---|---|---|
| **Стан на пачатак 1941 г.** | 235,0 | 10,60 |
| **Страты на карысць Украіны і Літвы** | 44,0 | 2,15 |
| **Прыбытак на Усходзе** | 34,3 | 1,40 |
| **Планаваны абрыс** | 225,3 | 9,85 |

*Крыніца:* **Статыстычная падкладка да прамовы Розэнберга ад 20.6.1941 г., AAN, mf. aleks., T-454, R. 26/1059.**

Але і гэты праект Розэнберга не ажыццявіўся. 12 ліпеня Гітлер загадаў вывесці са складу БССР Беластоцкую акругу і сваім дэкрэтам ад 22 ліпеня перадаў яе оберпрэзідэнту ўсходнепрускай правінцыі Эрыху Коху. Гэтае рашэнне павялічыла тэрытарыяльныя страты БССР да 68,0 тыс. км² — на 30 % ад даваеннага абшару Беларускай ССР. Шкоду ад гэтых змен міністэрства Розэнберга спрабавала прылагодзіць шляхам далучэння да Беларусі новых абшараў на Усходзе агульнай плошчаю больш за 50 тыс. км². Такім чынам, акрэслены гэтым міністэрствам абшар Генеральнай акругі Беларусі займаў плошчу 210,5 тыс. км² з насельніцтвам каля 9 млн.



чалавек (96). На гэтых землях планавалася стварыць 39 акруг (Kreisgebiete), аб'яднаных у галоўныя акругі (Hauptgebiete) — Мінскую, Баранавіцкую, Магілёўскую, Смаленскую і Віцебскую (97).

Гэтыя пастановы Гітлер адобрыў толькі часткова. Ён пагадзіўся менавіта з далучэннем паўднёвых раёнаў Беларусі да Рэйхскамісарыята Украіна, але так і не вызначыў свайго стаўлення да нарошчвання яе тэрыторыі на ўсходзе. У выніку ў міністэрстве Розэнберга адмовіліся ад планаў перанясення межаў Беларусі на ўсход, і з таго часу (снежань 1941 г.) лічылі, што даваенная граніца паміж БССР і РСФСР і цяпер павінна аддзяляць беларускі абшар ад расійскага (98).

Шэфам цывільнага праўлення на Беларусі Гітлер прызначыў 17 ліпеня 1941 г. Вільгельма Кубэ (99). Перад ім адкрывалася «маляўнічая» перспектыва: працаваць у «самым нязведаным краі Еўропы» з неакрэсленай тэрыторыяй і палітычнай будучыняй, штучна і да пары звязаным з Прыбалтыкай. Неўзабаве з'явілася да таго ж і ўсведамленне складанай нацыянальнай сітуацыі ў давераным яму рэгіёне. Нетыповыя абставіны, таксама як і нетыповыя паводзіны самога Кубэ на пасадзе генеральнага камісара, вымушаюць бліжэй прыгледзецца да гэтай вядучай дзеючай асобы акупацыйнай гісторыі Беларусі.

Вільгельм Кубэ нарадзіўся 13.11.1887 г. у горадзе Глогаў на Одэры ў евангелісцкай сям'і. Бацька Вільгельма, Рыхард, прафесійны вайсковец — унтэр-афіцэр, неўзабаве перабраўся ў Берлін і працаваў там зборшчыкам падаткаў. Тут Вільгельм вучыўся ў пачатковай школе і гуманітарнай гімназіі Zum Grauen Kloster. У 1908—1912 гг. ён вывучаў гісторыю і дзяржаўнае права ў Берлінскім універсітэце. Кубэ быў адным са стваральнікаў Нямецкага нацыянальнага студэнцкага саюза, а ў 1911—1914 гг. узначальваў яго і рэдагаваў «Deutschvölkische Hochschulblätter» (100).

У 1911 г. Кубэ ўступіў у Нямецкую сацыяльную партыю, а ў наступным годзе стаў рэдактарам «Mecklenburgische Warte» у Вісмары. Але неўзабаве выйшаў з гэтай партыі і стаў членам Нямецкай кансерватыўнай партыі. Да 1919 г. быў яе акруговым сакратаром у г. Брэслаў, рэдагаваў «Шлезішэ Моргенцайтунг» («Schlesische Morgenzeitung») і супрацоўнічаў з рэдакцыяй «Шлезішэ Ботэн» («Schlesische Boten»). У 1917 г. ён правёў тры тыдні ў казармах у якасці ландштурмана, але быў адкліканы адтуль сваёй партыяй.

Пасля паражэння Германіі Кубэ парывае з кансерватарамі. У 1919 г. ён удзельнічае ў стварэнні Нямецкай нацыянальнай народнай партыі, хутка становіцца генеральным сакратаром яе акруговай арганізацыі ў Сілезіі, а з 1920 г.— у Берліне, дзе, апрача таго, у 1922—1923 гг. выконвае абавязкі гарадскога дэпутата. Аднак і гэтая партыя пачынае здавацца Кубэ недастаткова баявой. У 1923 г. ён пакідае яе і супольна з членамі забароненай нацысцкай

кавана — як ва Усходняй, так і ў Заходняй Беларусі, таму змену ў сітуацыі і з'яўленне новых магчымасцей яны расцанілі як свой гістарычны шанс. Праўда, некаторыя з іх арыентаваліся на Польшчу і заходніх саюзнікаў, аднак пры гэтым не адмаўляліся ад актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, а ў некаторых выпадках — і ад палітычнага супрацоўніцтва з мясцовай акупацыйнай адміністрацыяй, бо яно павінна было спрыяць узмацненню беларускага нацыяналізму. Пры гэтым гістарычны вопыт паказваў, што магчымасць дамінацыі Нямеччыны і небяспекі германізацыі беларусам наўрад ці пагражала, затое з цягам часу расло перакананне ў немінучым вяртанні савецкай улады. І тут дасягненні нацыяналізму павінны былі ўзбагаціць нацыянальную свядомасць, прывіць ёй імунітэт супраць русіфікацыі, урэшце, стварыць гістарычны прэцэдэнт, які ўжо нельга будзе абмінуць ва ўмовах савецкай Беларусі.

Цікава, што працэс палітычнай палярызацыі беларускага грамадства няспынна ўзмацняўся, нягледзячы на злачынствы акупантаў, непазбежнасць паражэння Германіі і вяртання савецкай улады. Большасць насельніцтва жыла ў страху і чаканні, але ўжо на самым пачатку акупацыі побач з ёю абазначыліся дзве крайнія плыні — камуністычная і нацыяналістычная, якія развіваліся ў вострай ідэалагічнай і ўзброенай барацьбе. Пік гэтага супрацьстаяння прыйшоўся на апошнюю фазу акупацыі, калі дзесяткі тысяч беларусаў сталі са зброяй у руках па розныя бакі барыкады. Сярод іх, несумненна, было шмат людзей выпадковых, якія трапілі туды пад прымусам, але шмат было і такіх, якіх вяла толькі ўласная рашучасць і нават фанатызм тых, якія бачылі яскрава сэнс барацьбы.

Цяжка ацаніць іх пазіцыі адназначна. Удзельнікі камуністычнага руху, якія гуртаваліся ў партызанскіх атрадах і савецкім падполлі, мелі за сабой традыцыі, арганізацыйны грунт і — самае галоўнае — падтрымку з-за лініі фронту. Тым часам нацыяналісты, маючы за сабою горкі вопыт недалёкага мінулага, пры ўсёй непаслядоўнасці нямецкай палітыкі, паволі адбудоўвалі свае пазіцыі (справа Ермачэнкі), хаця і не бачылі перад сабою абяцальнай перспектывы. І тым не менш грамадства, і асабліва — моладзь, з лёгкасцю ўспрынялі нацыянальныя ідэі. Нацыяналізм стаў сур'ёзнай процівагай камуністычнага руху, важкім фактарам грамадска-палітычнага жыцця. Тую самую з'яву адзначаў у 1918 г. Куршман, аднак на гэты раз яна ўзнялася да непараўнальна вышэйшага ўзроўню. Асабліва ўражвала нацыянальная актыўнасць у апошнія месяцы акупацыі. Ксёндз Зянон Ігнатавічус, літоўскі капелан у Мінску, слаба зарыентаваны ў сутнасці справы, ацэньваў убачанае на Беларусі як прызнанне яе «поўнай незалежнасці» і шкадаваў, што Літва не дачакалася такога ад немцаў (9).

Савецкія ўлады рашуча выступілі супраць актывізацыі беларускага нацыяналізму. Шмат фактаў сведчаць аб тым, што найбольшую



небяспеку яны бачылі не ў стварэнні антыпартызанскіх беларускіх фарміраванняў, а ў пранікненні пачуцця нацыянальнай асобнасці і сепаратысцкіх тэндэнцый у масавую свядомасць. Найбольш інтэнсіўна гэтыя працэсы ішлі на абшары Генеральнага камісарыята Беларусі — тут на грамадства ўздзейнічалі шматлікія палітычныя механізмы. Таму на гэтай тэрыторыі барацьба з нацыяналізмам была адной з найважнейшых задач партызанскага руху, і вялася яна больш зацята, чым на Украіне ці ў Прыбалтыцы. У час вайны пра гэта сведчылі, у прыватнасці, адносіны партызан да беларускага школьніцтва, а пасля вайны — прыняцце ў лютым 1945 г. спецыяльнай рэзалюцыі ЦК КП Беларусі аб перавыхаванні грамадства ў духу савецкага патрыятызму і нянавісці да нямецкіх акупантаў, якіх не было там ўжо некалькі месяцаў (10). У Польшчы такія захады былі папросту непатрэбныя.

Спасылкі на адпаведна падабраныя факты, што раскрывалі злачынствы акупантаў, у пасляваенны час сталі аднымі з асноўных аргументаў у барацьбе з беларускай мовай, культурай, нацыянальнай свядомасцю і, урэшце,— з самімі нацыянальнымі дзеячамі. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб адцягнуць грамадскую ўвагу ад палітыкі русіфікацыі, якая праводзілася пад шыльдай зліцця ўсіх народаў СССР у адзіную сям'ю. Яна была скіравана на аслабленне нацыянальнай першаасновы краю, і дзеля гэтага прымаліся самыя разнастайныя захады: масавыя дэпартацыі беларусаў, расійская каланізацыя, выцясненне беларускай мовы з шырокага грамадскага ўжытку. Прывядзём некалькі прыкладаў.

Паводле афіцыйных звестак, з 1950 да пачатку 60-ых гг. з Беларусі «выехала» на ўсход, галоўным чынам у Сібір і Казахстан, каля 900 тыс. чалавек. Так, з 1945 г. туды перасялілася прыкладна звыш мільёна чалавек. У 1970 г., калі насельніцтва БССР яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню, колькасць расійцаў на яе тэрыторыі павялічылася да 938 тыс. чалавек і, такім чынам, перавысіла ўдвая даваенны ўзровень. У выніку доля расійцаў у структуры насельніцтва рэспублікі ўвесь час ўзрастала і ў 1970 г. дасягнула 10,4 %, аднак іх сапраўдная ўдзельная вага была яшчэ большая; трэба ўлічыць, што ў іхніх руках апынуліся ключавыя гаспадарчыя і палітычныя пазіцыі.

З першых пасляваенных гадоў пачалася русіфікацыя вышэйшай школы (па-беларуску выкладаліся толькі некаторыя дысцыпліны на факультэтах беларускай філалогіі). Натуральна, гэта адбілася на стане сярэдняй і пачатковай адукацыі. Школьнікі, якія марылі працягваць навуку, бачылі, як падае грамадскае значэнне «беларушчыны», і выяўлялі большую зацікаўленасць у вывучэнні расійскай мовы. Але і гэты механізм быў недастаткова эфектыўны, паэтаму ў 60—70-ых гг. пачаўся масавы перавод беларускіх школ на рускую мову навучання адміністрацыйным шляхам. У выніку поў-

партыі стварае Нацыянал-сацыялістычную партыю свабоды, а праз год з яе рук атрымлівае мандат пасла Рэйхстага і выступае абаронцам Нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі Германіі (НСРПГ). 1.12.1927 г. Кубэ ўступіў у гэтую партыю, якая на той час паспела стаць легальнай, і ўжо праз некалькі тыдняў за заслугі перад нацыянал-сацыялістычным рухам Гітлер прызначыў яго гаўляйтэрам усходняй маркіі (акругі) — Ostmark. Тут Кубэ разгарнуў актыўную палітычную дзейнасць, у выніку якой колькасць членаў НСРПГ у гэтым рэгіёне паднялася з 66 чалавек у 1928 г. да 10 000 ў 1931 г., і ў 1933 г. дасягнула 80 000. Адначасова ён становіцца рэдактарам «Der Märkische Adler» і робіць яго рупарам сваёй партыі.

У маі 1928 г. Кубэ абралі дэпутатам прускага Ландтага, тут ён з даручэння Гітлера прыступіў да кіраўніцтва фракцыяй нацыянал-сацыялістаў. Дзейнасць Кубэ ў Ландтагу адыграла важную ролю ў перамозе гітлераўскай партыі ў Германіі. Вялікай заслугай Кубэ было скасаванне 27.9.1928 г. забароны на публічныя выступленні Гітлера ў межах Прусіі. Асабістыя якасці Кубэ — яго красамоўнасць і талент аргументатара — мелі пры гэтым вырашальнае значэнне, бо на той час фракцыю нацыянал-сацыялістаў прадстаўлялі ў Ландтагу ўсяго шэсць паслоў. Гітлер ніколі не забываў гэтую паслугу.

Пасля перамогі НСРПГ 25.3.1933 г. Кубэ заняў пасаду обер-прэзідэнта Берліна і Брандэнбургіі, а 1.6.1933 г. стаў гаўляйтэрам акругі Курмарк, утворанай пасля аб'яднання ранейшых партыйных акруг Остмарк і Брандэнбургіі. У 1933—1936 гг. ён быў паслом Рэйхстага, прускім дзяржаўным саветнікам, членам Акадэміі германскага права, экспертам у галіне гісторыі ранняга перыяду, выконваў іншыя дзяржаўныя абавязкі. І ў дадатак — займаўся літаратурнай творчасцю і публіцыстыкай (101).

Кубэ лічылі за перакананага антысеміта, аднак у красавіку 1936 г. ён выслаў вярхоўнаму суддзі НСРПГ рэйхсканцлеру Вальтэру Буху ананімны ліст, у якім абвінаваціў яго ў праследаванні яўрэяў, адначасова спасылаючыся на семіцкае паходжанне яго жонкі. Гэта была ўскосная атака супраць яе зяця, Марціна Бормана. Пасля таго як гестапа ўстанавіла імя аўтара гэтага ананімнага ліста, Кубэ быў вымушаны пакінуць дзяржаўныя і партыйныя пасады. Аднак, паводле распараджэння Гітлера, ён застаўся членам партыі і Рэйхстага, захаваўшы сімвалічны тытул гаўляйтэра. Па сутнасці, на пяць год ён сышоў з палітычнай арэны (102).

Прызначэнне Кубэ на пасаду Генеральнага камісара Беларусі ў найвышэйшых колах берлінскіх палітыкаў выклікала сапраўдную сенсацыю. Вільфрэд фон Овэн, блізкі супрацоўнік Гебельса, пасля вайны напісаў, што гэтае прызначэнне «адлюстроўвала ўсю неразважлівасць і легкадумнасць нашай так званай усходняй палітыкі» (103). Супраць такога рашэння выступаў і Розэнберг, але Ламэрс паведаміў яму, што Гітлер настойвае на прызначэнні Кубэ (104). Лёзэ супраціўляўся перад ім з іншых прычын: ён вельмі добра ведаў «гвалтоўны, імпульсіўны і поўны супярэчнасцей характар» свайго сябра Кубэ і пагэтаму баяўся, што яго дзейнасць на пасадзе генеральнага камісара Беларусі можа стаць прычынай сур'ёзных непаразуменняў і канфліктаў (105).



Для высвятлення сапраўдных матываў гэтага рашэння Гітлера нестае дакументальных доказаў. Паводле ацэнак, прызначэнне Кубэ на другарадную пасаду ў Мінску азначала, што яму стваралі магчымасць для рэабілітацыі (106), але гэты аргумент блякне перад фактам — Гітлер збіраўся прызначыць яго рэйхскамісарам у Маскве, г. зн. даверыць самую высокую пасаду на Усходзе (107). У будаўніцтве такіх гінотэз важна ўлічваць, што Кубэ атрымаў сваё прызначэнне выключна дзякуючы падтрымцы Гітлера, прычым адбылося яно насуперак жаданням іншых берлінскіх тузоў. Такім чынам, гэта была моцная падтрымка.

У службовым становішчы Кубэ гэтая акалічнасць адыгрывала важную ролю. Перад ім паўставалі на Беларусі складаныя адміністрацыйныя і палітычныя праблемы, таму ён атрымаў шырэйшыя прэрагатывы, чым генеральныя камісары ў Прыбалтыйскіх краінах. Ужо 5 ліпеня Розэнберг запэўніваў Ламэрса, што пазіцыя генеральнага камісара Беларусі Кубэ, кіраўніка абшару ледзь з не 11-мільённым насельніцтвам, будзе раўназначная пазіцыі рэйхскамісара (108). Магчыма, Розэнберг пры гэтым улічваў, што Беларусь толькі да пары будзе звязана з Прыбалтыкай.

Цывільная адміністрацыя на тэрыторыі Остлянда ўводзілася паступова: з 5 жніўня (Літва) — да 5 снежня (Эстонія). Тэрмін залежаў ад аддаленасці лініі фронту. Але на цэнтральным яго адрэзку панавала такая сітуацыя, што камандаванне Вермахта стрымлівала перадачу цывільным уладам усяго абшару Генеральнай акругі Беларусі. З 1 верасня 1941 г. Кубэ пераняў уладу толькі над яе заходняй часткаю разам з Мінскам, але значна большая — усходняя — засталася пад кіраўніцтвам арміі, перадача гэтых земляў цывільным уладам залежала ад поспехаў на фронце. Але пасля разгрому Вермахта пад Масквой і зімовага контрнаступлення Чырвонай Арміі лінія фронту наблізілася да паўночна-ўсходніх граніц Беларусі, і перспектыва перадачы гэтага абшару цывільнай адміністрацыі аддалілася.

Завязвалася, такім чынам, своеасаблівая сітуацыя. Тэрытарыяльныя абрысы Генеральнай акругі Беларусі фармальна не змяніліся з канца 1941 г., але на самай справе кампетэнцыя яго генеральнага камісара распаўсюджвалася толькі на заходнюю частку гэтага абшару, перададзеную цывільным уладам. Пасля таго як на карысць Літвы з гэтага абшару адышлі тры паветы (Эйжышкі, Ашмяны і Свір), ён меў плошчу 53,7 тыс. км$^2$ і падзяляўся на 11 акруг, пры-

насцю былі зліквідаваны беларускія школы ў гарадах, а на вёсках яны часцей за ўсё заставаліся беларускімі толькі намінальна, бо па-расійску там выкладалася вельмі многа дысцыплін.

Выдавецкая дзейнасць таксама выяўна адлюстроўвала вынікі такой нацыянальнай палітыкі. За перыяд з 1950 па 1985 г. агульны тыраж кніжак, выдадзеных у БССР, павялічыўся з 12,5 млн. да 53,3 млн. экземпляраў, пры гэтым доля беларускамоўных выданняў знізілася з 10,7 млн. да 5,0 млн. экземпляраў, а іх доля ў агульнай кнігавыдавецкай прадукцыі зменшылася з 85 % да 9 % (11).

Русіфікатарская палітыка савецкіх улад з'яўляецца найважнейшым элементам для ацэнкі пазіцыі і дзейнасці беларускіх палітычных колаў і той часткі грамадства, якая ва ўмовах нямецкай акупацыі імкнулася да захавання і ўзмацнення нацыянальнай самабытнасці. Вопыт падказваў ім, што даваенныя прынцыпы савецкай нацыянальнай палітыкі не зменяцца і пазней, а пасляваенная рэчаіснасць пацвердзіла гэтыя прагнозы. Таму, з пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў, іх дзеянні былі апраўданыя, нягледзячы на тое, што яны не маглі прывесці да стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. Гэтыя дзеянні ўмацоўвалі нацыянальную самасвядомасць насельніцтва і стварылі факты, якія сведчаць, што адносіны нямецкай цывільнай адміністрацыі да беларускай справы былі лепшыя, чым пры савецкай уладзе. Той факт, што ў зняволенай беларускай сталіцы працавалі толькі беларускія школы, а ў вызваленай — амаль толькі расійскія, дастаткова сімвалічны і не патрабуе каментарыяў.

Гэтай ацэнкі не мяняе факт нацысцкага генацыду, паколькі не меншай была колькасць ахвяр сталіншчыны.

# БІБЛІЯГРАФІЯ І КАМЕНТАРЫІ

## Уступ

1. Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals, vol. XIII. Washington, 1952, p. 548.

2. Reitlinger G. The house buit on sand. The conflicts of German Policy in Russia 1939—1945. London, 1960, p. 159.

## Германія і Беларусь у 1915—1941 гадах

1. Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся 7.6.1880 г. у фальварку Лябёдка Лідскага павета Віленскай губ. у памешчыцкай сям'і. Скончыў 5-ую класічную гімназію ў Варшаве (1899 г.), той жа восенню паступіў на факультэт хіміі Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, які скончыў у 1904 г. Закладчык і старшыня выдавецкіх таварыстваў у Пецярбургу (1906—1913) і Вільні (1913—1915). У 1915—1917 гг.— кіраўнік Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Вільні і Петраградзе. У 1918 г.— рэктар педагагічнага інстытута ў Мінску і міністр асветы БНР. Пасля няўдалых спроб па стварэнні беларускай дзяржавы ў 1921 г. сышоў з палітычнай арэны. У 1922—1939 гг.— прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута, а ў 1940—1941 гг.— Віленскага універсітэта. У лістападзе 1941 г. стаў бургамістрам г. Мінска, дзе і памёр ад ран, нанесеных у час пакушэння на яго асобу.

2. Тэкст адозвы «Да інтэлігенцыі» змешчаны ў лонданскім часопісе «Przedświt» (1903, Luty, № 2).

3. У 1906 г. у Пецярбургу было створана першае беларускае легальнае выдавецтва, а ў Вільні пачалі выходзіць першыя газеты: «Наша доля» і «Наша ніва». Гэтая дзейнасць хутка пашыраецца, і ўжо праз некалькі год з'яўляюцца новыя выдавецкія суполкі і часопісы, між інш., у Мінску («Саха», «Лучынка»), вандроўны аматарскі тэатр, Беларускі настаўніцкі саюз — з дапамогай яго сяброў былі арганізаваны першыя беларускія школы, па-ранейшаму яшчэ нелегальныя. Да беларускага руху далучаюцца беларускія каталіцкія ксяндзы, арганізуецца беларускі гурток у Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, у свет выходзіць беларуская каталіцкая літаратура, між інш.— штотыднёвік «Беларус» у Вільні.

4. Першая кніжка, прысвечаная Беларусі: Weissruthenien Land-Bewohner-Geschichte-Volkswirtschaft-Kultur-Dichtung пад рэдакцыяй Вальтэра Егера (Walter Jäger), — з'явілася ў Берліне толькі ў 1919 г. і практычна амаль цалкам абапіралася на матэрыялы, атрыманыя ў час акупацыі.

5. Friedrichsen M. Grenzmarken des europäischen Russlands. Hamburg, 1915; Ostmann E. Russlands Fremdvölker seine Stärke und Schwäche. München, 1915; Revelstein von H. Die Not der Fremdvölker unter dem russischen Joch. Berlin, 1916; Stavenhagen K. Die Kriegsziele des Grossrussentums und der Fremdvölker Russlands. Berlin, 1916.

6. Ostmann E. S. 18—19.

7. Wasilewski L. Die nationalen und kulturellen Verhältnisse im sogenannten Westrussland. Wien, 1915, S. 16—17, 28—29.

8. Rudniański S. Weissrussischer Breif. // «Das literarische Echo», 1915, Oktober, Heft 2, S. 114.

9. Pajewski J. Mitteleuropa. Studia z dziejów imperializmu niemckiego w dobie pierwszej wojny światowej. Poznań, 1959, s. 43—45.

10. Тамсама. С. 40—42, 55. Варта адзначыць, што ў жніўні — верасні 1914 г. канцлер Рэйха Таэбальд фон Бэтман Гольвэг прызнаваў неабходнасць ліквідацыі панавання Расіі над нярускімі народамі і лічыў, што мэтазгодна стварыць паміж Германіяй і Расіяй шэраг буферных дзяржаў. Аднак гэтыя погляды не рас-

**Табліца 6. Адміністрацыйная структура Генеральнай акругі Беларусі пад цывільным кіраўніцтвам**

| Акругі | Плошча (км²) | Насельніцтва (тыс. чал.)* | Колькасць паветаў | Колькасць валасцей |
|---|---|---|---|---|
| **Да 17.9.1939 г. у межах СССР** | | | | |
| горад Мінск | 42 | 103,1 | — | — |
| Мінская | 5429 | 304,2 | 9 | 95 |
| Барысаўская | 1248 | 32,7 | 5 | 15 |
| Слуцкая | 5242 | 220,6 | 8 | 65 |
| **Да 17.9.1939 г. у межах Польшчы** | | | | |
| Баранавіцкая | 5694 | 341,5 | 7 | 78 |
| Глыбоцкая | 8746 | 340,2 | 10 | 41 |
| Ганцавіцкая | 6085 | 114,6 | 4 | 31 |
| Лідская | 4641 | 278,5 | 8 | 32 |
| Навагрудская | 4301 | 194,5 | 5 | 55 |
| Слонімская | 4704 | 171,6 | 5 | 25 |
| Вілейская | 7530 | 299,6 | 8 | 45 |
| Разам | 53 662 | 2411,3** | 69 | 482 |

* Стан на канец 1942 — пачатак 1943 гг.
** Каля 10 000 жыхароў не ўлічаны пры падзеле на акругі.
*Крыніца:* «Ostland» (Рыга). 1944. № 8. С. 7.

чым Мінск утвараў асобную гарадскую акругу (гл. табл. 6). Было запраектавана 5 галоўных акруг, але ўтворана толькі дзве — у Мінску і Баранавічах. Тэарэтычна Генеральная акруга Беларусі на 75 % складалася з тэрыторый, якія да верасня 1939 г. належалі СССР (altsowjetische Gebiete), на практыцы тая частка акругі, якою кіраваў Кубэ, на 78 % складалася з раёнаў, якія ў міжваеннае дваццацігоддзе належалі Польшчы (altpolnische Gebiete).

На працягу верасня на гэтых землях быў створаны апарат акупацыйнай цывільнай улады, які замяніў сабой ранейшае вайсковае кіраўніцтва. Гэты апарат тэарэтычна складаўся з трох ступеняў. Найвышэйшай яго інстанцыяй быў генеральны камісарыят у Мінску, якім кіраваў Кубэ. Непасрэдна падпарадкаваны ён быў Рэйхскамісарыяту Остланд у Рызе. Сярэднюю ступень цывільнай адміністрацыі ўтваралі галоўныя камісарыяты ў Мінску і Баранавічах, але вялікай ролі яны не адыгрывалі, і ў сакавіку 1943 г. іх распусцілі. Найніжэйшую ступень у гэтай іерархіі займалі гарадскі камісарыят у Мінску і 10 акруговых камісарыятаў. На працягу трох гадоў акупацыі кіраўнікамі гэтых мясцовых упраў былі:

| | |
|---|---|
| Галоўныя камісарыяты | Галоўны камісар |
| Мінск | Паўльсан |
| Баранавічы | Фрыдрых Фэнц |
| Гарадскі камісарыят | Гарадскі камісар |
| Мінск | Янэцке; з канца 1943 г.— Е. Е. Бэкер |
| Акруговыя камісарыяты | Акруговы камісар |
| Мінск | д-р Ганс Кайзер, д-р Людвіг Эрэнляйтнер; Вільгельм Зельман |
| Барысаў | Баўэр, Бушман, д-р Ганс Кайзер |
| Слуцк | Гайнрых Карл |
| Баранавічы | Рудольф Вэрнер |
| Глыбокае | Паўль Гахман |
| Ганцавічы | Вілі Мюлер, Вальтэр Гёрдт |
| Ліда | фон Ганвэг, Артур Геніг |
| Навагрудак | Вільгельм Траўб, д-р Альфрэд Гіле |
| Слонім | Гергард Эрэн |
| Вілейка | Шмідт, Густаў Магас |



Глыбокія пераўтварэнні адбыліся і ў структуры паліцэйскіх улад. За час панавання вайсковага праўлення кіраўніцтва ў гэтай галіне ажыццяўлялі вышэйшы начальнік СС і паліцыі (Höhere SS-und Polizeiführer, далей — HSSPF) цэнтральнага адрэзка фронту фон дэм Бах і шэф айнзацгрупы В Нэбэ. У Прыбалтыцы гэта былі HSSPF паўночнага адрэзка фронту групэнфюрэр СС Пруцман і шэф айнзацгрупы А брыгадэнфюрэр СС д-р Вальтар Сталекер, іх штабкватэры знаходзіліся ў Рызе. Пасля перадачы заходняй часткі Беларусі цывільнай адміністрацыі ўладу над паліцыяй на гэтым абшары трымаў Пруцман — HSSPF Остлянда (у снежні 1941 г. на гэтай пасадзе яго змяніў групэнфюрэр СС Екельн). У гэты час ва ўсходняй частцы Беларусі, якая па-ранейшаму заставалася ў зоне ваеннага праўлення, паліцэйскімі ўладамі працягваў кіраваць Бах. Свой штаб ён перанёс з Баранавіч у Магілёў. Працаю службы бяспекі (СД) у Остляндзе, у т. л. і ў заходняй частцы Беларусі, перададзенай цывільным уладам, кіраваў Сталекер. На ўсходзе яна па-ранейшаму заставалася ў распараджэнні айнзацгрупы В.

На узроўні Генеральнага камісарыята паліцэйскую інстанцыю ўзначальваў камандуючы СС і паліцыі (SS-und Polizeiführer, далей — SSPF), яму падпарадкоўваліся ахоўныя войскі СС, паліцыя парадку і — да пэўнай ступені — паліцыя і служба бяспекі. Абавязкі SSPF у Мінску выконваў брыгадэнфюрэр СС Карл Цэнэр. Ён

дзейнічаў на гэтай пасадзе ад пачатку ўвядзення цывільнага рэжыму да ліпеня 1942 г. Згодна з дэкрэтам Гітлера ад 17 ліпеня 1942 г. адносна дзейнасці паліцыі на Усходзе, і HSSPF і SSPF непасрэдна і асабіста былі падпарадкаваны адпаведна рэйхскамісару і генеральнаму камісару, а паліцэйскія чыны ніжэйшага ўзроўню — акруговым камісарам (109). Аднак гэты самы дэкрэт пастанаўляў, што паліцэйскае забеспячэнне на ўсходніх акупіраваных абшарах знаходзіцца ў кампетэнцыі рэйхсфюрэра СС і шэфа нямецкай паліцыі, г. зн. Гімлера, які атрымліваў цяпер права даваць рэйхскамісарам адпаведныя ўказанні.

Недастатковае размежаванне паўнамоцтваў у гэтай галіне стварыла няпростую сітуацыю. Як піша Мадайчык, «вышэйшае камандаванне СС і паліцыі, хоць і было прыпісана да штабаў рэйхскамісараў, аднак удзельнічала ў іх фармальна. Затое спецыяльныя паўнамоцтвы паліцыі на гэтых тэрыторыях выклікалі ў яе камандзіраў розных рангаў адчуванне, што менавіта ім павінны падпарадкоўвацца камісары, а не наадварот» (110). Гэта пачуццё ўзмацнялася яшчэ і тым, што камандаванне СС і паліцыі ў асноўных галінах сваёй дзейнасці было цалкам падпарадкавана Гімлеру, а гэта выключала магчымасць умяшання цывільных улад. Такім чынам, паліцыя утварала сваю, практычна незалежную ад цывільнай адміністрацыі, сістэму ўпраўлення (111).

Не лепш выглядалі магчымасці цывільнай адміністрацыі на Беларусі і ў іншых важных галінах. Дэкрэт Гітлера ад 17 ліпеня, закранаючы гаспадарчыя пытанні, пацвердзіў ранейшыя паўнамоцтвы Гёрынга — упаўнаважанага за рэалізацыю чатырохгадовага плана — і пакінуў яго на чале ўсіх інстанцый, адказных за эксплуатацыю акупіраваных усходніх абшараў, у т. л. і тых, што былі перададзены цывільным уладам. Падпарадкаванне гаспадарчых службаў (ландвіртшафтсфюрэраў, зондэрфюрэраў і інш.) змянілася толькі фармальна. У час ваеннага праўлення яны дзейнічалі ў рамках вайсковых камендатур, а цяпер увайшлі ў склад генеральнага і акруговых камісарыятаў. Аднак заданні для іх вызначаў Гёрынг, а Кубэ і падначалены яму апарат павінны былі толькі рэалізоўваць яго ўказанні.

Дэкрэт ад 17 ліпеня выводзіў з кампетэнцыі мясцовых цывільных улад таксама дзейнасць чыгункі і пошты. Не падпарадкоўваліся ім і вайсковыя камендатуры. Яны па-ранейшаму працягвалі сваю працу, але цяпер кола іх дзейнасці звузілася да спраў выключна вайсковых — аховы камунікацыйных шляхоў, ваеннапалонных і г. д. Камендатуры нярэдка дапамагалі цывільным уладам у выкананні гаспадарчых заданняў — прымусова спаганялі з мясцовага насельніцтва харчовыя пастаўкі. Супрацоўнічалі яны і з паліцыяй, бралі супольны ўдзел у карных акцыях. У Кубэ не было шырокіх магчымасцей і ў галіне прапаганды. Тут гаспадарылі т. зв. прапа-



гандысцкія кіраўнікі, якіх прысылала ў Мінскі генеральны камісарыят міністэрства Розэнберга. Яны дзейнічалі ў адпаведнасці з яго інструкцыямі, узгодненымі да таго ж з міністэрствам прапаганды Гэбельса.

Спецыфіка беларускіх абшараў значна ўплывала на дзейнасць цывільнай адміністрацыі, яна ўскладняла выдачу распараджэнняў для гэтых тэрыторый не толькі міністэрству Розэнберга ў Берліне, але і рэйхскамісарыята ў Рызе. На гэтых землях у самых розных галінах панавала такая неаднароднасць, што даводзілася выдаваць асобныя дэкрэты і загады для «altsowjetische Gebiete», іншыя — для Заходняй Беларусі. Аднак звычайна ў фармулёўках прававых дакументаў, якія датычыліся Беларусі, значылася ўся тэрыторыя Генеральнай акругі з перавагай колішніх савецкіх абшараў, а не тая частка, што была перададзена фактычна цывільным уладам. Пры такой сітуацыі большасць берлінскіх дэкрэтаў і распараджэнняў, якімі рэгулявалася дзейнасць акупацыйнай адміністрацыі ў Остляндзе, не датычылася Беларусі — для яе былі прадугледжаны асобныя ўказанні. Тое самае можна сказаць і пра інструкцыі рэйхскамісарыята ў Рызе, у большасці сваёй яны датычыліся генеральных акруг Прыбалтыкі.

У такіх складаных умовах заканадаўства часта супярэчыла жыццёвай практыцы. Тыповым прыкладам можа паслужыць адно з першых распараджэнняў рэйхскамісара ў Остляндзе ад 13 верасня 1941 г. адносна скасавання вынікаў савецкай зямельнай рэформы.

Гэты дэкрэт меў прававую моц толькі на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Эстоніі, але не закранаў былой Заходняй Беларусі, хоць там зямельная рэформа была праведзена не шмат раней, чым у краінах Прыбалтыкі, а калектывізацыя сельскай гаспадаркі знаходзілася ў пачатковай фазе. Вырашальны ўплыў тут аказаў агульны характар Генеральнай акругі Беларусі, у якім пераважала калектыўная гаспадарка — акупацыйныя ўлады збіраліся яе захаваць. Але і без прававой падставы вынікі савецкай рэформы былі ліквідаваны, а калгасы распаліся.

Закладзеная дэкрэтамі Гітлера сістэма паралельнага кіраўніцтва ў спалучэнні з мясцовымі спецыфічнымі ўмовамі не дазваляла апарату акупацыйнай улады на Беларусі працаваць скаардынавана і эфектыўна. Пра гэта сведчыць самастойная дзейнасць арміі, паліцыі, гаспадарчых і будаўнічых арганізацый, дарожных службаў і г. д. У гэтых і іншых галінах новая цывільная адміністрацыя была практычна бездапаможная. Берлінскія тузы не бачылі тут неспадзяванкі: яны разлічвалі на блізкую перамогу, пагэтаму для новых цывільных улад былі вызначаны толькі дачасныя метады і задачы. Кубэ сведчыў, што прыступіў да кіраўніцтва адміністрацыяй на Беларусі, атрымаўшы толькі самыя агульныя дырэктывы: «прыстасаванне і выкарыстанне тэрыторыі для германскай ваеннай гаспа-

даркі»,— пры гэтым замест падрабязных інструкцый трэба было кіраваца лозунгам: «Усё, што ты зробіш для Германіі,— добра, усё астатняе — фальш» (112).

Няма сумнення ў тым, што Кубэ ў сваёй дзейнасці на Беларусі перш за ўсё кіраваўся інтарэсамі Германіі, але моцная асабістая пазіцыя, якую забяспечвала яму падтрымка Гітлера, дазваляла трактаваць па-свойму гэтыя інтарэсы. Аднак, нягледзячы на шматгадовы палітычны вопыт, сітуацыю, у якой ён апынуўся на Беларусі, Кубэ назваў беспрэцэдэнтнай (113). Край, куды накіраваў яго Гітлер, не меў традыцый дзяржаўнай самастойнасці, вынікам чаго быў нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці беларускага насельніцтва, слабасць яго сепаратысцкіх імкненняў і моцныя культурна-палітычныя ўплывы з польскага і расійскага боку. Асабліва выяўна сведчыў аб гэтым нацыянальны склад мясцовай цывільнай адміністрацыі — ён вельмі слаба адпавядаў краю, які павінен быў прадстаўляць. Да названага дапаўнялася розніца ў сацыяльна-эканамічным становішчы ва Усходняй і Заходняй Беларусі, што з'явілася вынікам іх знаходжання ў міжваенны перыяд у складзе СССР і Польшчы. Пагэтаму Кубэ невыпадкова заўважыў: «Беларусь была найперш, у самым сапраўдным значэнні гэтага слова, не больш, як імглістым геаграфічным паняццем» (114).

Назіранні Кубэ пацвярджалі ранейшыя паліцэйскія данясенні, што прыходзілі ў Берлін. У іх адзначаўся слабы нацыянальны патэнцыял беларусаў. Пагэтаму Розэнберг, які на падрыхтоўчым этапе да нападу на СССР не верыў у магчымасці беларускага нацыяналізму, восенню 1941 г. быў яшчэ менш схільны даваць рэкамендацыі па вырашэнню беларускага пытання ў рамках «новага парадку». Звязаны з міністэрствам Розэнберга штомесячнік «Дойчэ Пост аўс дэм Остэн» («Deutsche Post aus dem Osten») сцвярджаў на гэты конт у лістападзе:

«Увогуле, будучнасць беларускай, або крывіцкай, нацыянальнасці пакуль стаіць пад пытальнікам, а на думку скентыкаў, знаходзіцца цалкам пад сумненнем... Час пакажа, ці знойдзе беларускае, або крывіцкае, нацыянальнае пытанне сваё канчатковае вырашэнне ў цяперашні момант» (115).

Упэўненасць у слабасці беларускага нацыяналізму прывяла вярхоўных кіраўнікоў міністэрства Остлянда да пераканання, што ён не стане пагражаць нямецкім інтарэсам, пагэтаму дапускалася нават яго патэнцыяльнае ўзмацненне. Менавіта ў такім палітычным кантэксце звычайна асвятляецца роля Кубэ ў дзейнасці акупацыйнага цывільнага рэжыму на Усходзе. Петэр Кляйст, былы загадчык аддзела Остлянда ў ОМі, пісаў пасля вайны, што задачаю Кубэ ў асноўным лічылася барацьба з расійскімі і польскімі ўплывамі на Беларусі (116).

Двухгадовая дзейнасць Кубэ на Беларусі грунтавалася на адным



зыходным прынцыпе і была скіравана ў адным напрамку — да здабыцця сімпатый у насельніцтва шляхам пэўных уступак у галіне культуры і палітыкі, а такеама — суладнай гаспадарчай дзейнасці. Неабходна падкрэсліць, што гэты курс на паразуменне з грамадствам быў вынікам яго асабістага пераканання, а не інструкцый ОМі або вынікам дзейнасці савецкага руху супраціўлення — увосень 1941 г. гэты рух не ствараў яшчэ асаблівай небяспекі на беларускай тэрыторыі. У адрозненне ад Эрыха Коха, які збіраўся на Украіне кіраваць «з дапамогай махоркі, водкі і нагайкі» (117), Кубэ абвясціў на пачатку сваёй дзейнасці ў Мінску, што зверне асаблівую ўвагу на развіццё культуры (118).

Першым нарматыўным актам, выдадзеным Кубэ ў гэтай справе, былі часовыя інструкцыі ад 10.9.1941 г., паводле якіх для ўсіх дзяцей, апрача яўрэйскіх, ва ўзросце ад 7 да 14 год уводзілася абавязковае школьнае навучанне. Мясцовая адміністрацыя з 1 кастрычніка 1941 г. павінна была адчыніць пачатковыя школы з наступнай праграмай: родная мова, прыродазнаўства (батаніка і заалогія), арыфметыка, геаграфія, спевы, рукадзелле, гімнастыка. Выкладанне рэлігіі, як каталіцкай, так і праваслаўнай, магло весціся па-за школай (119). Галоўны акцэнт часовыя інструкцыі ставілі на выхаванне моладзі ў духу гітлераўскай Новай Еўропы і пагражалі суровымі карамі за распаўсюджванне ў школах савецкай або польскай ідэалогіі. Нагляд за дзейнасцю школ ажыццяўляў генеральны камісарыят у Мінску і акруговыя камісарыяты, у рамках якіх ствараліся беларускія школьныя інспектуры (120).

Школьніцтва было першым важным крокам Кубэ на шляху да рэалізацыі яго палітычных планаў. Выданнем часовых школьных інструкцый ён падкрэсліваў, што Генеральная акруга Беларусі — жыццёвая прастора беларускага народа і ў першую чаргу менавіта гэтаму народу павінна служыць. Задачаю школ станавілася развіццё беларускай культуры, выхавання і асветы, засвойваць гэта павінна была і моладзь нацменшасцей — палякаў і расійцаў. У інструкцыях зазначалася, што асноўнай мовай навучання павінна быць беларуская, але ў мясцовасцях, дзе пераважала польскае насельніцтва, дапускалася існаванне школ з польскай мовай навучання, аднак і ў іх беларуская заставалася абавязковым прадметам з аб'ёмам выкладання 6 гадзін на тыдзень. Затое не было школ з рускай мовай навучання. У студзені 1942 г. у Мінску пачало выходзіць перыядычнае выданне «Беларуская школа» ў дзвюх серыях — для вучняў і для настаўнікаў. Яно павінна было часткова замяніць савецкія падручнікі, якія былі выведзены з ужытку.

Нягледзячы на цяжкасці з кадрамі і памяшканнямі (частка школьных будынкаў была занята войскамі), а таксама на недахоп падручнікаў, колькасць пачатковых школ на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі хутка ўзрастала і пад канец 1941/42 наву-

107. Dallin A. German rule in Russia 1941—1945. A study of occupation policies. London, 1957, p. 49—50.
108. Reitlinger G. The house built on sand. The conflicts of German policy in Russia 1939—1945. London, 1960, p. 69.
109. Denkschrift № 1, 2.4.1941, 1017-RS, Der Prozess gegen Hauptkriegsverbrecher vor dem Internationalen Milit argerishtshof Nürnberg 14 November 1945—10 Oktober 1946 (далей — IMGN), Bd. XXVI. Nürnberg, 1947, S. 547.
110. Instruktion vom 8. Mai 1941 für einen Reichskommissar im Ostland, 1029-RS, IMGN, Bd. XXVI, S. 573. Адпаведны запіс у інструкцыі гучаў у арыгінале наступным чынам: «Ziel eines Reichskommissars für Estland, Lettland, Litauen muss es sein, die Form eines deutschen Protektorats zu erstreben...». Пазней пасля «Litauen» алоўкам было дапісана «Weissruthenien».— Гл. IMGN, Bd. 111, S. 400. Як высветлілася на Нюрнбергскім працэсе, названая інструкцыя была часовым праектам і ў такой форме не высылалася ведамствам Розэнберга // IMGN, Bd. XI, S. 526, 621. Гл. таксама: Rede Rosenbergs vor den engsten Beteiligten am Ostproblem vom 20 Juni 1941, 1058-PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 617—618, 623.
111. Instruktion vom 8. Mai 1941 für einen Reichskommissar im Ostland...; Allgemeine Instruktion vom 8. Mai 1941 für Reichskommissare in den besetzten Ostgebiete, 1030-PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 576.
112. Fall Barbarossa. Dokumente zur Vorbereitung der faschistischen Wehrmacht auf die Aggression gegen die Sowjetunion (1940/41). Berlin, 1970. S. 387.
113. Memorial Reichstelle für Raumordnung «Das GG und die Interessengrenze am Bug», 22.6.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 86/1079-1087.
114. Ліст Лямэрса да Кайтэля, 20.5.1941, 1188-PS, Archiwum Głównej Komisji Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce (далей — AGKBZH), Amerykański Trybunal Wojskowy XI, Dokumenty Prokuratury, t. 29, s. 27.
115. OKW Weisungen für die Handhabung der Propaganda im Falle «Barbarossa», Juni 1941, 026-C,IMGN, Bd. XXXIV, S. 191—195.
116. Anordnung des Chefs der Sipo und des SD, 18.6.1941, 1573-PS, IMGN, Bd. XXVII, S. 345.
117. (Rosenbergs) Bericht 28.6.1941 über die Vorbereitungsarbeit für den osteuropäischen Raum, 1039-PS, IMGN, Bd. XXVI, S. 584.

### З надзеяй на хуткую перамогу (чэрвень — снежань 1941)

1. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (далей — БелСЭ). Мн., 1975. Т. 12. С. 160.
2. Сталин И. О Великой Отечественной войне Советского Союза. М., 1947. С. 15.
3. Vakar N. Belorussia. The making of a nation, Harward University Press. Cambridge (Mass), 1956, p. 172.
4. Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1975. Т. 4. С. 134, 137.
5. Разбурэнне Мінска германскай авіяцыяй апісана ў нямецкіх крыніцах: Ereignismeldung UdSSR, № 23, 15.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721505. Паводле прызнанняў сведкаў, «усё вышэйшае кіраўніцтва, міліцыя, служба бяспекі і нават шэф грамадзянскай абароны разам са сваім штабам пакінулі горад [Мінск.— *Ю. Т.*] за тры дні да заняцця яго немцамі. Ніхто нават не спрабаваў гасіць пажары...» // Vakar N. P. 171.
6. Гэтыя змены былі прадугледжаны ў польска-савецкім дагаворы ад 16.8.1945, паводле якога СССР перадаў на карысць Польшчы 17 раёнаў Беластоцкай і 3 раёны Брэсцкай вобласці.— Гл.: Раков А. Население БССР. Мн., 1969. С. 9. Фактычна гэтыя абшары польская адміністрацыя пераняла ўжо ўлетку 1944 г.



7. Разлікі, выкананыя аўтарам на падставе даных выд.: Drugi Powszechny spis Ludności z 9.12.1931 r. (tomy: woj. wileńskie, nowogródskie, poleskie i bialostockie), Warszawa 1936—1938. Пра тое, што гэтыя даныя не поўнасцю адпавядалі рэчаіснасці//Tomaszewski J. Z dziejów Polesia 1921—1939. Warszawa, 1963, s. 22—23.
8. Большая Советская Энциклопедия (далей — БСЭ). М., 1950. Т. 4. С. 476.
9. БСЭ. М., 1970. Т. 3. С. 134; БелСЭ. Мн., 1975. Т. 12. С. 163; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 137. У шасцідзесятых гадах фігуравала значна ніжэйшая лічба эвакуіраванага насельніцтва (звыш 1 млн. чалавек). Крыніцай гэтай інфармацыі быў даведнік-праваднік па залах Беларускага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, выдадзены ў Мінску ў 1960 г.// Эшелоны идут на восток. Сборник статей и воспоминаний из истории преобразования производительных сил СССР в 1941—1945 гг. М., 1966. С. 88.
10. Загорулько М. М., Юденков А. Ф. Крах экономических планов фашистской Германии на временно оккупированной территории СССР. М., 1970. С. 72.
11. Белорусская ССР. Очерки экономической географии. Мн., 1953. С. 151.
12. БелСЭ. Т. 12. С. 282.
13. Кошт асноўных вытворчых фондаў, у т. л. машын, абсталявання і будынкаў, на ўсходніх абласцях БССР на 1.1.1941 г. складаў 1321,8 млн. рублёў. Нельга параўноўваць з гэтай сумай кошт эвакуіраваных сродкаў вытворчасці (478,1 млн. руб), бо сюды не ўвайшлі прамысловыя будынкі // Экономика Советской Белоруссии. Мн., 1967. С. 228, 288.
14. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 138.
15. Тамсама. С. 139.
16. Лічыцца, што пры адгоне на ўсход каля 15 % хатняй жывёлы загінула, 20—25 % было перададзена вайсковым часцям і дзяржаўным арганізацыям. Напачатку 1942 г. у розных абласцях РСФСР знаходзілася ўжо каля 200 тыс. галоў жывёлы, эвакуіраванай з Беларускай ССР // Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 139.
17. Эшелоны идут на восток... С. 104.
18. Факторович А. А. Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. Мн., 1979. С. 38; Vakar N. P. 173.
19. Загорулько М., Юденков А. С. 197.
20. Факторович А. С. 36—38.
21. Ereignismeldung UdSSR, № 69, 29.8.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722133.
22. БелСЭ. Т. 12. С. 161.
23. Ereignismeldung UdSSR, № 31, 23.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2 721 618.
24. Vakar, p. 173.
25. Сталин И. С. 15.
26. На думку Вакара, страты гэтыя былі «непараўнальна большыя» за тыя, што прычынілі немцы падчас акупацыі.— Гл. цытаваную працу, с. 171.
27. Справаздача «Евы» з падарожжа ў Мінск ад пачатку жніўня 1942 г., ЦА ЦК ПАРП, 203/VII-45, k. 18.
28. Рамаnоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мн., 1964. С. 51.
29. Madajczyk C. Faszyzm i okupacje 1938—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie. Poznań, t. 1, 1983, s. 546.
30. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 106—107.
31. Тамсама. С. 84 і далей.
32. Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Успаміны. Таронта, 1976. С. 31.
33. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 105.
34. Па звестках беларускіх даследчыкаў, агульная колькасць польскіх чыноўнікаў, цывільных і вайсковых асаднікаў і іншых службоўцаў, якія ў 1921—1939 гг. перасяліліся ў Заходнюю Беларусь, даходзіла да 300 тыс. // Раков... С. 130.
35. Ereignismeldung UdSSR, № 17, 9.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721449; 2721778; Dallin, p. 64—65, 214.
36. Ereignismeldung UdSSR, № 43, 5.8.1941, AAN, mf. aleks., T-175,

чальнага года дасягнула 3485. У іх навучалася 346 тыс. вучняў і працавала 9716 настаўнікаў (121). Гэтыя колькасныя паказчыкі, здаецца, не вельмі адрозніваліся ад даваенных лічбаў за 1940/41 г. на параўнальнай тэрыторыі Беларусі (122). Трэба дадаць, што распрацаваная Кубэ сямікласная сістэма навучання перавышала патрабаванні інструкцый ОМі, выдадзеных, праўда, крыху пазней. Для акупаваных савецкіх земляў (апрача Прыбалтыкі) там прадугледжвалася адкрыццё толькі чатырохкласных пачатковых школ (123). Затое праект Кубэ саступаў сістэме школьніцтва ў Прыбалтыцы, дзе працавалі таксама сярэднія школы і некаторыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Наступнай дэкларацыяй Кубэ была адозва «Да жыхароў Беларусі», абвешчаная ў Мінску 22.9.1941 г. Перамога Германіі патэтычна аб'яўлялася ў ёй здзейсненым фактам, дэкляраваліся адбудова ваенных разбурэнняў, дабрабыт і забяспечаная будучнасць беларускага народа ў рамках новага еўрапейскага ладу, акупацыйнае цывільнае праўленне называлася прыяцелем гэтага народу, ахоўнікам справядлівага парадку і выпрабаваным будаўніком усеагульнага дабрабыту. Далей адозва заклікала:

«Беларусы! Першы раз у вашай гісторыі перамога Германіі дае вам магчымасць забеспячэння вашаму народу свабоднага развіцця і светлай будучыні без расійска-азіяцка-бальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панавання. Я спадзяюся, што кожны з вас зразумее, што яго інтарэсы сцісла звязаны з інтарэсамі Германіі і што вы будзеце вернымі паслядоўцамі і памочнікамі нямецкага кіраўніцтва» (124).

Адозва Кубэ адыходзіла далей ад пашыраных у прапагандзе Вермахта зацертых фраз пра «вызваленне ад бальшавізму» і імкнулася разгарнуць перад беларускім народам станоўчую перспектыву, якая адкрывалася для яго з усталяваннем нямецкай акупацыі. Апрача чыстай прапаганды, у адозве Кубэ, найвышэйшага прадстаўніка нямецкай улады на Беларусі, былі выказаны дэкларацыі свабоднага развіцця краю без староннягa панавання і агульнасці германа-беларускіх інтарэсаў. Варта падкрэсліць, што гэтыя заявы закраналі такія пытанні нямецкай палітыкі, пра якія маўчаў афіцыйны Берлін. Можна пагэтаму меркаваць, што яны рабіліся без санкцый Розэнберга, і, нягледзячы на асцярожнасць фармулёвак, былі рэдкім з'явішчам на акупіраванай тэрыторыі СССР.

Тым не менш завярэнні Кубэ ў прыязнасці, справядлівасці і адзінстве інтарэсаў рэзка супярэчылі рэчаіснасці: незалежныя ад яго ўлады часці Вермахта і СС чынілі забойствы, рабункі і бессэнсоўныя разбурэнні ўжо пасля ўвядзення цывільнага рэжыму. Гэта перакрэслівала ўсе перспектывы палітыкі, скіраванай на здабыццё сімпатый мясцовага насельніцтва. Разыходжанне ў поглядах на задачы акупацыі выявілася адразу ж пасля прыезду Кубэ ў Мінск.



Узніклі спрэчкі вакол кіравання гаспадаркай, грабяжоў, знішчэння твораў мастацтва і ліквідацыі яўрэйскага насельніцтва. Тры прыведзеныя ніжэй дакументы — два з іх выкарыстоўваліся як доказы на Нюрнбергскім працэсе — сведчаць пра ўмяшальніцтва Кубэ ў гэтыя справы і з'яўляюцца важным матэрыялам для агульнай ацэнкі яго палітыкі на Беларусі, а таксама адносін да СС.

Дакумент 1: Ліст Кубэ да Лёзэ ад 3.10.1941 г.

«У дадатак перасылаю табе для прыняцця далейшых захадаў зняты паводле майго даручэння плакат ад 6.9.1941 (тэкст плаката: «Зрэквізавана» за подпісам HSSPF Пруцмана.— *Ю. Т.*). Не паведаміўшы мне, СС паспешліва праводзіць рэквізіцыі на Беларусі. Асаблівую важнасць мае рашэнне міністэрства або рэйхскамісара наконт баз СС. Калі гэтыя базы будуць абсталёўвацца так, як прадугледжвае СС, дык хутка яна стане гаспадаром усіх непашкоджаных і зручна размешчаных частак горада, а цывільная адміністрацыя акажацца госцем фармацыі, якая выкарыстоўвае любыя магчымасці, каб крочыць уласным шляхам. Будаваць план горада ў такой сітуацыі цывільнае кіраўніцтва проста не зможа. Настойліва прашу прадухіліць гэтыя непрыемныя акалічнасці. Увогуле, справы і дзейнасць паліцыі павінны быць так адрэгуляваны, каб цывільная адміністрацыя мела выключнае права выдаваць ёй распараджэнні. Брыгадэнфюрэр СС Цэнэр, які дзеля ўзмацнення свайго прэстыжу стаў *генерал-маёрам паліцыі, сцвярджае пры кожнай нагодзе*, што мае спецыяльныя інструкцыі рэйхсфюрэра СС, якіх, аднак, мне не паказвае. Так працаваць немагчыма.

Вермахт таксама распараджаецца цывільнымі справамі і абураецца, калі яму робяць заўвагі аб недапушчальнасці такіх паводзін. Пара ўжо, нарэшце, адназначна падпарадкаваць гаспадарку цывільнай адміністрацыі. Тут (г. зн.— на Беларусі.— *Ю. Т.*) СС, Вермахт і Люфтвафэ папросту рэквізавалі сабе вялікую колькасць гаспадарчых прадпрыемстваў, калгасаў і борзда імі распараджаюцца. З рэштак, пакінутых цывільнай адміністрацыі, армія вымае на свае патрэбы, так што да бліжэйшага жніва пагалоўе жывёлы, рэсурсы і ўсё неабходнае няўхільна будзе зруйнавана. Мы яшчэ не маем уплыву на менскую бойню, бо ОКН (галоўнае камандаванне сухапутных войскаў.— *Ю. Т.*) заяўляе на гэтую бойню выключнае права. Таксама і радыёзавод працуе выключна на Люфтвафэ. Усё гэта абмяжоўвае нашу дзейнасць. Калі ў найбліжэйшы час гэтыя справы не высветляцца, цывільнае кіраўніцтва стане папросту гумарыстычным давескам, на які будуць глядзець, як на перашкоду ў далейшым рабаванні краю» (125).

Дакумент 2: Ліст Кубэ да Розэнберга ад 29.9.1941 г.

«Сёння, пасля доўгіх пошукаў, я магу, нарэшце, знайсці і ацаніць рэшткі мастацкіх скарбаў Менска. У горадзе існавала вялікая, а часткаю — вельмі каштоўная, калекцыя твораў мастацтва і абра-

R. 233/2721778; № 154, 12.1.1942, ibid, R. 234/2723568.

37. Ereignismeldung UdSSR, № 50, 12.8.1941; № 54, 16.8.1941, ibid, T-175, R. 233/2721875, 2721939; Малецкі Я. С. 45,51.

38. Ereignismeldung UdSSR, № 17, 9.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721449.

39. Раманоўскі В. С. 77.

40. Ereignismeldung UdSSR, № 67, 29.8.1941, ibid, T-175, R. 233/2722119.

41. Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, ibid, T-175, R. 233/2722683. Тое самае пацвярджае і орган падпольнага Нацыянальнага Старонніцтва: «Першыя цывільныя ўлады, створаныя нямецкім войскам, камплектаваліся з улікам антыкамуністычнай палітыкі, пагэтаму наймалі шмат польскай інтэлігенцыі...» // Za Bugiem niemieckie nieporzadki. // «Walka», 3.10.1941, s. 7.

42. Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 1, 1.5.1942, ibid, T-175, R. 235/2724358. Тым не менш былы шэф Віленскага прадстаўніцтва ўрада Сікорскага Зыгмунт Федаровіч напісаў у сваіх успамінах наступнае: «Нямецкая акупацыйная адміністрацыя на тэрыторыі нашых Крэсаў абапіралася на літоўцаў і беларусаў».— Гл. яго «Trzydzieści lat mego pobytu w Wilnie (1914—1944)», maszynopis, Biblioteka Ossolineum we Wroclawiu, dzial rekopisów, nr akc. 147/57, s. 171.

43. Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722688.

44. Raport sytuacyjny Delegatury Rzadu za okres 15.8—15.9.1941, okreg Bialystok, Centralne Archiwum KC PZPR 202/11-6, k. 120.

45. Ereignismeldung UdSSR, № 50, 12.8.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721875.

46. Тамсама. № 58. 20.8.1941, ibid, T-175, R. 233/2721964.

47. Лідская акруга падчас нямецкай акупацыі // «Беларуская думка». 1960. Кастрычнік.

48. А. К-а [Калодка]. Беларуска-польскія суадносіны ў Вялейшчыне 1941—1944. // «Зважай». 1981. Сакавік.

49. Ereignismeldung UdSSR, № 32, 24.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721633.

50. Тамсама, № 20. 12.7.1941; № 43. 5.8.1941; Vakar N., p. 172, 184; Dallin, p. 214.

51. У 1928—1940 гг. на тэрыторыі Усходняй Беларусі пагалоўе коней з 1079 тыс. паменшала да 597 тыс., буйной рагатай жывёлы — з 2218 тыс. да 1622 тыс., свіней — з 2399 тыс. да 1411 тыс., авечак і коз — з 3817 тыс. да 1213 тыс. // Социалистическое строительство СССР. Статистический ежегодник. М., 1936; Статистический справочник состояния народного хозяйства БССР к началу Великой Отечественной войны. Без М. В., 1943. С. 148.

52. Пецюкевіч М. Кара за служэнне народу. Успаміны. Торунь, б/д, сшытак 1, с. 22—24, ЦНБ АН БССР, аддзел рукапісаў, ф. 23 — калекцыя.

53. Ereignismeldung UdSSR, № 67, 29.8.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722116.

54. Vakar, p. 185.

55. Тамсама. С. 173.

56. Ereignismeldung UdSSR, № 43, 5.8.1941...

57. Vakar, p. 177.

58. Тамсама. С. 180, 263—264.

59. Ereignismeldung UdSSR, № 21, 13.7.1941...

60. Ereignismeldung UdSSR, № 90, 21.9.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722485.

61. Kalush V. In the service of the people for a free Byelorussia. London, 1964, p. 36—37.

62. Галяк Л. Успаміны. [ЗША], 1982. Т. 1. С. 153.

63. Krzyżanowski B. Wileński matecznik 1939—1944. Paryż, 1979, s. 47.

64. «Goniec Codzienny», 29.7.1941.



65. «Nowe Drogi», 5.1.1942.

66. Рапарт «Сыбулта», 31.10.1941, ЦА ЦК ПАРП, 202/11—22, к. 17.

67. Ereignismeldungen UdSSR, № 21, 13.7.1941...; № 97, 28.9.1941.

68. А. К-а [Калодка]. Беларуска-польскія суадносіны ў Вялейшчыне 1941—1944. // «Зважай». 1981. Сакавік. № 1 (21); Лідская акруга падчас нямецкай акупацыі // «Беларуская думка». 1960. Кастрычнік. № 1; Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта — Мюнхен, 1962. С. 14; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Таронта, 1976. С. 49—52; Volacič M. The population of Western Belorussia and its resettlement in Poland and the USSR. // «Belorussian Review», № 3. München, 1956, p. 16.

69. Калодка А. Пётра Родзевіч у 36 угодкі арышту і 35 угодкі сьмерці // «Зважай». 1979. Сакавік. № 1 (13).

70. Ereignismeldungen UdSSR, № 36, 28.7.1941; № 90, 21.9.1941, AAN, mf. aleks., T. 175, R. 233/2721694, 2722485. На падставе гэтых даносаў немцы арыштавалі ў Стоўбцах 19 беларускіх службоўцаў, у т. л. Юрыя Сабалеўскага і Віктара Чабатарэвіча, а ў Валожыне —22 адміністрацыйных супрацоўнікаў на чале з кіраўніком управы Канстанцінам Касяком // Касяк І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народа. Нью-Йорк, 1956. С. 119.

71. Za Bugiem niemieckie nieporzadki. //«Walka», 3.10.1941.

72. Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Мн., 1951. Т. 2. С. 882.

73. Справаздача «Евы» аб падарожжы ў Мінск напачатку жніўня 1942 г., CA KC PZPR, 203/VII-45, k. 20.

74. Тамсама.

75. Адначасовае прызначэнне на адміністрацыйныя пасады беларусаў побач з палякамі ў тых самых рэгіёнах можна было б расцэньваць як правакацыю міжнацыянальных канфліктаў, аднак, на думку аўтара, гэты аргумент не вельмі пераканаўчы: з аднаго боку, немцы былі вымушаны наймаць на службу палякаў. З другога боку, нельга лічыць за правакацыю імкненне СД стварыць беларускую адміністрацыю. Аднак, у выніку, гэта прыводзіла да канфліктных сітуацый, якія ішлі на карысць акупантам.

76. Ereignismeldung UdSSR, № 10, 2.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721398.

77. Ereignismeldungen UdSSR, № 20, 12.7.1941; № 21, 13.7.1941; № 36, 28.7.1941.

78. Unsere Ehre heisst Treue. Wien-Frankturt-Zürich, 1965, S. 214, 220.

79. Anordnung des OKW vom 8.9.1941 über Behandlung sowjeticher Kriegsgefangenen, IMGN, // Bd. XXVII, PS-1519. Пад канец лета 1941 г. гэтыя ваеннапалонныя былі вызвалены і адпушчаны дадому//Erfahrungs-Raumungs-und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2574951; Vakar, p. 170.

80. Dallin, p. 409.

81. Wilpert von F. Die Vorpostenstellung Weissrutheniens.//Auf Informationsfahrt im Ostland. Riga, 1944, S. 194.

82. Ліст Лямэрса да Кайтэля, 20.5.1941, AGKBZN, ATW XI, Dok. Prokuratury, t. XXIX, s. 27.

83. Dallin, p. 189.

84. Aktenvermerk vom 16.7.1941 über eine Besprechung Hitlers mit Rosenberg, Lammers, Keitel und Göring aufgezeichnet von einem unbekannten Teilnehmer, IMGN, // Bd. XXXVIII, dok. 221-L, S. 86.

85. Erlass des Führers über die Verwaltung der neu besetzten Ostgebiete vom 17. Juli 1941. // Herzog R. Grundzüge der duetschen Besatzungsverwaltung in den ost — und südeuropäischen Ländern während des zweiten Weltkrieges. Tübingen, 1955, S. 170.

86. Madajczyk, s. 547.

87. Erster Erlass des Führers über die Einführung der Zivilverwaltung in den neu besetzten Ostgebieten vom 17. Juli 1941. // Herzog, S. 172.

зоў, якая амаль поўнасцю была вывезена з Менска. Па загаду рэйхсфюрэра СС, рэйхсляйтэра Генрыха Гімлера большасць карцін — часткаю ўжо пасля майго ўступлення на пасаду — была запакавана СС-аўцамі і вывезена ў Рэйх. Прытым гаворка ідзе пра мільённыя каштоўнасці, якія былі адабраны ад Генеральнай акругі Беларусі. Карціны павінны былі быць высланы ў Лінц і Кёнігсберг ва Усходняй Прусіі. Прашу гэтыя каштоўныя зборы, калі яны непатрэбныя для Рэйха, вярнуць у распараджэнне Генеральнай акругі Беларусі, у любым выпадку іх матэрыяльную вартасць перавесці на рахунак міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый.

Паводле выказванняў аднаго маёра 707-ай дывізіі, які перадаў мне рэшткі гэтых збораў, астатнія абразы і творы мастацтва, у т. л. і найбольш каштоўныя карціны, мэбля 18 і 19 ст., вазы, рэчы з мармуру, гадзіннікі і да т. п., СС перадало Вермахту для наступнага разграблення. Генерал Студенраўх (шэф палявой камендатуры № 184 у Мінску.— *Ю. Т.*) найбольш каштоўную частку вывез з Менска ў аперацыйную зону. Зондэрфюрэры, якіх я яшчэ не мог зарэгістраваць, вывезлі (без распіскі) тры грузавыя машыны з мэбляй, карцінамі і прадметамі мастацтва. Я распарадзіўся высветліць гэтыя часці, каб пакараць вінаватых, якія нясуць адказнасць за грабеж. Мясцовыя заставы Вермахта і СС выбралі без майго дазволу з пазасталых рэштак наступныя рэчы і абразы, якія, аднак, яшчэ маглі б заставацца ў Менску.

Для рэстаўрацыі часта без сэнсу пашкоджаных нажамі карцін прашу прысласць сюды нацыянал-сацыялістычнага мастака Віллі Спрынгера, Берлін СВ 29, Газэнгейдэ, 94; каб пад яго кіраўніцтвам магло быць выратавана тое, што яшчэ можна ўратаваць. На жаль, шматлікія каштоўныя вазы, фарфор, шафы і стылёвая мэбля 18 ст. таксама былі значна пашкоджаны або знішчаны. Усё разам складае неацэнныя каштоўнасці, вартыя мільёнаў марак. Я прашу на будучыню міністэрства Усходу хадайнічаць перад адказнымі пастамі Вермахта для прадухілення падобных знішчэнняў, а таксама для самага суровага пакарання вінаватых.

Музей дагістарычнай археалогіі таксама знаходзіцца ў стане поўнага спусташэння. У геалагічным аддзеле разграблены каштоўныя і паўкаштоўныя камені. Ва універсітэце былі бессэнсоўна паразбіваны або забраны інструменты на сотні тысяч марак. Можа, было б пажадана, каб Вы, пан рэйхсляйтэр, паведамілі пра гэта фюрэру. У выніку такога абыходжання і без таго бедная Беларусь панесла найцяжэйшыя страты...» (126).

У дадатак да працытаванага ліста Кубэ выслаў рапарт радавога Абля пра становішча мінскіх бібліятэк пасля таго, як іх спустошыў Вермахт. Заканчваўся ён наступным чынам: «Гэты рапарт дасягне сваёй мэты толькі тады, калі будзе прадстаўлены найвышэйшаму кіраўніцтву і калі будуць неадкладна выдадзены загады, якія не



дазволяць нямецкаму салдату ў будучым паводзіць сябе, як варвару».

Дакумент 3: Фрагменты справаздачы акруговага камісара ў Слуцку Карла генеральнаму камісару ў Мінску ад 30.10.1941 г. пра масавую расправу з яўрэямі ў Слуцку.

«З непамернай жорсткасцю нямецкія паліцыянты і асабліва літоўскія партызаны (гаворка ідзе пра літоўскія паліцэйскія часці на службе ў немцаў.— *Ю. Т.*) выцягвалі з хат і зганялі яўрэяў, а сярод іх — і беларусаў. Паўсюдна ў горадзе стаяла страляніна, на паасобных вуліцах ляжалі трупы забітых яўрэяў. Беларусам з вялікімі цяжкасцямі ўдавалася пазбыцца абвінавачванняў. Не кажучы аб тым, што з яўрэяў, у тым ліку і з рамеснікаў, здзекаваліся на вачах у беларусаў, дык і саміх беларусаў білі гумовымі палкамі і прыкладамі карабінаў. Гэта была ўжо не жыдоўская акцыя, а выглядала хутчэй як рэвалюцыя. Я сам увесь час знаходзіўся разам з усімі сваімі супрацоўнікамі пасярод гэтага, каб яшчэ ратаваць, што толькі ўдасца. Шмат разоў мне даводзілася літаральна з настаўленым рэвальверам выцягваць з майстэрняў нямецкіх паліцыянтаў, а таксама літоўскіх партызан. Такое самае даручэнне атрымала і мая жандармерыя, аднак з-за дзікай страляніны яна мусіла шмат разоў пакідаць вуліцы, каб не быць расстралянай... Беларускае насельніцтва, якое нам поўнасцю давярала, цяпер жахаецца. І хоць запалоханыя людзі не адважваюцца свабодна выказаць свае думкі, аднак чутны ўжо меркаванні, што гэты дзень не стане ганаровай старонкай нямецкай гісторыі, але і забыты ён не будзе таксама. Я лічу, што гэтай акцыяй было знішчана шмат з таго, што нам удалося дасягнуць за апошнія месяцы, і што пройдзе дужа часу, пакуль мы вернем страчаны ў насельніцтва давер» (127).

1 лістапада Кубэ выслаў справаздачу Карла да Лёзэ і Розэнберга, адначасова прапануючы распачаць судовы працэс над усім афіцэрскім корпусам паліцэйскага батальёна — выканаўцам слуцкай масавай расправы. Пратэстуючы супраць забойства яўрэйскіх рамеснікаў, ён пісаў: «Такімі метадамі нельга ўтрымаць на Беларусі спакой і парадак. Тое, што цяжка параненыя былі пахаваны жыўцом, а потым выкараскаліся з магіл,— гэта такое бязмежнае свінства, што пра гэтую падзею трэба было б проста паведаміць фюрэру і рэйхсмаршалу. Цывільнае кіраўніцтва на Беларусі прыкладае велізарныя намаганні, каб, згодна з указаннямі Фюрэра і міністра Рэйха (Розэнберга.— *Ю. Т.*), здабыць сімпатыі ў мясцовага насельніцтва. Але гэтыя старанні не могуць суіснаваць і мірыцца з апісанымі вышэй метадамі» (128).

Паводзіны Кубэ былі прадыктаваны імкненнем наладзіць супрацоўніцтва з мясцовым насельніцтвам, ён лічыў, што гэта — асноўная ўмова, без якой немагчымы поспех у любых распачынаннях акупацыйных улад. Адсюль і яго спробы спыніць бязлітасныя і хаатыч-

88. Bräutigam O. Überblick über die besetzten Ostgebiete während des 2. Weltkrieges, Tübingen, 1954, S. 4.

89. Lohse H. Ostland baut auf. // «Nationalsozialistische Monatshefte», Januar 1942, S. 35.

90. Ліст Лёзэ да Гітлера, 31.5.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/040.

91. Niederschrift über die Chefbesprechung am 30.10.1941 im RMfdbO über Landesplanung im Ostraum, ibid, T-454, R. 20/1123; «Новая дарога», 21.6.1942, № 13.

92. Aktenvermerk vom 16.7.1941...

93. Ліст Лёзэ да Гітлера, 31.5.1944...

94. Гэтае пытанне больш падрабязна асветлена ў арт.: Turonek J. Status Bialorusi w Komisariacie Rzeszy Ostland.// Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej, t. XX, Ossolineum, 1984, s. 168—169.

95. Ліст Кубэ да Лёзэ, 12.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/473.

96. Engelhardt, S. 277; Mende von G. Das Reichskommissariat Ostland. // «Jahrbuch der Weltpolitik», Berlin, 1942, S. 164.

97. Lohse, Ostland baut auf. // «Nationalsozialistische Monatshefte», Januar 1942, S. 33; Mende, S. 164.

98. У гэты час Смаленшчыну ўжо трактавалі як «заслон супраць беларускага шавінізму»//Ereignismeldung UdSSR, № 145, 12.12.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723390.

99. Загад аб прызначэнні ад 17.7.1941 г., AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/674.

100. Прыведзеная тут кароткая біяграфія Кубэ (да сярэдзіны лета 1941 г.) была апрацавана на падставе: Wer ist's, выд. X, Berlin 1935; Neue Deutsche Biographie. Bd. XIII. München, 1982, S. 156—157; Heiber H. Aus den Akten des Gauleiters Kube.// «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1956, Heft I; Hüttenberger P. Die Gauleiter. Studie zum Wandel des Machtgefüges in der NSDAP. Stuttgart, 1969, S. 200—215.

101. Спіс найважнейшых прац Кубэ, выдадзеных у 1919—1933 гг., змешчаны ў Neue Deutsche Biographie, Bd. XIII... Асаблівай увагі заслугоўвае драма Кубэ «Тaціла» (Totila. Historische Schauspiegel), выдадзеная ў 1920 г. і перавыдадзеная ў 1933 г.

102. Райтлінджэр (Reitlinger, S. 156) піша, што Гітлер загадаў на кароткі час змясціць Кубэ ў канцлагер. І сапраўды, ён быў у канцлагеры Дахау, але не вязнем, а звычайным вартаўнікам, і тое — толькі на працягу двух месяцаў.— Гл. паказанні Карла Цэнэра, былога камандзіра СС і паліцыі ў Мінску, дадзеныя ў Нюрнбергу 3.11.1947 г., якія грунтаваліся на сведчанні самога Кубэ // AGKBZH, ATW IX, Dok. obrony, t. X, s. 160. Гл. таксама: Ліст Гімлера да Гайдрыха ад 26.11.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R-66/2582158—2582161.

103. Oven von W. Finale furioso. Mit Goebbels bis zum Ende. Tübingen, 1974, S. 140. Такое выказванне адлюстроўвала непрыязныя адносіны паміж Гэбельсам і Кубэ. Справа ў тым, што Кубэ дазволіў сабе публічна крытыкаваць кнігу Гэбельса «Vom Kaiserhof zur Reichskanzlei», акрэсліўшы яе як «Я — аб Сабе»//Memoirs of Alfred Rosenberg. Chicago — New-York, 1949, p. 163.

104. Bräutigam, S. 7—8.

105. Паказанні Лёзэ ад 23.10.1947 г. // AGKBZH, ATW IX, Dok. Obrony, t. X, s. 200. На гэта ўказвае і памылковая версія Райтлінджэра, нібыта прызначэнне Кубэ адбылося па просьбе Лёзэ // Reitlinger, S. 157.

106. Bräutigam, S. 7—8.

107. Aktenvermerk vom 16.7.1941...

108. Ліст Розэнберга да Лямэрса, 5.7.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 86/1126; Dallin, p. 203.

109. Erlass des Führers über die polizeiliche Sicherung der neu besetzten Ostgebiete vom 17.7.1941; Herzog, S. 175.

110. Madajczyk, S. 566.

111. Загорулько М., Юденков А. Крах экономических планов фашистской Германии на временно оккупированной территории СССР. М., 1970. С. 57.

112. Ліст Кубэ да Мэера, 27.7.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 84/1322.



113. Kube W. Weissruthenien: Ein Jahr Zivilverwaltung. // «Deutsche Zeitung im Ostland», 30.8.1942.

114. Тамсама.

115. Meyer P. Die Weissruthenen. Ein bisher ungelöstes ostslavisches Volksproblem. // «Deutsche Post aus dem Osten», 1941, November. № 11.

116. Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1935—1945. Bonn, 1950, S. 170.

117. Torwald J. Wen sie verderben wollen. Bericht des grossen Verrats. Stuttgart, 1952, S. 42.

118. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 17.9.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/668.

119. «Amtstblatt des Generalkommissars für Weissruthenien», 13.10.1941.

120. Тамсама.

121. «Раніца». 25.12.1942.

122. У параўнанні з БССР 1940/41 г. (у сучасных межах) на долю Генеральнага камісарыята пад цывільным праўленнем прыпадала 26 % ад яе тэрыторыі, 26 % — насельніцтва, 27 % ад агульнай колькасці школ, 22,5 % ад агульнай лічбы вучняў.

123. Інструкцыя RMfdbO для РКО і РКУ ад 12.12.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 20/871.

124. «Раніца». 10.11.1941.

125. Ліст Кубэ да Лёзэ, 3.10.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/670—671.

126. Ліст Кубэ да Розэнберга, 29.9.1941, IMGN, Bd. XXV, 076-PS, S. 145—147.

127. Справаздача камісара Слуцкай акругі генеральнаму камісару ў Мінску, 30.10.1941, IMGN, Bd. XXVII, 1104 — PS, S. 4—8.

128. Тамсама. С. 2—3.

129. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 13.12.1941; Ліст Розэнберга да Лёзэ ад 31.12.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 26/810—812, 816.

130. Рапарт каменданта паліцыі бяспекі і СД у Мінску Штраўха // «Vierteljahrshefte für Zeitschichte», 1954, Heft 1, S. 79.

131. Dallin, p. 205—206.

132. «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1956 // Heft 1, S. 68.

133. Heiber. S. 74—75.

134. Tätigkeits- und Lagebericht № 9 der Eisatzgruppen der Sipo und SD, 27.2.1942, IMGN, Bd. XXX, 3876 — PS.

135. Reitlinger, S. 156.

136. Ліст Лямэрса да Гайдрыха ад 26.11.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 66/2582158.

137. Тамсама.

138. Паказанні Лёзэ ад 23.10.1947 г. С. 202, 204; Рапарт Штраўха ад 25.7.1943 г. адносна Кубэ // «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1956 // Heft 1, S. 80.

139. Так, напрыклад, у Вілейскай акрузе каля паловы школ у канцы 1941 г. было з польскай мовай навучання // «Беларуская школа». 1942. Студзень. Такая самая сітуацыя панавала і ў Лідскай акрузе.

140. Справаздача камісара Глыбоцкай акругі ад 16.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/287.

141. Krzyżanowski. S. 47.

142. Праўдзіц-Шляскі піша, што сваё прызначэнне на пасаду каменданта Навагрудскай акругі ZWZ ён атрымаў 1.9.1941 г.— Гл. яго працу: Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976, s. 37. Аднак ужо ў лінені — жніўні на тэрыторыі Заходняй Беларусі распачалося стварэнне агентурнай сеткі II-га аддзела ГК ZWZ.

143. Ereignismeldung UdSSR, № 154, 12.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723568.

144. Так, напрыклад, у Навагрудку адзін паляк у верасні 1941 г. данёс, што беларускі бургамістр гэтага горада — камуніст. Следства высветліла, што абвінавачанне было падманнае, і даносчыка расстралялі // Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722690.

ныя харчовыя рэквізіцыі, якія войска працягвала праводзіць таксама і пасля ўвядзення цывільнага рэжыму. На гэта былі скіраваны і клопаты пра стан беларускіх музеяў і навуковых установ, і старанні запэўніць бяспеку працаўнікам мясцовай адміністрацыі. У гэтай астатняй справе завязаўся ў снежні 1941 г. востры канфлікт з камандуючым Вермахта ў Генеральнай акрузе Беларусі генералам Бехтальдсгаймам, пасля таго як нямецкія салдаты расстралялі бургамістра г. Негарэлае Мінскай акругі, якога западозрылі ў сувязях з партызанамі. Кубэ і тут патрабаваў пакараць вінаватых, указваючы, што, калі пагадзіцца з падобнай практыкай, аніводзін беларускі бургамістр не захоча працаваць у цывільнай акупацыйнай управе (129). Яшчэ у ліпені 1943 г. ён дакараў шэфа мінскага СД за садысцкія здзекі над трыма беларускамі, хоць сам гэты факт меў месца ў канцы 1941 г. (130). І гэта мела сваё палітычнае значэнне не толькі з увагі на вялікі час, які прайшоў, але і соцень тысяч ахвяр гітлераўскага тэрору на Беларусі.

Аднак асабліва пільнага разгляду патрабуюць адносіны Кубэ да вынішчэння яўрэяў. Далін лічыць, што яго перасцярогі і супраціўленне гэтай кампаніі дыктаваліся толькі эканамічнымі і палітычнымі матывамі, бо пераважную частку беларускага рамесніцтва складалі яўрэі, а метады іх знішчэння выклікалі непажаданыя антынямецкія настроі сярод беларускага грамадства (131). На самай справе пазіцыя Кубэ ў гэтым пытанні не выглядала так адназначна. Як стары дзеяч партыі нацыянал-сацыялістаў і адзін з тэарэтыкаў антысемітызму, ён не выступаў афіцыйна супраць самога прынцыпу знішчэння яўрэяў і часта карыстаўся антысеміцкай фразеалогіяй. Аднак менавіта на Беларусі тэорыя ўступіла ў канфрантацыю з жудаснай рэчаіснасцю, і тут — паводле вобразнага вызначэння Гэльмута Гайбера — вучань чарнакніжніка жахнуўся, пабачыўшы, якіх духаў ён наклікаў (132).

Пагэтаму, не выступаючы супраць асноўнага ідэалагічнага прынцыпу гітлерызму, Кубэ імкнуўся абмежаваць маштабы масавага забойства яўрэяў. Перш за ўсё ён стараўся адцягнуць рэалізацыю гэтай акцыі, выстаўляючы розныя гаспадарчыя і палітычныя прычыны. Звяртаўся таксама да Гейдрыха наконт дэпартаваных нямецкіх яўрэяў, прыгадваў іх часткова арыйскае паходжанне і заслугі перад Германіяй у якасці франтавых салдат першай сусветнай вайны (133). На дзіва, гэтыя паўмеры на практыцы мелі поспех. Варта прывесці тут сведчанне шэфа СД Остлянда, які ў сваім рапарце падае наступную статыстыку забітых і пакінутых у гета яўрэяў у генеральных акругах пад канец студзеня 1942 г. (гл. табл. 7).

Паводле гэтых звестак, да прыходу вясны 1942 г. у Эстоніі былі знішчаны ўсе, зрэшты нешматлікія, яўрэі. У Латвіі іх засталося толькі 7 %, у Літве — 12 %, затое на Беларусі — 75 %. Такі ж высокі працэнт падаецца і ў другім рапарце СД у лютым 1942 г. (134).



Табліца 7. **Кампанія па ліквідацыі яўрэяў у рэйхскамісарыяце Остлянд**

| Генеральныя акругі | Забіта | Пакінута | Разам |
|---|---|---|---|
| Эстонія | 963 | — | 963 |
| Латвія | 35 283 | 2500 | 37 738 |
| Літва | 136 421 | 19 500 | 155 921 |
| Беларусь | 41 828 | 128 000 | 169 828 |

*Крыніца:* Undatierte Geheimbericht über die von Einsatzgruppe A durchgeführte Massenmordung, IMGN, t. XXX, 2273-PS, p. 77. Преступные цели — преступные средства. М., 1968. С. 93.

Ва Усходняй Беларусі, якая не знаходзілася пад кіраўніцтвам Кубэ, вынішчэнне яўрэяў таксама ішло значна хутчэй (135). Такім чынам, да прыходу вясны 1942 г. перададзеная ў распараджэнне цывільных улад Генеральная акруга Беларусі займала ў гэтай кампаніі выключнае становішча. Тактыка Кубэ дазволіла дзесяткам тысяч яўрэяў уцячы з гета ў лясы, дала ім шанц для захавання жыцця. Гэтай акалічнасці не ўлічыў Далін.

Пазіцыя Кубэ ў разгледжаных пытаннях супярэчыла планам Гімлера, які рэагаваў на гэта вельмі востра. Ён перакрэсліў патрабаванні передаць у рукі цывільных улад усю беларускую гаспадарку, згадваючы, што «пан Кубэ толькі два месяцы праслужыў у войсках СС вартаўніком і не мае паняцця аб салдацкіх праблемах, аб дапамозе арміі і яе забеспячэнні» (136). Што датычыцца адказнасці за рабункі і знішчэнне твораў мастацтва, дык і тут яго адказ гучаў сурова: «З боку пана Кубэ я раз і назаўсёды прашу вызваліць мяне ад падобнага нахабства» (137). У дадатак у вачах Гімлера, СС і Вермахта Кубэ набыў славу «прыяцеля яўрэяў» (138). Так, ужо пад канец 1941 г. паміж Кубэ і Гімлерам з яго магутным ведамствам абазначылася злавесная варожасць.

Спробы здабыць сімпатыі мясцовага насельніцтва таксама не прынеслі для Кубэ плёну. Склад адміністрацыйнага апарату, створанага за час існавання ваеннага рэжыму, амаль не змяніўся — не хапала адпаведных беларускіх кадраў. Гэта было дачаснае становішча: тут усё залежала ад падрыхтоўкі беларускіх спецыялістаў. Польскі характар захоўвала не толькі мясцовая, асабліва гарадская, адміністрацыя, але і каталіцкая царква, і памешчыцкія маёнткі, апрача таго, існавала пэўная колькасць школ з польскай мовай навучання (139). Былі адзначаны выпадкі, калі ў школах, намінальна беларускіх, заняткі адбываліся на т. зв. «дапаможнай» польскай мове, бо не хапала адпаведных настаўнікаў (140). Тагачасную сітуацыю ў заходнебеларускіх абшарах Браніслаў Кжыжаноўскі акрэсліў лаканічна: «Остлянд на Беларусі быў польскі» (141). У пэўнай ступені гэта было справядлівае выказванне, тым не менш поль-

145. Касяк I. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народа. Нью-Йорк, 1956. С. 121.
146. Ereignismeldung UdSSR, № 97, 28.9.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722687.
147. Jędrychowska A. Zygzakiem i po prostu. Warszawa, 1965, s. 247; Brodowski L. Ks. Henryk Hlebowicz dla nas. // «ład», 7.11.1982, № 31, s. 6.
148. Мартыралогія беларускага духавенства // «Зьніч». № 1. С. 11.
149. Ereignismeldung UdSSR, № 153, 9.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723547.
150. Рэшэць Я. Кароткі Катэхізм для беларусаў-каталікоў. Мн., выд-ва кс. д-ра Глякоўскага, 1941.
151. Jura K. Monsinjoras. Brooklyn, 1979, p. 159—161.
152. Mende von G. Reichskommissariat Ostland. // Jahrbuch der Weltpolitik 1942. Berlin, 1942, S. 165; Klau F. Europas unbekanntestes Volk. // Auf Informationsfahrt im Ostland. Riga, 1944, S. 77—78.
153. Vorläufige politische Richtlinien für die Zivilverwaltung südlich der Düna, 14.7.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 26/1056.
154. На думку Вакара (Vakar, p. 176), напачатку цывільнага праўлення на Беларусі не было яшчэ вядома напэўна, які лёс чакае мясцовую цывільную адміністрацыю: ці паўстане над ёю «надбудова» накшталт беларускага нацыянальнага «ўрада», ці будзе яна падпарадкоўвацца непасрэдна нямецкаму правінцыйнаму начальству.
155. Не зусім ясна, якімі матывамі кіраваўся Шчорс, калі пакінуў Мінск і вярнуўся ў Варшаву ў верасні 1941 г. Паводле інфармацыі СД, Шчорс, Тумаш і іншыя дзеячы «Цэнтра» расчараваліся ў палітыцы Кубэ і апасаліся, што пасля выхаду з Мінска ранейшых паліцэйскіх улад (айнзацгрупы В) яны ўвогуле страцяць усялякую падтрымку // Ereignismeldung UdSSR, № 90, 21.9.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2722485. Аднак нельга выключаць і другой версіі: Шчорс мог гэта зрабіць па дамоўленасці з Астроўскім, які вёў складаную палітычную гульню і адчуваў, што ў Варшаве яму неабходна мець вернага чалавека.
156. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/473; Kalush, p. 37.
157. Паведамленне Мікалая Ждановіча ад 12.7.1983.
158. Пасля вайны Астроўскі называў іншыя прычыны свайго ад'езду з Мінска. Ён пісаў, што абразіўся на Кубэ, калі паліцыя паспрабавала канфіскаваць у яго радыёпрыёмнік (Kalush, p. 38); альбо што быў расчараваны палітыкаю Кубэ і не меў чаго рабіць у Мінску (Halak, p. 158—159).
159. Halak, p. 158—159.
160. Акула К. Змагарныя дарогі. С. 25.
161. Ліст Ермачэнкі да Розэнберга, 17.1.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/1000.
162. «Amtsblatt des Generalkommissars für Weissruthenien», 4.11.1941, № 3, S. 24.
163. «Раніца». 10.1.1943. № 1—2. С. 3; Vakar, p. 266.
164. Справаздача камісара Глыбоцкай акругі, 16.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/309.
165. Ereignismeldung UdSSR, № 154, 12.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723570.
166. Паведамленне Язэпа Найдзюка (пасля вайны ён жыў у Польшчы пад прозвішчам Александровіч) ад 30.3.1979, які разам з д-рам Станіславам Грынкевічам-старэйшым суправаджаў Іваноўскага ў Мінск.
167. Самуіл Кастравіцкі нар. 4.12.1902 г. у Лідзе, у сям'і доктара Амброжыя Кастравіцкага. У 30-ых гг. ён працаваў у Варшаўскай зямельнай палаце, а перад самай вайной жыў у Вільні, адтуль у 1939 г. яго прызвалі ў войска. Пасля вераснёўскай кампаніі ён прыбыў у Варшаву. У 1939—1944 гг. быў у падполлі і супрацоўнічаў са Станкевічам. Іваноўскі ведаў Самуіла з дзяцінства. Перад першай сусветнай вайною ён працаваў на беларускай выдаўнічай ніве разам з бацькам Самуіла, Амброжым, і дзядзькам Казімірам — дзеячам Беларускай Сацыялістычнай Грамады і вядомым беларускім навелістам і драматургам, што выступаў пад псеўданімам Карусь Каганец. Напэўна, нешта з гэтых сямейных традыцый засталося і ў Самуіла — Іваноўскі аказваў яму вялікі давер.



168. Паведамленне Тамаша Зана, зробленае для аўтара 24.8.1979.
169. Рапарт «Сыб[улта]» (Тамкевіча) ад 20.12.[1941], ЦА ЦК ПАРП, 203/VII-45, k. 24.
170. Ereignismeldung UdSSR, № 21, 13.7.1941, AAN, mf. aleks., T-175, R. 233/2721486.
171. Тамсама. № 154. 12.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723575.
172. Тамсама.
173. Паведамленне В. Буткевіча, з якім дазволіў азнаёміцца аўтару Бэрнард Закрэўскі («Оскар»), былы шэф контрразведкі ГК АК. Ксеракопія дакумента — у архіве аўтара.

### Ад Масквы да Курска — беларускі калейдаскоп супярэчнасцей і канфліктаў (снежань 1941 — верасень 1943)

1. Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1975. Т. 4. С. 161.
2. Сталин И. О Великой Отечественной войне Советского Союза. М., 1947. С. 15.
3. Aktenvermerk vom 16.8.1941 über eine Besprechung Hitlers mit Rosenberg, Lammers, Keitel und Göring, Der Prozess gegen die Hauptkriegsverbrecher vor dem Internationalen Militärgerichtshof Nürnberg. Nürnberg, 1947—1949 (далей — IMGN), Bd. XXXVIII, 221-L, S. 88.
4. БелСЭ. Мн., 1975. Т. 8. С. 261.
5. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 176.
6. Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1967. Т. 1. С. 656.
7. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 215.
8. Tätigkeits — und Lagebericht № 6 der Einsatzgruppen der Sicherheitspolizei und des SD in der UdSSR 1-31.10.1941, IMGN, Bd. XXXVIII, 102-R. У рапарце адзначаецца, што насельніцтва не толькі не падтрымлівае партызан, але нават актыўна выступае супраць іх дзеля захавання сваіх здабыткаў. Вакар (Vakar N. Belorussia. The making of a nation. Cambridge, Mass. 1956, p. 193) таксама падае, што савецкія дыверсанты і разведчыкі спачатку не знаходзілі падтрымкі ў мясцовага насельніцтва, іх часта выдавалі, арыштоўвалі і расстрэльвалі. Затое савецкія крыніцы захоўваюць у гэтым пытанні маўчанне і прыводзяць толькі прыклады падтрымкі і дапамогі савецкім партызанам з боку беларускага насельніцтва.
9. Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 9, 26.6.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Obrony, t. X, s. 275. Савецкія аўтары таксама паведамляюць, што «глыбокай восенню 1941 г. многія партызанскія атрады перайшлі да падпольнай дзейнасці».
10. Meldungen aus den besetzten Ostgebieten, № 9, 26.6.1942...
11. Дашичев В. И. Банкротство стратегии германского фашизма. Документы и материалы. М., 1973. Т. 2. С. 432.
12. Vakar, p. 193.
13. Калінін П. З. Беларускі штаб партызанскага руху // Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1959. С. 309—310; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 196.
14. Калінін П. З. С. 309—310.
15. Тамсама. С. 310—311.
16. Тамсама. БелСЭ. Т. 8. С. 340.
17. Калінін П. З. С. 312.
18. Тамсама.
19. Тамсама.
20. Tätigkeits — und Lagebericht № 11 der Einsatzgruppen der Sicherheitspolizei und des SD 1—31.3.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Prokuratury, t. VI, s. 88—89.

скія палітычныя колы неспрыяльна ставіліся да лініі, якую праводзіў Кубэ. Яго лозунг «Беларусь для беларусаў» і абвешчаны курс на беларусізацыю краю перакрэслівалі ў іх вачах значэнне гэтых здабыткаў, а супярэчнасці паміж уласнымі канчатковымі мэтамі і інтарэсамі Германіі ўсё больш падштурхвалі палякаў у лагер апазіцыі супраць немцаў і беларусаў. У выніку ўжо ўвосень 1941 г. пачалі ўзнікаць першыя польскія падпольныя структуры (142).

Праўда, у дэкларацыях Кубэ беларусам аддавалася перавага, але гэта не магло сур'ёзна змяніць кадравую сітуацыю, што ўсталявалася за час панавання вайсковага рэжыму. Акупацыйныя ўлады не пераставалі адчуваць недахоп беларускіх спецыялістаў, якія б мелі здольнасці і жаданне ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Асабліва гэта датычылася аховы публічнага парадку і бяспекі. Аб выніках такой сітуацыі гаворыцца ў рапарце СД:

«Паколькі ў распараджэнне Вермахта і паліцыі трапіла вельмі мала беларусаў, якім можна было б даручыць заданні мясцовай службы парадку, давялося звярнуцца да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей і даручыць ім гэтае заданне. Мабілізацыя латышскіх, літоўскіх і украінскіх атрадаў, а таксама прызначэнне палякаў на пасады бургамістраў, камендантаў ахоўных службаў, апекуноў вялікіх зямельных маёнткаў і т. п., якое ажыццяўляў Вермахт, а потым зацвердзіла цывільная адміністрацыя,— усё гэта выклікала сярод нешматлікіх свядомых беларусаў вялікае расчараванне. Прызнанне ўласнай бездапаможнасці і немагчымасці стварыць сваімі сіламі службы аховы парадку і бяспекі павялічыла сярод свядомых беларусаў пачуццё непаўнацэннасці. У выніку частка з іх пакінула тыя нешматлікія камунальныя ўстановы, дзе іх часова наймалі (143).

Многія перавагі, якія беларусы атрымлівалі з рук Кубэ, так і не былі выкарыстаны. Вінавацілі яны ў гэтым не так уласную слабасць, колькі кіраўнікоў цывільнай адміністрацыі, якія, нібыта, занадта ліберальнічалі з палякамі. Беларуска-польскія канфлікты пагэтаму не заціхалі. Як і раней, у паліцэйскіх рапартах за верасень 1941 г. паведамлялася пра даносы на беларускіх службоўцаў, якіх абвінавачвалі ў камунізме. Але цяпер паліцыя больш пільна разглядала такія справы, і калі даносы былі беспадстаўныя, іх аўтараў прыцягвалі да адказнасці (144). Пагэтаму здараліся такія выпадкі ўсё радзей. Затое часцей пачалі з'яўляцца антыпольскія даносы ад беларускіх дзеячаў. Яны такім шляхам спрабавалі весці барацьбу з засіллем палякаў. Адзін з гэтых дзеячаў, Іван Касяк, пісаў пасля вайны, што «беларусы бараніліся супроць польскай акцыі вынішчэння тымі сродкамі, якія былі даступныя» (145).

Такія даносы яны пісалі не толькі на палякаў, што займалі пасады ў адміністрацыі, але і на каталіцкіх ксяндзоў, якіх лічылі за



пашыральнікаў «польскай веры» і паланізацыі, ворагаў інтарэсаў праваслаўя. І тут не абышлося без удзелу праваслаўных святароў. Пра гэта сведчыць наступны данос аднаго з іх, адасланы ў верасні 1941 г. у нямецкую паліцыю:

«Рыма-каталіцкае духавенства праводзіць вялікую прапаганду для аднаўлення незалежнай польскай дзяржавы. Яно імкнецца згуртаваць насельніцтва і плануе пасля адыходу нямецкіх войскаў стварыць партызанскія атрады для вызвалення акупіраваных абшараў ад ворагаў польскасці, у тым выпадку — ад немцаў. Правадырамі гэтага руху з'яўляюцца рыма-каталіцкія ксяндзы з касцёлаў у Ашмянах, Гальшанах, Гранасеках, Барунах, Сеноргоях (напэўна, Смаргонях.— *Ю. Т.*), Крэве, Драбах, Солах, Жупранах і г. д. ...» (146).

Па гэтых даносах у лістападзе 1941 г. было расстраляна некалькі польскіх ксяндзоў, у т. л. Генрых Глябовіч, які распачаў на Міншчыне місіянерскую дзейнасць па загаду Рамуальда Ялбжыкоўскага, арцыбіскупа Віленскага (147). Аднак амаль адначасова ў Мінску былі арыштаваны і забіты таксама і беларускія каталіцкія ксяндзы — Станіслаў Глякоўскі і Дыянісіюш Малец (148), бо ў СД ляжаў данос, паводле якога ксяндзоў-беларусаў касцельныя ўлады выкарыстоўвалі для «дзейнасці на карысць Польшчы» (149). Ініцыятарамі гэтых злачынстваў былі беларускія праваслаўныя дзеячы, якія апасаліся росту каталіцкага ўплыву на Беларусі, прычым незалежна ад таго, польскі ён будзе ці беларускі. Пра гэта яскрава сведчыць забойства кс. Глякоўскага, да вайны вядомага беларускага дзеяча ў Вільні, выдаўшага пад канец 1941 г. у Мінску беларускамоўны падручнік катэхізіса (150). Той самы лёс ледзьве не напаткаў ксяндза Зянона Ігнатавічуса, літоўца, якога мясцовая беларуская паліцыя прыняла за «польскага ксяндза»,— толькі мундзір капелана раскватараваных на Беларусі літоўскіх атрадаў выратаваў яго ад арышту (151).

Пагэтаму на першым этапе сваёй дзейнасці на Беларусі Кубэ даводзілася лавіраваць паміж дэкляраванай беларусізацыяй і існуючымі рэаліямі. Праўда, ён пагадзіўся з фактычным становішчам у мясцовай адміністрацыі, але бачыў, якая там пануе варажнеча. Такім чынам, абапірацца на яе ў ажыццяўленні сваёй беларускай палітыкі Кубэ не мог. Да таго ж паўставала праблема з надбудовай гэтага апарату — стварэннем цэнтральнай адміністрацыйнай інстанцыі. Паводле свайго характару яна, натуральна, павінна была стаць беларускай, але як забяспечыць яе праўнае функцыяніраванне ў спалучэнні з пераважна небеларускім мясцовым апаратам? Вырашэнне гэтай супярэчнасці Кубэ бачыў у паступовай беларусізацыі ніжэйшых ступеняў кіраўніцтва, але для гэтага трэба было падрыхтаваць адпаведныя кадры. Такі пункт гледжання падзяляла і ОМі. Пра гэта сведчыць выказванне Мэндэ, блізкага супрацоўніка

21. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 217, 276.
22. Кубэ сцвярджаў, што на тэрыторыі Генеральнага камісарыята «самы глыбокі спакой» утрымліваўся толькі да канца мая, а ў некаторых акругах Заходняй Беларусі — да чэрвеня — ліпеня 1942 г. // Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 84/1322.
23. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 12.6.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/609.
24. Ліст Шэнкендорфа ад 16.4.1942 // Дашичев В. И. С. 433.
25. Гэта супярэчыць звесткам савецкіх крыніц: яны паказваюць значна большую колькасць вагонаў і значна меншую колькасць лакаматываў // Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 479.
26. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 301—302.
27. БелСЭ. Мн., 1975. Т. 8. С. 269.
28. Всенародное партизанское движение...Т. 1. С. 380.
29. Выступленне Гімлера на нарадзе групэнфюрэраў у Познані, 4.10.1943. IMGN, Bd. XXIX, S. 110.
30. Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 477—478.
31. IMGN, Bd. XI, S. 634. У літаратуры, прысвечанай гэтаму пытанню, найчасцей фігуруе лічба 1500 — столькі «бургамістраў» было знішчана партызанамі па звестках, якія прадставіў Розэнберг у жніўні 1942 г. Аднак пры гэтым ён не адзначаў, што забойствы адбыліся менавіта на Беларусі. Можна меркаваць, што названая лічба датычылася ўсіх акупіраваных абшараў СССР // IMGN, Bd. XXXIX, 170-USSR, S. 398.
32. Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 84/1324; Фактарович А. А. Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. Мн., 1979. С. 69.
33. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 3.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/288.
34. Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN. mf. aleks., T-175, R. 235/2724566.
35. БелСЭ. Т. VIII. С. 13—17.
36. Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel der deutschen Kampfanweisungen und Befehle. Götingen-Zürich-Frankfurt, 1969. S. 49.
37. Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724566.
38. Meldungen.., № 50, 16.4.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2725822. Выкарыстанне рэлігійных пачуццяў насельніцтва ў партызанскай прапагандзе не было з'яваю выключна беларускай — на іншых акупіраваных абшарах СССР таксама ўжывалі такія метады для здабыцця прыхільнасці мясцовых жыхароў. Гэта можа сведчыць аб існаванні адпаведнай агульнай дырэктывы Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Так, напрыклад, ва ўкраінскай вёсцы Тонеж на месцы спаленай немцамі царквы партызаны ўсталявалі крыж і ганаровую варту // Hesse, Der sowjetrussische Partisanenkrieg... S. 195.
39. Meldungen.., № 22, 25.9.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2724882. Там жа прыводзіцца тэкст партызанскай адозвы з такімі пагрозамі — партызаны пакінулі яе ў вёсцы Сіньча, што на Міншчыне.
40. Тамсама. R. 236/2724877.
41. Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/110.
42. Madajczyk C. Faszyzm i okupacje 1939—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie, t. I, Poznań, 1983, s. 606.
43. Meldungen.., № 8, 9.6.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724499.
44. IMGN, Bd. XXXIX, 170-USSR, S. 399.
45. Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724566.
46. Всенародное партизанское движение... Мн., 1973. Т. 2. С. 241, 610.
47. Meldungen.., № 36, 8.1.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725319.
48. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 285; БелСЭ. Т. 8. С. 264.
49. Рапарт камандзіра СД Остлянда да Лёзэ, 14.9.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 30/815.



50. Prawdzic-Szlaski J. Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976, s. 115—116.
51. Тамсама. С. 109.
52. Тамсама.
53. Teilnahme der polnischen Widerstandsbewegung am Partisanenkampf. // Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 325/2724561.
54. Камандзір партызанскага атрада «Спартак» дакладваў, што 24.9.1942 ён сустрэўся з кіраўніком Браслаўскага павета Васілеўскім і яго намеснікам Кавалеўскім, якія паведамілі, што гатовы да супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі і даставілі 2 кулямёты, 7 вінтовак, 5 пісталетаў, больш за 5 тыс. патронаў, а таксама інфармацыю аб перамяшчэннях карнага атрада і іншыя звесткі // Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 329.
55. Пра гэта сведчаць некралогі, што друкаваліся ў 1942 г. у віленскай газеце «Гонец Цодзенны» («Goniec Codzienny»).
56. Ereignismeldungen.., № 153, 9.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723546; Meldungen.., № 9, 26.6.1942 // AGKBZH, ATW IX, Dok. Obrony, t. X, s. 275, 278.
57. Ereignismeldungen.., № 154, 12.1.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 234/2723572—573.
58. Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724565—566.
59. Prawdzic-Szlaski, s. 109.
60. Кравченко И. С., Крючок Р. Р. Подполье в западных областях Белоруссии // Герои подполья. Мн., 1970. С. 398.
61. Тамсама. С. 397; Juchniewicz M. Polacy w radzieckim ruchu partyzanckim 1941—1945. Warszawa, 1975, s. 242.
62. Кравченко И. С., Крючок Р. Р. С. 399.
63. Тамсама. С. 382, 400.
64. Всенародное партизанское движение... Т. 2. С. 467—468.
65. Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945). Мн., 1976. С. 284—291.
66. Кравченко И. С., Крючок Р. Р. С. 400.
67. БелСЭ. Т. 8. С. 264.
68. Prawdzic-Szlaski, s. 111; Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Мн., 1951. Т. 2. С. 888—903.
69. Мачульский П. Вечный огонь. Партизанские записки. Мн., 1967. С. 150, 233—246; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 282.
70. Тамсама. С. 281.
71. Тамсама. С. 280.
72. У беларускай эміграцыйнай публіцыстыцы здаўна ўсталявалася меркаванне, што нямецкія карныя экспедыцыі, якія прывялі да росту партызанскіх шэрагаў, былі свядома справакаваныя савецкімі партызанамі.— Гл. напр., А. К. Праўда аб савецкай партызаншчыне // «Беларус» (Нью-Йорк). Май 1969. № 145. С. 2. Мінскія гісторыкі катэгарычна аспрэчваюць такі погляд і ў сваю чаргу называюць яго «бессаромнай правакацыяй» // Раманоўскі В. Супраць фальсіфікацыі гісторыі савецкага партызанскага руху. Мн., 1962. С. 11. І сапраўды, нялёгка выносіць ацэнку ў гэтай справе: з аднаго боку, нямецкія рэпрэсіі не ў такой ступені закранулі раёны, дзе партызаны не дзейнічалі, з другога боку, на Беларусі было досыць многа добраахвотнікаў, якія самі ішлі ў партызанскія атрады, так што не было сэнсу выкарыстоўваць такія жудасна жорсткія метады вярбоўкі.
73. Гісторыя БССР. Т. 4. С. 313.
74. Тамсама. С. 312.
75. Madajczyk, t. I, s. 578.
76. Vermerk Rosenbergs über seine Unterredung mit Hitler 14.12.1941. // IMGN, Bd. XXVII, 1517-PS, S. 270.
77. Jacobsen H. A. Misstrauische Nachbarn. Deutsche Ostpolitik 1919—1970. Düsseldorf, 1970. S. 178—180, 184—185.
78. Гэты праект не захаваўся. Мы можам толькі меркаваць пра яго прынцыповыя

Ч. 1.pdf

Розэнберга: «Найперш прынцып германскага праўлення ў Остляндзе — мясцовая адміністрацыя пад нямецкім кіраўніцтвам... На Беларусі адміністрацыя заўсёды знаходзілася ў чужых руках. Новае тут трэба пачынаць з падмуркаў, а гэта, натуральна, патрабуе часу. Пагэтаму нямецкай адміністрацыі даводзіцца займацца і такімі заданнямі, якія яна б з ахвотаю перадала мясцовым сілам» (152).

Паколькі яўных пярэчанняў з боку Розэнберга не было, стварэнне цэнтральнай адміністрацыйнай інстанцыі на Беларусі ў верасні 1941 г. было вельмі магчыма. Праўда, ліпеньская інструкцыя Розэнберга не давала нямецкім цывільным уладам права на прызнанне літоўскага, беларускага і латышскага ўрадаў (153), аднак і Кубэ, і генеральныя камісары Прыбалтыйскіх краін былі зацiкаўлены ў стварэнні такой інстанцыі, зразумела — не нацыянальнага ўрада, але дапаможнага органа (154). Паколькі Шчорс адмовіўся ад палітычнай дзейнасці ва ўмовах цывільнага рэжыму (155), гэтую кіраўнічую пасаду ў першых днях верасня Кубэ даручыў Астроўскаму — адзінаму вядомаму беларускаму дзеячу, які ў гэты час выступаў на мінскай палітычнай сцэне. Дзеля гэтага Кубэ захаваў адзіную на ўсёй тэрыторыі Остлянда Мінскую акруговую ўправу на чале з Астроўскім і даручыў яму кіраўніцтва т. зв. Паралельным бюро (Нэбэнбюро), якое было мясцовым адпаведнікам генеральнага камісарыята, г. зн. найвышэйшай беларускай інстанцыяй (156).

Фармальны статус Астроўскага і Нэбэнбюро не быў зацверджаны, гэтаксама, як і цэнтральных краёвых управаў у іншых генеральных акругах Остлянда. Аднак асабістая падтрымка Кубэ і рэальная неабходнасць у існаванні такога органа давалі Астроўскаму надзею на афіцыйнае прызнанне. Але ў кастрычніку ўсе яго планы неспадзявана парушыліся, бо ў Мінск прыбыў Ермачэнка, прызначаны па загаду Розэнберга кіраўніком Беларускай народнай самапомачы (БНС). Увогуле, абедзве гэтыя арганізацыі маглі б працаваць паралельна, як гэта было ў Прыбалтыцы, аднак наперад было зразумела, што пасля легалізацыі цэнтральнай управы Астроўскага БНС будзе фактычна ёй падпарадкавана. На гэта не жадаў пагадзіцца Ермачэнка, які таксама прэтэндаваў на ролю беларускага правадыра. Яго пазіцыя ў гэтым канфлікце была значна больш упэўненая: апрача афіцыйнага прызначэння ён яшчэ меў доказы супрацоўніцтва Астроўскага з камуністамі і польскімі ўладамі і выкарыстаў гэтыя аргументы ў барацьбе супраць свайго саперніка (157). Пры такіх абставінах Астроўскі страціў давер у Кубэ і, ратуючыся перад магчымымі рэпрэсіямі, выехаў з Мінска ў Смаленск, адкуль ужо не мог аказваць непасрэднага ўплыву на падзеі ў Беларусі (158). Як пісаў пасля вайны яго блізкі паплечнік Леанід Галяк, «з таго часу аж да смерці Кубэ Астроўскі, калі і прыязджаў у Менск, дык затрымліваўся вельмі нядоўга і паказваўся на вочы толькі некалькім асобам» (159).



Інцыдэнт з Астроўскім пахіснуў надзеі Кубэ на больш актыўны ўдзел беларусаў у супрацоўніцтве, бо Ермачэнка да вайны быў практычна невядомы на заходнебеларускай палітычнай арэне і меў яшчэ слабейшую грамадскую падтрымку, чым Астроўскі. Сярод тагачасных беларускіх дзеячаў панавала перакананне, што за плячыма гэтага чалавека стаялі толькі немцы (160). Не толькі прызначэнне Розэнберга падштурхоўвала іх да такой думкі. Сам Ермачэнка ўсюды стараўся пашырыць перакананне, што толькі супрацоўніцтва з Германіяй можа забяспечыць беларусам лепшы лёс (161).

У Кубэ, аднак, не было выбару. 22.10.1941 г. разам з Ермачэнкам яны выдалі адозву да беларускага насельніцтва, у якой абвяшчалі ўтварэнне БНС і заклікалі людзей да закладкі яе валасных камітэтаў. У адозве гаварылася, што адзінай мэтай БНС з'яўляецца дапамога насельніцтву па ахове здароўя і жыццёвых умоў: апека над бяздомнымі сем'ямі, сіротамі і дзецьмі, у якіх працуюць маткі (162). Да БНС перайшла ўся маёмасць, памяшканні і супрацоўнікі таварыства Беларускага Чырвонага Крыжа, якое было створана ў ліпені 1941 г., а потым ліквідавана (163).

Яшчэ адным прэтэндэнтам на ўладу ў акупіраванай Беларусі быў Акінчыц — рашучы праціўнік Шчорса, Астроўскага і Ермачэнкі. Аднак ён па-ранейшаму заставаўся ў Берліне, у аддзеле прапаганды ОМі, і толькі раз-пораз прыязджаў на Беларусь, дзе ўзнавіў былое супрацоўніцтва з астатнімі ўдзельнікамі беларускага нацыяналсацыялістычнага руху (Казлоўскім і інш.). Гэтая група ўжо ўлетку 1941 г. спрабавала адрадзіць сваю партыйную дзейнасць, але сутыкнулася з перашкодай: нямецкія акупацыйныя ўлады забаранялі стварэнне якіх-небудзь палітычных партый. Але, не страціўшы надзеі на поспех у будучыні, група Акінчыца паспрабавала ўтварыць беларускую маладзёжную арганізацыю. У краёвым маштабе гэта ім пакуль што не ўдалося, але, прынамсі, у Глыбоцкай акрузе такая арганізацыя была створана і дзейнічала са згоды акруговага камісара, хаця і без афіцыйнага дазволу Кубэ (164).

Асноўным прынцыпам праграмы Акінчыца і кіраванага ім т. зв. руху маладых актывістаў была выснова, паводле якой пабудова самастойнай беларускай дзяржавы ў найбліжэйшы час была немагчыма, для гэтага не было належных спрыяльных умоў: народ знаходзіўся ў летаргічным сне, нацыянальная свядомасць — паралізавана. Нацыянальнае і дзяржаўнае абуджэнне магло надысці толькі ў аддаленай будучыні. Зыходзячы з такіх меркаванняў, паплечнікі Акінчыца лічылі, што «папяровыя генералы, прафесары і дактары» не могуць быць прадстаўнікамі Беларусі, не могуць адрадзіць яе зверху — беларускае адраджэнне трэба пачынаць знізу, пад германскім кіраўніцтвам (165). Гэта быў яўны намёк на Астроўскага, былога гімназічнага настаўніка, якога часам называлі прафесарам,

палажэнні, абапіраючыся на крытычныя заўвагі Эрхарда Ветцэля з Rassenpolitische-samt, змешчаныя ў яго мемарыяле «Stellungnahme und Gedaken zum Generalplan Ost des Reichsführers SS» ад 22.4.1942. // Biuletu'n Głównej Komisji Badania Zbrodni Niemieckich, t. V, Warszawa, 1949, s. 209—242.

79. Generalplan Ost. // «Przegląd Zachodni», 1961, № 3, s. 66—70.

80. Ліст Гімлера да Грайфельта ад 12.6.1942 // «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte, 1958, Heft 3, S. 325.

81. На другі дзень вайны, 23.6.1941, я стаў выпадковым сведкам таго, як самалёты Люфтвафэ скідвалі зброю для літоўскіх партызанаў. Справа адбывалася пры дарозе, паблізу гасцінца, што вёў з мястэчка Дукшты Свянцянскага павета ў вёску Гіруцішкі. На невысокім узгорку былі адпаведна раскладзеныя і ўмацаваныя каменнямі вялікія скруткі белага палатна, якія паслужылі за ўмоўны знак.

82. Dallin A. German rule in Russia 1941—1945. A study of occupation policies. London, 1957, p. 538—540.

83. Тамсама. С. 515.

84. Тамсама. С. 542.

85. Die Zivilverwaltung in den besetzten Ostgebieten (Braune Mappe), Teil A Richtlinien für die Wirtschaftsführung, Berlin, April 1942. // AGKBZH. ATW XI, Dok. Prokuratury, t. 87. Document Book 122, part B.

86. Інструкцыя RMfdbO ад 17.3.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/132.

87. Інструкцыя RMfdbO ад 9.4.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/093.

88. Інструкцыя RMfdbO ад 26.3.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/068.

89. Geheime Aufzeichnung von Bräutigam uber die dreifache Zielsetzung des Ostfeldzuges, 25.10.1942. // IMGN // Bd. XXV, 294-PS, S. 336.

90. Rosenberg A. Über die Schicksalsaufgabe der europäischen Völker.// «Völkischer Beobachter», 6.9.1942.

91. Geheime Aufzeichnung von Bräutigam...

92. Protokoll der Besprechung des RMfdbO mit den Befehlshabern der Heeresgebiete vom 18.12.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 124/2599567.

93. Interner Zusatzprotokoll zu dem Protokoll der Sitzung mit den Befehlshabern der Heeresgebiete vom 18.12.1942, AAN, mf. aleks. T-454, R. 90/728.

94. Мемарыял Кёрнэра да Гёрынга ад 20.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 89/446.

95. Madajczyk, t. I, s. 539.

96. Ліст Бэргера да Гімлера, 9.3.1943. // Reichsführer... Briefe and und von Himmler, München, 1970, S. 247.

97. «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1958, Heft 3, S. 292.

98. Новы варыянт ГПО быў перасланы Гімлеру 15.2.1943 г. Гімлер доўга не выказваў сваіх меркаванняў наконт праекта, і таму Мэер-Гетлінг звярнуўся да яго з дадатковым запытаннем у гэтай справе. У красавіку 1943 г. ён атрымаў наступны адказ Гімлера: «Так, я прыпамінаю сабе. Ён ляжыць на маім стале. Я ўжо мыслю аб гэтай справе» // «Vierteljahrschefte für Zeitgeschichte, 1960, Heft 1. S. 119.

99. Reichspropagandaleiter der NSDAP, Behandlung der europäischen Völker, 15.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 98/298.

100. Madajczyk, t. I, s. 599.

101. Пратакол канферэнцыі ў OMi ад 8.1.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/1059.

102. Picker H. Hitlers Tischgespräche im Führerhauptquartier 1941—1942. Bonn 1951, S. 64.

103. Мемарыял OMi: Der Einbau der ehemaligen Baltischen Staaten in das neue Europa, 6.1.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/127; Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1939—1945. Bonn 1950, S. 170.

104. Інфармацыя OMi аб стане прэсы на Усходзе на 1.5.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 237/2726095.

105. Дэкрэт Розэнберга ад 7.3.1942 аб адміністрацыі РКО // «Amtsblatt des RMfdbO», Sammelnumer, Dezember 1943, S. 11.



106. Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 90.

107. Праекты адозваў... AAN, mf. aleks., T-454, R. 45/EAP 99/214.

108. Reitlinger G. The house built on sand. The conflicts of German policy in Russia 1939—1945. London, 1960, p. 157.

109. Reichsminister Rosenberg über die Arbeit in den befreiten Ostgebieten. // «Völkischer Beobachter», 14.6.1942, № 165; Erfahrungs-, Räumungs- und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2574952; Факторович... С. 69.

110. А[панас] М[артос]. Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы. Нямеччына, 1948. С. 48 і далей.

111. «Раніца». 17.5.1942. № 18(82).

112. Тамсама. 11.10.1942. № 38(102).

113. Bengtsson H. Das unbekannteste Volk Europas. // «Preussische Zeitung», August 1942, № 237.

114. Erfahrungs-, Räumungs- und Abschlussbericht für das Generalkommissariat Weissruthenien, 31.8.1944, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2574951.

115. Teilnahme der polnischen Widerstandsbewegung am Partisanenkampf. // Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724561.

116. Erfahrungs-, Räumungs- und Abschlussbericht.., 31.8.1944.

117. «Раніца». 15.3.1942. № 9(73). Імя Астроўскага значылася ў спісе Рады (у якасці намесніка аднаго з членаў), але Кубэ і Ермачэнка не маглі з гэтым пагадзіцца. Гэта была не адзіная прычына таго, што Раду не зацвердзілі. Магчыма, у студзені 1942 г. Кубэ лічыў, што для гэтага яшчэ не прыйшла пара.

118. «Беларуская газэта». 8.7.1942. № 48(68); «Раніца». 26.7.1942. № 28(92).

119. «Беларуская газэта». 12.7.1942. № 49(69); «Раніца».18.7.1942. № 28(92) і 16.8.1942. № 30(94); Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах... С. 88.

120. У склад Галоўнай Рады БНС уваходзілі: старшыня — І. Ермачэнка, сябры: А. Адамовіч, кс. В. Гадлеўскі, Грынкевіч, С. Кандыбовіч, В. Казлоўскі, архіепіскап Нарко, Нікалаевіч, Я. Найдзюк, Я. Саковіч, Сянкевіч, П. Свірыд // «Раніца». 6.9.1942. № 33(97).

121. «Раніца». 12.7.1942. № 26(90); 23.8.1942, № 34(95); 6.9.1942, № 33(97); Bräutigam O. Überblick über die besetzten Ostgebiete während des 2 Weltkrieges, Tübingen, 1954, s. 64.

122. «Беларуская газэта». 13.8.1942. № 58(78); Мемарыял д-ра Крафта, кіраўніка ўчастка Einsatzstab Reichsleiter Rosenberg у Мінску, ад 12.12.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/1293.

123. Летам і восенню 1942 г. у нямецкім друку было апублікавана багата артыкулаў, прысвечаных Беларусі. Частка з іх была перадрукавана ў выданым РКО зборніку «Auf Informationsfahrt im Ostland», Riga,1944. Гл. таксама: «Berliner Börsenzeitung» (22.7.1942), «Das Reich» (28.6.1942), «Preussische Zeitung» (1942, № 237), «Deutsche Post aus dem Osten» (Juli — August 1942), «Völkischer Beobachter» (19.7.1942), «Deutsche Zeitung im Ostland», «Ostland» (Riga), «Minsker Zeitung», «Nation und Staat» (Oktober 1942) і інш.

124. Bergtsson H. Das unbekannteste Volk Europas. // «Preussische Zeitung», August 1942, № 237; Kube W. Ein Jahr Zivilverwaltung. // «Deutsche Zeitung im Ostland», 30.8.1942, № 237; Kube W. Aufbau in Weissruthenien. //Тамсама, 31.8.1943, № 238.

125. Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943. // «Verteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1956, Heft 1, S. 81—82.

126. «Раніца». 16.8.1942. № 30(94).

127. Weisung № 46 des OKW, 18.8.1942 // Müller N. Okkupation-Raub-Vernichtung. Dokumente zur Besatzungspolitik der faschistischen Wehrmacht auf sowjetischem Territorium 1941—1944, Berlin, 1980, S. 131. 23.8.1942 Розэнберг пераслаў гэтую дырэктыву Лёзэ і Коху.— Гл. AAN, mf. aleks., T-454, R. 94/435.

128. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.6.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/609; Ліст Цэнэра да Екельна ад 13.6.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601816.

129. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 6.10.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/436.

а таксама на лекараў — Шчорса і Ермачэнку. Беларуская моладзь, паводле праграмы Акінчыца, павінна была ўдзельнічаць у вынішчэнні праціўнікаў гітлерызму, а ў перспектыве — змагацца ў атрадах СС. Для нямецкіх улад гэта магло б паслужыць доказам «шчырасці» і падставай для большага даверу. У сваіх дзеяннях Акінчыц абапіраўся на т. зв. кіраўнікоў прапагандысцкіх груп, якія прайшлі пад яго кіраўніцтвам падрыхтоўку ў Берліне. Цяпер ОМі накіроўвала іх у паасобныя беларускія акругі.

Апрача груп, якія свядома рабілі стаўку на супрацоўніцтва з немцамі, заслугоўвае ўвагі канспіратыўная незалежніцкая дзейнасць арганізацыі Іваноўскага — Станкевіча. Даволі доўга гэтыя дзеячы не рашаліся перабрацца ў Мінск. Толькі на пачатку верасня туды выехаў Іваноўскі, і тое толькі дзеля таго, каб высветліць на месцы сітуацыю. Тут гарадскі бургамістр Тумаш прапанаваў яму сваю пасаду, паабяцаўшы ўладкаваць у Кубэ ўсе фармальнасці (166). Зараз цяжка меркаваць, ці было прычынаю гэтай прапановы жаданне Тумаша пакінуць Мінск, ці гэта сталася ў выніку спецыяльнай дамоўленасці паміж імі. Ва ўсялякім выпадку пасля гэтага спынілася супрацоўніцтва Тумаша з групай Шчорса — Астроўскага. Тым часам Іваноўскі марудзіў з канчатковым рашэннем. Ён вярнуўся ў Вільню і працягваў сваю працу ў мясцовым беларускім камітэце.

Неўзабаве вестка пра магчымае прызначэнне Вацлава Іваноўскага на пасаду мінскага бургамістра дайшла да яго сябра, Самуіла Кастравіцкага, афіцэра 2-га аддзела ў Галоўным камандаванні ZWZ. Ён у гэты час быў у Варшаве і рыхтаваўся выехаць у Мінск, каб узначаліць там экспазітуру 2-га аддзела (167). Начальнік Кастравіцкага, шэф разведкі ZWZ у Беларусі і Прыбалтыцы Тамаш Зан, таксама зацікавіўся гэтым паведамленнем. Не падзяляючы скептыцызму Кастравіцкага, ён спадзяваўся схіліць Іваноўскага да супрацоўніцтва з ZWZ і дзеля гэтага ў канцы верасня выехаў у Вільню. На кватэры прафесара Януша Івашкевіча Зан спаткаўся з Іваноўскім, прадставіў яму сваю прапанову, падмацоўваючы яе перспектывай беларуска-польскага федэратыўнага саюза. Аднак атрымаў на гэта ўнікліва адказ: «Я вам дапамагаць не буду і перашкаджаць не буду» (168). Ад гэтай размовы ў Зана засталося ўражанне, што Іваноўскі цалкам прысвяціў сябе «беларускай рабоце» і не быў зацікаўлены ў супрацоўніцтве з польскім падполлем.

Іваноўскі выехаў у Мінск толькі ў сярэдзіне лістапада, калі ўжо ясна абазначылася няўдача «бліцкрыга». Вайна зацягвалася, цяпер варыянты яе заканчэння нараджалі надзею. Крыху пазней выехаў у Мінск Янка Станкевіч, яго палітычны паплечнік і старшыня падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў (169). Нямецкія ўлады не мелі палітычнага даверу да Вацлава Іваноўскага. У прыватнасці,назіранні паліцыі за дзеячамі віленскага асяродка сведчылі аб іх



«вельмі няясных і непрыдатных выказваннях наконт сваіх нацыянальных задач» — усё гэта ў першую чаргу датычылася Іваноўскага. Пагэтаму СД збіралася нават з дапамогаю Шчорса насадзіць у Вільні больш адпаведных дзеячаў (170). Пры такіх абставінах замест пасады бургамістра Іваноўскі заняў пакуль што крэсла яго намесніка (171).

Насцярожанасць нямецкіх улад павялічвала непрыязнасць, якую выказвалі ў адносінах да Іваноўскага іншыя беларускія групы, што змагаліся за ўладу. Яны прызнавалі яго заслугі перад беларускім рухам, бачылі ў ім апошняга жывога пачынальніка Адраджэння, але адначасова — і менавіта пагэтаму! — будучага небяспечнага канкурэнта. Іваноўскі заставаўся ўбаку ад дзейнасці мясцовых груповак, але іх занепакоенасць ад гэтага не знікала. Яму не давяралі ні ксёндз Гадлеўскі, ні Ермачэнка. Адкрытую варожасць выяўлялі некаторыя праваслаўныя прыхільнікі Радаслава Астроўскага. Ужо ў снежні ў мінскае СД лёг іх данос, дзе Іваноўскага прадставілі як залежнага ад віленскай курыі католіка, які дзейнічае на карысць Польшчы і каталіцызму, а свае сапраўдныя інтарэсы хавае пад маскаю клопатаў па беларусізацыі каталіцкай царквы. У даносе намесніка бургамістра абвінавачвалі ў тым, што ён такім чынам стараецца адцягнуць увагу нямецкага кіраўніцтва ад польска-каталіцкай экспансіі (172).

Толькі пасля таго як Іваноўскі перабраўся на стала ў Мінск, сюды пад канец лістапада прыехаў Кастравіцкі, каб арганізаваць мясцовую разведчэйку ZWZ. Разам з ім быў і яго дваюрадны брат Вітаўт Буткевіч, які павінен быў займацца разведкай у правінцыі. Яны абодва паведамілі Іваноўскаму аб прыездзе, але, пасля размовы з ім, істотна змянілі план сваёй лакалізацыі, распрацаваны загадзя 2-ім аддзелам. Буткевіч замест таго, каб ехаць у правінцыю, застаўся працаваць у Мінскай гарадской управе, на службе ў Іваноўскага. А. Кастравіцкі, замест таго, каб узначаліць мясцовую экспазітуру 2-га аддзела, праз некалькі дзён вярнуўся ў Варшаву (173). Буткевіч засведчыў, што Кастравіцкага адклікалі назад, у Варшаву, але ў сапраўднасці было інакш. Гэта пацвердзіў Зан, дадаючы, што пры тагачаснай сувязі і мовы на тое быць не магло, каб перадаць за такі кароткі час нейкія распараджэнні з Варшавы.

Відаць, прапанова Іваноўскага наконт уладкавання абодвух афіцэраў «двойкі» прыйшлася ім больш да душы, чым дырэктывы камандавання. Аднак гэта не азначала, што Іваноўскі хацеў перабегчы дарогу 2-му аддзелу — разведчэйка ў Мінску была створана, адзінае, што ўзначаліў яе Буткевіч, а Кастравіцкі вярнуўся ў Варшаву з заданнем падрыхтаваць глебу для перагавораў паміж Галоўным камандаваннем і Партыяй беларускіх нацыяналістаў. Напэўна, гэта была адзіная магчымасць наладзіць кантакт з ZWZ, якога беспаспяхова дамагаўся ў Варшаве Станкевіч вясною 1941 г.

130. «Беларуская газэта». 8.7.1942. № 48(68).
131. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска пры нямецкай акупацыі Беларусі [машынапіс са збору бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане]. С. 4.
132. Тамсама. С. 5.
133. Тамсама.
134. Тамсама. С. 5—7; «Раніца». 23.8.1942. № 31(95); Тамсама. 30.8.1942. № 32(96); 27.9.1942. № 36(100); 15.11.1942. № 43(107).
135. Всенародное партизанское движение... Т. 1. С. 675.
136. Кушаль Ф. С. 5.
137. Езавітаў К. Толькі зброяй здабудзем незалежнасць // «Раніца». 29.11.1944. № 50(212).
138. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 6.10.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/436.
139. Справаздача «Евы» з падарожжа ў Мінск, ЦА ЦК ПАРП, 203/VII-45, k. 23. Паездка адбылася ў ліпені 1942 г.
140. «Раніца». 6.9.1942. № 33(97); 4.10.1942. № 37(101).
141. Ліст камандзіра Sipo і СД Остлянда да Лёзэ ад 29.7.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/301.
142. Кушаль Ф. С. 7—9, 11.
143. Лісты Кубэ да Лёзэ ад 16 і 18 верасня, а таксама ад 6 кастрычніка 1942 г., AAN, mf. aleks., T-454, R. 30/797—800 і R. 39/436.
144. «...der Gedanke des «weissruthenischen Selbstschutzes» gegen das Bandenunwesen tatsächlich einen relativ Breiten Resonanzboden bei Teil der einheimischen Bevölkerung gefunden habe» // Meldungen.., № 29, 13.11.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725126.
145. Кушаль Ф. С. 11.
146. Тамсама. С. 8.
147. Цікавую інфармацыю падае на гэты конт Кіслы, слонімскі гарадскі старшыня, у сваім лісце ў акруговы камісарыят ад 12.3.1943 г.: «...цяпер Самаахова слонімскай БНС ужо не існуе, але калі яшчэ існавала, яна не падлягала паліцэйскай управе...» // AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/EAP/99/45.
148. Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта — Мюнхен, 1962. С. 27.
149. Кушаль Ф. С. 9.
150. Хмара С. Пад гітлераўцамі // «Беларускі голас» (Таронта), сакавік 1970. № 181.
151. Unsere Ehre heisst Treue, Wienn-Frankfurt-Zürich, 1965, S. 210.
152. «Der Hass der militärischen «Partisanen» gegen die einheimische weissruthenische Selbstschutzmannschaft ist fanatisch und grenzlos» — фармулёўка нямецкіх паліцэйскіх крыніц // AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/406.
153. Інструкцыя Гёрынга ад 26.10.1942 і Гімлера ад 30.10.1942 // Hesse, Der sowjetrussische Partizanenkrieg..., S. 167.
154. Гл. унікальныя сведчанні людзей, якія перажылі жахі карных аперацый на Беларусі, у кн.: Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі. Мн., 1975.
155. БСЭ. Мн., 1970. Т. 3. С. 135. Пазначаная колькасць спаленых вёсак (692) датычыцца толькі паселішчаў, дзе налічвалася не менш за 50 жыхароў. БелСЭ (Т. 5. С. 451) падае яшчэ большыя лічбы карных аперацый (звыш 100), напэўна, з улікам самых дробных акцый.
156. У гэтыя лічбы ўключана і колькасць узятых у палон партызанаў, якіх звычайна расстрэльвалі. Савецкія крыніцы не прыводзяць такіх падлікаў, а падаюць толькі колькасць спаленых вёсак.
157. Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943... С. 84; Справаздача РКО Розэнбергу ад 16.9.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 26/593.
158. Ліст Шымана да Кубэ ад 14.9.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 30/798.
159. Тамсама.
160. Тэлеграма Екельна да Гімлера ад 31.10.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601763.
161. Рапарт Штраўха да Баха ад 25.7.1943... С. 81.



162. Ліст Генеральнага камісарыята ў Мінску да РКО ад 27.10.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/697.
163. Ліст Бэргера да Гімлера ад 17.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 122/2647654.
164. Ліст Бэргера да Гімлера ад 22.10.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 129/2655182.
165. Ліст Бэргера да Гімлера ад 21.11.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 129/2655149.
166. Himmler, SS-Befehl, 21.6.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 119/2644775; Bach, Tagesbefehl № 2, 24.3.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 225/2764141.
167. Тэлеграма Екельна да Гімлера ад 31.10.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601763.
168. Преступные цели — преступные средства. Документы об оккупационной политике фашистской Германии на территории СССР 1941—1944 гг. М., 1968. С. 129.
169. Дакладную дату гэтага прызначэння аўтару ўстанавіць не ўдалося. Аднак вядома, што Готбэрг прадставіўся Екельну ў Рызе 3.11.1942 г., пасля чаго выехаў у Мінск, каб заняць сваю пасаду // Ліст Готбэрга да Гільдэбранта ад 5.12.1942 г., AAN, mf. aleks., T-175, R. 138/2666252.
170. Bach, Tagesbefehl № 1, 17.3.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 266/2765538.
171. Тамсама. № 2. 24.3.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 225/2764141.
172. Тамсама.
173. У сваім лісце ад 9.11.1942 г. Кубэ пісаў наступнае: «Шаноўнейшы Пане Рэйхсляйтэр СС! Дарагі партыйны калега Гімлер! Сардэчна дзякую Вам за прысланне майго старога супрацоўніка з часоў барацьбы [за перамогу НСГРП.— *Ю. Т.*], обэр-групэнфюрэра СС, генерала фон дэм Баха. Такім чынам, барацьба з партызаншчынай нарэшце апынулася на правільным шляху. Ужо ў першыя ж дні обэр-групэнфюрэр фон дэм Бах ў двух выпадках дасягнуў рашучых поспехаў супраць партызанаў, якія ўзбуджаюць ува мне надзею, што цяпер нарэшце мы спынім балаган на Беларусі. Больш за гэта, магу паведаміць, што людзі майго ведамства заўсёды ахвотна супрацоўнічаюць у гэтых справах з СС і паліцыяй і кожную хвіліну гатовы змагацца з вінтоўкаю супраць чырвонаармейцаў. Мы — СС і цывільная ўправа — працуем тут у найлепшай згодзе. Я перадаў у распараджэнне обэр-групэнфюрэра СС фон дэм Баха 40 беларускіх прапагандыстаў і даручыў усім маім установам безумоўна садзейнічаць обэр-групэнфюрэру пры выкананні яго загадаў і быць у яго распараджэнні. Сардэчнае прывітанне і Хайль Гітлер! Заўсёды моцна адданы Вам — Вільгельм Кубэ».— Гл.: AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601759.
174. Ліст Бранта, шэфа асабістага штаба рэйхсфюрэра СС, да Баха ад 17.11.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 140/2667790.
175. Неўзабаве пасля ўрачыстага святкавання дня нараджэння Кубэ, якое адбылося 13.11.1942 г., ён напісаў Ермачэнку ліст, дзе гаварылася: «...Вы можаце быць упэўнены, што ў далейшым я буду супрацоўнічаць з вамі ў духу нашага вялікага фюрэра Адольфа Гітлера над адраджэннем беларускага краю, які перажыў такія цяжкія выпрабаванні» // Рапарт Штраўха да Баха ад 25.7.1943 г. ... С. 81.
176. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 3.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/288.
177. Ліст Кёрнэра да Гёрынга ад 20.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 89/446.
178. Loftus J. The Belarus Secret. New-York, 1982, p. 36—37.
179. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 3.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/288.
180. Лёзэ энергічна супрацьдзейнічаў выхаду Беларусі з РКО. 16.4.1943 ён выслаў па гэтай справе ліст асабіста да Розэнберга.— Гл. дэкрэт Розэнберга ад 24.5.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 30/372.
181. Дэкрэт Розэнберга ад 24.5.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 30/372.
182. SS-Befehl, 21.6.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 119/2644775.
183. Ліст Бранта да Баха ад 21.6.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601657.
184. Тамсама.
185. Фрагмент ліста Готбэрга да Бэргера, напісанага 11.2.1943 г., які Бэргер пераслаў у дадатак да свайго ліста ад 11.2.1943 г. Ляйббранту ў OMi, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/1057.

Даносчыкі, такім чынам, натрапілі на фальшывы след.

Пад канец 1941 г. на Беларусі ў асноўным ужо склалася пэўная сістэма палітычных суадносін. Уваходзілі ў яе нямецкія акупацыйныя ўлады і беларускія групоўкі Ермачэнкі, Акінчыца, Іваноўскага — Станкевіча і Астроўскага, якія пакінуў Беларусь, але не свае амбіцыі, і не траціў веры ў паплечнікаў — у Мінску іх засталося нямала. А дапаўняла гэты палітычны ўклад савецкае і польскае падполле. Наогул, усе гэтыя групоўкі імкнуліся ў той перыяд арганізацыйна ўзмацніцца і стварыць умовы для далейшай працы, чые поспехі ў значнай ступені залежалі ад сітуацыі на фронце.

Настроі шырокіх мас насельніцтва звычайна бывае нялёгка акрэсліць з дакладнасцю. У асноўным людзі не вельмі цікавіліся палітычнай гульнёй, перш за ўсё ім трэба было ператрываць, выжыць. У паліцэйскіх данясеннях канца 1941 г. немцы не адзначалі яшчэ ўсеагульнай варожасці насельніцтва, але стаўленне да акупантаў станавілася штораз горшае. Асабліва на гэта ўплывалі рабункі і рэквізіцыі, забойствы ваеннапалонных, яўрэяў і савецкіх дзеячаў, захаванне калгаснага ладу ва Усходняй Беларусі і харчовыя цяжкасці ў гарадах. Пры ўсім тым да спантанных і самастойных выступленняў супраць немцаў яшчэ не даходзіла. Людзей яшчэ стрымлівала разуменне, што ў першыя месяцы вайны не могуць ажыццявіцца карэнныя палітычныя і гаспадарчыя змены. Такім чынам, сімпатыі насельніцтва магло заваяваць любое зацікаўленае старонніцтва, тут усё залежала ад жадання і рэальных магчымасцей улады.

## АД МАСКВЫ ДА КУРСКА — БЕЛАРУСКІ КАЛЕЙДАСКОП СУПЯРЭЧНАСЦЕЙ І КАНФЛІКТАЎ (СНЕЖАНЬ 1941 — ВЕРАСЕНЬ 1943)

### РАЗВІЦЦЁ САВЕЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ

29.6.1941 г. Савет Народных Камісараў СССР і ЦК УКП(б) выдалі дырэктыву, у якой заклікалі партыйныя арганізацыі распачаць падпольную і партызанскую барацьбу ў раёнах, пакінутых Чырвонай Арміяй пры адступленні (1). 3.7.1941 г. Сталін яшчэ раз паўтарыў гэтае заданне па радыё. Па ўсёй зоне акупацыі было загадана ўзрываць масты і дарогі, псаваць тэлеграфную і тэлефонную сувязь, паліць лясы, склады і абозы, на кожным кроку праследаваць і нішчыць ворага і яго памагатых, зрываць любыя іхнія мерапрыемствы (2). У адказ Гітлер заявіў 16.7.1941 г.: «Рускія аб'явілі партызанскую вайну на тылах нашага фронту. Ёсць і свой добры бок у гэтай партызанскай вайне: мы зможам вынішчаць усё, што паўстала супраць нас» (3). Так была абвешчана бязлітасная вайна ў нямецкіх тылах. На Беларусі яна прадвызначыла ўвесь далейшы ход падзей



і стала адным з найважнейшых фактараў, што ўплывалі на дзейнасць акупацыйнага рэжыму.

Зазначым, што партызанскую вайну савецкі ўрад аб'явіў у самыя першыя дні германскага нашэсця, калі намеры Гітлера адносна занятых тэрыторый СССР былі яшчэ невядомыя. Асабліва гэта датычылася стаўлення Германіі да незалежніцкага руху ў Прыбалтыцы, Беларусі і на Украіне: ні форма панавання над гэтымі землямі (урады-сатэліты або непасрэднае германскае кіраўніцтва), ні гаспадарчая палітыка, і сярод іншых — пытанне аб роспуску або захаванні калгасаў,— нічога не было высветлена загадзя. Няясна было, як пачнуць сябе паводзіць немцы з савецкімі дзеячамі, ваеннапалоннымі і яўрэйскім насельніцтвам. Пытанняў было шмат, і савецкія ўлады напачатку вайны не маглі ўпэўнена прадказаць настрой людзей і іх стаўленне да запланаванага супраціўленчага руху. Такім чынам, партызанская вайна была аб'яўлена без увагі на будучыя паводзіны нямецкіх акупацыйных улад і настрой насельніцтва, яна была прадыктавана выключна вайсковымі і палітычнымі задачамі СССР.

Беларусь была вельмі важным звяном у агульнай стратэгіі партызанскай вайны. Выключнае значэнне мела яе геаграфічнае становішча. Па-першае, дужа спрыяльныя былі натуральныя варункі — багата лясоў і балот, і, па-другое, тут пралягалі галоўныя шляхі з захаду да Масквы. Пагэтаму невыпадкова ўжо назаўтра пасля выдання дырэктывы ад 29.6.1941 г. ЦК КП(б)Б і абласныя партарганізацыі Усходняй Беларусі* пачалі стварэнне падполля і партызанскіх атрадаў. Дзеля гэтага ў зоне акупацыі ў ліпені — жніўні засталося 1215 партыйцаў і каля 5000 камсамольцаў, яны атрымалі заданне арганізаваць узброенае супраціўленне (4). Паводле савецкіх крыніц, у жніўні 1941 г. па тэрыторыі БССР, галоўным чынам ва ўсходніх раёнах, быў створаны 231 партызанскі атрад, а колькасць байцоў дасягала 12 тыс. (5). Пераважна гэта былі чырвонаармейцы — салдаты і камандзіры, што не змаглі прарвацца на ўсход і хаваліся цяпер ад лагернага палону, партыйныя і камсамольскія дзеячы, а таксама іншыя савецкія актывісты.

Тым часам лінія фронту аддалялася ўсё далей у маскоўскім напрамку, і дзейнічаць партызанам станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Зброі, што выдалі ім з вайсковых складоў улетку 1941 г., не хапала, больш-менш рэгулярныя яе пастаўкі з-за лініі фронту пачаліся толькі ў сакавіку 1942 г. (6). Асабліва цяжка было без сувязі. Да красавіка 1942 г. гэтыя атрады не мелі яшчэ сваіх радыёстанцый, таму немагчыма было наладзіць аператыўны кантакт з камандаваннем Чырвонай Арміі (7). Такім чынам, некалькі месяцаў парты-

* Адпаведная праца праводзілася і партыйнымі арганізацыямі Пінскай вобласці, дзе таксама былі створаны падпольныя органы і партызанскія атрады. — *А. Л.*

186. У гэтай атмасферы былў арыштаваны і закатаваны ксёндз Гадлеўскі. Іваноўскага, у сваю чаргу, абвінавачвалі ў падтрымцы прапольскага элемента і намерваліся спіхнуць з пасады мінскага бургамістра. Аднак пацверджання яго палітычных сувязей з Ермачэнкам не знайшлі. Гэтая акалічнасць і выратавала Іваноўскага.— Гл. ліст Крафта ў Айнзацштаб рэйхсляйтэра Розэнберга ў Берліне ад 12.12.1942 г., AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/1293.

187. Шэф СД у Мінску Штраўх скардзіўся, што канчатковае вырашэнне справы Ермачэнкі заняло ў яго цэлы год // Рапарт Штраўха Баху ад 25.7.1943... С. 82.

188. Такі варыянт разглядаўся ў сувязі з артыкулам сакратара ЦК КП(б) Беларусі Ц. Гарбунова «Белоруссия борется», апублікаваным у часопісе «Славяне» (чэрвень 1942, № 1). Гарбуноў падкрэсліваў адзінства славянскіх народаў у барацьбе з нямецкім імперыялізмам. Гэта стала прычынаю т. зв. Aktion Gorbunow, якую правяло СД у Мінску // Ліст Крафта ў Айнзацштаб рэйхсляйтэра Розэнберга ў Берліне ад 12.12.1942, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/1261.

189. Meldungen.., № 38, 22.1.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725414—416.

190. Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 82.

191. «Беларуская газэта». 18.3.1943.

192. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 383; Кушаль Ф. С. 9.

193. Тамсама.

194. «Беларуская газэта». 4.2.1943.

195. Беларускі народны каляндар на год 1944. Мн., 1944. С. 92.

196. Меркаванне аб прыналежнасці беларусаў да нардычнай расы выказвалася на старонках органа РКО «Остлянд». Публіцыст В. Эссэн сцвярджаў, што беларусы, нягледзячы на тое, што размаўляюць на славянскай мове, у мінулым пахлынулі шматлікія балтыйскія плямёны і нават — германскія элементы // «Ostland», Riga, 1944, Februar, № 8.

197. «Голас вёскі». 26.3.1943. № 12(66).

198. Тэлекс Кубэ да Мэера ад 20.4.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/555.

199. Тэлекс Розэнберга да Лёзэ ад 23.3.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 39/098.

200. «Раніца». 27.4.1943; Тамсама. 7.1.1945. У канцы 1943 г. інстытут эвакуіраваўся ў Новую Вілейку. 10.6.1944 г. ён выпусціў першую і апошнюю партыю сваіх навучэнцаў, 32 чалавекі. У 1944/45 г. ён працягваў сваю працу ў Германіі.

201. Варта прыгадаць тыя намаганні, што прыклаў В. Іваноўскі для адкрыцця тэхналагічнага інстытута і універсітэта ў Мінску.

202. Дэкрэт Розэнберга ад 3.6.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 237/2726178.

203. Дэкрэт Кубэ аб стварэнні СБМ // «Раніца». 11.7.1943.

204. Статут СБМ // Тамсама.

205. Ганько М. Моладзь Новае Беларусі // Беларускі народны каляндар на год 1944. Мн., 1944. С. 59; Herzog R. Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend. Tübingen, 1960, S. 27.

206. Ганько М. Моладзь Новае Беларусі...

207. Herzog, S. 25.

208. Адозва Ганько // «Баранавіцкая газэта». 22.6.1943.

209. Ганько М. Моладзь...

210. «Раніца». 11.7.1943.

211. «Verordnungsblatt des Reichsministers für die besetzten Ostgebiete», 30.4.1942, № 5.

212. Цікава, што гэтае распараджэнне Розэнберга ад 24.4.1942 г. фон Готбэрг успрыняў як прававую падставу для стварэння ў снежні 1943 г. Беларускай цэнтральнай рады, хоць паўнамоцтваў на ўтварэнне такога органа яно не давала (гл. наступны раздзел).

213. Dallin, p. 564.

214. «Беларуская газэта». 27.4.1943; Тамсама. 3.7.1943.

215. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/473.

216. Гэта былі: Канстанцін Гуло (Мінская акруга), Сымон Цытовіч (Слонімская), Уладзімір Казёл (Глыбоцкая), Віктар Трахімовіч (Барысаўская), Цімафей Гаргесгаймер (Ганцавіцкая), Мадэст Яцкевіч (Лідская), Язэп Душэўскі (Слуцкая), Булак (Навагрудская), Ян Галяк (Вілейская) // «Беларуская газэта». 3.7.1943.



217. Тамсама.

218. Новікаў І. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску. Мн., 1964. С. 183.

219. Галяк І. Успаміны. [ЗША], 1983. Т. 2. С. 62; Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. Успаміны. Таронта, 1976. С. 92; Касяк І. Заўвагі да артыкула аб Іваноўскім // «Беларуская думка», 1984, № 29.

220. «Беларуская газэта», 3.7.1943.

221. Тамсама.

222. Ліст Кубэ да Лёзэ ад 12.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/473.

223. Grueber E. Gründung einer «Weissruthenischen Wissenschaftlichen Gesellschaft». // «Ostland». (Riga), August, 1943, № 2, S. 30.

224. Тамсама; «Раніца». 18.7.1943.

225. Рапарт Штраўха ад 25.8.1943... С. 84.

226. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 24.3.1943 з дадаткам — справаздачай Эрэнляйтнера аб палітычным становішчы ў Слоніме ад 21.3.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/556—557.

227. Унутраная карэспандэнцыя РКО ў сувязі з рапартам Эрэнляйтнера, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/567—568.

228. Рапарты Лаўха ад 2.6.1943 і Лянге ад 31.1.1943. // Trials of War Criminals before the Neurnberg Military Tribunals vol. XIII. Washington 1952, p. 518, 521.

229. Рапарт Лянге ад 1.6.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601596.

230. Ліст Кубэ да Розэнберга (via RKO) ад 5.6.1943. // IMGN, Bd. XXXVIII, 135-R, S. 373.

231. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 29.6.1943. // Müller, Okkupation — Raub — Vernichtung.., S. 151.

232. Ліст Кубэ да Розэнберга (via RKO) ад 3.6.1943. // Trials.., vol. XIII, p. 520.

233. Другі Ліст Кубэ да Розэнберга (via RKO) ад 3.6.1943. // Тамсама. С. 517.

234. Рапарт Кушаля да старшыні Рады Даверу ад 6.8.1943 быў змешчаны цалкам у зборніку дакументаў «Преступные цели — преступные средства» (М., 1968. С. 142). Тым часам у кнізе В. Раманоўскага «Саўдзельнікі ў злачынствах», выдадзенай у Мінску, была змешчана толькі адпаведна падабраная частка гэтага рапарта (с. 146) для падмацоўкі сцверджання, што Кушаль «6 жніўня 1943 г. з захапленнем даносіў кіраўніку т. зв. «рады даверу» пра крывавыя расправы над мясцовым насельніцтвам у мясціне, дзе ён нарадзіўся» (с. 153). Справа ў тым, што Кушаль нарадзіўся ў Пяршаі, а ў суседняй вёсцы Доры загінулі яго браты, спаленыя разам з царквою, куды іх сагналі карнікі. З дапамогаю гэтай фальшыўкі Раманоўскі імкнуўся прадставіць свайго палітычнага праціўніка Кушаля ў найгоршым святле.

235. Калубовіч А. Праф. Вацлаў Іваноўскі і Беларуская Рада Даверу // «Беларуская думка». 1983. № 27—28. С. 13—14.

236. Тамсама; Паведамленне ад 14.3.1979 г., зробленае Калубовічам для аўтара (машынапіс). Калубовіч, напэўна, памыліўся наконт Цэнэра, які ў ліпені 1942 г. быў адкліканы з Мінска і ў сувязі з гэтым пакінуў Беларусь. Напэўна, меліся на ўвазе або Готбэрг, або Корземан.

237. Фрагменты справаздачы Кубэ Лёзэ прадставіў у лісце да Розэнберга ад 14.10.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/510.

238. Ліст Лёзэ да Розэнберга ад 18.6.1943, IMGN, Bd. XXXVIII, 135-R, S. 371.

239. Тамсама.

240. Ліст Бэргера да Браўтыгама ад 13.7.1943. // Trials.., vol. XIII, p. 521.

241. Ліст Бэргера да Бранта ад 13.7.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601592. Гэты ліст трапіў у штаб рэйхсфюрэра СС 16.7.1943 і быў перададзены Гімлеру.

242. «Amsblatt des RMfdbO», 27.4.1944, № 7 — аб смерці Эрэнляйтнера; «Беларуская газэта», 3.7.1943 — аб смерці Саковіча.

243. Auch er fiel für Deutschland. // «Deutsche Zeitung im Ostland», 23.9.1943.

244. «Беларуская газэта». 30.6.1943; Паведамленне Антона Адамовіча, былога публіцыста гэтай газеты, зробленае для аўтара ў красавіку 1985 г.

занскія групы на Беларусі былі кінуты на ўласны лёс. Летам і восенню 1941 г. яны панеслі значныя страты ад нямецкіх карных акцый, мясцовае насельніцтва, асабліва на вёсцы, таксама не заўсёды аказвала ім падтрымку (8). Пры такой сітуацыі глыбокай восенню 1941 г. баявая дзейнасць гэтых груп значна паслабела. У нямецкіх вайсковых і цывільных колах гэта ўспрымалі як канец партызанскага руху, і не толькі з прычын матэрыяльных, але і ідэалагічных — у гэты час нямецкая армія дасягнула ўжо подступаў савецкай сталіцы (9).

Паражэнне немцаў пад Масквой аднавіла веру ў сілу Чырвонай Арміі, у яе здольнасць аказваць належнае супраціўленне ворагу. Яно істотна ўздзейнічала на актывізацыю савецкага падполля на Беларусі. З нямецкіх паліцэйскіх рапартаў відаць, наколькі ўзмацніліся ў снежні 1941 — лютым 1942 гг. партызанскія напады на транспартныя калоны Вермахта і ўзрасла колькасць выпадкаў сабатажу і дыверсій на камунікацыйных шляхах. Аднак партызанскія групы па-ранейшаму пазбягалі адкрытага сутыкнення нават з невялікімі нямецкімі атрадамі і скіроўвалі ўсе намаганні на арганізацыйнае ўзмацненне, пашырэнне баз і сістэмы забеспячэння, дбалі аб павелічэнні свайго ўплыву сярод насельніцтва (10). Без сур'ёзнай матэрыяльнай падтрымкі Чырвонай Арміі іх дзейнасць не стварала для Вермахта вялікай небяспекі. Як паведамляў Шэнкендорф, у гэты час існавалі толькі невялікія партызанскія групы, якія абмяжоўваліся нападамі на пакінутыя без аховы мясцовасці і дробныя атрады нямецкіх салдат, галоўным чынам дзеля папаўнення сваіх запасаў (11). Дзейнасць партызан не вельмі трывожыла немцаў. Пра гэта можа сведчыць і такі факт: перад Калядамі 1941 г. для аховы вялікага склада амуніцыі ў Смаленску яны прыставілі ўсяго толькі двух вартавых (12).

Але неўзабаве пачалі праяўляцца іншыя вынікі Маскоўскай бітвы, якія мелі вялікае практычнае значэнне для развіцця партызанскага руху. Пачалося зімовае контрнаступленне Чырвонай Арміі. У першыя дні лютага 1942 г. адзін з яе кліноў дасягнуў лініі Веліж — Усвяты, г. зн. дайшоў да паўночна-ўсходняй мяжы Беларусі, за якою ўжо дзейнічала некалькі невялікіх партызанскіх атрадаў (13). Такім чынам, зона партызанскай барацьбы і аператыўны абшар Чырвонай Арміі злучыліся, стварыліся ўмовы для іх узаемадзеяння. Савецкае камандаванне, напэўна, не прадбачыла такой сітуацыі. Пра гэта сведчыць факт, што толькі ў сакавіку, г. зн. праз месяц*, была наладжана сувязь паміж партызанамі Віцебшчыны і Чырвонай Арміяй (14). Менавіта ў гэтым месяцы савецкае вайсковае і палітычнае кіраўніцтва прыняло канкрэтнае рашэнне наконт

* Сувязь з асобнымі партызанскімі групамі і перадавымі атрадамі Чырвонай Арміі, якія наступалі ў напрамку на Беларусь, была і раней.— *А. Л.*



выкарыстання партызанскага руху на Беларусі і ўключыла яго ў сваю ваенную стратэгію*. Немцам далі адпор пад Масквой, вайна абяцала зацягнуцца надоўга, і ў гэтай сітуацыі партызанская барацьба набыла не толькі вайсковае, але і палітычнае значэнне.

20.3.1942 г. ЦК КП(б)Б стварыў т. зв. Паўночна-заходнюю аператыўную групу для дзейснага кіраўніцтва партызанскім рухам на Беларусі. Група дзейнічала сумесна са штабамі Калінінскага фронту, 3-яй і 4-ай ударных армій — іх аператыўная зона прылягала да Віцебшчыны. Ва Усходняй Беларусі яна падтрымлівала сувязь з падпольнымі партарганізацыямі і партызанскімі атрадамі, удзельнічала ў іх ўзмацненні і актывізацыі, займалася таксама падрыхтоўкай падрыўнікоў, радыётэлеграфістаў, збірала і апрацоўвала разведачную інфармацыю. Група выконвала ролю штаба савецкага партызанскага руху на Беларусі. У красавіку 1942 г. ЦК КП(б)Б пастанавіў набраць, падрыхтаваць і перакінуць на Беларусь 50 невялікіх атрадаў, якія павінны былі актывізаваць партызанскую барацьбу і ўцягнуць у яе насельніцтва. Кадры падбіраліся спецыяльна з тых беларусаў, што адбывалі службу ў войску або знаходзіліся ў савецкіх тылах.

Сувязь з тэрыторыяй Беларусі аператыўная група падтрымлівала праз т. зв. «Віцебскія вароты», часам званыя «Суражскімі варотамі». Гэта быў своеасаблівы калідор шырынёю 40 км паміж гарадамі Веліж і Усвяты на стыку аперацыйнай зоны Чырвонай Арміі і віцебскіх партызан. Ён праіснаваў да канца верасня 1942 г.— аж пакуль не быў зліквідаваны немцамі. Былы камандзір Беларускага штаба партызанскага руху П. Калінін сведчыць, што праз гэты унікальны для гісторыі германа-савецкай вайны калідор партызаны Віцебшчыны пераправілі на Вялікую зямлю больш за 35 тыс. чалавек, з іх больш за 20 тыс.— для службы ў Чырвонай Арміі. Апрача таго, праз «Віцебскія вароты» для патрэбы арміі з акупаванай Беларусі было перасланa 1500 тон збожжа, 10 тыс. тон бульбы, 4 тыс. галоў жывёлы, 2 тыс. коней, 35 тыс. тон сена і іншых харчовых запасаў (15). А ў гэты час у адваротным кірунку — на Віцебшчыну — перайшлі дзесяткі савецкіх дыверсійных груп і партызанскіх атрадаў, перапраўлена аўтамабільнымі і коннымі абозамі неабходная колькасць зброі, амуніцыі, выбуховых рэчываў і іншага вайсковага абсталявання, мільёны экземпляраў газет і палітычнай літаратуры. А ўжо адтуль людзі, зброя і літаратура накіроўваліся далей, у іншыя раёны Беларусі, галоўным чынам усходнія, паводле размеркавання, якое вызначала кіраўніцтва аператыўнай групы (16).

Савецкія ўлады прадбачылі, што гэты надзвычай важны камунікацыйны канал хутка можа закрыцца, таму пастараліся своечасова

* Аб тым, што ў гэты час было прынята канкрэтнае рашэнне, няма ніякіх архіўных і друкаваных крыніц. Дэтальна гэтыя пытанні разглядаліся савецкім кіраўніцтвам у лістападзе — студзені 1941 г.— *А. Л.*

245. Ліст Гімлера да Кальтэнбрунэра ад 24.6.1943. AAN, mf. aleks., T-175, R. 81/2601635.

246. Акты Штраўха // AGKBZH, ATW 9, Dok prokuratury, t. III, s. 192.

247. Кубэ тады сказаў Штраўху: «Такога характару паводзіны не вартыя немца і Германії Канта і Гётэ. Калі б нямецкі аўтарытэт быў падарваны на цэлым свеце, дык сталася б гэта з нашай віны».— Гл. нататкі Штраўха ад 20.7.1943. // «Vierteljahrshefte für Zeitgeschichte», 1956, Heft1, S. 78.

248. Спадзяванні Готбэрга грунтаваліся на прынцыпах супрацоўніцтва, узгодненых з Гімлерам і Розэнбергам, паводле якіх падчас доўгай адсутнасці рэйхскамісара яго абавязкі павінен быў выконваць HSSPF.— Гл. ліст Гімлера да Розэнберга ад 19.11.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 29/1182.

249. Ліст Готбэрга да Баха ад 21.7.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2575281.

250. Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 80—92.

251. Trials.., vol. XIII, p. 549.

252. Ліст Бранта да Бэргера ад 14.8.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2575288.

253. Ліст Бэргера да Бранта ад 18.8.1943, Trials.., vol. XIII, p. 525. Візіт Мэера ў Мінск адбываўся 24—25 жніўня 1943 г.

254. Справаздача вышэйшай спецыяльнай камісіі, падпісаная Бондарфам, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/233.

255. Марина М. Героиня Великой Отечественной войны // «Работница». 1947. № 2. С. 11; Справаздача Бондарфа з пэўнымі невыпадковымі скарачэннямі ўпершыню апублікавана ў кн.: Новиков И. Бессмертие Минска. Мн., 1977. С. 205—210.

256. Цанава Л. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. В 2 т. Мн., 1949—1951. Т. 2. С. 671—673.

257. Рапарт Штраўха ад 25.7.1943... С. 84; Тэлекс гаўптштурмфюрэра Майнэ з асабістага штаба рэйхсфюрэра СС ад 22.5.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 59/2575290.

258. Тамсама.

259. Domarus M. Hitler Reden und Proklamationen 1932—1945. // Bd. II, Würzburg, 1963, S. 2043.

260. Reitlinger G. The house built on sand. The conflicts of German policy in Russia 1939—1945. London, 1960, p. 157.

261. Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A study of occupation policies. London, 1957, p. 212.

262. Reitlinger, p. 256.

263. Groehler O., Drobisch K. Der 20. Juli 1944. // «Einheit», 1984, № 7, S. 633.

264. «Deutsche Zeitung im Ostland», 23.9.1943.

265. Meldungen.., № 16, 14.8.1942; № 22, 25.9.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2724718, 2724891.

266. Müller, Okkupation-Raub-Vernichtung.., S. 240.

267. Meldungen.., № 22, 25.9.1942.

268. З сярэдзіны 1942 г. у Віцебску, Бабруйску і Барысаве пачалі выдаваць неперыядычныя беларускамоўныя дадаткі да мясцовых газет, якія выходзілі на рускай мове. Толькі 25.3.1943 г. у Віцебску пачала выходзіць беларуская газета «Беларускае слова» тыражом 20 000 экз. У канцы 1943 г. у сувязі са становішчам на фронце яе рэдакцыю перанеслі ў Дзвінск (Латвія) // «Раніца». 23.5.1943, а таксама 9.1.1944.

269. «Раніца». 15.8.1943; 26.12.1943; 29.8.1943; «Новое слово». 24.5.1942.

270. Meldungen.., № 29, 13.11.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725127.

271. Так, напр., за 100 кг жыта селянін атрымліваў 2,50 рэйхсмаркі, прычым ён мусіў атрымліваць вотруб'е для пашы па цане 6 рэйхсмарак за 100 кг // Справаздача акруговага баранавіцкага камісара ад 11.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/128.

272. Meldungen.., № 38, 22.1.1943, mf. aleks., T-175, R-236/2725412—414.

273. Справаздача Фрайтага з Генеральнага камісарыята ад 28.6.1943, IMGN, Bd. XXXI, 30000-PS, S. 462.



274. Ліст Кубэ да Розэнберга ад 3.2.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 15/288.

275. У лютым 1942 г. на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі налічвалася 275 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, г. зн.—25 % ад даваеннай колькасці // Факторович А. Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии.— Мн., 1979. С. 31. У чэрвені 1942 г. гэтыя суадносіны складалі 40—45 % ад даваеннага ўзроўню // Chmielewski v. F. Im Schatten der Front. // «Das Reich», 28.6.1942. У жніўні 1943 г. Кубэ, у сваю чаргу, падаваў, што на абшары Генеральнага камісарыята Беларусі знаходзіцца яшчэ 450 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, г. зн.— 50 % ад нармальнага пагалоўя // Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 84/1330. Аднак пагалоўе не павялічвалася, а змяншалася, адсюль вынікае, што ў 1942 г. звесткі заніжаліся.

276. Улады Генеральнага камісарыята падавалі, што ў зоне дзеяння партызан знаходзілася ў 1942 г. 60 % сельскагаспадарчых угоддзяў // Meldungen.., № 38, 22.1.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725426. Гэта было грубае перабольшанне, якое павінна было апраўдаць слабыя вынікі аперацыі па вярбоўцы работнікаў у Нямеччыну. Паводле савецкіх крыніц, у гэты час тэрыторыя, якую займалі і часткова кантралявалі партызаны, складала толькі 30 % ад ўсяго беларускага абшару (гл. падраздел «Развіццё савецкага партызанскага руху»). Трэба мець на ўвазе, што гэты паказчык быў значна вышэйшы ва ўсходніх раёнах Беларусі і зашмат ніжэйшы на абшары Генеральнага камісарыята.

277. «Беларуская газэта». 18.3.1943.

278. Ліст Кубэ да Мэера ад 27.8.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 84/1322.

279. Meldungen.., № 50, 16.4.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 236/2725815.

280. Тамсама.

281. Адамовіч А. Жыццё і паэтычная спадчына Алеся Салаўя // Салавей А. Нятускная краса. Збор твораў. Нью-Йорк — Мельбурн, 1982. С. 299.

282. Спецыяльны рапарт ГК АК «Беларуская справа» генералу Сікорскаму, вясна 1942 г., ЦА ЦК ПАРП, 202/III-201, k. 105.

283. Prawdzic-Szlaski, s. 49—51.

284. Рапарт Фрайтага з Генеральнага камісарыята ў Мінску ад 28.6.1943, IMGN, Bd. XXXI, 3000-PS, S. 462.

285. Prawdzic-Szlaski, s. 104; Справаздача камісара Слонімскай акругі ад 10.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/334.

286. «Раніца». 4.4.1943.

287. «Раніца». 19.9.1943.

288. Справаздача камісара Навагрудскай акругі ад 3.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/257.

289. Zienkiewicz A. Ofiara przyjęta. Rzym, 1968, s. 8, 14.

290. А. К-а [Калодка]. Беларуска-польскія суадносіны ў Вялейшчыне // «Зважай». 1981. Чэрвень. № 2. С. 4.

291. «Новая дарога». 24.5.1942.

292. Prawdzic-Szlaski, s. 51; Zienkiewicz, s. 20; А. К-а [Калодка], Беларуска-польскія суадносіны...

293. Інструкцыя кіраўніка аддзялення БНС у Баранавічах ад 18.11.1942 // Рама396ноўскі В. Саўдзельнікі... С. 107.

294. Meldungen.., № 11, 10.7.1942, AAN, mf. aleks., T-175, R. 235/2724565.

295. Рапарт «Дзяміда», зроблены ў кастрычніку 1942, ЦА ЦК ПАРП, 202/I-32, k. 120.

296. Rydlevski L. Biélorussie. Paris, 1948, p. 23.

297. Палажэнне ў Лідскай акрузе Генеральнага камісарыята Беларусі // «Летапіс» (Нью-Йорк), 1985. № 28. С. 90. Шмат канкрэтных звестак у гэтай справе змяшчае «Беларуская думка» (Нью-Йорк — Саўт-Рывэр), 1960. № 1.

298. Prawdzic-Szlaski, S. 66, 93.

299. Справаздача камісара Лідскай акругі 15.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R-102/162-165.

300. Лічыцца, што самай вялікай акцыяй АК было ўзяцце мястэчка Жодзішкі

наладзіць належную авіяцыйную сувязь. Дзеля гэтага ўжо ў 1942 г. на Беларусь перапраўлі спецыялістаў, пад кіраўніцтвам якіх пачалася будоўля палявых партызанскіх аэрадромаў. За ўвесь перыяд акупацыі іх было пабудавана амаль 50 (17). Гэтыя аэрадромы дазволілі пасля ліквідацыі «Віцебскіх варотаў» у канцы верасня 1942 г. працягваць дастаўку ваенных грузаў, вывозіць параненых, пошту і г. д. У дадатак ад пачатку красавіка да канца 1942 г. для лясных атрадаў было перапраўлена 150 палявых радыёстанцый разам з абслугай — вырашылася праблема сувязі з цэнтральным савецкім камандаваннем (18), дзе таксама наступілі змены. 30.5.1942 г. пры Галоўным камандаванні Чырвонай Арміі быў створаны Цэнтральны штаб партызанскага руху пад кіраўніцтвам першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. Панамарэнкі, а ў верасні 1942 г.— яго тэрытарыяльны аддзел — Беларускі штаб партызанскага руху, начальнікам якога стаў П. З. Калінін. Гэты штаб узяў на сябе функцыі Паўночна-заходняй аперацыйнай групы.

Такім чынам, толькі вясною 1942 г. савецкія ўлады стварылі неабходныя матэрыяльныя і арганізацыйныя ўмовы для развіцця партызанскага руху на Беларусі. За ўвесь перыяд вайны яны перакінулі туды не менш за 13 тыс. салдат, афіцэраў і арганізатараў гэтага руху, большасць з іх прайшла спецыяльную падрыхтоўку для дзейнасці ў зоне нямецкай акупацыі. Апрача таго, да сакавіка 1944 г. туды было пераслана больш за 60 тыс. вінтовак, 15 тыс. аўтаматаў, 5 тыс. кулямётаў, каля 100 млн. штук патронаў, 400 тон выбуховых рэчываў, сотні мінамётаў, супрацьтанкавая зброя і інш. (19). Такое бронезабеспячэнне дапаўнялася за кошт трафеяў і адпавядала агнявой сіле нешта каля дзесяці пяхотных дывізій.

Дзякуючы сваёй узброенай сіле, савецкі партызанскі рух стаў для многіх жыхароў Беларусі шанцам ратунку альбо пажаданым выйсцем у складаных абставінах. Хутка ў яго ўліліся не толькі слабыя і раздробленыя групы супраціўлення, што паўсталі ўлетку 1941 г., але і людзі, якіх фашысты асудзілі на вынішчэнне або пагражалі смерцю, асабліва яўрэі і камуністычныя дзеячы. Партызанам лёгка ўдалося абярнуць на сваю карысць указ Вермахта, абвешчаны ў сакавіку 1942 г., паводле якога папярэдне вызваленыя і размешчаныя па калгасах чырвонаармейцы павінны былі вярнуцца ў лагеры ваеннапалонных. Тысячы такіх людзей апынуліся, насуперак загаду, у лясных атрадах. На думку паліцыі, гэта аказала вялізны ўплыў на актывізацыю партызанскай дзейнасці (20). У лес уцякала і шмат моладзі, якая хавалася ад прымусовага вывазу на працу ў Германію. Такім чынам, вясною 1942 г. грамадска-палітычныя ўмовы складваліся куды больш спрыяльна для партызанскага руху, чым гэта было ў першыя тыдні акупацыі.

На развіццё партызанскага руху на Беларусі ўплывала шмат фактараў, адным з найважнейшых, або нават і вырашальным,



аказаліся погляды Сталіна і Галоўнага камандавання Чырвонай Арміі: яны зыходзілі з меркавання, што наступны генеральны ўдар немцаў зноў будзе скіраваны на цэнтральны адрэзак фронту. Такая ацэнка сітуацыі пацягнула за сабой усе далейшыя захады па стварэнні ў варожых тылах узброенай сілы, якая магла б аслабіць націск праціўніка. З гэтым быў звязаны і рост асабовага складу партызанскіх атрадаў. У першым паўгоддзі 1942 г. ён павялічваўся прыкладна на 3—4 тыс. чалавек штомесячна, тады як у другой палове года — ужо на 7—8 тыс., так што на пачатку лістапада 1942 г. у атрадах налічвалася 47,3 тыс. чалавек (21). Гэтыя сілы перш канцэнтраваліся галоўным чынам ва Усходняй Беларусі, але паступова пачалі прасочвацца і ў заходнія раёны. У сярэдзіне 1942 г. дзейнасць партызан ахапіла ўвесь абшар Беларусі (22).

Але ў канцы чэрвеня новае нямецкае наступленне пачалося на поўдні, туды былі скіраваны значныя вайсковыя сілы, перакінутыя, між іншым, з цэнтральнага адрэзка фронту і яго тылоў. Для партызанскага руху гэта мела вельмі важнае значэнне: магчымасці немцаў весці з ім барацьбу значна аслаблі. Як паведамляў Кубэ, у чэрвені 1942 г. паліцэйскія сілы ў Генеральнай акрузе Беларусі налічвалі нешта каля 1 тыс. нямецкіх салдат і прыкладна 3 тыс. літоўскіх, латышскіх і ўкраінскіх (23). Істотна паменшалі сілы ахоўных атрадаў, што былі размешчаны ў тыле групы армій «Цэнтр». Паводле Шэнкендорфа*, 1.12.1941 г. у іх уваходзілі чатыры ахоўныя дывізіі, дзве брыгады СС і 260 рот рознага роду войскаў, але ў красавіку 1942 г. засталося толькі 85 рот, палова з іх была недастаткова абучаная, слаба ўзброеная і здатная хіба толькі на вартаўніцтва ў тылах (24). Гэтыя сілы аказваліся ў некалькі разоў слабейшыя за партызанскія**: лясное войска таго ж лета мела на ўзбраенні нават артылерыю і бронемашыны. Колькасная перавага памнажалася на тактычную: шматлікія дробныя групы дзейнічалі адначасова на вялізным абшары. У такой сітуацыі немцы не маглі спыніць развіцця партызанскага руху. Пра гэта сведчыць і працяглае існаванне «Віцебскіх варотаў», якіх фашысты не здолелі ліквідаваць адным махам.

Усё гэта спрыяла распаўсюджванню партызаншчыны, з вясны 1942 г. яе сілы раслі з месяца на месяц. Адной з партызанскіх задач былі дыверсіі на транспартных шляхах, па якіх ішло забеспячэнне

---

* Камандуючы ахоўнымі войскамі і камандуючы тылам групы армій «Цэнтр».— *Рэд.*

** Гэта далёка не так. Аўтар знаходзіцца ў палоне дакументаў ворага, у якіх яны спрабавалі тлумачыць безвыніковасць сваіх дзеянняў перад ростам партызанскага руху. Трэба мець на ўвазе, што агульная колькасць войск, якія былі ў падпарадкаванні Шэнкендорфа ў ліпені 1942 г., вагалася ад 316 да 368 тыс. чалавек, з якіх 98 тыс. знаходзілася ў Смаленскай вобласці. Па даных на 2 верасня 1942 г., іх было 396 369 чалавек, на 12 верасня — 402 590, а на 22 верасня 1942 г.— 376 535. Прыкладна такая ж колькасць была ў другія месяцы.— *А. Л.*

ў жніўні 1943 г. У гэтай акцыі, апрача некалькіх беларускіх паліцыянтаў, якія загінулі ў баі, былі забіты жонка і двое дзяцей каменданта паліцыі Віктара Каркоза і даваенны каталіцкі беларускі дзеяч Тамаш Трызна, якога застрэлілі ў ложку // Калодка А. Напад палякаў на Жодзішкі // «Зважай». 1979. Лістапад.

301. Рапарт БІП «Нацыянальныя справы за перыяд 15.3.— 15.7.1943», ЦА ЦК ПАРП 202/III-11, k. 2; Рапарты з усходніх раёнаў за ліпень і жнівень 1943. Тамсама, k. 139, 255.

302. Акінчыц Ф. Увагі на часе // «Беларуская газэта», 28.3.— 8.4.1943.

303. «Раніца». 10.1.1943.

304. Паводле С. Хмары, беларускі партызанскі рух паўстаў у 1941 г. на Палессі пад камандаваннем падпалкоўніка Шанько. У гэтым руху ўдзельнічала каля 3000 чалавек. Ён існаваў да канца 1943 г., пакуль не быў разбіты савецкімі партызанамі. Аднак гэты партызанскі рух не праводзіў актыўных нападаў на немцаў.— Гл.: «Беларускі голас». 1982. Ліпень; і 1985. Студзень.

305. Жыццё і палітычная дзейнасць праф. Вацлава Іваноўскага. Дыскусія на пасяджэнні Сенацкай камісіі Гісторыі і Традыцыі Варшаўскага палітэхнічнага інстытута 14.2.1984 г. (паведамленні Ліпінскай Г., Мойжук М., Буткевіча В.), Archiwum Pracowni II wojny światowej IH PAN, sygn. A 722/85.

306. Гэтая самастойнасць Іваноўскага мела, зрэшты, і адмоўныя вынікі, непазбежныя ва ўмовах канспірацыі. Пра гэта сведчыць наступнае беспадстаўнае меркаванне, выказанае віленскім аддзяленнем дэлегатуры эміграцыйнага ўрада пасля смерці прафесара: «Праф. Іваноўскі на пасадзе старшыні Беларускай Рады Даверу быў паслухмяным выканаўцам нямецкіх жаданняў, да канца жыцця ён верыў у магутнасць немцаў, у іх перамогу... Падчас панавання праф. Іваноўскага ў адносінах да польскага насельніцтва нязменна праводзілася лінія праследаванняў.— ЦА ЦК ПАРП, 202/XVI-2, k. 5. Не больш праўды было і ў абвінавачаннях беларускіх апазіцыянераў, паводле якіх Іваноўскі быў «польскім агентам», які дзейнічаў на шкоду беларускаму народу // Галяк Л. Успаміны. [ЗША], 1982. Т. 2. С. 62.

307. Спецыяльны рапарт ГК АК «Беларуская справа», ЦА ЦК ПАРП, 202/III-201, k. 105.

308. Развіццё гэтых перагавораў аўтар прадставіў у артыкуле «Беларускае пытанне ў палітыцы лонданскага ўрада 1941—1944» // Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej, t. XIX, Ossolineum, 1983, s. 131.

309. Рапарт «Кшыштафа» ад 23.11.1942, ЦА ЦК ПАРП, 202/II-22, k. 116.

**Напярэдадні татальнай катастрофы**

1. Madajczyk C. Faszyzm i okupacje 1938—1945. Wykonywanie okupacji przez państwa Osi w Europie, t. I. Poznań, 1983. s. 617.

2. Dallin A. German Rule in Russia 1941—1945. A study of occupation policies. London, 1957, s. 582—583.

3. У канцы 1943 г. шляхам мабілізацыі павялічылі свае сілы эстонскія і латышскія атрады СС, было збольшага ўжо скончана фарміраванне ўкраінскай дывізіі СС у Галіцыі. Затое ў выніку супрацьўлення мабілізацыі не ўдалася спроба стварэння літоўскага атрада СС, з цяжкасцю пасоўвалася справа фарміравання паліцэйскіх батальёнаў на Беларусі.

4. Ліст Гімлера да Розэнберга ад 19.11.1941, AAN, mf. aleks., T-454, R. 29/1182. Пісьмо датычыцца кампетэнцыі HSSPF на акупіраваных усходніх абшарах.

5. «Deutsche Zeitung im Ostland», 26.9.1943.

6. Ліст Бэргера да Гімлера ад 19.10.1943. // Trials of War Criminals before the Nuernberg Military Tribunals, Washington, vol. XIII, 1952, p. 530.

7. Dallin, p. 221.

8. Да канца акупацыі Беларусі ён падпісваўся як в. а. генеральнага камісара // «Amtsblatt des Generalkommissars für Weissruthenien», 1944.

9. Тэлеграма Готбэрга ў OMi ад 15.2.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 31/052; Рашэнне Гітлера. Тамсама. R. 31/055.



10. Erlass des Führers über die Ausgliederung des GB Weissruthenien aus dem Reichskomissariat Ostland, 1.4.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/519.

11. Kleist P. Zwischen Hitler und Stalin 1939—1945, Bonn, 1950, S. 175.

12. Мачульский Р. Вечный огонь. Мн., 1965. С. 325.

13. Паведамленне Калубовіча, зробленае для аўтара 14.3.1979; Унутраная запіска OMi (ад Лябса — Альвёрдэну) ад 1.11.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/479.

14. Miesięczny przegląd sprawozdawczo-sytuacyjny z 30.11.1943, ЦА ЦК ПАРП, 202/II-8, k. 82.

15. Справаздача прадстаўніка ўрада ў Віленскай акрузе за кастрычнік 1943 г. Тамсама, 202/II-49, к. 310.

16. Справаздача камісара Слонімскай акругі ад 10.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/334.

17. Нататка Браўтыгама да Бэргера ад 25.10.1943 г. і іншыя лісты па гэтым пытанні, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/502—506.

18. Ліст Бэргера да Гімлера ад 19.10.1943. // Trials of Criminals.., vol. XIII, 1952, p. 530—531.

19. Справаздача Лябса аб перагаворах, якія вяліся з Готбэргам 22—23.11.1943 г., у OMi ад 6.12.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 23/484.

20. Müller, S. 171; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel deutscher Kampfanweisungen und Befehle. Göttingen-Zürich-Frankfurt, 1969, S. 244.

21. Дэкрэт Розэнберга ад 2.3.1944. // «Amtsblatt des RMfdbO», 4.3.1944, № 3.

22. Для Готбэрга працэс фарміравання гэтых батальёнаў быў павучальны. Стварэнне першага батальёна № 49 Шымана распачаў яшчэ ў жніўні 1942 г. на Міншчыне. Нямецкія камандзіры набіралі туды людзей пад прымусам і абыходзіліся з імі жорстка, нават білі. Пры гэтым навабранцаў апранулі ў непапулярныя паліцэйскія мундзіры. Падчас падрыхтоўкі часта здараліся выпадкі дэзерцірства, так што толькі ў красавіку 1943 г. нарэшце завяршылася фарміраванне гэтага батальёна, а ў маі яго ў складзе 300 чалавек перадалі ў распараджэнне Готбэрга. Батальён, у прынцыпе, займаўся вартаўніцтвам, радзей яго выкарыстоўвалі для барацьбы з партызанамі. Другое фарміраванне — беларускі спецыяльны батальён № 13*, арганізаваны на пачатку 1943 г. паліцыяй бяспекі ў Мінску з прапагандысцка-вярбоўчай дапамогай беларускіх дзеячаў. Ён атрымаў лепшае забеспячэнне, шэра-зялёную уніформу Waffen-SS з бел-чырвона-белай павязкай на рукаве і ў значнай ступені знаходзіўся пад камандаваннем беларусаў. І гэта прынесла поспех: летам 1943 г. батальён удзельнічаў у антыпартызанскіх акцыях, аднак дэзерцірства ў яго шэрагах не было. Восенню 1943 г. батальён быў пераведзены ў Вілейку ў складзе трох рот, дзе налічвалася каля 1000 чалавек // Кушаль Ф. Спробы арганізацыі беларускага войска пры нямецкай акупацыі Беларусі.— Машынапіс, які захоўваецца ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. С. 11, 38.

23. Польскі паліцэйскі батальён № 202 у сярэдзіне 1942 г. кватараваў у Барысаве // HSSPF RM u WR, Kräfteübersichten vom 1.5.1943, AAN, mf. aleks., T-175, R. 225/2764107; Madajczyk, t. II, s. 360.

24. «Раніца». 19.9.1943; 17.10.1943.

25. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 14.

26. Акула К. Змагарныя дарогі. Таронта — Мюнхэн, 1962. С. 28.

27. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 15. Ацэнку Кушаля можна прызнаць за кампетэнтную: у жніўні 1943 г. Готбэрг прызначыў яго на пасаду гаўптбэтраўэра (галоўнага апекуна) усёй беларускай паліцыі.— Гл.: Тамсама. С. 46, 47.

28. Нататка шэфа паліцыі парадку ад 1.2.1944, AGKBZH, M 445, T-175, R. 7/2510290.

29. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 13—14; «Раніца». 19.9.1943.

30. Загад HSSPF RM u. WR ад 19.10.1943, AAN, mf. aleks., T-454, R. 88/441.

* Паводле архіўных крыніц, на красавік — май 1943 г. ён не значыцца. Відаць, гаворка ідзе аб паліцэйскім палку СС, які,па звестках на 15 мая 1943 г.,падпарадкоўваўся вышэйшаму начальніку СС і паліцыі Расіі «Цэнтр» і Беларусі.— *А. Л.*

для германскага фронту. Паводле данясенняў Лёзэ, колькасць выбухаў на беларускай чыгунцы ад сакавіка па верасень 1942 г. павялічылася з 25 да 695, адпаведна ўзрасла лічба знішчаных лакаматываў і вагонаў (гл. табліцу 8) (25). Дыверсіі на чыгунцы працягваліся да канца акупацыі, іншы раз гэта былі акцыі ўсебеларускага маштабу, якія каардынаваў партызанскі штаб. Адна з іх — т. зв. «Рэйкавая вайна» — доўжылася ад пачатку жніўня да сярэдзіны верасня 1943 г., у выніку гэтай аперацыі было знішчана больш за 121 тыс. чыгуначных рэек, вялікая колькасць паравозаў, вагонаў і іншых транспартных сродкаў (26).

**Табліца 8. Вынікі партызанскіх дыверсій на Беларусі ў 1942 г.**

| Месяц | Выбухі на чыгунцы | Колькасць знішчаных | |
|---|---|---|---|
| | | паравозаў | вагонаў |
| люты | 6 | 5 | 38 |
| сакавік | 25 | 5 | 37 |
| красавік | 65 | 13 | 45 |
| май | 145 | 20 | 85 |
| чэрвень | 262 | 62 | 238 |
| ліпень | 398 | 107 | 430 |
| жнівень | 539 | 153 | 348 |
| верасень | 695 | 184 | 636 |

*Крыніца:* Рапарт Бергера ад 22.10.1942 г., AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т-175, ролік 129/2655182.

Чыгуначныя дыверсіі прыносілі немцам значныя матэрыяльныя страты, збівалі з раскладу цягнікі. Тым не менш вынікі гэтых аперацый ацэньваліся па-рознаму. Савецкія аўтары ім надаюць вялікае значэнне. Паводле іх даных, з чэрвеня 1941 па ліпень 1944 г. партызаны спусцілі пад адкос 11 128 транспартаў і 34 бронецягнікі, разграмілі 29 чыгуначных станцый, знішчылі звыш 18,7 тыс. аўтамабіляў, 819 чыгуначных мастоў і больш за 300 тыс. дарожных рэек (27). У сваю чаргу нямецкія крыніцы не былі схільныя да перабольшанняў. Улетку 1942 г., калі хваля дыверсій дасягала найвышэйшага ўзроўню, немцы ацэньвалі іх вынікі як «у большасці выпадкаў нязначныя» і хутка іх ліквідавалі (28). Гімлер не пераацэньваў вынікаў гэтых акцый і ў кастрычніку 1943 г., адзначаючы, што яны, галоўным чынам, крыху замаруджвалі франтавыя пастаўкі (29). Трэба заўважыць, што з вясны 1942 да восені 1943 г. самыя буйныя вайсковыя аперацыі ішлі на поўдні, таму франтавыя пастаўкі цераз Беларусь не мелі для Германіі першараднага значэння.

Магчыма, што аслабленне ваенных аперацый, якое даволі доўга працягвалася на цэнтральным адрэзку фронту, пабудзіла партызан да асабліва актыўных выступленняў супраць гаспадарчых і палі-



тычных захадаў акупацыйных улад. Зыходным пунктам гэтых выступленняў стала барацьба з мясцовай адміністрацыяй, створанай немцамі. Спашлёмся на рапарт Цэнтральнага штаба партызанскага руху ад 9.12.1942 г., дзе гэтая задача стаіць на першым месцы сярод усіх астатніх у дзейнасці партызанскіх атрадаў на Беларусі (30). Пагэтаму ўвесну 1942 г. пачаліся напады партызан не толькі на вайсковыя, але і на гаспадарчыя аб'екты, а таксама на валасныя ўправы, пры гэтым супрацоўнікі акупацыйных устаноў караліся смерцю як здраднікі і ворагі Савецкай Айчыны. Паводле сведчанняў Розэнберга на Нюрнбергскім працэсе, на Беларусі ад рук партызан загінула 500 «бургамістраў» разам з сем'ямі (31).

Пры такіх абставінах ужо ў чэрвені 1942 г. на Беларусі аказалася шмат раёнаў, дзе валасная ўлада перайшла да партызан. Неўзабаве пазіцыя нямецкіх улад пахіснулася яшчэ больш, так што пад канец 1942 г. партызаны трывала займалі абшар плошчаю 15 тыс. км$^2$ і кантралявалі амаль 50 тыс. км$^2$, г. зн. ледзь не 30 % тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым усё цяжэй і цяжэй было спаганяць з насельніцтва харчовыя пастаўкі, шмат у якіх раёнах даводзілася рэквізаваць іх з дапамогаю войска і паліцыі. Лясныя атрады найчасцей нападалі на зямельныя маёнткі. І калі ў маі 1942 г. на ўсім абшары Генеральнага камісарыята Беларусі іх налічвалася 965, дык ужо пад канец года заставалася толькі 312 — рэшту спалілі, зліквідавалі або занялі партызаны. Разам з гэтым было знішчана шмат лесапільняў, малочных заводаў і іншых малых прадпрыемстваў.

Аднак лягчэй было паліць маёнткі або забіваць безабаронных старастаў, чым схіліць сялянства да масавага выступлення супраць акупантаў: тыя хоць і не спяшаліся з палітычнымі дэкларацыямі (вяскоўцаў гэта не вельмі турбавала), аднак, нягледзячы на цяжкія рэквізіцыі, ішлі сялянам насустрач у эканамічнай галіне. Немцы пагадзіліся з самароспускам калгасаў у Заходняй Беларусі, а вясною 1942 г. правялі іх парцэляцыю і ва ўсходніх раёнах (32). Насуперак савецкай прапагандзе, сялянства падтрымала гэтую акцыю — яна ўзбудзіла іх гаспадарчую актыўнасць і паўплывала на рэалізацыю абавязковых паставак, нягледзячы на цяжкасці, якія стваралі партызаны. У лютым 1943 г. Кубэ паведамляў, што на падлеглым яму абшары Беларусі, у тым ліку і ў мясцовасцях, дзе існавала партызанская пагроза, сяляне выконваюць свае абавязкі амаль на 70 % (33). Адносіны вёскі да акупацыйных улад выраталі, такім чынам, да ўзроўню першараднай палітычна-гаспадарчай праблемы. Удзел беларускай інтэлігенцыі ў арганізацыі школьніцтва, самапомачы або ўзнаўленні культурнай дзейнасці таксама трактаваўся як здрада Савецкай Айчыне.

Сутнасць праблемы зводзілася не толькі да памераў харчовых паставак або адкрыцця вясковай школкі. Барацьба вялася за тое, каб прыцягнуць насельніцтва на савецкі бок «другога фронту», які

31. Справаздача Лябса аб перагаворах з Готбэргам 22—23.11.1943...
32. Hesse, S. 234.
33. Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/110.
34. Справаздача камісара Глыбоцкай акругі ад 16.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/287.
35. Справаздача камісара Баранавіцкай акругі ад 11.8.1944...
36. Pilch A. Powstanie i dzieje polskiego oddziału partyzanskiego w obwodzie słupiec-kim. // «Spotkania» (Paryż) 1984, № 21—22, s. 78.
37. Świda J. Wyjaśnienia dotyczące okresu 1943/1944 roku. // «Zeszyty Historyczne», 1985, № 73, s. 76—78.
38. Pilch, op. cit.; Świda, op. cit.
39. Паведамленне з акругі АК «Гжыбы» ад 12.2.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/II-49, k. 10.
40. Пратакол перагавораў з Готбэргам у OMi ад 1.3.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 31/003.
41. Тамсама.
42. Загад Готбэрга наконт стварэння БКА ад 23.2.1944, AGKBZH, mf. aleks., T-175, R. 7/2508453.
43. Паведамленне акругі АК «Гжыбы» ад 12.2.1944...
44. Siemaszko Z. S. Rozmowy z Wehrmachtem w Wilnie. Luty 1944. // «Zeszyty Historyczne», 1984, № 69, s. 105, 108.
45. Тамсама. С. 120—121; Erdman J. Droga do Ostrej Bramy. Londyn, 1984, s. 245.
46. Mackiewicz J. Nie trzeba głośno mówić. Paryż, 1969, s. 327.
47. Справаздача аб становішчы ў Навагрудскім ваяводстве за перыяд з 1.2. да 1.4.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/II-73, k. 47—48.
48. Prawdzic-Szlaski J. Nowogródczyzna w walce 1940—1945. Londyn, 1976, s. 140, 192.
49. Справаздача камісара Лідскай акругі ад 15.8.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/162.
50. Pilch, S. 80.
51. Палажэнне ў Лідскай акрузе Генеральнага камісарыята Беларусі // «Летапіс» (Нью-Йорк). 1985. № 28. С. 91.
52. Korab-Żebryk R. Operacja wileńska AK. Warszawa, 1985, s. 162—163.
53. Ліст Мэера да Лёзэ ад 12.4.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/040.
54. Гэтая акруга была створана ў лютым 1944 г. Яна не падлягала ўладзе акруговых камісарыятаў у Навагрудку і Слоніме, а падпарадкоўвалася Камінскаму.— Гл. распараджэнні Готбэрга ад 23.2. і 30.3.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 17/321—323.
55. Turonek J. Geneza i dzialalność Bialoruskiej Gentralnej Rady (grudzień 1943 — czerwiec 1944). // Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej. // t. XXI, Ossolineum, 1985, s. 99.
56. Справаздача Лябса аб перагаворах з Готбэргам 22—23.11.1943...
57. Жыццё і дзейнасць праф. Вацлава Івануўскага. Дыскусія на пасяджэнні Сенацкай Камісіі Гісторыі і Традыцыі Варшаўскага палітэхнічнага інстытута (інфармацыя Анны Івануўскай-Карнецкай), Archiwum Pracowni II wojny światowej Instytutu Historii PAN, A 772/85.
58. Кушаль Ф. У дваццатыя ўгодкі ганебнага чыну (Да забойства праф. Іваноўскага) // «Беларус». Жнівень 1964.
59. Справаздача Лябса аб перагаворах з Готбэргам 22—23.11.1943...
60. Малецкі Я. Пад знакам Пагоні. С. 118—119; Другі ўсебеларускі кангрэс. Мюнхен, 1954. С. 93.
61. «Раніца». 9.1.1944.
62. Тамсама.
63. Тамсама.
64. Тамсама.



65. Тамсама. 23.1.— 20.2.1944. Гэтыя мітынгі адбываліся паводле [illegible] чанага сцэнарыя, пра што сведчаць цалкам аднолькавыя рэзалюцыі, [illegible] іх удзельнікамі.
66. «Раніца». 30.1.1944.
67. Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. [illegible]
68. Пастарскае пасланне мітрапаліта Мінскага і ўсяе Беларусі // [illegible] 23.1.1944.
69. Тамсама. 6.2.1944.
70. За дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Лондан, 1960. С. 85.
71. Загад Готбэрга аб утварэнні БКА ад 23.2.1944, AGKBZH, mf. aleks., [illegible] R. 7/2508453.
72. «Раніца». 19.3.1944, «Ostland» (Riga), April 1944, № 10.
73. За дзяржаўную незалежнасць... С. 86, 88.
74. Справаздача аб перагаворах з Готбэргам у OMi 1.3.1944 ад 10.3.1944, [illegible] mf. aleks., T-454, R. 31/003.
75. Справаздача камісара Мінскай акругі ад 23.3.1944, AAN, mf. aleks., [illegible] R. 27/1426; Малецкі Я. С. 131, 151, 153.
76. Turonek, Geneza i dzialalnosć BCR...
77. Справаздача аб перагаворах з Готбэргам 1.3.1944...
78. Асабовы склад брыгады Камінскага мусіў налічваць каля 7 тыс. [illegible] а казацкіх і каўказскіх атрадаў — 2—3 тыс. Два казацкія батальёны былі сфарм[illegible] ваны ў Навагрудскай акрузе, а два каўказскія — у Слонімскай // Загад Готбэрга [illegible] 15.3.1944, AGKBZH, mf. aleks., T-175, R. 7/2508449.
79. Тэлеграма Готбэрга Розэнбергу ад 17.3.1944, AAN, mf. aleks., T-45[illegible] R. 21/522.
80. Справаздача Готбэрга ад 18.4.1944 г.; Справаздача камісара Мінскай акруг[illegible] ад 25.3.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 27/1426.
81. Справаздача камісара Навагрудскай акругі ад 22.3.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 27/1410.
82. Справаздача камісара Слонімскай акругі ад 16.3.1944; Тамсама, R. 27/1381.
83. За дзяржаўную незалежнасць... С. 98.
84. Ліст дэлегатуры лонданскага ўрада ад 6.5.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/II-49, k. 244.
85. Рапарт «Лавіны» № 5 ад 19.4.1944. // Armia Krajowa w dokumentach, t. III, Londyn, 1976, s. 417.
86. Тэлеграма Готбэрга Розэнбергу ад 17.3.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 21/522.
87. Тэлеграма Готбэрга ў OMi ад 16.4.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 25/310; Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 29.
88. За дзяржаўную незалежнасць... С. 107.
89. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 26.
90. За дзяржаўную незалежнасць... С. 107—108.
91. Другі ўсебеларускі кангрэс... С. 9, 39.
92. Тамсама. С. 67.
93. Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 167.
94. Мемарыял Лябса «Die Verwaltung der besetzten Ostgebiete» ад 26.6.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 24/342.
95. Кушаль Ф. Спробы арганізацыі... С. 18.
96. Тамсама. С. 28—29.
97. Справаздача Бэкера ад 27.7.1944, AAN, mf. aleks., T-454, R. 102/226.
98. Больш падрабязна пра гэта гл.: Turonek J. Kwestia białoruska w polityce obozu londyńskiego (1941—1944). // Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej, t. XIX, Ossolineum, 1983, s. 131.
99. «Раніца». 30.1.1944.
100. Miesieczna Informacja Narodowościowa z 20.5.1944, ЦА ЦК ПАРП, 202/III-125, k. 3.
101. Рапарт «Савецкая Беларусь напачатку 1944 г.» // ЦА ЦК ПАРП,

памалу распаўсюджваўся на ўсе галіны акупацыйнага жыцця. Пагэтаму партызаны асабліва востра праследавалі ініцыятараў і ўдзельнікаў гэтага жыцця, якое часова выйшла з-пад кантролю савецкай улады. На думку партызан і, напэўна, савецкага кіраўніцтва за лініяй фронту, гэтыя людзі з'яўляліся здраднікамі і прадстаўлялі большую палітычную небяспеку, чым самі немцы, і таму галоўны ўдар павінен быць скіраваны супраць іх (34). Невыпадкова савецкія партызаны прыкладалі значныя намаганні, каб вывесці насельніцтва на шлях актыўнай барацьбы з немцамі або схіліць людзей да ўцёкаў у лясы, пад сваю ахову.

Для гэтага выкарыстоўваліся самыя разнастайныя сродкі, адным з іх была прапаганда. З пачаткам 1942 г. у савецкім тыле пачала дзейнічаць радыёстанцыя «Савецкая Беларусь», паветраным шляхам і праз «Віцебскія вароты» дастаўлялася шмат літаратуры і газет, прычым некаторыя з іх выдаваліся спецыяльна для насельніцтва акупаванай Беларусі. У сярэдзіне 1942 г. выйшлі першыя газеты, якія выдаваліся падпольшчыкамі і партызанамі. Іх колькасць хутка расла і пад канец 1943 г. дасягнула 140 найменняў, з іх 65 друкавалася па-беларуску (35). Савецкая прапаганда выкарыстоўвала маўчанне нямецкіх улад наконт будучыні акупаваных усходніх абшараў і даказвала, што германская палітыка скіравана на тое, каб заняволіць савецкія народы, знішчыць іх нацыянальную самабытнасць і *цалкам ператварыць у нявольнікаў нямецкіх феадалаў**. Зямельную рэформу называлі ашуканствам, бо сяляне не атрымалі паралельнага права ўласнасці (36).

Важную ролю адыгрывала і вусная партызанская прапаганда, у яе ў запасе таксама быў не адзін прыём. Распаўсюджваліся, напрыклад, чуткі, быццам бы не толькі немцы, але і Сталін праводзіць палітыку дэкалектывізацыі і пакідае сялянам права паводле сваёй ахвоты выходзіць з калгасаў альбо быццам бы партызаны ваююць не за Сталіна, а за новы лад у СССР (37). Царква таксама была далучана да прапагандысцкага арсеналу. Паводле нямецкага паліцэйскага данясення, партызаны ў зонах свайго кантролю праводзяць яўна спрыяльную для царквы палітыку, дазваляюць адкрываць цэрквы, запрашаць святароў і ставіць крыжы. У рапарце гаварылася далей, што ў адну нованадчыненую царкву прыбыў партызанскі атрад, і яго камандзір укленчыў перад святаром і «маліўся так»:

«У імя Айца і Сына і Святога Духа! Браты і сёстры! Бог ёсць і будзе! Мы былі часова затуманеныя, таму што пагарджалі Богам. Богу належыць маліцца. Маліцеся за нас і за ўсіх байцоў і партызанаў. Амін» (38).

* Прапаганда выкарыстоўвала не столькі маўчанне наконт будучыні, колькі тое, што рабілі немцы і іх хаўруснікі з першых дзён акупацыі. Ад народа нельга было схаваць сапраўдныя намеры акупацыі.— *А. Л.*



Але і афіцыйная прапаганда, і партызанскія прыёмы, хаця і заходзілі ў сваім двудушшы далей за нямецкія*, мелі ўсё ж абмежаванае практычнае значэнне, асабліва ў раёнах, якія кантраляваліся немцамі. Пагэтаму даводзілася карыстацца не толькі пернікам, але і бізуном. Партызанскія лістоўкі пагражалі смерцю як самім паліцыянтам, так і іх сем'ям (39). Смерцю пагражалі і сялянам за пастаўку немцам сена, жыта ці іншай сельгаспрадукцыі (40). Гэтыя пагрозы праводзіліся ў жыццё, каб застрашыць насельніцтва. Пагэтаму гінулі не толькі супрацоўнікі мясцовай адміністрацыі, але і сяляне, настаўнікі, дзеячы БНС і іншыя. Так, напрыклад, у Слонімскай акрузе з красавіка па лістапад 1942 г. ад рук партызан загінула 1024 асобы і 272 было паранена. Сярод забітых немцы, мясцовыя паліцыянты, беларускія, літоўскія і ўкраінскія салдаты складалі няпоўных 20 %, тады як цывільнае насельніцтва, галоўным чынам сяляне і супрацоўнікі адміністрацыі,— больш за 80 % (гл. табліцу 9). Пра частыя забойствы сярод цывільных людзей — сялян, настаўнікаў і службоўцаў — паведамляў і акруговы баранавіцкі камісар (41). У Вілейскай акрузе да 25.2.1943 г. было забіта 815 чалавек, з іх 106 — старастаў, валасных чыноўнікаў і 500 іншых цывільных працаўнікоў і іх сямейнікаў, разам яны складалі 75 % ад агульных людскіх страт (42). Дапушчальна, што і ў іншых беларускіх акругах панавала падобная сітуацыя.

**Табліца 9. Людскія страты, якія нанеслі партызаны ў Слонімскай акрузе з 1.04. па 30.11.1942 г.**

| | Забіта | | Паранена | |
|---|---|---|---|---|
| | чалавек | % | чалавек | % |
| Усяго | 1024 | 100,0 | 272 | 100,0 |
| сярод іх: | | | | |
| немцаў | 111 | 10,8 | 45 | 16,5 |
| мясцовых паліцыянтаў | 36 | 3,5 | 82 | 30,1 |
| салдат | | | | |
| — беларусаў* | 33 | 3,2 | 14 | 5,1 |
| — літоўцаў | 6 | 0,6 | 15 | 5,5 |
| — украінцаў | 15 | 1,5 | 9 | 3,3 |
| чыноўнікаў і супрацоўнікаў адміністрацыі | 140 | 13,7 | 19 | 7,0 |
| мясцовых жыхароў | 683 | 66,7 | 88 | 32,4 |

* Са Слонімскага батальёна Беларускай самаахновы, створанага летам 1942 г.

*Крыніца:* Ліст акруговага камісара ў Слоніме ў Генеральны камісарыят у Мінску ад 7.12.1942 (статыстычны дадатак), AAN, александрыйскія мікрафільмы, Т-454, ролік 30/644.

* У гады вайны адносіны афіцыйных савецкіх улад да рэлігійных канфесій былі некалькі іншыя, чым у даваенны час.— *А. Л.*

Дыверсійная, прапагандысцкая і тэрарыстычная дзейнасць партызан імгненна аказала ўплыў на паводзіны насельніцтва. Ужо ў чэрвені 1942 г. у паліцэйскім рапарце паведамлялася, што ў раёнах, якія знаходзіліся ў руках або пад кантролем партызан, гатоўнасць насельніцтва да супрацоўніцтва з немцамі значна паслабела. Так, напрыклад, забойства чатырох настаўнікаў з ваколіц Магілёва так уздзейнічала на астатніх калег, што яны вырашылі пакінуць школьную працу (43). У жніўні Лёзэ выказваў меркаванне, што такія паводзіны насельніцтва былі не праявай сімпатыі да партызаншчыны, а нараджаліся са страху перад расстрэлам і спальваннем маёмасці (44). На самай справе такая ацэнка толькі часткова адпавядала рэчаіснасці, бо тыя ж самыя нямецкія крыніцы часта адлюстроўвалі карэктнае стаўленне партызан да мясцовага жыхарства і імкненне пераканаць яго ў неабходнасці супольнага змагання супраць акупантаў (45).

Тым не менш, незалежна ад тых альбо іншых настрояў людзей, якія на пераважнай частцы беларускай тэрыторыі мусілі выконваць яшчэ і нямецкія распараджэнні, партызаны так альбо іначай здабывалі сабе ўсё большую павагу і паслушэнства. У такіх складаных умовах, калі ўлада змянялася часта, галоўным клопатам вяскоўцаў было захаванне жыцця і рэштак здабыткаў. Пагэтаму, у залежнасці ад сітуацыі, народ ішоў у партызанскія атрады і забяспечваў іх харчамі, фуражом, адзеннем і інш. Савецкія аўтары сцвярджаюць, што гэта рабілася цалкам па добрай волі. Прынцыпова не пярэчылі гэтаму і сучасныя нямецкія крыніцы, у іх рэдка натуюцца факты прымусовага ўступлення ў партызаны. Нельга, аднак, сцвярджаць адназначна, што гэта заўсёды рабілася добраахвотна.

Сілы савецкіх партызан на Беларусі пад канец 1942 г. налічвалі каля 50 тыс. добра ўзброеных людзей, якія кантралявалі амаль 30 % тэрыторыі краю і ўжо тады маглі наносіць акупантам значную шкоду. Напэўна, такой колькасці людзей было дастаткова, каб выконваць планавыя заданні. Пра гэта сведчыць раней прыведзены факт, калі партызаны перапраўлялі для службы ў Чырвонай Арміі 20 тыс. мужчын, мабілізаваных на Віцебшчыне ўлетку 1942 г. Пагэтаму далейшае развіццё партызанскага руху і яго перарастанне ў т. зв. усенародную барацьбу з фашыстамі адлюстроўвала, галоўным чынам, палітычныя ўстаноўкі КП(б)Б, скіраваныя на тое, каб паглыбіць сярод беларускага насельніцтва адчуванне прысутнасці савецкай улады і яе магутнасць. Пры такіх абставінах пасля першага, даволі стыхійнага і не заўсёды дастаткова скаардынаванага парыву ў пачатку 1943 г. партызанская дзейнасць на Беларусі пачала прымаць больш рэгулярныя, планавыя формы. У прыватнасці, у атрадах пачалася барацьба за ўзмацненне дысцыпліны і выкараненне бандытызму і г. д. Важную ролю тут адыграла перамога Чырвонай Арміі пад Сталінградам, якая набліжала перспектыву вяртання савецкай улады.



Змянілася стаўленне да тэрарыстычнай дзейнасці партызан. З аднаго боку, яна ўтрымлівала насельніцтва ў страху і падпарадкаванні, *з другога — снараджала шмат нявінных ахвяр і пабуджала* людзей да справядлівай самаабароны. У канцы лютага 1943 г. ЦК КП(б)Б, урад і Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдалі адозву пад назваю: «Старастам, паліцыянтам і чыноўнікам гарадскіх упраў і камендатур, усім тым, хто быў ашуканы нямецкімі акупантамі, хто са страху служыць ворагу». Улады рэспублікі звярталіся да іх з заклікам да супрацоўніцтва з партызанамі і абяцалі за гэта прабачэнне (46). Аднак на самай справе такое рашэнне савецкіх улад, якое адмяняла ранейшыя, пераважна злачынныя, практыкі расстрэлаў старастаў, сялян ці настаўнікаў, было прынята раней, прыкладна — пад канец снежня 1942 г. Пра гэта сведчыць данясенне нямецкай паліцыі ад 8.1.1943 г.— напісана яно з дакладнасцю, якая гаворыць пра неблагую агентурную працу ў партызанскіх атрадах:

«Паводле ўяўнай дырэктывы з Масквы, члены бандаў* павінны цяпер лагодна абыходзіцца з цывільным насельніцтвам. Бургамістраў і раённых кіраўнікоў, а таксама членаў мясцовых ахоўных атрадаў болей не павінны расстрэльваць, але, перш за ўсё, перапраўляць іх у бандыцкія лагеры на допыты і разборы. У лагерах арыштантаў будуць намаўляць да супрацоўніцтва. У выпадку згоды іх павінны адпусціць на волю, на месца свайго пасялення, з адпаведнымі заданнямі» (47).

Змена адносін да нядаўніх «здраднікаў Савецкай Айчыны» была цесна звязана з імкненнем улад БССР надаць партызанскай барацьбе «ўсенародны характар» — дзеля гэтага неабходна было, каб яна распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. А тым часам тут паранейшаму захоўвалася значная нераўнамернасць. Праўда, партызанскія атрады засылаліся з Усходняй Беларусі ў Заходнюю, паспяхова выконвалі свае заданні, але масавага наплыву тутэйшага жыхарства ў лясное войска да канца 1942 г. не назіралася. Паводле звестак Беларускага штаба партызанскага руху, на пачатку 1943 г. па ўсёй Беларусі налічвалася 56,7 тыс. партызан, пры гэтым у заходняй частцы рэспублікі, якая да 1939 г. знаходзілася пад Польшчай, іх было 11,1 тыс. чалавек (48). У пераліку на 10 тыс. жыхароў (прымаючы ва ўвагу ўмоўна даныя 1941 г.) тут выпадала 23 партызаны, у параўнанні з 86 — ва Усходняй Беларусі. Але на самай справе, калі ўлічыць вынікі эвакуацыі насельніцтва ў абедзвюх частках краю, гэты паказчык аказваўся на ўсходзе ў 5—6 разоў вышэй, чым на захадзе.

Такой вялікай разбежнасці нельга вытлумачыць выключна паводзінамі немцаў — паўсюдна на Беларусі яны, у прынцыпе, былі аднолькавыя. Не трэба пераацэньваць і рознасць грамадскай сі-

* У афіцыйных дакументах немцы называлі партызан бандытамі, а атрады — бандамі.— *А. Л.*

161. Звесткі аб стварэнні і дзейнасці БНП вельмі скупыя. Раманоўскі (Саўдзельнікі... С. 187) піша, што яна была створана па заданні «Абвэра». Магчыма, так яно і было, калі ўлічыць, што лідэр БНП Родзька з вясны 1941 г. супрацоўнічаў з «Абвэрам» і ўдзельнічаў у арганізаванай ім дыверсійнай аперацыі на Беларусі напярэдадні нападу Германіі на СССР. Пра сувязь БНП з «Абвэрам» сведчаць таксама і некаторыя эміграцыйныя крыніцы.— Гл.: «Беларускі голас», ліпень 1982. Затое радавыя члены БНП былі пераканаEны, што маюць дачыненне да сапраўднай канспіратыўнай арганізацыі.

162. Раманоўскі В. С. 188—192.

163. «Бюлетэнь Беларускай Незалежніцкай Партыі». № 3, 5, без даты. Мяркуючы па тэксту, № 3 выйшаў у жніўні 1944 г., а № 5 — у студзені 1945 г.

164. «Бюлетэнь БНП». № 3.

165. «Беларускі голас». Сакавік 1981.

166. За дзяржаўную незалежнасць... С. 175.

### Заключэнне

1. БелСЭ. Т. 12. С. 57.
2. Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 180—181.
3. БелСЭ. Т. 12. С. 160, 163.
4. Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. (1933—1945). Мн., 1985. С. 479.
5. «Голас Радзімы». 27.11.1986.
6. Народное хозяйство Белорусской ССР. Статистический сборник. М., 1957. С. 14.
7. БелСЭ. Т. 12. С. 315.
8. Преступления немецко-фашистских захватчиков в Белоруссии. 1941—1944. Мн., 1965. С. 423, 438.
9. Jura K. Monsinjoras. Brooklyn, 1979, p. 275.
10. Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях... С. 501.
11. Народное хозяйство СССР. Статистический ежегодник. М., 1966. С. 734; М., 1986. С. 536.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АК — Армія Краёва
БІП — Бюро інфармацыі і прапаганды Галоўнага камандавання АК
БКА — Беларуская краёвая абарона
БКС — Беларускі камітэт самапомачы
БНА — Беларускае народнае аб'яднанне
БНК — Беларускі нацыянальны камітэт
БНП — Беларуская незалежніцкая партыя
БНС — Беларуская народная самапомач
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНТ — Беларускае навуковае таварыства
БСА — Беларуская самаахова
БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка
БЦР — Беларуская цэнтральная рада
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
ГГ — Генеральная губерня
ГК АК — Галоўнае камандаванне Арміі Краёвай
ГПО — Генеральны план «Ост»
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
НСРПГ — Нацыянал-сацыялістычная рабочая партыя Германіі
ПБН — Партыя беларускіх нацыяналістаў
РННА — Руская нацыянальная народная армія
РОА (Русская освободительная армия) — Руская вызваленчая армія
СБМ — Саюз беларускай моладзі
СД — Служба бяспекі
СС — Ваенізаваныя ахоўныя атрады
УКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)
УКБ — Ударны кадравы батальён
ЦА ЦК ПАРП — Цэнтральны архіў Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі

туацыі на гэтых тэрыторыях. У Заходняй Беларусі тут, у пэўным сэнсе, былі нават лепшыя ўмовы для развіцця партызанскага руху, чым на ўсходзе. Восенню 1942 г. нямецкая служба бяспекі адзначала «нечаканыя сімпатыі» да партызан сярод заходнебеларускіх малазямельных сялян пасля скасавання савецкай аграрнай рэформы і аднаўлення на вёсцы класавых супярэчнасцей (49). Не зусім пераканаўча гучыць і сцвярджэнне савецкіх гісторыкаў наконт таго, што такая сітуацыя з партызанскім рухам у Заходняй Беларусі склалася, маўляў, з прычыны хуткай эвакуацыі савецкіх улад і нешматлікіх партыйных і камсамольскіх кадраў, што ўлетку 1941 г. стрымлівала арганізацыю падпольных структур. Ход падзей ва Усходняй Беларусі паказаў, што галоўным імпульсам у развіцці партызанскага руху на гэтай тэрыторыі былі рашэнні і дзеянні савецких улад вясною 1942 г.

Некаторыя важныя акалічнасці сведчаць аб тым, што ў гэты перыяд савецкія ўлады свядома ўстрымліваліся ад інтэнсіфікацыі партызанскага руху ў Заходняй Беларусі з увагі на адносіны з польскім эміграцыйным урадам генерала Сікорскага. На працягу 1942 г. на гэтых землях ішло развіццё польскага ўзброенага падполля, а ўжо ў другім паўгоддзі былі створаны першыя атрады Арміі Краёвай (50). І хаця польскія і савецкія ўлады ў аднолькавай ступені лічылі Заходнюю Беларусь за частку сваёй дзяржаўнай тэрыторыі, аднак мусілі прытрымлівацца міждзяржаўных дамоўленасцей, падпісаных у ліпені і снежні 1941 г., якія прадугледжвалі, між іншым, ваеннае супрацоўніцтва. Сітуацыя была складаная, і Галоўнае камандаванне АК, незалежна ад сваіх генеральных планаў і розных тактычных агаворак, загадала перайсці да цеснага супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі (51). Як паведамляў камандзір Навагрудскай акругі АК падпалкоўнік Януш Праўдзіц-Шляскі, у 1942 г. паміж прадстаўнікамі польскага і савецкага ўзброенага падполля былі праведзены перагаворы з мэтай наладзіць добрыя адносіны (52).

Можна дапусціць, што і савецкія ўлады былі зацікаўлены ў тым, каб здабыць сімпатыі палякаў. Пра гэта сведчаць не толькі прыгаданыя перагаворы з прадстаўнікамі польскага руху супраціўлення, але і цалкам адрознае стаўленне савецкіх партызан да беларускіх і польскіх жыхароў, што «супрацоўнічалі» з немцамі. У ліпені 1942 г. нямецкая служба бяспекі са здзіўленнем адзначала, што на тэрыторыі Беларусі ў час расстрэлаў бургамістраў, сялян, паліцыянтаў і інш. савецкія партызаны ашчаджаюць палякаў, вяртаюць ім адабраную жывёлу, а польскім каталіцкім ксяндзам дастаўляюць харчы (53). Пры такой атмасферы савецкія партызаны атрымлівалі часам дапамогу ад палякаў, сярод якіх былі і службоўцы мясцовай адміністрацыі (54). Аднак, думаецца, што горкі вопыт, набыты ў 1939—1941 гг., не спрыяў шырокаму распаўсюджванню ідэі такога супрацоўніцтва. Ды, зрэшты, у панараме тагачасных узаемаадносін



былі таксама і іншыя прыклады: здараліся забойствы колішніх уладальнікаў маёнткаў, якія цяпер лічыліся іхнімі адміністратарамі (55). Цяжка вызначыць, напэўна, што было прычынаю кожнага такога здарэння: загад партызанскага камандавання, помста мясцовых сялян або проста выпадковасць.

Засталося вельмі мала дэталяў тагачаснага супрацоўніцтва паміж польскім і савецкім узброеным падполлем у Заходняй Беларусі. Ні польскія, ні савецкія гісторыкі не удзялялі гэтай праблеме асаблівай увагі, ацэньваючы яе, галоўным чынам, праз прызму пазнейшай варожасці. Затое нямецкая разведка пільна сачыла за кантактамі польскага і савецкага супраціўлення (56). У студзені яна паведамляла, што кіраўнікі польскага падполля пачалі тлумачыць сваім мясцовым суродзічам, што трэба ісці на супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі, бо з СССР заключана пагадненне, паводле якога Польшча будзе адроджана пасля вайны ў давераснёўскім абшары (57). У ліпені адзначалася, што збліжэнне польскага і савецкага руху супраціўлення расце «з дня на дзень» у арганізацыйнай і аператыўнай галіне (58). Паводле сведчанняў Праўдзіца-Шляскага, такія супольныя партызанскія аперацыі былі рэдкасцю, апошняя з іх — напад на пост жандармерыі ў Жалудку — адбылася вясною 1943 г. (59).

Але пасля таго як у красавіку 1943 г. савецкае кіраўніцтва парвала сувязі з польскім эміграцыйным урадам, адносіны ў падполлі рэзка змяніліся. Дагэтуль «саюзніцкая» Армія Краёва раптам ператварылася ў «прафашысцкую арганізацыю Сікорскага». Цяпер савецкае падполле імкнулася супрацьпаставіць ёй «нацыянальны, дэмакратычны характар польскага партызанскага руху, што развіваўся ў цесным супрацоўніцтве з дзейнасцю савецкіх партызан» (60). Прадстаўніком гэтага руху павінна была стаць створаная ў маі 1943 г. падпольным абкомам КП(б)Б у Баранавічах невялікая спецгрупа на чале з А. Свентажэцкім (61). 22.6.1943 г. праблема агульнага развіцця партызанскага руху ў Заходняй Беларусі разглядалася на пленуме ЦК КП(б) Беларусі. Была прынята адпаведная рэзалюцыя, а для падпольных партыйных арганізацый высланы ліст «Аб ваенна-палітычных задачах працы ў заходніх абласцях БССР». У ім былі сфармуляваны наступныя вызначэнні:

«1. Заходнія вобласці Савецкай Беларусі з'яўляюцца неад'емнай часткай беларускай рэспублікі. На яе тэрыторыі, акупіраванай Германіяй, дазваляецца дзейнасць толькі тых груп, арганізацый і атрадаў, якія кіруюцца інтарэсамі СССР;

2. Існаванне разнастайных арганізацый, якімі кіруюць польскія буржуазна-нацыяналістычныя цэнтры, трэба разглядаць як незаконнае ўмяшальніцтва ў інтарэсы нашай айчыны;

3. Нашай найпершай задачай з'яўляецца як мага шырэйшае развіццё савецкага партызанскага руху, далучэнне да яго ўсіх слаёў

AAN — Архіў новых актаў у Варшаве
AGKBZH — Архіў галоўнай камісіі па даследаванні гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы
ATW — Амерыканскі ваенны трыбунал
HJ — Гітлерюгенд
HSSPF (Höherer SS-und Polizeiführer) — Вышэйшы начальнік СС і паліцыі
HSSPF RM u WR (Höherer SS- und Polizeiführer Russland-Mitte und Weissruthenien) — Вышэйшы начальнік СС і паліцыі Цэнтральнай Расіі і Беларусі
OKH — Галоўнае камандаванне сухапутных войск
OMi — Нямецкае міністэрства ўсходніх абшараў
OT — Ваенна-будаўнічая арганізацыя Тодта
RFSS (Reichsführer SS) — Рэйхсфюрэр СС
RKO — Рэйхскамісарыят Остлянд
RKU — Рэйхскамісарыят Украіны
RMfdbO (Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete) — Нямецкае міністэрства ўсходніх абшараў
RSHA (Reichssicherheitshauptamt) — Галоўнае ўпраўленне бяспекі Рэйха
SSPF (SS- und Polizeiführer) — Начальнік СС і паліцыі
ZWZ (Zwiazek Walki Zbrojnej) — Саюз узброенай барацьбы

## ЗМЕСТ

насельніцтва, у тым ліку і палякаў. Атрады і групы, створаныя польскімі рэакцыйнымі нацыяналістычнымі коламі, неабходна ізаляваць ад насельніцтва шляхам стварэння сярод польскіх працоўных савецкіх атрадаў і партызанскіх груп;

4. Неабходна ўсялякімі сродкамі весці барацьбу супраць польскіх буржуазна-нацыяналістычных атрадаў і груп» (62).

У адпаведнасці з ранiэннем ЦК КП(б)Б неўзабаве з Усходняй Беларусі ў Заходнюю перамясцілася 9 партызанскіх брыгад, 10 атрадаў і 15 арганізацыйных груп, якія павінны былі актывізаваць партызанскі рух у гэтай частцы рэспублікі (63). Між іншым, у Баранавіцкую і Беластоцкую вобласці меркавалася перакінуць 40 атрадаў — па адным на кожны раён*. У іх склад абавязкова павінна было быць уключана па некалькі аддапых палякаў і беларусаў, што ведалі польскую мову» (64). На базе гэтых засланых атрадаў была створана сетка падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый. Так, напрыклад, калі яшчэ ў снежні 1942 г. у Заходняй Беларусі існавала толькі 10 падпольных райкамаў камсамола, дык пад канец 1943 г. іх колькасць павялічылася да 87 (65). Значна пашырылася прапагандысцкая дзейнасць, распачалося, між іншым, выданне 14 новых падпольных газет, з іх 4 — па польскай мове (66).

У выніку пасля ўсіх гэтых захадаў савецкіх улад асабовы склад партызанскіх атрадаў у Заходняй Беларусі павялічыўся на працягу 1943 г. з 11,1 тыс. да 36,8 тыс. чалавек (67), прычым самы хуткі яго рост назіраўся ў другім паўгоддзі. Прыблізна палова з гэтых людзей прыбыла з партызанскіх фарміраванняў, раней размешчаных ва Усходняй Беларусі, пасля вярбоўкі сярод мясцовага насельніцтва іх лічба падвоілася. Прыведзеныя факты, несумненна, сведчаць, што развіццё партызанскага руху на гэтым абшары было звязана з імкненнем савецкіх улад забяспечыць свае палітычныя інтарэсы ў Заходняй Беларусі. Апрача агульных для ўсёй тэрыторыі краю вайсковых, гаспадарчых і палітычных задач савецкія партызаны ў заходніх абласцях павінны былі яшчэ весці барацьбу супраць польскага падполля. Кіраўніцтва гэтага падполля ў адказ распачало з лета 1943 г. умацаванне старых і стварэнне новых атрадаў АК. А ўжо з восені 1943 г. адбываліся даволі частыя ўзброеныя сутычкі. Частка з іх была вынікам загаду Панамарэнкі пра абяззбройванне атрадаў АК (68).

Антыакоўская барацьба была не адзіным матывам у развіцці савецкага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі, пра гэта сведчыць далейшы буйны яго рост па ўсёй тэрыторыі краю. Гэтаму спрыяла перамога пад Сталінградам і контрнаступленне Чырвонай Арміі на поўдні, а таксама ўжо прыгаданае раней абяцанне амністыі для тых, хто супрацоўнічаў з немцамі. Усе гэтыя фактары выкарысталі партызаны, так што ў выніку за 1943 г. павялічылася колькасць дэзерціраў, асабліва сярод паліцыянтаў і былых чырвонаармейцаў — членаў разнастайных вайсковых фарміраванняў, якія знаходзіліся на нямецкай службе. Між іншым, ужо восенню 1942 г. на бок партызан перайшла частка батальёна «Днепр», размешчанага ва Усходняй Беларусі; у лютым 1943 г. гэты крок паўтарыў 900-асабовы батальён прыволжскіх татар на Віцебшчыне, у ліпені — рота т. зв. Рускай народнай арміі, а ў жніўні — 1-ая Руская нацыянальная брыгада СС пад камандаваннем Гіль-Радыёнава, у якой налічвалася больш за 2500 чалавек (69). Нягледзячы на шматлікія жорсткія злачынствы, учыненыя супраць беларускага насельніцтва, яна была перайменавана ў 1-ую Антыфашысцкую партызанскую брыгаду. У выніку за 1943 г. да партызан перайшло каля 12 тыс. чалавек з разнастайных антысавецкіх фарміраванняў, прычым пераважна ў складзе вялікіх груп (70). Адначасова з-за лініі фронту было перакінута больш за 1900 чалавек (71).

Аднак галоўнай крыніцай партызанскага папаўнення было мясцовае насельніцтва. Паводле статыстыкі Беларускага штаба партызанскага руху, на працягу 1943 г. у лясныя атрады ўступіла каля 60 тыс. жыхароў вёсак і гарадоў Усходняй Беларусі. Бясспрэчна, частка з гэтых людзей кіравалася ідэалагічнымі перакананнямі альбо страхавалася такім чынам на будучыню, да прыходу савецкай улады. Але вясковае насельніцтва, з якога ішло найбольшае папаўненне партызанскіх атрадаў, дзейнічала, у прынцыпе, з іншых меркаванняў. Гэтых людзей гнаў у лясы страх перад нямецкімі карнымі экспедыцыямі, якія асабліва ўзмацніліся ў 1943 г.: у партызанскіх зонах паліліся вёскі, жыхароў, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве зляснымі атрадамі, забівалі або вывозілі ў канцэнтрацыйныя лагеры ці на працу ў Нямеччыну. Нельга пагэтаму назваць адну пэўную матывіроўку паводзін вясковага насельніцтва — людзі часта далучаліся да партызан, каб захаваць жыццё (72).

**Табліца 10. Асабовы склад савецкіх партызанскіх атрадаў на Беларусі (тыс. чал.)**

| | Агулам | У тым ліку | |
|---|---|---|---|
| | | Усходняя Беларусь | Заходняя Беларусь |
| студзень 1943 | 56,7 | 45,6 | 11,1 |
| снежань 1943 | 153,5 | 116,7 | 36,8 |

*Крыніца:* Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. Мн., 1975. С. 285; БелСЭ. Т. 8. Мн., 1975. С. 264.

Так, на працягу 1943 г. асабовы склад савецкага партызанскага падполля на Беларусі павялічыўся ў 2,7 раза — да 153,5 тыс. чала-

* Так у аўтара. Па даных на 22.07.1941 г., у Баранавіцкай вобласці было 26 раёнаў, а ў Беластоцкай — 23.— *А. Л.*

Туронак Ю.

Т 88 Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Пер. з польскай В. Ждановіч. Каментарыі А. М. Літвіна.— Мн.: Беларусь, 1993.— 236 с., 8 л. іл.

ISBN 5-338-00960-9.

Туронак Ю. Беларусь под немецкой оккупацией.

Кніга напісана паводле доктарскай манаграфіі аўтара. Нягледзячы на сенсацыйнасць матэрыялу (падзеі нямецкай акупацыі), яна мае грунтоўныя навуковыя падставы. Юры Туронак адшукаў у архівах багаты фактычны матэрыял, які дадае шмат фарбаў у карціну пакутнага шляху Беларусі да сваёй незалежнасці, шляху пошукаў яе народам уласнай нацыянальнай свядомасці.

Упершыню кніга пад такой назвай выйшла ў 1989 годзе ў варшаўска-вроцлаўскім выдавецтве «Верс».

$$\text{Т}\ \frac{0503020903-024}{\text{М}\ 301(03)-93}\ 13-92$$

ББК 63.3(2Б)722

век (гл. табліцу 10), галоўным чынам за кошт мясцовага насельніцтва. Адпаведна павялічылася доля беларусаў у яго шэрагах — улетку 1943 г. яна дасягала 65,2 %. За гэты год пад сталым кантролем партызан апынулася 37,8 тыс. км² — у параўнанні з ранейшымі 15 тыс. км² — гэта было 17 % даваеннай тэрыторыі БССР. У Віцебскай, Палескай і Магілёўскай абласцях зона партызанскага кантролю ахоплівала ад 20 % да 25 %, а ў Мінскай і Пінскай дасягала $^1/_3$ іх абшару (73). У большасці сваёй гэта былі маладаступныя раёны — балоцістыя і лясістыя — з даволі нізкім (апрача дрэваздабычы) гаспадарчым значэннем. Яны сталі выгоднымі базамі для партызанскіх аперацый на гусцей заселеных тэрыторыях, якія, паводле разлікаў савецкіх вучоных, займалі плошчу каля 70 тыс. км². У суме, такім чынам, пад поўным або частковым кантролем партызан пад канец 1943 г. знаходзілася 108 тыс. км², г. зн. каля паловы тэрыторыі БССР (у межах 1941 г.) (74).

За гэтыя абшары, якія знаходзіліся паміж зонамі пастаяннага нямецкага і партызанскага кантролю, да канца акупацыі вялася бязлітасная барацьба. Яна пацягнула за сабой шматлікія ахвяры сярод цывільнага насельніцтва і вялікія матэрыяльныя страты.

## ДЗВЕ ЛІНІІ БЕРЛІНСКАЙ УСХОДНЯЙ ПАЛІТЫКІ

Паражэнне пад Масквой паказала, што на ўсходнім фронце баі зацягнуцца надоўга. Гэта прымусіла гітлераўскае камандаванне перагледзець шмат якія са сваіх прынцыпаў у вядзенні вайны. Найперш былі скасаваны распараджэнні наконт частковай дэмабілізацыі нямецкай эканомікі, выдадзеныя летам 1941 г. Замест гэтага прамысловасць Германіі і акупаваных краін скіроўвалася на як мага хутчэйшае павелічэнне і сталы выпуск ваеннай прадукцыі. Пры гэтым улічвалася выкарыстанне сыравінных, людскіх і сельскагаспадарчых рэсурсаў акупаванай часткі СССР, усё большае значэнне надавалася ахове дарожных шляхоў ад нападаў партызан у тыле ўсходняга фронту. Пры такой сітуацыі расло перакананне, што без падтрымкі мясцовых жыхароў рэалізаваць гэтыя планы не ўдасца, штораз часцей выказваліся патрабаванні спыніць ранейшае жорсткае абыходжанне з гэтым насельніцтвам. Гітлера намаўлялі абвясціць станоўчую палітычную праграму, якая дадала б ахвоты акупаваным народам СССР пайсці на больш цеснае супрацоўніцтва з Германіяй.

Неабходнасць заваяваць сімпатыі мясцовага насельніцтва раней за іншых усвядомілі нямецкія вайсковыя колы, у большасці з групы армій «Цэнтр». Ім найбольш выпала на сабе адчуць балючыя ўдары савецкага контрнаступлення. Менавіта ў гэтых колах зарадзіліся патрабаванні наконт таго, каб весці вайну пад палітычнымі лозунгамі, якія ўздзейнічалі б на мясцовае насельніцтва. Яны ж прапанавалі



стварэнне дапаможных вайсковых часцей з савецкіх ваеннапалонных і тутэйшых цывільных жыхароў. Фельдмаршал фон Бок выступіў з мемарыялам у гэтай справе, а фельдмаршал фон Браўхіч быў перакананы, што ад вырашэння гэтай праблемы залежыць лёс вайны. Генеральны кватэрмайстар Вермахта пісаў Розэнбергу 13.12. 1941 г., што ваенная сітуацыя вымагае таго, каб перацягнуць мясцовае насельніцтва на бок Германіі і выклікаць рэвалюцыйны антыбальшавіцкі рух. Падобную думку выказаў у сакавіку 1942 г. камандуючы тылам групы армій «Цэнтр» Шэнкендорф (75). Гэтыя імкненні вайскоўцаў знайшлі падтрымку ў часткі буйнейшых нямецкіх палітыкаў, якія бачылі, што гаспадарчыя, вайсковыя і палітычныя ўступкі могуць паспяхова дапамагчы ў выкарыстанні рэсурсаў акупаваных усходніх абшараў.

Аднак Гітлер паражэнне пад Масквой успрыняў як часовую няўдачу, ён разлічваў улетку 1942 г. на новы, пераможны наступ і таму не пагадзіўся з прадстаўленымі меркаваннямі. 14.12.1941 г. ён паведаміў Розэнбергу, што лічыць немэтазгодным ужо цяпер заклікаць іншыя народы да супрацоўніцтва, бо ў будучыні гэта дало б ім падставы для прад'яўлення адпаведных прэтэнзій (76). Такія погляды Гітлера грунтаваліся на перакананні ў расавай перавазе над усходнімі народамі — за іх кошт Германія павінна была пашырыць сваю жыццёвую прастору. Пачатковыя ваенныя поспехі і акупацыя вялікіх абшараў СССР умацоўвалі гэтыя намеры і распальвалі захопніцкія жаданні да нечуваных памераў. Ужо з восені 1941 г. Гітлер пачаў усё часцей разважаць пра будучае нямецкае панаванне на ўсходніх землях, найбольш поўна ён выказаўся на гэты конт вясною 1942 г. Гэтыя выказванні, т. зв. Tischgeschpräche — размовы за чаем, мелі, папраўдзе, неафіцыйны характар, аднак у пэўнай ступені праліваюць святло на паводзіны выканаўчага апарату. Яны вяліся вакол наступных прынцыповых пытанняў:

1. Мэтаю германскай палітыкі на ўсходніх акупіраваных савецкіх абшарах павінна быць іх гаспадарчае выкарыстанне. Трэба пастарацца выцягнуць з гэтых раёнаў усё, што толькі ўдасца. Зацікаўленасць насельніцтва ў пастаўках сельгаспрадукцыі і працоўнай сілы для шахтаў і прамысловасці Рэйха павінна стымулявацца пастаўкамі вырабаў нямецкай прамысловасці — іх продаж павінен весціся ў адпаведнасці з патрэбамі мясцовага жыхарства.

2. Галоўны прынцып нямецкага панавання на гэтай тэрыторыі — поўнае задавальненне жаданняў насельніцтва ў галіне індывідуальных свабод і пры гэтым — пазбяганне стварэння якіх-небудзь мясцовых дзяржаўных структур. Найвышэйшая ступень улады, якая можа быць даступнай для тутэйшых жыхароў,— гэта валасная ўправа. Даверыць ім уладу вышэйшага ўзроўню — значыць, ствараць магчымасць аб'яднання валасцей у буйнейшыя адміністрацыйныя адзінкі, а гэта магло б быць выкарыстана супраць інтарэсаў

Рэйха. Натуральна, належыць забараніць стварэнне на акупаваных землях любых нацыянальных арганізацый. Задачаю нямецкіх камісараў у гэтай галіне з'яўляецца выключна нагляд і кіраванне гаспадаркай.

3. На ўсёй акупіраванай савецкай тэрыторыі парадак і бяспеку павінны ўтрымліваць нямецкія сілы. Стварэнне ўзброеных сіл заваяваных народаў было б велізарным нонсенсам: як вучыць гісторыя — гэта conditio sine qua non (абавязковая ўмова) упадку пануючых нацый.

4. Мясцовае насельніцтва належыць утрымліваць на як мага ніжэйшым узроўні культуры. Школы дапушчальныя толькі на пачатковым узроўні, пры гэтым не трэба ўводзіць абавязковага школьнага навучання. Уменне чытаць і пісаць — увогуле шкоднае, бо дае магчымасць больш светлым галовам спазнаваць гісторыю, а значыць, даходзіць і да палітычнага мыслення, якое магло б сваім вастрыём павярнуцца супраць Германіі. Пагэтаму лепей у кожнай вёсцы паставіць рэпрадуктары і перадаваць навіны, пацешлівыя праграмы і вясёлую музыку, чым прывучаць насельніцтва да самастойнага навуковага і палітычнага мыслення. Адначасова трэба імкнуцца да раз'яднання грамадскіх згуртаванняў, напрыклад, у галіне рэлігіі пажадана было б у кожнай вёсцы мець асобную секту.

5. Трэба імкнуцца да абмежавання вялікага натуральнага прыросту мясцовага насельніцтва. Дзеля гэтага трэба наладзіць шырокі продаж процізачаткавых сродкаў і дазволіць перарыванне цяжарнасці. За рэдкім выключэннем, нямецкім лекарам неабходна пазбягаць аказвання медыцынскай дапамогі мясцовым жыхарам. Не варта займацца ахоўным прышчэпліваннем і праводзіць дэзінфекцыю сярод гэтых людзей (77).

Згодна з такімі тэзамі Гітлера, Гімлер і планавікі СС старанна ўзяліся за праект германізацыі ўсходніх абшараў: меркавалася «ачысціць» гэтыя землі ад часткі насельніцтва, а астатнюю, расава прыгодную яго частку, анямечыць. Гэты праект атрымаў назву «Генеральны план Ост» (ГПО) і быў складзены не пазней за вясну 1942 г. у Галоўным упраўленні бяспекі Рэйха. У ім прадугледжвалася высяленне ў Сібір больш за 30 млн. прыбалтаў і славян, у прыватнасці, 65 % заходніх украінцаў і 75 % беларусаў (78).

Аднак гэты праект не знайшоў сур'ёзнага водгуку ў Ведамстве СС на планаванні ўзмацнення Германіі. У чэрвені 1942 г. яго шэф, прафесар Конрад Мэер-Гетлінг, прапанаваў Гімлеру новы, значна больш сцiплы варыянт ГПО, дзе прадугледжвалася, між іншым, стварэнне 36 каланізацыйных баз, з іх 14 — у Генеральнай губерні, 8 — на Украіне і 14 — у Остляндзе, размешчаных уздоўж чыгуначных ліній, што вялі з Кёнігсберга і Вільні да Ленінграда і з Нямеччыны ў Крым (79). Беларусь пры гэтым абміналася. Праект не знайшоў у Гімлера падтрымкі. Ён дамагаўся, каб у ГПО было запланавана поўнае анямечанне Эстоніі, Латвіі і Генеральнай губерні за дваццацігадовы тэрмін. Гімлер прадбачыў пэўныя ўскладненні ў Літве, а пра Беларусь і Украіну ўвогуле не згадаў (80). Пагэтаму Мэер-Гетлінг заняўся распрацоўкай наступнага варыянта ГПО з улікам указанняў Гімлера і сядзеў над ім аж да лютага 1943 г.

Гітлер імкнуўся да непадзельнай улады на Усходзе, ён лічыў, што апрача немцаў ні адна нацыя не мае там права на зброю. Аднак Вермахт і Гімлер спачатку рознымі спосабамі абміналі гэтую забарону, пазней жа і сам Гітлер змяніў свае погляды. Акрамя украінскіх, беларускіх і літоўскіх дыверсійных атрадаў, створаных «Абверам» увесну 1941 г., пра гэта сведчыла і зброя, якую ў першыя дні вайны немцы скідалі з самалётаў для літоўскіх паўстанцаў (81). Крыху пазней на ўсіх акупіраваных усходніх тэрыторыях была арганізавана дапаможная паліцыя, а ў Прыбалтыцы і на Украіне — паліцэйскія батальёны, якія мелі ўсе прыкметы вайсковых фармацый. У канцы 1941 г. Гітлер пагадзіўся на стварэнне казацкіх, грузінскіх, армянскіх, туркестанскіх і каўказскіх мусульманскіх легіёнаў, якія Вермахт фарміраваў з савецкіх ваеннапалонных (82). У сярэдзіне 1942 г. пад эгідай СС распачалося стварэнне эстонскіх і латышскіх легіёнаў.

Пасля паражэння пад Масквой і вялікіх людскіх страт у баях на Усходзе камандаванне Вермахта з большай настойлівасцю пачало дамагацца стварэння буйных славянскіх вайсковых фарміраванняў. У студзені 1942 г. фельдмаршал Райхенау прадставіў Гітлеру праект фарміравання ўкраінскіх і беларускіх дывізій, але гэтая прапанова не прайшла (83). Затое Гітлер дазволіў выкарыстоўваць савецкіх ваеннапалонных у т. зв. добраахвотных дапаможных атрадах («Hiwi»). Самыя першыя з іх узніклі ў тыле групы армій «Цэнтр» — ва Усходняй Беларусі (між іншым, батальёны «Днепр», «Бярэзіна», «Прыпяць», «Асінторф»). Яны не прымалі ўдзелу ў франтавых баях, але выконвалі гаспадарчыя заданні, вялі ахову і вартаўніцтва, а з цягам часу іх сталі выкарыстоўваць у барацьбе з савецкімі партызанамі. Гэтыя фарміраванні — т. зв. Osttruppen — складаліся з былых чырвонаармейцаў рознай нацыянальнасці, пагэтаму не мелі акрэсленага нацыянальнага характару, аднак пазней некаторыя з іх прысвоілі сабе неафіцыйныя назвы: «Русская освободительная армия» (РОА), «Русская национальная народная армия» (РННА) і інш. Чарговай уступкай Гітлера была дырэктыва Галоўнага камандавання Вермахта № 46 ад 18.8.1942 г., якая давала дазвол на стварэнне мясцовых фарміраванняў супраць партызан пад эгідай СС (84).

Аднак стварэнне Osttruppen і лакальных антыпартызанскіх атрадаў не азначала яшчэ фарміравання нацыянальных вайсковых адзінак, за якія яны часам сябе лічылі. Гэтыя фарміраванні знаходзіліся пад камандаю нямецкіх афіцэраў, на забеспячэнні Вермахта ці СС і выкарыстоўваліся ў адпаведнасці з загадамі акупацыйных улад.

Але найважнейшага матыву барацьбы на баку Германіі — палітычнай перспектывы — гэтыя атрады не мелі, таму настроі салдат і мясцовых камандзіраў увесь час вагаліся паміж надзеяй на змену нямецкага палітычнага курсу і чаканнем зручнага моманту для дэзерцірства. Усё ішло па зачараваным коле: такія настроі, натуральна, нараджалі ў немцаў недавер да Osttruppen і іншых атрадаў, прычым не рабілася нічога для ліквідацыі прычын гэтага недаверу.

Розэнберг і яго калегі — Мэер, Ляйбрандт, Браўтыгам, Мэндэ і іншыя, якіх часам называлі прыхільнікамі лагоднага курсу ў адносінах да акупаваных усходніх народаў, даўно зразумелі, што без пазітыўнай палітычнай праграмы залучыць гэтае насельніцтва да супрацоўніцтва з Германіяй будзе цяжка. Але трэба заўважыць, што ў захапленні ад першых гучных поспехаў Вермахта на ўсходнім фронце Розэнберг не стаў пярэчыць супраць таго, што Гітлер замарозіў яго палітычныя канцэпцыі, распрацаваныя вясною 1941 г., і, напэўна, пагадзіўся на канчатковае вырашэнне гэтых праблем пасля хутка спадзяванай перамогі.

Аднак паражэнне пад Масквой і грозны рост партызаншчыны абстварылі сітуацыю, якая вымушала шукаць нейкага паратунку. Адназначым, што Розэнберг даволі рана зразумеў сур'ёзнасць становішча: ужо 14 снежня ён раіўся з Гітлерам, але не дабіўся яго падтрымкі на тое, каб змяніць ранейшую палітычную тактыку. Цяжка, аднак, з упэўненасцю сцвярджаць, што ў гэты час Розэнберг супрацьпастаўляўся пазіцыі фюрэра. Для ўжытку прапаганды ён фармуляваў прыгожыя фразы пра неабходнасць шанавання нацыянальнай адметнасці ўсходніх нацый альбо пра ролю Германіі на Усходзе як правадыра гэтых народаў, а не іх каланізатара. Аднак у выдадзенай ім у красавіку 1942 г. інструкцыі для адміністрацыі рэйхскамісарыятаў Остлянд і Украіна, т. зв. «карычневай папцы», сцвярджалася выразна, што «прызначэнне ўсходніх абшараў — не ў тым, каб развіваць уласнае, незалежнае ад еўрапейскіх патрэбаў, жыццё, яны хутчэй з'яўляюцца толькі часткаю вялікагерманскай і еўрапейскай жыццёвай прасторы і маюць у гэтай галіне свае акрэсленыя задачы» (85).

У гэтай сітуацыі Розэнберг і яго міністэрства разлічвалі дабіцца прыхільнасці жыхароў усходніх земляў шляхам знешніх уступак, якія не супярэчылі б асноўным намерам Гітлера. У сакавіку 1942 г. ён выступіў супраць жорсткага абыходжання з жыхарамі гэтых тэрыторый, бо такія паводзіны ўзмацнялі супраціўленне Чырвонай Арміі і насельніцтва. Прапаноўвалася пазбягаць у адносінах да ўсходніх абшараў такога вызначэння, як «калонія» — маўляў, германская каланізацыйная кампанія можа праводзіцца без шкоды для мясцовага насельніцтва (86). У другім цыркуляры Розэнберга ад 9.6.1942 г. падначаленым яму ўстановам катэгарычна забаранялася ўжываць цялесныя кары, бо гэта ганебна для немцаў — «нават



бальшавікі» іх пазбягалі (87). Нямецкім службоўцам рэкамендавалася вывучаць мясцовыя мовы — беларускую і ўкраінскую (літоўскай, латышскай і эстонскай гэта не датычылася, бо меркавалася, што неўзабаве народы Прыбалтыкі самі будуць гаварыць па-нямецку) (88).

Вялікія надзеі ўскладаліся на зямельную рэформу на тэрыторыі, што належала СССР да 17.9.1939 г. У дэкрэце Розэнберга ад 15.2.1942 г. на гэты конт прадугледжвалася ператварыць калгасы ў супольныя гаспадаркі, а пазней падзяліць зямлю і інвентар і стварыць індывідуальныя гаспадаркі, якія аб'ядноўваліся б у т. зв. сялянскія кааператывы. Гэтая кампанія была разлічана не толькі на рост прадукцыйнасці працы і харчовых паставак, але і на здабыццё прыхільнасці сялянства і пагэтаму мела важнае палітычнае значэнне. Аднак супраціўленне Коха прывяло да таго, што на Украіне да канца 1942 г. пад рэформу падпала толькі 10 % калгасаў (89). Значна лепшыя вынікі былі дасягнуты на Беларусі (гл. далей). Не мелі істотнага значэння і дэкрэты Розэнберга наконт самакіравання ў Прыбалтыйскіх краінах: фактычна яны ўзаконілі сітуацыю, якая ўжо існавала з лета 1941 г.

Такія захады, па сутнасці — паўкрокі, не прывялі да жаданых вынікаў і не аказалі ніякага ўплыву на развіццё партызанскага руху, асабліва на Беларусі. Здаецца, што толькі восенню 1942 г. Розэнберг зразумеў бескарыснасць гэтых знешніх уступак і пачаў дзейнічаць ужо не ў кірунку змены тактыкі, а палітычнай стратэгіі ўсходняй кампаніі. У верасні 1942 г. ён выступіў на старонках «Фёлькішэр Бэобахтэр» са смелым пастулатам: «...самы час на тое, каб уся гэтая праблема прызначэння (усходніх народаў.— *Ю. Т.*) знайшла зразуменне ва ўсіх, хто хоць у нейкай ступені нясе адказнасць у краінах на акупіраванай тэрыторыі» (90). Ясна, што гэтае патрабаванне датычылася не толькі рэйхскамісараў на Усходзе, асабліва Коха, але і мясцовых паліцэйскіх і вайсковых улад, а таксама найвышэйшых дзяржаўных устаноў*.

У гэтай новай сітуацыі 25.10.1942 г. Браўтыгам, кіраўнік палітычнага аддзела ў міністэрстве Розэнберга, прадставіў вялікі мемарыял, у якім пацвердзіў, што захады, разлічаныя на тое, каб выклікаць прыхільнасць насельніцтва ўсходніх абшараў (зямельная рэформа і інш.), не далі вынікаў і не загладзілі ў людской свядомасці

---

* Трэба адзначыць, што змяненне тактычнай канцэпцыі акупацыйных органаў у значных маштабах вызначылася ў спробе ваенных улад пры актыўным удзеле ведамства Розэнберга схіліць на свой бок насельніцтва раёнаў, якія былі акупіраваны падчас летне-асенняга наступлення 1942 г. У «каўказскім эксперыменце» ўлічваўся ўжо накоплены вопыт, таму з тактычных меркаванняў, якія ў прынцыпе былі ўхвалены Гітлерам, насельніцтву абяцалі «свабоду і працвітанне», аднаўленне аднаасобнай сялянскай гаспадаркі, стварэнне нацыянальных органаў кіравання і г. д. Але і гэтая тактыка не дала жаданых поспехаў.— *А. Л.*

такіх злачынстваў, як вынішчэнне соцень тысяч савецкіх ваеннапалонных, альбо такіх метадаў вярбоўкі на працу ў Германію, якія больш «нагадвалі паляванне на людзей у найчарнейшыя часы гандлю нявольнікамі». Пагэтаму,— працягваў Браўтыгам,— лозунг «вызвалення ад бальшавізму» стаў у вачах тутэйшага жыхарства проста шырмай, за якой занадта яскрава прасвечваў намер немцаў накінуць яму на шыю ярмо. Ад гэтага ўзрасло супраціўленне Чырвонай Арміі і мясцовага насельніцтва. Вынікі гэтага працэсу для Рэйха Браўтыгам акрэсліў вельмі трапна. Ён прызнаў банкруцтва ранейшай германскай усходняй палітыкі і «ў гэтую апошнюю хвіліну» патрабаваў яе змяніць, прычым дамагаўся не толькі гуманнага абыходжання з насельніцтвам, але і прадстаўлення канкрэтнай пазітыўнай палітычнай праграмы жыхарам гэтых абшараў (91). Дадам, што гэты мемарыял быў сфармуляваны ў той момант, калі сцяг са свастыкай лунаў над Эльбрусам, а нямецкія войскі дайшлі да Волгі.

Згодна з прапановамі, прадстаўленымі ў мемарыяле Браўтыгама, неўзабаве была зроблена сур'ёзная спроба змяніць напрамак германскай усходняй палітыкі. Такое рашэнне прыспешвалі падзеі на фронце — у лістападзе Чырвоная Армія перайшла ў контрнаступ і акружыла войскі фельдмаршала Паўлюса. З ініцыятывы Розэнберга 18.12.1942 г. у міністэрстве акупаваных усходніх абшараў адбылася палітычная нарада, у якой разам з вышэйшымі чынамі (Розэнберг, Мэер, Ляйбрандт, Браўтыгам, Кляйст, Мэндэ і інш.) удзельнічалі зацікаўленыя военачальнікі Вермахта, між іншым — камандзір тылу групы армій «Цэнтр» генерал фон Шэнкендорф.

На нарадзе прадстаўнікі Вермахта адзначылі пагаршэнне настрояў насельніцтва і рост партызанскага руху. На іх думку, гэта было вынікам харчовага крызісу, кепскага абыходжання з людзьмі, забароны і абмежаванняў у галіне асветы і культуры і — самае галоўнае — адсутнасці пазітыўнай палітычнай праграмы. Пры гэтым былі сказаны знамянальныя словы: «Расію змогуць перамагчы толькі рускія», а ў сувязі з тым абавязковай умовай поспеху ў такой вайне быў прызнаны ўдзел насельніцтва ў барацьбе на баку Германіі. Таму гаворка вялася не толькі пра ўступкі ў гаспадарчай і культурна-асветнай галіне, але ў першую чаргу пра тое, каб абазначыць палітычную мэту, якая стварала б падставы і надавала сэнс супрацоўніцтву мясцовага жыхарства з акупантамі. Цікава, што яшчэ ў снежні 1942 г. генералы лічылі, што «няма ніякага сумнення наконт яго гатоўнасці да барацьбы з Саветамі ў партызанскай вайне або на фронце, з умоваю, што ўдасца пераканаць яго ў поўным адмаўленні (з нашага боку) ад ранейшых метадаў» (92).

Гэтыя праблемы былі выразна прадстаўлены ва ўнутраным дадатковым пратаколе згаданай нарады і на дадатковых перагаворах Розэнберга з генераламі фон Рокам і Шэнкендорфам — прадстаўнікамі груп армій «Поўнач» і «Цэнтр», а таксама з палкоўнікам



Гільхаўзэнам з вайсковай зоны «В». Гэтая апошняя сустрэча адбылася 22.12.1942 г., у яе дакументах значылася наступнае:

« — Сумесны ўдзел насельніцтва і ваеннапалонных у вайсковых дзеяннях — гэта катэгарычнае патрабаванне арміі, яго выкананне будзе мець вырашальнае значэнне для перамогі;

— Для рэалізацыі загаду фюрэра аб мабілізацыі больш за паўмільёна рускіх, украінцаў і інш. у якасці добраахвотных памочнікаў для войска неабходна прыняць адпаведныя палітычныя захады, якія мелі б непасрэдны станоўчы вынік;

— Для гэтага абшару прымальны толькі адзін лозунг: яго народы — нашы саюзнікі па барацьбе з Саветамі, і трэба спагадліва дазволіць ім весці ўласнае жыццё з усімі неабходнымі гаспадарчымі і палітычнымі вынікамі» (93).

На пачатку лютага 1943 г. Розэнберг растлумачыў Гітлеру свае ідэі, ужо падтрыманыя Вермахтам і берлінскімі палітычнымі коламі. У прыватнасці, ён прапанаваў ліквідаваць Рэйхскамісарыят Остлянд, а замест яго ўтварыць у Літве, Латвіі і Эстоніі ўласныя ўрады і адміністрацыю. Беларусь як самастойная адміністрацыйная адзінка павінна была непасрэдна падпарадкавацца ОМі. На землях, якія да 17.9.1939 г. уваходзілі ў склад СССР, Розэнберг меркаваў арганізаваць нацыянальныя прадстаўніцтвы (камітэты), якія з цягам часу маглі б пераняць на сябе функцыі самакіравання (94). Пад непасрэдным уражаннем сталінградскага разгрому, адступлення з Каўказа і іншых паўднёвых тэрыторый СССР, росту партызанскага руху ў франтавых тылах Гітлер не стаў прынцыпова пярэчыць прапановам Розэнберга і даручыў яму іх канкрэтную распрацоўку. У гэты час ён быў гатовы пагадзіцца на абмежаваную палітычную аўтаномію Прыбалтыйскіх краін, а таксама на поўнае палітычнае супрацоўніцтва і далейшыя гаспадарчыя ўступкі на Усходзе (95).

Гэта неабходна было зрабіць таксама ў сувязі з крытыкай, якая ўсё часцей і гучней лілася ў адрас германскай усходняй палітыкі і нараджалася нават там, дзе менш за ўсё можна было на яе спадзявацца, а менавіта — у кіраўнічых колах СС. 9.3.1943 г. Готлаб Бэргер, шэф Галоўнага ўпраўлення СС, пісаў Гімлеру: «На маю думку, безумоўнай памылкаю, як у Остляндзе, так і на Украіне, было тое, што мы накінуліся на гэтыя народы, быццам галодныя і ўбогія жабракі. Было б цалкам дастаткова, каб мы адразу прызналі права на дробную і сярэднюю ўласнасць, а пазней, спраўдзіўшы вынікі,— і на буйную, і пры гэтым пазбеглі б цяперашняга раўнадушша і нават варожасці народаў, якія некалі віталі нас як сваіх вызваліцеляў» (96). Бэргер пацэліў трапна — ён выкрыў самую сутнасць гімлераўскай палітыкі анямечвання, якая грунтавалася на засяленні часткі акупіраваных усходніх абшараў асаднікамі — кроўнымі немцамі. Тут варта далучыць яшчэ адзін факт: у пачатку 1943 г. Гітлер выдаў дэкрэт, у якім было загадана цалкам адмовіцца ад падрыхтоўкі

і планавання «будучых мірных задач» (97), асабліва — планаў германскай каланізацыі на Усходзе. У выніку чарговы варыянт ГПО, распрацаваны Гетлінгам, аказаўся непатрэбным (98).

Нямецкая прапаганда таксама загучала інакш. Згодна з дырэктывамі Гітлера, 15.2.1943 г. Гебельс накіраваў для ўсіх рэйхсляйтэраў, гаўляйтэраў і прапагандысцкіх кіраўнікоў інструкцыю, дзе зазначалася, што ўсе краіны Еўропы, у тым ліку і ўсходнія, якія садзейнічалі перамозе Германіі, павінны адчуваць у гэтым сваю зацікаўленасць, таму забаранялася ў прамовах і ў друку гаварыць пра каланізацыю і эксплуатацыю ўсходніх тэрыторый і рэкамендавалася замест гэтага вылучаць на першы план перспектывы іх адраджэння пад нямецкім кіраўніцтвам (99).

Так, пад уплывам пагаршэння ваеннага становішча Германіі, а таксама пад націскам Розэнберга, Вермахта і іншых фактараў Гітлер вясною 1943 г. згадзіўся на пэўныя змены ва ўсходняй палітыцы. «Новы курс», які так старанна пачала эксплуатаваць нямецкая прапаганда, выявіўся перш за ўсё ў тым, што пад наглядам СС было дазволена ствараць нацыянальныя вайсковыя часці на Украіне (дывізія СС — Галіччына) і ў Літве і павялічыць ужо існуючыя ў Эстоніі і Латвіі*. Тым не менш Гітлер па-ранейшаму не вельмі давяраў войскам Osttruppen, перш за ўсё з прычыны частага дэзерцірства ў іх шэрагах.

Пасля некаторых ваганняў адносна палітычнага супрацоўніцтва з усходнімі народамі Гітлер вярнуўся на ранейшую, цвёрдую пазіцыю. Магчыма, гэта адбывалася адначасова з ростам яго самаўпэўненасці — акурат у той самы час фюрэр рыхтаваў новае наступленне пад Курскам, што было, бадай, апошнім шанцам на перамогу Германіі. Гітлер адхіліў ідэю стварэння палітычных прадстаўніцтваў акупаваных народаў і арганізацыі пад іх наглядам нацыянальных вайсковых фарміраванняў. Сваю пазіцыю ў гэтым пытанні ён сфармуляваў так: «Я не магу вызначаць перспектыўных мэт, якія прадугледжваюць стварэнне незалежных ці аўтаномных дзяржаў. Дастаткова пачаць з так званай, я б сказаў, далучанай дзяржавы накшталт Польшчы і скончыць дзяржавай незалежнай» (100).

З гэтага выказвання можна зразумець, што і летам 1943 г. Гітлер не быў схільны вырашаць наперад будучага палітычна-адміністрацыйнага статуса акупіраваных усходніх народаў, ён згадваў нават аб іх незалежнасці. Магчыма, пасля ўсё яшчэ спадзяванай перамогі ён дапускаў варыянт пэўных дзяржаўных утварэнняў, залежных ад Германіі, але вызначаць іх форму, ролю і значэнне ў Новай Еўропе яму хацелася цалкам самастойна, як пераможцу, які ў сваіх ра-

* У лютым — сакавіку 1943 г. немцы вымушаны былі прыступіць да масавай мабілізацыі насельніцтва Латвіі, Эстоніі (6 узростаў). Нягледзячы на прымусовы характар, мабілізацыя праходзіла з вялікімі цяжкасцямі.— *А. Л.*



шэннях не мусіць прытрымлівацца ранейшых дэкларацый і абавязацельстваў, дадзеных пад націскам часовых (на яго думку) ваенных няўдач. Ён жадаў аднабаковага даверу.

У агульным рэчышчы нямецкай усходняй палітыкі Беларусь займала своеасаблівае месца — яе пазіцыю часам называлі «спецыяльнай» (sonderstellung). Прычын тут было некалькі. Па-першае, цывільная адміністрацыя не магла пераняць уладу на яе ўсходніх абшарах. Па-другое, партызанскі рух там так разросся, што перашкаджаў гаспадарчай эксплуатацыі і іншым захадам акупацыйных улад. І нарэшце, па-трэцяе, на гэтай зямлі склаліся спецыфічныя ўнутраныя абставіны: беларусы прымалі слабы ўдзел у арганізацыі «новага парадку»; у адрозненне ад Украіны і Прыбалтыкі тут было цяжка стварыць паліцэйскія батальёны і сапраўды нацыянальную адміністрацыю — немцы з большай ахвотай называлі яе «einheimische» (тутэйшая), чым «weissruthenische» (беларуская). Пры такой сітуацыі Беларусь дастаўляла немцам шмат гаспадарчых і адміністрацыйных клопатаў і, апрача таго, вялікія сумненні наконт яе палітычнай будучыні. На думку берлінскіх палітыкаў, вырашэнне беларускага пытання, пра якое ў лістападзе 1941 г. згадваў «Deutsche Post aus dem Osten», на парозе 1943 г. мела не большыя перспектывы, чым на пачатку акупацыі.

Тым часам у ведамстве Гімлера таксама аслабла зацікаўленасць у беларускім пытанні. Відаць, у гэтым адыгралі сваю ролю шматмесячныя назіранні паліцыі, а таксама няўдалыя спробы па беларусізацыі мясцовай адміністрацыі. У немалой ступені тут праявілася і асабістая непрыязь Гімлера да Кубэ, які сваім умяшальніцтвам нарабіў нямала шкоды «добраму імю» СС. Пагэтаму ў студзені 1943 г., у час нарады ў ОМі, прадстаўнік Галоўнага ўпраўлення бяспекі штурмбанфюрэр СС Гуміч выказаў сумненне, «ці варта ўвогуле імкнуцца і ўжо цяпер падтрымліваць станаўленне беларускай нацыі, бо няма яшчэ рашэння аб тым, што рабіць увогуле з беларускім народам. Ва ўсякім разе Рэйхсфюрэр СС яшчэ не мае яснасці ў гэтай справе» (101).

Розэнберг і яго супрацоўнікі таксама скептычна ставіліся да беларускага пытання. Праўда, 30.5.1942 г. у час свайго візіту ў Мінск ён запэўніваў, што нямецкае кіраўніцтва гатова падтрымаць намаганні, накіраваныя на такое развіццё Беларусі, «каб яна стала назаўсёды моцнай і квітнеючай дзяржавай — фарпостам Германскага Рэйха», але гэтае выказванне было разлічана хутчэй за ўсё на прапагандысцкі эфект. На самай справе Розэнберг не верыў у магчымасць актывізаваць беларускі нацыяналізм. У сакавіку 1942 яго сувязны афіцэр, доктар Копэн, лічыў, што «беларусы — настолькі прымітыўныя, што прыдатныя толькі на тое, каб араць зямлю і гадаваць жывёлу» (102). У колах ОМі Беларусь называлі «нацыянальным кактэйлем» або «папялушкай Рэйхскамісарыята Остлянд» (103).

Практычныя захады толькі пацвярджалі, што ОМі ставіцца да Беларусі як да другараднай тэрыторыі ў складзе Остлянда. У прыватнасці, пра гэта сведчыла далейшае змяншэнне абшару Генеральнага камісарыята Беларусі, якое міністэрства акупаваных усходніх абшараў праводзіла не толькі без паразумення з Кубэ, але нават і без яго ведама. У студзені 1942 г. на карысць Рэйхскамісарыята Украіна адышоў Бярозаўскі раён. У красавіку даволі значныя беларускія тэрыторыі былі далучаны да Літвы, пры гэтым нацыянальны склад насельніцтва толькі ў невялікай ступені мог апраўдваць такі крок. Куды большую ролю тут адыграла жаданне ўзнагародзіць літоўцаў за стварэнне шматлікіх паліцэйскіх батальёнаў, якія дзейнічалі таксама і на Беларусі.

На Беларусі існавалі вялікія абмежаванні ў выдавецкай і журналісцкай дзейнасці. У маі 1942 г. на тэрыторыі Генеральнага камісарыята выходзіла толькі 4 беларускія часопісы, тады як у Літве — 11, Латвіі — 21, Эстоніі — 14 (104). Больш суровыя, у параўнанні з Прыбалтыкай, абмежаванні захоўваліся і ў галіне народнай асветы. Аднак найважнейшым сярод усяго было прынятае ў канцы сакавіка 1942 г. пункта, які забараняў стварэнне цэнтральнага беларускага органа самакіравання (105). Розэнберг растлумачыў, што «ў выніку 23-гадовага панавання бальшавікоў насельніцтва Беларусі да такой ступені аказалася заражана бальшавіцкім светапоглядам, што для стварэння мясцовага самакіравання нестае арганізацыйных і персанальных перадумоў» (106). Ён не прымаў пад увагу, што $^4/_5$ падпарадкаванага яго кампетэнцыі беларускага абшару займалі раёны, дзе савецкая ўлада дзейнічала толькі 20 месяцаў. Гэта была папросту яшчэ адна праява недаверу да беларусаў, якім Розэнберг, па сутнасці, няшмат мог абяцаць. Пра гэта можа сведчыць наступны факт: у паперах ОМі захаваліся праекты адозваў да народаў Усходу, якія Розэнберг прадставіў Гітлеру на разгляд у студзені 1943 г. (фюрэрам яны не былі прыняты). Сярод гэтых праектаў былі адозвы да расійцаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў і народаў Каўказа, затое аніякай — да беларусаў (107).

## МЕТАДЫ АКУПАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ

### Стаўка Кубэ на беларускі нацыяналізм

Розэнберг іначай ставіўся да Беларусі, чым да Украіны — апошняй ён аддаваў перавагу. Затое падначаленыя Розэнберга — камісары Кох і Кубэ — не падзялялі сімпатый свайго шэфа і прытрымліваліся цалкам супрацьлеглых поглядаў. Сітуацыя выглядала парадаксальна. Кох, напрыклад, абмяжоўваўся амаль толькі голай эканамічнай эксплуатацыяй сваёй тэрыторыі і ўпарта адмаўляўся выконваць інструкцыі ОМі ў галіне школьніцтва і культурнага жыц-






*Нямецка-фашысцкі адміністрацыйны падзел Беларусі (на канец 1942 г.)*
*1 — дзяржаўная граніца СССР (на 1 студзеня 1941 г.); 2 — граніца БССР з саюзнымі рэспублікамі (на 1 студзеня 1941 г.); 3 — межы генеральных акруг, акругі Беласток і вобласці аховы тылу групы армій «Цэнтр»; 4 — абласныя цэнтры (на 1 студзеня 1941 г.); 5 — цэнтры генеральных акруг, акругі Беласток і вобласці аховы тылу групы армій «Цэнтр»; 6 — цэнтры гебітаў (у генеральных акругах), крайскамісарыятаў (у акрузе Беласток), палявых камендатур (у вобласці аховы тылу групы армій «Цэнтр»)*

ця. Між іншым, ён заваліў праект Розэнберга па адкрыцці ўкраінскага універсітэта ў Кіеве. Ён поўнасцю ігнараваў сімпатыі і інтарэсы насельніцтва ў сваіх палітычных захадах. У адказ паўстала ўкраінская нацыянальная апазіцыя, а ўвосень 1942 г. з'явілася падпольная Украінская паўстанчая армія. Затое Кубэ дзейнічаў наадварот, ён імкнуўся дабіцца падтрымкі беларусаў і часта браў на сябе адказнасць, парушаючы інструкцыі ОМі. Гэта прыводзіла да канфліктаў з Розэнбергам (108).

На пачатку 1942 г. Кубэ рашуча падтрымаў зямельную рэформу, у адрозненне ад Коха ён палічыў яе за вельмі важны сродак для здабыцця прыхільнасці і гаспадарчай актывізацыі беларускага сялянства. У выніку вясною 1942 г. усе калгасы былі распарцэляваны, а іх зямля і інвентар перайшлі ў сямейны ўжытак сялян у рамках т. зв. зямельных кааператываў (109). Такім чынам, Кубэ пайшоў далей за інструкцыі Розэнберга: паводле міністэрскага дэкрэта, у першай фазе рэформы калгасы павінны былі ператварыцца ў супольныя гаспадаркі, а іх парцэляцыя павінна была пачацца толькі на другім этапе.

Адначасова Кубэ распачаў беларусізацыю царкоўнага жыцця. Ён імкнуўся да стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай нацыянальнай царквы, незалежнай ад расійскіх уплываў (110). Вясною 1942 г. ён узаконіў дзейнасць беларускага экзархата грэка-каталіцкай царквы, які існаваў падпольна з таго моманту, як яго стварыў мітрапаліт Шаптыцкі (кастрычнік 1939 г.) (111). Падтрымаў Кубэ і пачынальнікаў паступовай беларусізацыі рыма-каталіцкай царквы (112).

Гэтым, бадай што, і абмяжоўваліся захады Кубэ, скіраваныя ў першай палове 1942 г. на здабыццё прыхільнасці сярод насельніцтва. Асабліва вялікае супраціўленне Розэнберга выклікалі спробы па стварэнню ў Мінску цэнтральнага органа беларускага самакіравання. Усе адміністрацыйна-гаспадарчыя заданні павінны былі выконваць нямецкія чыноўнікі. Беларускія дзеячы балесна ўспрынялі забарону на стварэнне ўласнага кіраўнічага органа. Яны палічылі гэта за ігнараванне справы беларускай дзяржаўнасці. Кубэ спрабаваў загладзіць гэтае ўражанне з дапамогай уласных ініцыятыў: ён меў паўнамоцтвы на тое, каб прыстасоўваць прысланыя зверху дырэктывы да мясцовых спецыфічных умоў (113). На практыцы гэта давала яму немалую свабоду дзеяння. У сваю чаргу гэткія самыя правамоцтвы ён перадаў сваім падначаленым — акруговым камісарам. Адной з найважнейшых ініцыятыў Кубэ ў гэтай галіне было стварэнне так званай мяшанай адміністрацыі, што азначала спалучэнне нямецкай кіраўнічай улады і беларускай выканаўчай у акруговых і Генеральным камісарыятах. Такая сістэма давала магчымасць беларускім, а часам і польскім службоўцам прымаць удзел у працы гэтых установаў. З другога боку, гэта часта ўскладняла дзейнасць органаў мясцовай адміністрацыі.

Улетку 1942 г. становішча на Беларусі карэнным чынам змянілася. З аднаго боку, гэта было звязана з актывізацыяй савецкага партызанскага руху, а з другога — Галоўнае ўпраўленне бяспекі Рэйха акурат тады ў надзеі вырашыць польскае пытанне распачало т. зв. «польскую кампанію» (114). І хаця галоўнай прычынай гэтай акцыі былі антынямецкія ўзброеныя выступленні польскага падполля ў Остляндзе і на Украіне і яго супрацоўніцтва з савецкімі партызанамі (115), удар быў скіраваны ўвогуле супраць палякаў, і ў першую чаргу — супраць інтэлігенцыі. Арышты, расстрэлы і вываз на працу ў Германію закранулі таксама і польскае насельніцтва на Беларусі. Паводле ацэнкі намесніка генеральнага камісара Беларусі, гэтая кампанія набыла «катастрафічнае» развіццё, многіх палякаў яна прымусіла пакінуць ранейшыя месцы працы і шукаць прытулку ў партызанах (116).

Савецкі партызанскі рух набываў пагрозлівыя памеры. Вынішчэнне польскай інтэлігенцыі спустошыла адміністрацыю. На фоне такіх падзей Кубэ вырашыў актывізаваць сілы беларускага нацыя-



налізму. Яго ранейшая палітыка, хоць і непараўнальна адрознівалася ад украінскай сітуацыі, дзе з мясцовым нацыянальным рухам вялася зацятая барацьба, да гэтага часу усё ж не вельмі заахвочвала беларусаў да супрацоўніцтва. Адозва Кубэ «Да жыхароў Беларусі!», апублікаваная ў верасні 1941 г., у якой дэкларавалася свабоднае развіццё краю, толькі кампраметавала ў вачах грамадства яе аўтара, бо, нягледзячы на ўплыў часу, рэальныя дзеянні акупацыйных улад аніяк не пацвердзілі дадзеных абяцанняў. Пагэтаму Кубэ разумеў, што без дадатковых палітычных уступак ён не зможа дабіцца падтрымкі беларускага нацыяналізму. Аднак дырэктывы берлінскага кіраўніцтва фармальна не давалі на гэта падстаў. Таму ён павёў гульню вельмі асцярожна, верагодна, загадзя паразумеўшыся з Лёзэ.

Арганізацыйнай апорай у ажыццяўленні намераў Кубэ павінна была стаць БНС — зрэшты, адзіная, калі не лічыць рэлігійных суполак, легальная грамадская арганізацыя на Беларусі. З цягам часу гэтая арганізацыя здолела стварыць свой мясцовы апарат: акруговыя і раённыя аддзяленні і валасныя гурткі. І хаця статутнай мэтай БНС лічылася толькі грамадская апека і ахова здароўя, тым не менш Кубэ пагадзіўся на яе ўдзел у арганізацыі школьніцтва і культурнай дзейнасці, між іншым, на адкрыццё дамоў культуры, чытальняў і бібліятэк, стварэнне аматарскіх драматычных гурткоў, курсаў, лекцый, распаўсюджванне друкаваных выданняў і г. д. Паступова дзейнасць БНС пачала змыкацца з адміністрацыйным апаратам, у выніку ўдзельнікам гэтай арганізацыі сталі даручаць розныя службовыя абавязкі — пачынаючы з валасных упраў аж да Генеральнага камісарыята ўключна. Тэндэнцыі да стварэння Галоўнай Рады БНС, паводле задумы — цэнтральнага кіраўнічага беларускага органа, таксама выявіліся даволі рана. Гэтая рада была абрана 26.1.1942 г., але Кубэ да пары пакінуў яе незацверджанай (117).

Неўзабаве становішча БНС істотна змянілася. 29 чэрвеня Кубэ «дзеля забеспячэння плённага ўдзелу беларусаў у кіраванні краем» надаў Ермачэнку, шэфу БНС, званне дарадчыка і Мужа даверу «беларускага народа, прадстаўніком якога з'яўляецца БНС». Ён абвясціў, што прызаве яшчэ трох Мужоў даверу на службу ў Генеральным камісарыяце і па адным — на кожны акруговы камісарыят. Адначасова Кубэ абвясціў стварэнне беларускага т. зв. Вольнага корпуса Самааховы. Дзеячам БНС даручалася выдаць адозву да беларусаў з заклікам добраахвотна ўлівацца ў яго шэрагі (118). Праз два-тры тыдні на Беларусі быў створаны інстытут Мужоў даверу пры органах акупацыйнай улады. У яго склад увайшлі (119):

Генеральны камісарыят

аддзелы:

— палітыкі — Іван Ермачэнка

— школьніцтва — Яўхім Скурат

| | |
|---|---|
| — культуры | — Іван Касяк |
| — прэсы і прапаганды | — Антон Адамовіч |
| Акруговыя камісарыяты | |
| Мінск (акруга) | — Юліян Саковіч |
| Баранавічы | — Юры Сабалеўскі |
| Навагрудак | — Барыс Рагуля |
| Ліда | — Рыгор Зыбайла |
| Слонім | — Аляксандр Сівец |
| Ганцавічы | — Сокал-Кутылоўскі |
| Вілейка | — Аляксандр Калодка |
| Барысаў | — Станіслаў Станкевіч |
| Глыбокае | — ? |
| Слуцк | — ? |

У новай сітуацыі Кубэ дазволіў стварыць у ліпені 1942 г. 12-асабовую Галоўную Раду БНС на чале з Ермачэнкам (120). Да таго ж у кожнай акрузе былі створаны 10-асабовыя акруговыя Рады БНС. Пры Галоўнай Радзе быў арганізаваны шэраг ведамасных аддзелаў: палітычны, вайсковы, школьны, культурны, а таксама прапаганды і аховы здароўя — усе яны мелі адпаведнікі ў акруговых Радах. Такім чынам, на Беларусі быў створаны цэлы апарат, які ў адпаведным часе змог бы пераняць з нямецкіх рук кіраўніцтва. А Кубэ рабіў усё новыя і новыя ўступкі. Было арганізавана Беларускае навуковае таварыства, прафсаюзы, жаночая Ліга, беларускі судовы апарат. Выдадзены дазвол на ўжыванне нацыянальных сімвалаў — беларускіх штандараў і герба Пагоні. Арганізаваны Цэнтральны кааперацыйны саюз, які падпарадкоўваўся БНС (121). У верасні выйшла ў свет распараджэнне Кубэ аб змене адміністрацыйнай тэрміналогіі. У адпаведнасці з ім раёны перайменавалі ў паветы, а бургамістры (раённыя, валасныя) атрымалі тытулы начальнікаў паветаў, валасцей, гарадоў, вёсак і г. д. У жніўні Генеральны камісарыят дазволіў адкрыццё гімназій. Вяліся перагаворы наконт адкрыцця універсітэта ў Мінску (122).

Кубэ надаваў вялікае значэнне прапагандзе прынцыпаў сваёй палітыкі ў беларускім і нямецкім друку. Пагэтаму ён запрашаў з Германіі ў Мінск шматлікіх журналістаў, сачыў, каб адпаведныя карэспандэнцыі і інтэрв'ю своечасова траплялі на старонкі газет (123). Гэтыя яго прынцыпы можна рэзюмаваць наступна: ва ўмовах, свабодных ад польскай і расійскай палітычнай дамінацыі, якія стварыла нямецкая акупацыя, беларускі народ займеў шанс за кароткі гістарычны перыяд запоўніць прабелы ў развіцці нацыянальнай самасвядомасці. Дзейнасць акупацыйнай адміністрацыі ў галіне палітыкі скіравана на тое, каб паскорыць гэты працэс, перамагчы



чужацкія ідэалагічныя наносы і ўзмацніць уласна-беларускі нацыянальны элемент. Гэтай мэце павінны былі паслужыць развіццё школьніцтва, культуры, праца сярод моладзі. Новы шлях развіцця зможа прывесці Беларусь да еўрапейскай супольнасці дзяржаў і народаў. Генеральная акруга Беларусі,— сцвярджаў далей Кубэ,— павінна не толькі выконваць адміністрацыйныя заданні, прадыктаваныя ваеннай неабходнасцю, ёй «наканавана стаць Айчынай для беларускага народа». Пагэтаму беларускі народ з'яўляецца «ў пэўнай ступені дзяржаўным народам» (124). Невыпадкова праз год шэф СД у Мінску Эдуард Штраўх абвінаваціў Кубэ ў тым, што ён свядома падтрымліваў курс на стварэнне беларускай дзяржавы з Ермачэнкам як яе прэм'ерам (125). У атмасферы эйфарыі, выкліканай уступкамі Кубэ, пад канец ліпеня 1942 г. у Мінску адбыўся чатырохдзённы з'езд акруговых і раённых кіраўнікоў БНС. На ім адзначалася, што за кароткі час БНС змяніла характар сваёй дзейнасці і з першапачатковай сціплай дабрачыннай арганізацыі ператварылася ў агульнакраёвую ўстанову, якая зграмадзіла ў сваіх руках школьніцтва, культурную дзейнасць, прапаганду, палітыку, справы самааховы і перайшла да кіравання гаспадарчым жыццём, адраджэння краю і т. п. «Як відаць з гэтага,— сцвярджалася ў справаздачы з'езда,— БНС сталася цэнтрам пачынанняў усяго беларускага жыцця,і яна ж стаецца яго галоўным кіраўнічым штабам». Пагэтаму з'езд патрабаваў змяніць статут БНС і дабіцца фармальнага прызнання яе самаўрадавых паўнамоцтваў. У сваёй заключнай прамове Ермачэнка так акрэсліў матывы ўсіх гэтых пачынанняў: «Гэтае натхненне і ўздым сведчаць аб тым, што беларускі народ выяўляе сваю волю да самастойнага жыцця і поўнага адраджэння свайго краю ды пераможа ўсе перашкоды, якія стаяць на дарозе да рэалізацыі гэтае мэты» (126).

Найважнейшым, хоць, несумненна, не адзіным матывам у дзейнасці Кубэ было стварэнне беларускіх узброеных сіл для барацьбы з савецкімі партызанамі. Кубэ апублікаваў гэты праект 29 чэрвеня. Варта разгледзець яго больш падрабязна: па-першае, ён нарадзіўся пасля таго як пацярпелі няўдачу ўсе ранейшыя беларускія і нямецкія спробы па стварэнні вайсковых часцей на Беларусі. А падругое, гэты праект на два месяцы апярэдзіў дырэктыву Гітлера № 46 ад 18.8.1942 г., якую Кубэ атрымаў у канцы жніўня — яна давала дазвол на разбудову мясцовых антыпартызанскіх фарміраванняў (127). Не менш цікава выглядае і той факт, што ў першай палове чэрвеня Кубэ і SSPF Цэнэр сфармулявалі свае прапановы па барацьбе з партызанамі, пры гэтым ні адзін, ні другі яшчэ не згадвалі пра беларускія фарміраванні. Такім чынам, рашэнне аб іх стварэнні нарадзілася толькі ў апошнія дні чэрвеня 1942 г. (128).

Дапушчальна, што Кубэ прыняў рашэнне аб арганізацыі Вольнага корпуса Беларускай самааховы (Беларуская самаахова, далей —

БСА) без згоды Гімлера ці Розэнберга. Гімлер яшчэ ў маі лічыў, што праект стварэння літоўскіх, латышскіх і эстонскіх часцей СС хоць і вельмі спакуслівы, але небяспечны. Паказальна, што пры гэтым ён не згадваў беларускіх часцей. Нарэшце, у чэрвені Гімлер пагадзіўся з пэўнымі агаворкамі на фарміраванне латышскіх і эстонскіх легіёнаў, якія павінны былі падначальваццa HSSPF Остлянда — Екельну. Магчыма, улады Остлянда палічылі, што гэтай падставы дастаткова, каб стварыць падобныя часці і на Беларусі. Паводле інфармацыі Кубэ, прызыў беларусаў да зброі адбыўся са згоды Лёзэ (129).

Не было яснасці не толькі з фармальным дазволам на стварэнне беларускіх часцей — пад пытальнікам заставаліся іх велічыня і структура. Кубэ абвясціў, што гэта будзе Вольны корпус (Freikorps). Паводле нямецкай традыцыі, гэта былі атрады добраахвотнікаў, без строга акрэсленай колькасці байцоў. Затое ў кіраўніцтве БНС гэта ўспрынялі як намер стварыць армейскі корпус (Armee-Korps) — у многіх краінах гэта была найбуйнейшая вайсковая адзінка, якая звычайна складалася з трох дывізій. Пры арганізацыі БСА гэта выклікала вялікія непаразуменні. Шмат клопату нарабіла і другая праблема: каму павінны падпарадкоўвацца гэтыя часці? 29 чэрвеня Кубэ даручыў іх фарміраванне Ермачэнку і адначасова папярэдзіў, што яны будуць падпарадкоўвацца камандзіру СС і паліцыі на Беларусі (130). Ніякіх іншых дэталяў ён не зазначыў — іх распрацоўкай павінна было заняцца кіраўніцтва БНС.

Па даручэнню Ермачэнкі праект арганізацыі корпуса БСА апрацаваў маёр Францішак Кушаль, які дагэтуль быў камендантам вучэбных курсаў беларускай паліцыі ў Мінску. У праекце прадугледжвалася стварэнне корпуса ў складзе трох дывізій разам з дапаможнымі службамі. Размясціцца ён павінен быў наступным чынам: у Мінску — штаб корпуса і адна дывізія, яе аперацыйная зона ахоплівала Мінскую і Слуцкую акругі; другую дывізію планавалася расквятараваць у Баранавічах (акругі Баранавіцкая, Навагрудская і Слонімская), трэцюю — у Вілейцы (акругі Вілейская, Лідская і Глыбоцкая) (131). Гэты праект Ермачэнка прадставіў Цэнэру, які 15 ліпеня выдаў загад на стварэнне корпуса БСА. Галоўным яго камендантам быў прызначаны Ермачэнка, які сіламі БНС павінен быў арганізаваць набор добраахвотнікаў і забяспечыць іх харчам, жыллём і абмундзіраваннем. Для ажыццяўлення гэтых задач Ермачэнка атрымаў права на стварэнне ў рамках БНС вайсковай камісіі (аддзела) і прызначэнне акруговых камендантаў БСА. Загад Цэнэра прадугледжваў стварэнне ў кожным раёне адзінкі БСА сілаю ад роты да батальёна. Нямецкая паліцыя павінна была забяспечыць іх зброяй і кіраваць вучэбнай падрыхтоўкай і аперацыйнай дзейнасцю (132).

Пасля вайны Кушаль пісаў, што «загад гэты зрабіў на нас вельмі



непрыемнае ўражанне. З яго ясна вынікала, што роля д-ра Ермачэнкі і людзей, пакліканых д-рам Ермачэнкам, зводзілася толькі да таго, каб паклікаць людзей, адзець іх, закватараваць і накарміць, а рэшта належала ўжо да немцаў» (133). Аднак Ермачэнка адразу ж узяўся за справу. Неўзабаве пасля атрымання загаду Цэнэра ён распачаў арганізацыю штаба БСА і прызначыў яго шэфам падпалкоўніка Язэпа Гуцьку. У канцы ліпеня ён склікаў з'езд акруговых і раённых кіраўнікоў БНС, на якім распрацаваў план забеспячэння войска харчам, абмундзіраваннем і жыллём. На пачатку жніўня ў Мінску адкрыліся афіцэрскія курсы, камендантам якіх стаў Кушаль. Да паловы лістапада тут было падрыхтавана каля 260 афіцэраў царскай, польскай і савецкай арміі. Адначасова ў Баранавічах, Навагрудку, Вілейцы, Глыбокім, Браславе, Паставах і іншых гарадах адкрыліся падафіцэрскія курсы, на якіх атрымала перападрыхтоўку некалькі тысяч падафіцэраў* (134).

Пытаннем спрэчным, але і асабліва цікавым з'яўляецца вярбоўка ў БСА: паводле праекта, яна павінна была весціся згодна з прынцыпам добраахвотнасці. Савецкія крыніцы сцвярджаюць, што добраахвотнікаў увогуле не было, пагэтаму акупанты распачалі прымусовую мабілізацыю, аднак супраціўленне партызан і мірнага насельніцтва пазбавіла яе плёну (135). Але сучасныя крыніцы не пацвярджаюць такіх ацэнак. Як падаваў Кушаль, паведамленне пра стварэнне БСА выклікала ў насельніцтва «надзвычайны энтузіязм» і перакананне, што ёй удасца знішчыць партызаншчыну і стаць зародкам будучага беларускага войска (136). Паводле Канстанціна Езавітава, наплыў добраахвотнікаў быў такі вялікі, што не ўсе з іх маглі быць прыняты (137). Аднак гэтыя выказванні трэба ацэньваць крытычна, улічваючы тэндэнцыйнасць аўтараў і звязаную з гэтым схільнасць да перабольшанняў. Кубэ, у сваю чаргу, у кастрычніку заявіў, што служыць у БСА пажадала каля 15 тысяч беларусаў (138). Напэўна, частка з іх пайшла на гэта не па сваёй волі, аб чым сведчыць прымусовая мабілізацыя ў Ганцавіцкай акрузе (139). З паведамленняў прэсы вынікае, што добраахвотнікаў усё ж было нямала, нават у Нямеччыне і Беластоцкай акрузе, дзе БНС не разгортвала сваёй дзейнасці (140).

Праект стварэння корпуса БСА, нават у такім выглядзе, як гэта прадугледжваў Цэнэр, выклікаў незадавальненне вышэйшых нямецкіх паліцэйскіх улад. Праўда, яны разумелі, якую карысць можа прынесці ўзмацненне антыпартызанскіх сіл на Беларусі, аднак, з другога боку, не жадалі ўмацавання палітычнай пазіцыі Ермачэнкі, якога лічылі за сапраўднага ініцыятара і натхніцеля праекта. У канцы ліпеня шэф СД Остлянда паведамляў Лёзэ:

«У папярэдніх штодзённых справаздачах ужо гаварылася пра

* Ёсць важкія падставы сумнявацца ў гэтых лічбах.— *А. Л.*

тое, што беларускія нацыянальныя колы інспіруюць стварэнне «беларускага легіёна» з беларускім камандаваннем. Кіраўнік мясцовай самапомачы (БНС), ад якога зыходзіць праект фарміравання БСА, развівае ў гэтай галіне актыўнасць, характэрную для планаў, якія беларуская інтэлігенцыя ў Мінску звязвае са (стварэннем) Самааховы. Прымаючца захады, каб забяспечыць будучыя часці Самааховы адзіным абмундзіраваннем і ўзбраеннем, у тым ліку лёгкай пяхотнай і аўтаматнай зброяй, каб адразу надаць ім рэгулярны вайсковы характар; а пазней, пасля правядзення першых аперацый, мець права выстаўляць свае патрабаванні» (141).

Такім чынам, пазіцыя паліцэйскіх улад Остлянда адлюстроўвала палітычны пункт гледжання, згодны з прынцыпамі Гімлера, які можна трактаваць як неадабрэнне дзеянняў Кубэ не толькі ў справе БСА, але і ўсёй яго беларускай палітыкі. Пагэтаму Цэнэр, які занадта падпарадкоўваўся Кубэ, у канцы ліпеня быў адкліканы з пасады шэфа СС і паліцыі на Беларусі. Яго пераемнік, Вальтэр Шымана, дзейнічаў, кіруючыся ўказаннямі Екельна, ён адразу ж пачаў выпраўляць «памылкі» свайго папярэдніка: у верасні Ермачэнку пазбавілі тытула галоўнага каменданта БСА, штаб яе быў распушчаны, афіцэрскія чыны скасаваны. Батальёнам БСА, якія ўжо паспелі сфарміравацца, не далі зброі — ім прапанавалі перайсці на статус паліцэйскіх батальёнаў (*Schutzmannschaften*) пад камандаю нямецкіх афіцэраў. Аднак кіраўніцтва БНС і камандаванне БСА не пагаджаліся з такімі прапановамі — перш за ўсё яны імкнуліся захаваць сваю адасобленасць (142).

Праблема, па сутнасці, зводзілася да таго, каб захаваць у часцях БСА беларускую мову і камандзірскія кадры (weissruthenischer Selbstschutz) — г. зн. іх нацыянальны характар. У паліцэйскіх батальёнах (*Schutzmannschaften*) пад камандаваннем нямецкіх афіцэраў гэта было немагчыма. Такім чынам, канфлікт набываў палітычнае адценне. Кубэ рашуча падтрымаў імкненне лідэраў БНС забяспечыць адасобленасць часцей Самааховы, бо гэта адпавядала яго ўласным нацыянальным канцэпцыям. Ён неаднаразова звяртаўся да Лёзэ з просьбаю забяспечыць беларускія атрады зброяй і хадайнічаць у гэтай справе перад камандаваннем Вермахта, Розэнбергам і нават самім Гітлерам. Кубэ даводзіў, што зрабіў усё, каб настроіць беларускае насельніцтва супраць партызан, і падкрэсліваў, што «як мага хутчэйшае ўзбраенне беларускіх добраахвотнікаў — першачарговая задача ў барацьбе з бандамі» (143).

Рэальны рост партызанскай актыўнасці быў самым важкім аргументам у гэтай спрэчцы — праігнараваць довады «беларускага гаўляйтэра» было не так лёгка.

Заступніцтва Кубэ прынесла некаторы, хоць і вельмі сціплы, плён. У лістападзе вышэйшыя паліцэйскія ўлады мусілі, хаця і неахвотна, прызнаць два факты: па-першае, што «ідэя Беларускай



самааховы супраць бандытызму на самай справе знайшла даволі шырокі водгук сярод мясцовага насельніцтва» (144), а па-другое, што маладыя беларусы выразна супрацьўляліся іх пераводу ў паліцэйскія батальёны. Пра гэта сведчыла іх масавае дэзерцірства з т. зв. батальёна № 49 — першага фарміравання такога тыпу на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі, стварэнне якога Шымана распачаў у жніўні 1942 г. (145). Пагэтаму — насуперак уласнаму нежаданню і агаворкам — давялося пагадзіцца нарэшце на тое, каб захаваць Беларускую самааахову. У рамках БНС пакінулі вайсковы сектар і ў другой палове лістапада прызначылі яго шэфам Кушаля. Ён кіраваў дзейнасцю акруговых і павятовых рэферэнтаў БНС па справах Самааховы. Паводле Кушаля, было сфарміравана ўсяго каля 20 батальёнаў БСА і некалькі меншых падраздзяленняў (146). Аднак цяжка акрэсліць іх фармальны статус. На думку Кушаля, яны падначальваліся не толькі мясцовым рэферэнтам БНС, але і акруговым камандзірам нямецкай паліцыі, тым не менш у некаторых акругах часці БСА лічылі сябе за незалежныя ад немцаў беларускія фарміраванні (147).

Але гэтая «незалежнасць» стварала немалыя праблемы. Паліцэйскія ўлады, не маючы да іх даверу, адмаўляліся забяспечваць беларускія атрады абмундзіраваннем, пагэтаму салдаты і камандзіры мусілі хадзіць ва ўласнай вопратцы — знешне яны мала чым адрозніваліся ад партызан (148). Чакаўшы некалькі месяцаў, пад канец 1942 г. часцям БСА выдалі невялікую колькасць зброі. Гэта не вырашала пытання з узбраеннем, але і не стварала вялікай праблемы: зброю здабывалі ўласнай рукой, у т. л. куплялі ў нямецкіх салдат. Як піша Кушаль, такім чынам узброіўся цэлы батальён у Рудзенску Мінскай акругі (149). Сяргей Хмара, апавядаючы пра сітуацыю ў Слонімскай акрузе, падае нават цэны, па якіх рабіліся такія здзелкі. Так, напрыклад, кулямёт, які купляўся ў нямецкіх або італьянскіх салдат, што вярталіся з фронту, каштаваў 9 кг саланіны і 5 літраў самагону. Звычайныя аўтаматы куплялі нават... у савецкіх партызан — за іх плацілі пару бутэлек гарэлкі. Такім чынам,— зазначае далей Хмара,— адзін са слонімскіх батальёнаў наўзабаве займеў восем кулямётаў і нават мінамёты (150)*.

---

* Да ўсіх гэтых фактаў трэба ставіцца вельмі крытычна. Вось што гаварыў на нарадзе ў Генеральным камісарыяце Беларусі ў красавіку 1943 г. камандуючы паліцыяй парадку Клепш: «Спроба стварыць самааахову з беларусаў-добраахвотнікаў, каб яны незалежна ад сваёй працы ў выпадку неабходнасці неслі ўзброеную службу, сарвалася па некалькіх прычынах. Па-першае, нягледзячы на мноства спроб, немагчыма было атрымаць ад Вермахта неабходнай колькасці трафейнай зброі. Па-другое, бяззбройныя абаронцы і іх сем'і пастаянна падвяргаліся нападам і тэрору з боку банд, як толькі апошнія даведваліся аб стварэнні самааховы. Па-трэцяе, гэтыя людзі, за рэдкім выключэннем, аказаліся ненадзейнымі, паколькі лёгка паддаваліся варожай прапагандзе і сімпатызавалі праціўніку.

## Карныя акцыі і канфлікт Кубэ з СС

Барацьба з партызанамі — гэта вайна з невядомым праціўнікам, які атаясамліваецца з насельніцтвам. Яна закранае гэтае насельніцтва непасрэдна, без увагі на пазіцыю, занятую ім ў барацьбе. Улада звычайна перакладае адказнасць за партызанскія выступленні на плечы навакольнага цывільнага люду. Такім чынам насельніцтва прымушаюць уключыцца ў антыпартызанскую барацьбу, бо ў адваротным выпадку яно само становіцца ахвярай карных мерапрыемстваў. Гэта класічны метад, стасаваны і да другой сусветнай вайны, і пасля яе, які незалежна ад ваенных аперацый і тэрору як сродкаў запалохвання павінен быў пазбавіць партызан апоры ў мясцовага насельніцтва. У залежнасці ад варункаў мэта дасягалася рознымі сродкамі. Адным з самых гуманных была прапаганда, а да найбольш радыкальных належала «ачыстка» пацыфікаванай тэрыторыі ад насельніцтва.

Нямецкія карныя акцыі на Беларусі савецкая гістарыяграфія часта акрэслівала як «барацьбу з партызанамі і насельніцтвам». У прынцыпе гэта слушная фармулёўка, аднак яна адлюстроўвае толькі вынікі гэтых аперацый, але не іх прычыны: на тэрыторыях, дзе не былі занатаваны выступленні партызан, не натавалася і «барацьбы з насельніцтвам»*. У першыя тыдні вайны Гімлер, адказны за належны стан бяспекі, у т. л. і на Беларусі, даў распараджэнне ахоўным атрадам СС, якія займаліся ачышчэннем новазанятых раёнаў ад чырвонаармейцаў, «селектыўна» паводзіць сябе з мясцовым насельніцтвам. У загадзе, адрасаваным Баху, ад 28.7.1941 г. ён указваў, што жыхароў, якія ставяцца да Германіі прыхільна, трэба ашчаджаць і нават часткова ўзбройваць, затое супраць насельніцтва, якое падтрымлівае савецкіх марадзёраў і партызан, належыць прымаць самыя вострыя меры: мужчын — расстрэльваць, дзяцей і жанчын — дэпартаваць, а вёскі — спальваць (151). Аднак вызначыць дакладна пазіцыю насельніцтва было, па сутнасці, немагчыма, пагэтаму ўжо ўлетку і ўвосень 1941 г. шмат беларускіх вёсак, асаблі-

Мелі месца выпадкі, калі колькасна буйныя патрулі самаахоўы, узброеныя вінтоўкамі і аўтаматычнай зброяй, пераходзілі на бок бандытаў».

Да таго ж праведзеная Беларускай самапомаччу мабілізацыя людзей у Беларускую самаахову была здзейснена не згодна з адпаведнымі ўмовамі і, у рэшце рэшт, была даручана жандармерыі. Для падрыхтоўкі каманднага саставу для Беларускай самаахоўы былі арганізаваны тры курсы. Пры гэтым былі ўлічаны кароткія тэрміны і мізэрнасць прадстаўленых у распараджэнне сродкаў.

Аднак поспехі былі далёкія ад чакаемых, паколькі адбор на курсы, праведзены БНС, не адпавядаў патрабаванням. У выніку і з ліку выпускнікоў аказаліся перабежчыкі да партызан (ЦДзАКР БССР, ф. 370, оп. 1, с. 1395, л. 231—257).— *А. Л.*

* З гэтым, відаць, можна пагадзіцца толькі пры адной умове: калі не лічыць за беларускае насельніцтва яўрэяў, цыган, палякаў, беларусаў, рускіх і інш. нац.— камуністаў, камсамольцаў, палітрукоў, былых савецкіх актывістаў — барацьба з імі вялася з першых дзён і не спынілася б да поўнага іх знішчэння.— *А. Л.*



ва тых, што стаялі паблізу ад вялікіх лясных масіваў, было спалена.

Актывізацыя дзейнасці савецкіх партызан на Беларусі, якая з вясны 1942 г. пачала набываць характар старанна арганізаванай вайсковай аперацыі ў тыле фронту, стварыла цалкам новую сітуацыю, да яе акупацыйныя ўлады не былі падрыхтаваны. Зрэшты, змяніўся сам характар партызанскага руху: яго ядром сталі перакінутыя з-за лініі фронту спецыяльна падрыхтаваныя атрады Чырвонай Арміі, якія атрымлівалі загады і ўзбраенне з савецкага тылу. Пагэтаму немцы неўзабаве пераканаліся ў непрыдатнасці ранейшых паліцэйскіх мер і прыйшлі да высновы, што весці барацьбу супраць партызан трэба іншымі спосабамі.

План Кубэ, інсціраваны Ермачэнкам, грунтаваўся на стварэнні густой сеткі атрадаў Беларускай самаахоўы, падмацаваных сіламі СС і Вермахта, і, безумоўна, адпавядаў новым задачам антыпартызанскай барацьбы. Паводле задумы, атрады БСА павінны былі быць невялікія — ад роты да батальёна ў кожным раёне, мабільныя і, самае галоўнае, настолькі добра зарыентаваныя ў мясцовай сітуацыі, каб распазнаць сапраўдных партызан. Для партызан гэты план прадстаўляў рэальную пагрозу, пра што сведчыць іх «фанатычная і бязмежная нянавісць» да атрадаў БСА (152). Яны мелі перад сабою вопыт Прыбалтыкі, дзе мясцовыя паліцэйскія сілы цалкам перакрэслілі шанцы для больш значнага развіцця савецкага партызанскага руху.

Лёзэ падтрымаў план Кубэ, затое Гімлеру ён не спадабаўся, аб чым сведчыла адкліканне Цэнэра і перашкоды, якія ствараліся ў справе ўзбраення беларускіх батальёнаў. У некаторай ступені тут быў прычынаю праектаваны статус БСА: часткова яна была падпарадкавана БНС, а значыць, мела больш самастойнасці, чым паліцэйскія батальёны. Аднак цяжка дапусціць, што гэты фактар, таксама як і боязь празмернага росту беларускага нацыяналізму, адыгрывалі тут больш значную ролю. У тагачасных умовах забяспечыць нямецкі кантроль над БСА не складала асаблівай праблемы. Такім чынам, можна меркаваць, што гэты план Гімлер успрыняў як чарговую спробу ўмяшальніцтва цывільнай адміністрацыі ў кампетэнцыю СС і паліцыі, што і прадрашыла яго наўдачу. Гімлер спадзяваўся расправіцца з партызаншчынай без якіх-колечы палітычных уступак на карысць беларусам.

Пазіцыю СС і паліцыі ў адносінах да цывільнай адміністрацыі выдатна ўмацавала дырэктыва Гітлера № 46, якая барацьбу з партызанамі, таксама як і дзеянні на фронце, прызнавала справаю найвышэйшага камандавання, канцэнтравала яе ў руках Гімлера і аддавала ў яго распараджэнне ўсе рэзервовыя сілы Вермахта, СС і паліцыі, каб яшчэ да пачатку найбліжэйшай зімы разбіць асноўныя партызанскія сілы. Меркавалася, што гэтай мэты ўдасца дасягнуць шляхам т. зв. вялікіх карных аперацый — скаардынаваных комп-

лексных акцый на акрэсленых вялікіх абшарах. Гімлер і Гёрынг спадзяваліся, што падчас правядзення гэтых аперацый вынішчэнне партызан удасца спалучыць з рэквізіцыямі хатняй жывёлы і іншых харчовых прадуктаў, а таксама — прымусовым вывазам насельніцтва на працу ў Германію або ў канцлагеры (153). Побач з гэтымі дзеяннямі ішлі расстрэлы вясковых жыхароў, якія падазраваліся ў спачуванні або дапамозе партызанам, вынішчэнне яўрэяў, што хаваліся па лясах, паленне цэлых вёсак і іншыя злачынствы (154).

Паводле савецкіх крыніц, за ўвесь перыяд акупацыі на Беларусі было праведзена больш за 60 карных экспедыцый, у выніку якіх было знішчана 692 вёскі разам з іх жыхарамі (155). Па няпоўных звестках, прадстаўленых у табліцы 11, падчас 28 падобных аперацый ад рук карнікаў загінула звыш 70 тысяч чалавек. Нельга, аднак, падлічыць усе людскія страты, нанесеныя ў час усіх карных экспедыцый, шляхам падваення гэтага ліку, паколькі ў табліцу ўвайшлі ўсе найбуйнейшыя пацыфікацыйныя акцыі. Пагэтаму агульную колькасць забітых, спаленых жыўцом і знішчаных іншым шляхам людзей падчас гэтых акцый на Беларусі з вялікай асцярогай можна ацаніць прыблізна ў 100 тысяч чалавек (156).

Першая карная аперацыя на тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі мела назву «Зумпфібэр» («Балотная ліхаманка»). Яна праводзілася з 21 жніўня па 21 верасня 1942 г. пад камандаваннем HSSPF Остлянда Екельна. Вынікі яе, паводле рапарта, былі наступныя: спалена 49 партызанскіх лагераў і некалькі вёсак, забіта ў баях 389 партызан, 1274 цывільныя жыхары, якіх западозрылі ў супрацоўніцтве з партызанамі, і 8350 яўрэяў. Да таго ж «эвакуіравана» 1217 чалавек. Такім чынам, усяго было забіта больш за 10 тысяч чалавек, з якіх партызаны не складалі і 4 %.

Вынікі акцыі «Зумпфібэр» былі значна большыя за яе антыпартызанскі эфект. Кубэ высмейваў Екельна, які лічыў гэтую аперацыю за вялікае дасягненне ў барацьбе з партызанскай пагрозай, і адначасова паведаміў Лёзэ, што такія сродкі не толькі перашкаджаюць дзейнасці падначаленага яму мясцовага адміністрацыйнага апарату, але ўвогуле не садзейнічаюць паляпшэнню стану бяспекі (157). Забойства нявінных людзей падымала аператыўныя паказчыкі СС, затое падрывала палітыку Кубэ, скіраваную на здабыццё прыхільнасці тутэйшага насельніцтва. Цікава, што яго падтрымаў SSPF Шымана, які пацвердзіў, што вялікая акцыя Екельна мала што дала, бо партызаны паўцякалі (158). І Кубэ, і Шымана адначасова выступілі супраць правядзення такіх аперацый у будучым. У гэтай справе Шымана збіраўся прапанаваць Екельну стварэнне густой сеткі паліцэйскіх баз, якая ахоплівала б кожны раённы горад. На яго думку, гэтае мерапрыемства дало б куды большы плён у барацьбе з партызанамі (159). Такім чынам, мінскі шэф СС і паліцыі падтрымаў канцэпцыю Кубэ.



Табліца 11. **Вынікі некаторых карных аперацый на Беларусі***

| Кодавая назва | і месца правядзення аперацыі | Дата аперацыі | Забіта людзей: усяго | Забіта людзей: у баях | Узята ў палон | Вывезена на працу ў Германію | Рэквізавана хатняй жывёлы (галоў) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| «Майкэфер — Адлер» | Бабруйск — Магілёў | 07—08.1942 | 1500 | — | — | — | 3000 |
| «Грайф» | Віцебск — Орша | 08.1942 | 1395 | — | — | — | — |
| «Зумпфібэр» | розныя раёны Беларусі | 08—09.1942 | 10 013 | 389 | — | 1217 | 67 |
| «Лухс» | ваколіцы Лепеля | 09.1942 | 400 | — | — | 300 | 1415 |
| «Бліц» | Віцебск — Полацк | 09—10.1942 | 500 | — | — | — | — |
| «Карлсбад» | Барысаў — Орша | 10.1942 | 1051 | — | — | — | — |
| «Нюрнберг» | Глыбоцкая акруга | 11.1942 | 3034 | 798 | 348 | — | — |
| «Фрыда» | Барысаўская акруга | 11.1942 | 136 | — | — | 1600 | 630 |
| «Альберт-II» | ваколіцы Рудзенска | 11.1942 | 127 | — | 10 | — | — |
| «Зонэнвэндэ» | ваколіцы Магілёва | 12.1942 | 271 | 105 | — | — | — |
| «Мюнхен» | ваколіцы Радашковіч | 12.1942 | 63 | — | 6 | — | — |
| «Гамбург» | Слонімская акруга | 12.1942 | 6172 | 1674 | — | — | — |
| «Альтона» | Косава — Бытань | 12.1942 | 1032 | 97 | — | — | — |
| «Эрнтэфэст-1» | Чэрвень — Асіповічы | 01.1943 | 1970 | 805 | 34 | 1308 | 5330 |
| «Эрнтэфэст-2» | ваколіцы Слуцка | 01—02.1943 | 2325 | — | — | 272 | — |
| «Вальдвінтэр» | ваколіцы Полацка | 01.1943 | 1627 | 90 | — | 2041 | 8632 |
| «Франц» | Чэрвень — Асіповічы | 01.1943 | 2025 | 1143 | — | 1000 | 2400 |
| «Шнэехазэ» | ваколіцы Полацка | 01—02.1943 | 877 | — | — | — | — |
| «Вінтэрцаўбэр» | ваколіцы Полацка | 02—03.1943 | 633 | — | — | 200 | 499 |
| «Горнунг» | Слуцкая акруга | 02—03.1943 | 12 897 | 2219 | 65 | — | 16 700 |
| «Ніксэ» | раён возера Чырвонае | 02—03.1943 | 696 | — | — | 100 | 300 |
| «Фён» | ваколіцы Лунінца | 03.1943 | 500 | — | — | 1225 | 2890 |
| «Доннэркайль» | ваколіцы Полацка | 03.1943 | 542 | — | — | 345 | — |
| «Майгэвітэр» | Віцебск — Сураж | 05.1943 | 2000 | — | — | — | — |
| «Котбус» | Бягомль — Барысаў — Лепель | 05—06.1943 | 12 000 — 13 000 | 6087 | 599 | 6053 | 6501 |
| «Герман» | Налібокі — Дзяржынск | 07—08.1943 | — | 4280 | 654 | 20 944 | 21 059 |
| «Фрыц» | Глыбоцкая акруга | 09—10.1943 | 509 | 327 | 227 | 11 724 | 35 943 |

* У табліцы прадстаўлены толькі тыя карныя аперацыі, вынікі якіх можна было высветліць на падставе дакументаў.

*Крыніцы:* Meldungen über Bandenbekämpfung, AAN, александрыйскія мікрафільмы, T-175, ролік 124 і 236; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии (1941—1944). Мн., 1965; БелСЭ. Т. 1—12. Мн., 1969—1975; Trials of war Criminals before the Nuernberg Military Tribunals, t. XIII, Washington, 1952, p. 308.

Гэта была не толькі крытыка бяздарнасці паліцыі і аперацыі Екельна — у рэшце рэшт, усё сказанае датычылася Гімлера як галоўнага рэжысёра вялікіх карных экспедыцый, і гэта пасля таго, як сам Гітлер перадаў яму найвышэйшыя паўнамоцтвы ў барацьбе з партызанамі. З Шыманай разабрацца было прасцей — ён быў чалавекам гімлераўскага ведамства, пагэтаму неўзабаве яго проста перавялі на ніжэйшую пасаду каменданта паліцыі парадку ў Мінску (160). З Кубэ затое было не так лёгка, нягледзячы на яго няспынныя выступленні супраць СС. Пасля «нахабных» абвінавачванняў СС у грабяжах мастацкіх твораў у Мінску, пасля ўмяшальніцтва ў справу выкішчэння слуцкіх яўрэяў, пасля «нягодных немца» паводзін з беларусамі (161) і ўмяшальніцтва ў кампетэнцыю СС і паліцыі пры арганізацыі БСА, Кубэ цяпер выступіў супраць масавых забойстваў цывільнага насельніцтва і спальвання вёсак. Выступіў акурат тады, калі Гімлер збіраўся зрабіць гэтыя акцыі сталым элементам усіх вялікіх карных аперацый, і пры гэтым яшчэ сцвярджаў (што ўжо выглядала як іронія), быццам у сувязі з антыпартызанскімі экспедыцыямі на Беларусі пагоршыліся гігіенічныя варункі і ўзнікла небяспека эпідэміі (162).

Такім чынам, у барацьбе супраць партызанскага руху на Беларусі абазначыліся два напрамкі, пачалася вайна за метады, якімі яна павінна была весціся, множыліся ўзаемныя папрокі і абвінавачванні паміж цывільнай адміністрацыяй і СС у бяздарнасці і няўмельстве. Спакою на будучыню гэта не варажыла, тым больш што Кубэ выразна ігнараваў патрабаванні Бэргера — гімлераўскага стаўленіка ў ОМі, які яшчэ зусім нядаўна катэгарычна і «ў астатні раз» дамагаўся, каб цывільная адміністрацыя на Усходзе не ўмешвалася ў кампетэнцыі рэйхсфюрэра СС (163). Пагэтаму, калі ў кастрычніку Лёзэ з'явіўся ў Берліне, Бэргер высветліў імгненна, што ён збіраецца разам з Розэнбергам пайсці да Гітлера, каб абвінаваціць паліцыю ў няздатнасці весці барацьбу з партызанамі і прапанаваць поўнасцю падпарадкаваць яе цывільным уладам (164). Бэргер здабыў нават дакументацыю з выступлення Лёзэ і перадаў яе Гімлеру. Праз месяц ён адкрыта раіў свайму шэфу правесці чыстку сярод высокіх чыноў цывільнага кіраўніцтва на Усходзе, якія выяўляюць варожасць да СС (165). Аднак Гімлер, нягледзячы на магутную ўладу і не меншае жаданне, не мог скінуць Кубэ з пасады генеральнага камісара Беларусі, на якую яго прызначыў сам Гітлер. Затое, маючы найвышэйшыя паўнамоцтвы ў барацьбе з партызанамі, ён мог дзейнічаць іншым шляхам.

Неўзабаве пасля таго як Лёзэ наведаў Берлін, Гімлер выдаў шэраг важных распараджэнняў, якія мелі сур'ёзны ўплыў на далейшыя падзеі. 23 кастрычніка ён прызначыў Баха сваім упаўнаважаным па справах барацьбы з партызанамі, пакінуўшы за ім ранейшае званне HSSPF Russland-Mitte (шэфа СС і паліцыі Цэнтральнай




Такія двухмоўныя, нямецка-беларускія, пашпарты атрымоўвалі ў 1916 г. жыхары Беластоцка-Гродзенскай акругі




Замежны пашпарт Беларускай Народнай Рэспублікі. 1918 г.



Вучні беларускай народнай школы ў вёсцы Грабавец Арлянскай воласці Бельскага павета з настаўніцай Верай Матэйчук. 1918 г.



Сустрэча савецкіх і нямецкіх войск у Брэсце. Верасень 1939 г.



Сустрэча з жыхарамі заходніх раёнаў Беларусі. Чэрвень 1941 г.



Вільгельм Кубэ, генеральны камісар Беларусі



Іван Ермачэнка, старшыня Беларускай Народнай Самапомачы (здымак пасляваенны)



Вацлаў Іваноўскі, старшыня горада Мінска. 1943. Партрэт Пятра Сергіевіча



Янка Станкевіч, старшыня падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў



Тамаш Зан, арганізатар разведкі польскай Арміі Краёвай у Беларусі і Прыбалтыцы

Зоф'я Дабжыньская («Ева»), эмісар Галоўнага камандавання Арміі Краёвай, настаўніца беларускай пачатковай школы ў Варшаве, удзельніца перагавораў з кіраўніцтвам Партыі беларускіх нацыяналістаў (здымак пасляваенны)





Самуіл Кастравіцкі, супрацоўнік Іваноўскага па падпольных кантактах з Галоўным камандаваннем Арміі Краёвай



Вітаўт Буткевіч, супрацоўнік Іваноўскага па падпольных кантактах з Галоўным камандаваннем Арміі Краёвай



Беларуская служба парадку (дапаможная паліцыя) на Міншчыне



Кубэ распісваецца ў кнізе наведвальнікаў выстаўкі народнага мастацтва ў Мінску



Кубэ сустракае рэйхсміністра акупаваных усходніх абшараў Альфрэда Розэнберга ў Мінску. Май 1942 г.



Вучні беларускай пачатковай школы ў Гайнаўцы на Беласточчыне з настаўніцай Надзеяй Мэльцэр, 1942/43 н. г.

Школьнае пасведчанне Гайнаўскай пачатковай школы



Weissruthenische Volksschule
in Hainowka

Zeugnis Nr. 149

Die Schülerin Gryc Marie geb. am 29.5.1932, in Popielewo k. Pruzany werden die im Schuljahre 1943/44 in der vierte Klasse der Weissruthenischen Volksschule zu erworbenen Kenntnisse wie folgt bewertet

| | | I Halbjahr | II Halbjahr |
|---|---|---|---|
| 1. | Deutsch mündlich | | |
| 2. | Deutsch schriftlich | 5 | 5 |
| 3. | Weissruthenisch mündlich | | |
| 4. | Weissruthenisch schriftlich | 4 | 5 |
| 5. | Rechnen | 5 | 5 |
| 6. | Erdkunde | 3 | 4 |
| 7. | Naturkunde | 3 | 4 |
| 8. | Geschichte | 3 | 4 |
| 9. | Turnen | | |
| 10. | Singen | | |
| 11. | Handfertigkeiten | | |
| 12. | Religion | | |
| 13. | Betragen | 5 | 5 |

Bei Schulbesuch und sehr guten Betragen wird die Schülerin die fünfte Klasse auf Grund obiger Kenntnisse versetzt.

Der Schulleiter / Der Klassenlehrer Safroniuk

Hainowka, den 17 Juni 1944

Беларуская Пачатковая Школа
у Гайнаўцы

Пасьведчаньне № 149

Гэтым сьведчыцца, што вучань(ца) чацьвертага клясы Грыц Марыя, рада 29.5.1932 у Папялева пав. Пружаны атрымаў за 1943/44 школьны год наступныя ацэнкі з прадметаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Нямецкая мова (вусная) | | |
| 2. | Нямецкая мова (пісьменная) | 5 | |
| 3. | Беларуская мова (вусная) | | |
| 4. | Беларуская мова (пісьменная) | 4 | 5 |
| 5. | Арытматыка | 5 | 5 |
| 6. | Геаграфія | 3 | 4 |
| 7. | Прыродазнаўства | 3 | 4 |
| 8. | Гісторыя | 3 | 4 |
| 9. | Гімнастыка | | |
| 10. | Сьпеў | | |
| 11. | Ручныя работы | | |
| 12. | Рэлігія | | |
| 13. | Захаваньне | 5 | 5 |

Пры наведваньні школы і пры надта добрым захаваньні вучань(ца) Грыц Марыя на падставе вышэй пададзеных ацэнак пераводзіцца ў пятую клясу

Кіраўнік Школы: / Клясовы Настаўнік: Сафранюк

Гайнаўка 17.VI. 1944

П. Булгак, дырэктар Мінскага гарадскога тэатра (здымак пасляваенны)



Акцёры Мінскага гарадскога тэатра на гастролях у Слоніме. Лета 1943 г.





Стаўка на супрацоўніцтва: член Рады Даверу Аўген Калубовіч і Вільгельм Кубэ. 1943 г.

На Першамайскай дэманстрацыі ў Мінску, 1943 г.





Акц





Радаслаў Астроўскі, прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады

Генеральны камісар Беларусі Курт фон Готбэрг выступае на пасяджэнні БЦР



Расіі) (166). Амаль адначасова ён выдаў загад, паводле якога SSPF у Мінску, які дагэтуль падпарадкоўваўся паліцэйскім уладам Остлянда, цяпер пераводзіўся пад камандаванне Баха (167). Дзейнасць службы бяспекі (СД) Генеральнага камісарыята Беларусі ў галіне антыпартызанскай разведкі таксама перайшла пад яго кіраўніцтва (168). Нарэшце пад канец кастрычніка Гімлер прызначыў на пасаду SSPF Беларусі бязмежна адданага сабе чалавека — брыгадэнфюрэра СС і генерал-маёра паліцыі Курта фон Готбэрга, які замяніў Шымана (169).

У лютым 1943 г. штаб Баха пераехаў з Магілёва ў Мінск (170). Неўзабаве, 26.3.1943 г., Бах як упаўнаважаны па барацьбе з партызанскім рухам пераехаў у стаўку Гімлера, у Мінску тым часам засталася частка яго штаба, якая 23.3.1943 г. атрымала новую назву: Der Höhere SS-und Polizeiführer Russland-Mitte und Weissruthenien (Вышэйшы начальнік СС і паліцыі Цэнтральнай Расіі і Беларусі — далей скарочана HSSPF RM u WR) (171). Перайменаванне адлюстроўвала зліццё ў руках адзінага камандавання дзейнасці СС і паліцыі на тэрыторыі вайсковага праўлення і Генеральнага камісарыята Беларусі. Паколькі ў Баха з'явіліся новыя абавязкі, кіраваць штабам HSSPF RM u WR павінен быў намеснік — групэнфюрэр СС і генерал-лейтэнант паліцыі Корземан, а ў выпадку яго адсутнасці — фон Готбэрг (172). Бах і Корземан практычна бывалі ў Мінску нячаста, пагэтаму сапраўдным кіраўніком усіх паліцэйскіх сіл ва Усходняй і Заходняй Беларусі заставаўся фон Готбэрг. Яму падпарадкоўваліся тэрытарыяльныя пасты — SSPF Цэнтральнай Расіі ў Магілёве і SSPF Беларусі ў Мінску. Аднак яны не адыгрывалі важнай ролі, тым болей што функцыі абодвух практычна не былі падзеленыя і заставаліся ў руках Готбэрга.

Такім чынам, Генеральны камісарыят Беларусі, хоць і заставаўся ў складзе Остлянда, пад канец кастрычніка 1942 г. фактычна аказаўся падпарадкаваны двум асяродкам вышэйшай акупацыйнай улады. Адміністрацыйны апарат, якім распараджаўся Кубэ, па-ранейшаму падпарадкоўваўся Лёзэ, затое ўсе сілы СС і паліцыі — Баху і яго намесніку Готбэргу. Гэта стварала новую сітуацыю, у якой СС непазбежна павінна была пераважыць. Кубэ выдатна гэта зразумеў і дзеля асабістай перастрахоўкі 9.11.1942 г. выслаў Гімлеру ліст, у якім запэўніваў яго ў абсалютнай лаяльнасці перад СС, таксама — у падтрымцы супрацьпартызанскай барацьбы Баха. На фоне папярэдніх сутыкненняў такія прызнанні маглі здацца Гімлеру сенсацыяй, адразу ж пасля атрымання ён дaручыў пераслаць пісьмо Кубэ Баху — дзеля азнаямлення (174). Яны абодва разумелі: шчыра *прызнавацца ў лаяльнасці*, ведаючы, якімі метадамі вядзецца барацьба з партызанамі, Кубэ мог толькі ў адным выпадку: калі вырашыў адмовіцца ад сваёй ранейшай беларускай палітыкі. Аднак гэтага ён не рабіў (175), і паліцэйскія ўлады зразумелі, што саліда-

рызацыя з СС была для яго толькі прыкрыццём, камуфляжам. Пад канец 1942 г. пазіцыі абодвух бакоў акрэсліліся выразна, ніхто з іх ужо не бачыў шляхоў да пагаднення. Мяркуючы па ўсім, ужо тады кіраўніцтва СС вырашыла выціснуць Кубэ з яго пасады ў Мінску.

У студзені 1943 г. дзеля гэтага распачалася кампанія, скіраваная на вылучэнне Генеральнага камісарыята Беларусі са складу Остлянда і падпарадкаванне яго вайсковым уладам — гэтыя захады павінны былі прывесці да ліквідацыі цывільнай адміністрацыі на падлеглым Кубэ абшары. Такія праекты снаваліся ў штабе Клюге ў Смаленску, іх пускалі на абмеркаванне ў вайсковых колах у Мінску, а пазней — і Рыгі (176). Праект ліквідацыі цывільнага кіраўніцтва на Беларусі падтрымліваў і штаб Гёрынга, і яго прадстаўнікі ў ОМі (Кёрнэр, Томас, Рыке, Шлотэрэр), якія пасля страты Кубані і значнай часткі Украіны разлічвалі на ўзмацненне эксплуатацыі Беларусі (177). Не выключана, што ролю натхніцеля пры гэтым мог адыграць Астроўскі — ён знаходзіўся ў той час у Смаленску і аказваў дапамогу штабу Клюге і кіраўніцтву айнзацгрупы В у змаганні з партызанскім рухам на Смаленшчыне (178). Кубэ і Ермачэнка былі для яго самай галоўнай перашкодай пры вяртанні ў Мінск. Але асноўнымі ініцыятарамі гэтага праекта былі ўсё ж паліцэйскія ўлады.

У гэтай сітуацыі Кубэ выступіў у абарону Генеральнай акругі, якой пагражала ліквідацыя. 3.2.1943 г. ён выслаў Розэнбергу доўгі ліст, у якім прадставіў грунтоўныя аргументы супраць скасавання цывільнай адміністрацыі на Беларусі. Ён падкрэсліваў, што партызанскі рух у зоне цывільнага рэжыму значна слабейшы, чым ва Усходняй Беларусі, якая знаходзілася пад кіраўніцтвам Вермахта, што насельніцтва падначаленага яму абшару спраўна выконвае харчовыя пастаўкі, прычым нават і ў тых раёнах, куды наведваюцца партызаны. Сярод іншых доказаў галоўны націск Кубэ рабіў на палітычныя меркаванні. Ён пісаў пра страту германскага прэстыжу ў выпадку ліквідацыі цывільнай адміністрацыі на Беларусі, пра парушэнне цэласнасці тэрыторыі цывільнага праўлення на Усходзе, папярэджваў пра небяспеку поўнай страты даверу ў тутэйшага насельніцтва (у гэтай частцы Беларусі, на думку Кубэ, 50 % жыхароў дагэтуль яго яшчэ захоўвала). У рэшце рэшт, «на доўгі час была б увогуле знішчана наша дзейнасць у галіне культуры, гаспадаркі, падатковай палітыкі і адміністрацыі. Пры такім стане,— пісаў ён далей,— уводзіць пазней цывільны рэжым яшчэ раз проста не мела б сэнсу». Адначасова Кубэ падкрэсліваў патрэбу працягваць пазітыўную палітыку ў адносінах да беларускага народа, ён ацэньваў яе як «безумоўна неабходную» для будучай усходняй палітыкі Германіі (179).

Такім чынам, беларускае пытанне стала справаю прэстыжу для нямецкай цывільнай адміністрацыі на Усходзе. Пагэтаму Лёзэ і Ро-



зэнберг падтрымалі намаганні Кубэ. Захаванне ранейшага адміністрацыйнага статуса Беларусі было гарантам яе нацыянальна-тэрытарыяльнай адасобленасці. У выпадку зліцця з тылавой зонай групы армій «Цэнтр», нацыянальна як быццам бы нейтральнай, якую на самай справе, аднак, лічылі за расійскую (Russland-Mitte), гэтая адасобленасць страцілася б. Такім чынам, праблема вырастала да палітычнага ўзроўню. Лёзэ, які даўно пагадзіўся з Кубэ наконт неабходнасці вылучэння Беларусі з Остлянда і непасрэднага падпарадкавання яе ОМі, цяпер змяніў сваю думку. У сярэдзіне красавіка 1943 г. ён адмовіўся ад гэтага праекта, выходзячы з меркавання, што ў рамках Рэйхскамісарыята Остлянд абараняць пазіцыю цывільнай адміністрацыі на Беларусі будзе лягчэй (180). Па сутнасці, гэта быў тактычны крок, зроблены дзеля аказання дапамогі яго сябру, Кубэ, бо да самага канца акупацыі Лёзэ заставаўся праціўнікам злучэння Беларусі з Прыбалтыкай.

24 мая 1943 г. Розэнберг, напэўна з адабрэння Гітлера, выдаў адпаведны дэкрэт, ў якім пацвердзіў ранейшую прыналежнасць Беларусі да Остлянда. Адначасова спрашчалася службовая працэдура паміж генеральным камісарам і міністэрствам акупаваных усходніх абшараў. Аднак гэта не азначала надання самастойнасці Генеральнай акрузе Беларусі. У дэкрэце паведамлялася, што пазней будуць асобна агавораны і ўрэгуляваны справы ў галіне паліцыі (181). У ОМі спадзяваліся, што пасля знішчэння партызанскага руху паліцэйскія ўлады на абшары, падначаленым Кубэ, зноў пяройдуць у распараджэнне HSSPF Остлянда.

Гімлеру і Баху не ўдалася таксама і спроба афіцыйна абʼявіць Остлянд, у тым ліку і падпарадкаваную Кубэ частку Беларусі, зонай партызанскай вайны (Bandenkampfgebiet), што пасля прызначэння Баха 21.6.1943 г. шэфам антыпартызанскіх фарміраванняў пры рэйхсфюрэры СС запэўніла б яму вяршынства ў адносінах да цывільнай адміністрацыі на Беларусі (182). У той самы дзень (21.6.1943 г.) Гімлер вярнуў Баху падрыхтаваны праект загада без подпісу, растлумачыўшы, што ў дадзены момант лічыць яго непатрэбным (183). Правал праекта Гімлера абʼявіць Остлянд зонай партызанскай вайны, нягледзячы на яго ранейшую зацікаўленасць (184), дазваляе меркаваць, што ён не атрымаў у гэтай справе падтрымкі Гітлера. У гэтым раўндзе з СС зноў выйграваў Кубэ.

У барацьбе за скасаванне цывільнага праўлення на Беларусі паліцэйскія ўлады спрабавалі падважыць палітычную рэпутацыю Кубэ, пусцілі за ім славу праваднік беларускіх нацыяналістычных тэндэнцый, «супярэчных» інтарэсам Германіі. Готбэрг у адным з першых сваіх лістоў, высланых з Мінска да шэфа Галоўнай управы СС Бэргера ў снежні 1942 або ў студзені 1943 г., павёў атаку на дзейнасць БНС і яе кіраўніка Ермачэнку, які «частуе берлінскія ўлады цалкам памылковымі нацыянальнымі і незалежніцкімі бела-

рускімі ідэямі». Готбэрг сцвярджаў, што БНС адно толькі нарабіла шкоды і задурманіла насельніцтва. Асабліва ён абураўся наконт створанай пры БНС Самаахова, якая, на яго думку, шчыльнымі радамі, са зброяй у руках пераходзіць на бок партызан. Готбэрг рабіў высновы: «Цалкам зразумела, што выдуманыя беларускімі эмігрантамі або салоннымі берлінскімі палітыкамі ідэі нацыянальнай Беларусі ў сапраўднасці проста не існуюць» — і сцвярджаў, што да гэтай яго думкі пачынаюць далучацца і акруговыя камісары на Беларусі (185). Такім чынам, Готбэрг цэліў у самыя падставы палітыкі Кубэ, прычым яго пазіцыя супадала з той, што выказаў Гуміч на згаданай канферэнцыі ў ОМі 8.1.1943 г. А гэта азначала, што погляды абодвух высокіх функцыянераў паліцыі выцякалі з адной крыніцы — адносін Гімлера да Кубэ і яго палітыкі.

Пры такіх абставінах у снежні 1942 г. служба бяспекі ў Мінску занялася справай кіраўніцтва БНС і зборам доказаў яго «злачыннай дзейнасці» (186). Галоўны ўдар быў скіраваны супраць Ермачэнкі, але даказаць яго варожасць да Германіі нават для СД было задачай нялёгкай (187). Пагэтаму даводзілася хапацца за розныя версіі. Ермачэнку спрабавалі абвінаваціць у панславізме, ідэйным цэнтрам якога была Прага (дзе ён жыў да вайны), а цяпер нібыта стала Масква (188). Потым папракалі ў выкарыстанні ў собскіх інтарэсах хістанняў і неабачлівасці нямецкіх улад у галіне нацыянальнай палітыкі (намёк на Кубэ). Нарэшце, у кіраўніцтве БНС «выкрылі» левае крыло, якое «ўжо межавала з лесам» (згадкі наконт сімпатыі да партызан). Адначасова, насуперак сцвярджэнням Готбэрга пра задурманьванне насельніцтва, рапарт СД сведчыў пра вельмі нязначны ўплыў БНС на грамадства (189). Супраць Ермачэнкі распачалі кампанію таксама Астроўскі ў Смаленску і Акінчыц у Берліне.

Аднак усе захады службы бяспекі разбіваліся аб пазіцыю Кубэ: ён бараніў Ермачэнку, а заадно сябе і сваю палітыку. У гэтай сітуацыі справай Ермачэнкі занялося Галоўнае ўпраўленне бяспекі Рэйха (RSHA), абвінаваціўшы яго ў найбольшым злачынстве — дзяржаўнай здрадзе (190). У Мінск быў высланы супрацоўнік RSHA, які хаця і знайшоў парушэнні статута ў дзейнасці БНС, аднак не змог абвінаваціць у іх Ермачэнку, бо кожнае перавышэнне правоў БНС было дазволена рашэннем Кубэ і вышэйшых цывільных улад Германіі. Нарэшце, следства было скіравана на гаспадарчую дзейнасць БНС, дзе былі знойдзены злоўжыванні. Такім чынам, дзякуючы пазіцыі Кубэ і ОМі, Ермачэнку ўдалося пазбегнуць смерці, аднак 27.4.1943 г. ён быў вымушаны пакінуць Мінск і вярнуцца ў Прагу, дзе яму было забаронена займацца палітычнай дзейнасцю. Па даручэнню Розэнберга 16.7.1943 г. Кубэ выслаў Ермачэнку ліст з падзякаю за яго заслугі ў працы на Беларусі. Такім шляхам Розэнберг і Кубэ паказалі, што ўся яго справа была сфабрыкавана



паліцэйскімі ўладамі ў кантэксце палітычнага канфлікту з цывільнай адміністрацыяй на Беларусі.

У сакавіку 1943 г. Ермачэнка склікаў апошні з'езд акруговых кіраўнікоў і вайсковых рэферэнтаў БНС разам з сябрамі яе Галоўнай Рады і паведаміў ім, што, згодна з рашэннем улад, дзейнасць гэтай арганізацыі цяпер будзе абмяжоўвацца толькі аховай здароўя і аказаннем матэрыяльнай дапамогі насельніцтву (191). Гэта азначала, што ўсе не прадугледжаныя ў статуце галіны дзейнасці БНС, яе аддзелаў, Галоўнай Рады і г. д. будуць зліквідаваны. Спыніў сваё існаванне інстытут Мужоў даверу БНС пры Генеральным і акруговых камісарыятах. У красавіку 1943 г., на падставе загаду камендáнта паліцыі парадку палкоўніка Клупша была распушчана Беларуская самаахова (БСА) (192). Яе салдаты перайшлі ў распараджэнне мясцовай паліцыі парадку, адзінага пакуль што «беларускага» паліцэйскага батальёна № 49 у Мінску, атрадаў чыгуначнай аховы, а часткова былі вывезены на працу ў Германію. Як піша Кушаль, у некаторых раёнах ліквідацыя БСА праходзіла вельмі жорстка (193).

Вынік другога раунда ў канфлікце Кубэ з СС быў ужо не такі адназначны, як першы. Ратуючы Ермачэнку, Кубэ абараніў сваю ўласную пазіцыю, аднак заплаціў за гэта занадта высокую цану — разбурэннем усяго палітычнага механізма (БНС і БСА), які ён будаваў ад пачатку верасня 1941 г. Нягледзячы на нігілізм Гімлера і недавер Розэнберга, Кубэ разлічваў на паспяховасць сваіх ініцыятыў, якія павінны былі абудзіць беларусаў і заахвоціць іх да працы на баку Германіі. Кіраўніцтва СС разбурыла гэтыя планы, спадзеючыся толькі на грубую сілу.

## Рэванш Кубэ і развязка канфлікту

Аднак Кубэ не адмовіўся ад сваёй палітычнай лініі. У адказ на паліцэйскія праследаванні Ермачэнкі ён 30.1.1943 г. запэўніў Галоўную Раду БНС у сваёй нязменнай гатоўнасці да «цеснага супрацоўніцтва з усімі беларусамі, якія прызнаюць сэнс і непазбежнасць новай Еўропы» (194). Кубэ пачаў распаўсюджваць тэорыю аб нардычнай крыві беларускага народа, якую ён захаваў на працягу сваёй тысячагадовай гісторыі (195). Насуперак гімлераўскай тэорыі аб расавай ніжэйшасці славян ён спрабаваў падвесці тэарэтычны грунт пад сваю палітычную лінію, а заадно — змяніць агульнае стаўленне да беларусаў з боку расісцкіх дагматыкаў (196).

Нягледзячы на перашкоды, звязаныя з дзейнасцю партызан і рознымі сумненнямі і агаворкамі ОМі, у першай палове 1943 г. Кубэ ажыццявіў шэраг праектаў, разлічаных па-ранейшаму на абуджэнне прыхільнасці ў мясцовага насельніцтва. У сакавіку 1943 г. ён выдаў распараджэнне аб землеўпарадкаванні і ліквідацыі цераспалосіцы, каб стварыць эканамічна рацыянальныя сялянскія гаспадаркі

